# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕСЯТАЯ*



МІНСК—1939

## НАРОДНАЕ САБРАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ—

# *таварышу* СТАЛІНУ

У дні вялікага таржаства разняволення народаў Заходняй Беларусі мы, дэпутаты Народнага Сабрання, ад імені ўсіх працоўных Заходняй Беларусі шлем Вам, наш родны, бясконца любімы таварыш Сталін, наша палкае прывітанне!

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч! Мы бязмежна ўдзячны Вам і ўсяму вялікаму народу краіны Советаў за аказаную нам дапамогу.

Ніколі народ Заходняй Беларусі не забудзе аб тых гістарычных днях, калі створаная і натхнёная Вамі, таварыш Сталін, магутная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія назаўсёды вызваліла гарады і сёлы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад іга польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Доўгі час стагнаў наш край пад гнётам польскіх паноў. Кучка грабежнікаў—памешчыкаў і капіталістаў бязлітасна грабіла працоўныя масы, распальвала нацыянальную варожасць.

Зямельны голад, беспрацоўе, абнішчанне мас, бяспраўе і нацыянальнае прыгнечанне, забітасць і хваробы—такі быў лёс працоўных мас Заходняй Беларусі пры панаванні польскіх капіталістаў і памешчыкаў.

Мы пакутвалі доўгія годы, але мы былі заўсёды ўпэўнены, што вялікі Сталін і ўвесь 170-мільённы совецкі народ не забудуць нас, і што скора настане час, калі і мы, народы Заходняй Беларусі, зажывем шчасліва і радасна ў дружнай сям'і ўсіх народаў вялікага і магутнага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Толькі Вашы бацькоўскія клопаты, родны наш таварыш Сталін, выратавалі народ Заходняй Беларусі ад дзікага свавольства і забяспечылі нам шлях вызвалення ад нішчаты і разарэння. Ніколі гарады і сёлы Заходняй Беларусі не жылі такім яркім і поўнакроўным жыццём як у гэтыя ўрачыстыя дні.

Сэрца вызваленага народа Заходняй Беларусі поўна бязмежнай любві і адданасці Вам, наш родны бацька і настаўнік.

Выражаючы волю ўсіх працоўных, усяго вызваленага народа Заходняй Беларусі, мы, дэпутаты Народнага Сабрання, з найвялікшай радасцю і аднадушна галасавалі за совецкую ўладу, за ўваходжанне ў Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Прымаючы гэтыя рашэнні, мы выходзілі з непахіснага перакапання, што толькі совецкая ўлада, толькі непарыўнае адзінства з

вялікай сям'ёй народаў Совецкага Саюза забяспечаць нам радаснае і шчаслівае жыццё.

Пад яркім сонцам Сталінскай Канстытуцыі працоўныя Заходняй Беларусі зажывуць новым, свабодным і шчаслівым жыццём.

Пад вялікім сцягам партыі Леніна—Сталіна мы разам з народамі Совецкай краіны пойдзем даззяючых вяршынь комунізма.

Няхай жыве сталінскае сузор'е брацкіх Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве вялікая дружба народаў!

Няхай жыве наша вызваліцельніца—неперыможная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія!

Няхай жыве вялікі правадыр, друг і настаўнік працоўных усяго свету родны Сталін!

---

# НАРОДНАЕ САБРАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# таварышу В. М. МОЛАТАВУ

У гістарычныя дні работы Народнага (нацыянальнага) Сабрання мы, выбраннікі народа, шлем Вам, саратніку вялікага Сталіна, наша гарачае прывітанне.

Доўгія годы марнеў народ Заходняй Беларусі пад ярмом польскіх паноў, ператварыўшых нашу краіну ў калонію польскай дзяржавы. Капіталісты і памешчыкі, ксяндзы і чыноўнікі грабілі наш багаты край, высмоктвалі апошнія сокі з працоўнага народа, агнём і мечам знішчаючы малейшае праяўленне пратэста.

Але горды, свабодалюбівы беларускі народ ніколі не схіляў сваю галаву перад прыгнятальнікамі. Ён, падобна Праметэю, скованы ланцугамі, ірваўся ўперад, да перамогі, да шчасця. Накіроўваючы свой погляд на ўсход, ён з надзеяй чакаў дня, калі і над яго зямлёй заззяе яркае сонца краіны Советаў.

Гэты дзень прышоў, і мы яго ніколі не забудзем. Мы не забудзем дапамогі, аказанай нам Совецкай краінай, краінай, якая нясе шчасце і прагрэс чалавецтву. Вечна, ад пакалення да пакалення, будзе пераходзіць гарачая ўдзячнасць вялікаму совецкаму народу, яго гераічнай Чырвонай Арміі, яго правадырам.

З дапамогаю Совецкага Саюза наш народ вызваліўся ад сваіх прыгнятальнікаў і пачаў будаваць новае жыццё. Сяляне атрымалі зямлю, рабочыя атрымалі магчымасць свабодна працаваць, тысячы людзей ужо атрымалі работу.

З дапамогай вялікай Совецкай краіны мы вышлі на шырокую дарогу, якая вядзе ў свет, дзе няма нацыянальнай розні, дзе не пануе звярыны закон капіталізма: «чалавек чалавеку воўк», дзе пануюць узаемнае давер'е і дружба народаў, дружба ўсіх працоўных.

Вось чаму, выбіраючы нас, народ Заходняй Беларусі даў нам наказ галасаваць за совецкую ўладу, за далучэнне Заходняй Беларусі да вялікага Совецкага Саюза.

Мы памяталі наказы нашых выбаршчыкаў і аднадушна вырашылі ўсе стаячыя перад намі пытанні так, каб выканаць мары і жаданні нашага народа.

Няхай жыве вялікі і магутны Совецкі Саюз!

Няхай жыве совецкая ўлада—улада працоўнага народа!

Няхай жыве Рабоча-Сялянскі совецкі ўрад і яго глава Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў!

Жадаем Вам, дарагі Вячэслаў Міхайлавіч, яшчэ доўгія годы жыцця і барацьбы на карысць народа, на карысць чалавецтва.

Няхай жыве вялікі правадыр і друг працоўных усяго свету— Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

## НАРОДНАЕ САБРАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# таварышу К. Е. ВАРАШЫЛАВУ

*Дарагі Клімент Ефрэмавіч!*

У гэтыя ўрачыстыя дні, калі Народнае Сабранне воляй вызваленага народа Заходняй Беларусі вырашае гістарычныя справы, мы ад імені вызваленага народа Заходняй Беларусі шлем Вам, і ў Вашай асобе ўсёй магутнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая вызваліла нашу зямлю ад праклятага ярма польскіх памешчыкаў і капіталістаў, словы прывітання, любві і ўдзячнасці.

20 год мы не бачылі яснага дня. Мы жылі пад страхам паліцэйскага бізуна і свавольства, плакалі горкімі слязьмі старыкі, жанчыны і дзеці. Мы не мелі права на жыццё. Лепшыя людзі, якія змагаліся за народ, гнаіліся ў турмах і канцлагерах.

Армія, пасланая вялікім савецкім народам, назаўсёды прагнала з нашай зямлі польскіх генералаў і памешчыкаў. Яна прынесла нам вызваленне. Наш народ навочна пераканаўся ў сіле і непераможнасці гэтай арміі.

Радасныя і шчаслівыя, з неперадаваемым захапленнем, сустракалі мы сваіх братоў-чырвонаармейцаў.

З іменем вялікага Сталіна выконвалі чырвоныя палкі пад Вашым, Клімент Ефрэмавіч, вадзіцельствам сваю гістарычную вызваленчую місію.

З іменем Сталіна на вуснах і ў сэрцах сустракалі сваіх вызваліцеляў народы Заходняй Беларусі.

Вось чаму над вызваленымі абшарамі Заходняй Беларусі, як сцяг, як сімвал свабоды, нясецца з края ў край:

«Няхай жыве наш родны Сталін! Няхай жыве першы маршал арміі соцыялізма—таварыш Варашылаў!».

Чырвоная Армія, якая самаахвярна выканала наказ савецкага народа, паказала, што яна не толькі ўмее біць ворагаў, але ўмее і будаваць новае жыццё.

Зараз, калі ў вызваленай краіне ідзе бурная творчая работа, кожны баец Чырвонай Арміі з'яўляецца актыўным удзельнікам гэтага творчага працэса. Ён—палкі агітатар, носьбіт сталінскай праўды, высокай культуры, стваральнік новага жыцця.

Пройдуць годы, але вечна ў памяці народаў Заходняй Беларусі будуць жыць незабыўныя верасеньскія дні 1939 года, дні пазбаўлення ад праклятага панскага іга, дні доўгачаканай сустрэчы з

геранчнай Чырвонай Арміяй, сталінскай арміяй-вызваліцельніцай, як па праву называюць яе працоўныя Заходняй Беларусі.

Дарагі Клімент Ефрэмавіч! Прыміце ад нас нашу прызнацельнасць і вялікае дзякуй.

Няхай жыве Чырвоная Армія і яе правадыр таварыш Варашылаў!

Няхай жыве натхніцель вялікіх перамог, тварэц чалавечага шчасця, наш родны і любімы Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

---

# Таварышу СТАЛІНУ

*Верш дэпутата Народнага Сабрання Заходняй Беларусі паэта МІХАСЯ МАШАРЫ, прачытаны ім з трыбуны Народнага Сабрання 28 кастрычніка 1939 г.*

— СТАЛІН!

З цябе пачынаецца прамова.
Ты—першае вольнае слова маё.
Сёння мы жыць пачынаем нанова,—
Сонцам крынічыцца наша жыццё.

Ішлі нашы будні бязвольным паходам,
Страціў надзею працоўны народ.
Дваццаць гадоў мы чакалі прыходу,
З верай вялікай глядзелі на ўсход.

Там, за мяжой разарванай радзімы
Радасць і вольная праца жыла:
Трактар гудзеў,
І звінелі машыны,
Песня ад края да края плыла.

Моладзь спявала аб шчасці і волі,
Славіў у калгасе жыццё селянін.
Слухалі вас тут з зайздросцю і боллю,
Цешыўся вашым жыццём не адзін.

Тут, за мяжой на прасторах разлогіх
Банда гуляла вяльможных паноў.
Здзек панаваў над народам убогім.
Гналі ў астрогі найлепшых сыноў.

Плакала горка жняя маладая.
Спелае жыта у пана жнучы.
Плакала матка—бабулька старая,—
Клумак да сына ў астрог несучы.

І палыном засцілаліся сцежкі,
Сум і бяда па дарогах брылі.
Моладзь не знала шчаслівай усмешкі,
Ніўкі звузелі—на аршын шырыні.

Сумныя песні палі хвалявалі,
Плакалі струны як сам цымбаліст.
Бунт у грудзях на замок замыкалі,
І пад пагрозай дрыжалі, як ліст.

Думалі—гэта няволя ўжо вечна...
Думалі згіне зямля і народ.
Ніжэй згіналісь працоўныя плечы.
Усё-такі з надзеяй—
І толькі надзея была на ўсход.

Пачулі вы, родныя,
Нашу нядолю.
СТАЛІН вялікі зірнуў у наш бок.
Згінулі межы
І краты няволі.
Песняў вясёлых пляцецца вянок.

Вышлі сяляне на панскія землі,
Іх мазалям тут знаёмы абшар.

Многа тут працы паклаў надарэмна
У панскай няволі
Народ-гаспадар.
Сёння яго тут палі і азёры,
Дзе захацеў—
Станавісь і працуй.
Досыць цягнуць беззямельнае гора,
Сам сваёй доляй працоўнай кіруй.

Новыя песні па вёсках і сёлах
Моладзь складае паспешна сама.
Першы раз матка з усмешкай вясёла
Глянула смела у далі жыцця.

Знікла між намі ўся розніца нацый,
Толькі застаўся народ трудавы.
У нас на сабраннях пад бурай авацый
Дружба народаў забрала правы.

Польскі рабочы з яўрэйкай шагае,
Рускі баец з беларускай ідзе.
СТАЛІНУ песню супольна спяваем,
Станем усе, як адзін, у барацьбе.

Вам, дарагія браты, прывітанне,
Усе нашы радасці новага дня.
СТАЛІНУ славу,
Прывет і каханне
Шле уздыхнуўшая вольна зямля.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ
## НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
# АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЗЕ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 29 кастрычніка 1939 г.*

На працягу многіх год народы Заходняй Беларусі аграбляліся польскімі памешчыкамі і капіталістамі. Нацыянальнае прыгнечанне даходзіла да крайніх прэдзелаў, беспрацоўе, голад і галеча былі адзіным лёсам працоўных горада і вёскі.

Польская дзяржава была турмой народаў. Урад праводзіў гнусную палітыку насільственага апалячвання. Беларусы, украінцы і іншыя народы не польскай нацыянальнасці былі пазбаўлены права на развіццё сваёй культуры і нават на родную мову. Нацыянальныя беларускія, украінскія і яўрэйскія школы былі разгромлены.

Такія былі парадкі і ўмовы жыцця працоўных Заходняй Беларусі ў былой польскай дзяржаве.

Народы вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік працягнулі нам руку брацкай дапамогі і назаўсёды вызвалілі працоўных Заходняй Беларусі з-пад ярма палітычнага, соцыяльнага і нацыянальнага гнёту. Упершыню народы Заходняй Беларусі атрымалі права распарадзіцца сваім лёсам.

Беларускае Народнае (нацыянальнае) Сабранне, як адзіны і поўнапраўны выразіцель волі народаў Заходняй Беларусі, заклікана рашыць пытанне аб характары ствараемай на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзяржаўнай улады.

Вырашаючы пытанне аб характары ствараемай улады, мы звяртаемся к прыкладу вялікага Совецкага Саюза. У гадзіну цяжкіх выпрабаванняў для жыцця нашага народа толькі ў асобе совецкай улады мы знайшлі свайго вызваліцеля, свайго магутнага і вернага абаронцу. Вялікі гістарычны вопыт народаў Совецкага Саюза вучыць нас таму, што толькі совецкая ўлада—гэта сапраўды народная ўлада, дзе краінай кіруе сам народ без памешчыкаў і капіталістаў.

У Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік назаўсёды знішчана наёмнае рабства, знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. За кожным працоўным забяспечана права на працу, права на адпачынак, права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, права на асвету. Клопаты аб чалавеку з'яўляюцца кіруючым пачаткам усяго жыцця.

Усе працоўныя краіны Советаў, незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, вераспавядання, адукацыі, аседласці, соцыяльнага і маемаснага становішча, маюць права выбіраць і быць выбранымі ва ўсе органы дзяржаўнай улады. Жанчыны карыстаюцца выбарчымі правамі нароўні з мужчынамі. У кіраванні дзяржавай прымаюць удзел найшырэйшыя народныя масы.

У Саюзе ССР знішчаны назаўсёды нацыянальны гнёт і няроўнасць. Усе народы Совецкага Саюза складаюць адзіную дружную сям'ю. Толькі ў Совецкім Саюзе з нябачанай сілай расквітнела культура ўсіх народаў. Совецкі Саюз не ведае больш адсталых нацыянальнасцей.

Прыклад Совецкага Саюза і горкі вопыт нашага жыцця ў панскай Польшчы пераконваюць нас у тым, што толькі совецкая ўлада можа пазбавіць народы Заходняй Беларусі ад эксплаатацыі, нястачы, голаду і бяспраўя. Толькі совецкая ўлада забяспечыць нам палітычнае, гаспадарчае і культурнае працвітанне, забяспечыць свабоду нацыянальнага развіцця ўсіх народаў Заходняй Беларусі.

*Беларускае Народнае Сабранне, выражаючы непахісную волю і жаданне народаў Заходняй Беларусі, правазглашае на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі ўстанаўленне совецкай улады. Ад гэтага часу ўся ўлада на тэрыторыі Заходняй Беларусі належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.*

Беларускае Народнае Сабранне цвёрда ўпэўнена ў тым, што ўсё насельніцтва Заходняй Беларусі згуртуецца вакол Советаў дэпутатаў працоўных для поўнай перамогі новага ладу, для забеспячэння росквіту гаспадаркі, культуры і добрабыту народаў Заходняй Беларусі.

Няхай жыве Совецкая ўлада!

Няхай жывуць Советы дэпутатаў працоўных!

Няхай жыве Саюз ССР—соцыялістычная бацькаўшчына рабочых і сялян!

---

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# АБ УВАХОДЖАННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 29 кастрычніка 1939 г.*

У цяжкую гадзіну, пагражаўшую разарэннем і знішчэннем нашаму народу, вялікі Совецкі Саюз узяў пад сваю абарону жыццё і маемасць насельніцтва Заходняй Беларусі.

З дапамогаю неперможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі народы Заходняй Беларусі вызваліліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Назаўсёды мінулі чорныя годы зняваг беларускага народа пад ігам польскіх паноў, папіраўшых элементарныя правы і нацыянальнае дастоінства беларускага народа.

Працоўныя Заходняй Беларусі заўсёды лічылі сябе звязанымі неразрыўнымі, кроўнымі узамі з сваімі братамі, пабудаваўшымі Совецкую Соцыялістычную Беларусь.

Працоўныя Заходняй Беларусі рашуча патрабуюць аб'еднання дагэтуль расчлененых двух частак адзінага беларускага народа, адзінай беларускай зямлі.

Лічачы волю беларускага народа вышэйшым законам, Беларускае Народнае Сабранне пастанаўляе:

*Прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, аб'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'еднанню беларускага народа.*

Толькі ў саставе Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі народ Заходняй Беларусі зможа залячыць глыбокія раны, нанесеныя яму доўгімі годамі заняволення і з дапамогаю вялікага Совецкага Саюза падняць і пераўтварыць гаспадарку, развіць сваю народную культуру, дастойную свабоднага народа, і забяспечыць росквіт добрабыту ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.

Няхай жыве Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве наша магутная радзіма—вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

# ДЭКЛАРАЦЫЯ
## НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
# АБ КАНФІСКАЦЫІ ПАМЕШЧЫЦКІХ ЗЯМЕЛЬ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 30 кастрычніка 1939 года*

Працоўныя Заходняй Беларусі пры дапамозе вялікага савецкага народа дабіліся свайго вызвалення і назаўсёды пазбавіліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Створаныя па ініцыятыве сялян— беднякоў, серадкякоў сялянскія камітэты ўзначалілі барацьбу сялян за захват памешчыцкіх зямель, зямель манастыроў і буйных дзяржаўных чыноўнікаў і перадачу іх у карыстанне працоўных сялян.

Знішчэнне памешчыцкага землеўладання і ліквідацыя на гэтай аснове беззямелля і малазямелля найшырэйшых мас сялянства азначае, што сялянскаму голаду і жабрацтву, гэтым пастаянным спадарожнікам палітычнага і эканамічнага панавання памешчыкаў і капіталістаў, пакладзен канец.

*Беларускае Народнае Сабранне, кіруючыся кроўнымі інтарэсамі працоўных сялян і выражаючы волю ўсіх працоўных мас, абвяшчае на тэрыторыі Заходняй Беларусі канфіскацыю без усякага выкупу памешчыцкіх зямель, зямель манастыроў, зямель буйных дзяржаўных чыноўнікаў з усім іх жывым і мёртвым інвентаром і прысядзібнымі пабудовамі.*

*Ад гэтага часу ўся зямля Заходняй Беларусі з яе нетрамі, а таксама лясы і воды аб'яўляюцца агульнанародным здабыткам, г. зн. дзяржаўнай уласнасцю.*

Беларускае Народнае Сабранне зацвярджае праведзенае сялянскімі камітэтамі адабранне памешчыцкіх зямель і перадачу іх у карыстанне працоўных сялян.

Беларускае Народнае Сабранне заклікае працоўнае сялянства да найстражэйшай аховы былых памешчыцкіх маёнткаў, пабудоў, інвентара і лясоў, якія з'яўляюцца цяпер уласнасцю народа, ад папсуцця і раскраданняў.

Памешчыцкай зямлёй і маёмасцю могуць распараджацца толькі сялянскія камітэты.

Зямлёй павінен карыстацца толькі той, хто працуе на ёй, хто сам апрацоўвае зямлю.

Няхай жыве працоўны народ Заходняй Беларусі, адзіны законны гаспадар усёй зямлі!

Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ДЭКЛАРАЦЫЯ
## НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
# АБ НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ БАНКАЎ І БУЙНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 30 кастрычніка 1939 года*

Вызвалены ад улады памешчыкаў і капіталістаў народ Заходняй Беларусі на сваіх мітынгах і сходах паставіў пытанне аб неабходнасці нацыяналізацыі банкаў і буйных прадпрыемстваў.

Банкі ў руках польскіх магнатаў, памешчыкаў і капіталістаў служылі для таго, каб умацоўваць панаванне эксплаататараў, даваць ім нажывацца за кошт працы рабочых і сялян. Яны дапамагалі перакачваць народныя сродкі ў кішэні капіталістаў, памешчыкаў і спекулянтаў.

Фабрыканты і заводчыкі бесчалавечна эксплаатыравалі рабочых, разаралі рамеснікаў, выкачвалі за бясцэнак сыравіну ў сялян Заходняй Беларусі. Нажываючы велізарныя багацці, фабрыканты і заводчыкі трымалі ў кабале і жабрацтве рабочы клас. Беспрацоўе і звязаныя з ім незабяспечанасць і няўпэўненасць у заўтрашнім дні з'яўляліся пастаянным лёсам рабочых Заходняй Беларусі.

*У мэтах знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам і пазбаўлення паразітаў—фабрыкантаў, заводчыкаў і банкіраў іх улады над працоўным народам, Беларускае Народнае Сабранне абвяшчае нацыяналізацыю банкаў і буйнай прамысловасці на тэрыторыі Заходняй Беларусі.*

Ад гэтага часу банкі з іх каштоўнасцямі, усе буйныя прамысловыя прадпрыемствы, руднікі і чыгункі аб'яўляюцца ўсенародным здабыткам, г. зн. дзяржаўнай уласнасцю.

Ад гэтага часу працоўныя Заходняй Беларусі атрымліваюць у свае рукі магутны сродак свайго эканамічнага вызвалення—банкі і буйную прамысловасць. Тым самым створаны ўмовы для ўздыму народнай гаспадаркі, які будзе забяспечан свабоднай працай рабочых, што становяцца цяпер гаспадарамі фабрык і заводаў.

Беларускае Народнае Сабранне заклікае ўсіх рабочых і служачых да рэвалюцыйнай дысцыпліны і самаадданай працы ў інтарэсах канчатковай перамогі новага ладу.

*Анатоль Астрэйка*

# МОЙ БРАТ

Схадзіў я ўдоўж і ўпапярок
Наднёманскі і луг і лес.
З начовак піў кляновы сок
Ї за драздом на дрэва лез.

Меў выган шмат маіх прыкмет:
Я ведаў кожны куст і брод.
Там мой застаўся й сёння след,
Хоць там не быў я дваццаць год.

Мой родны брат,
Мой дружа, Глеб,
Успомні час наш малады:
Мы напалам дзялілі хлеб,
Вясну і дождж, і халады.

Ганялі статка ў лес вясной,
Плялі кашолкі ля крыніц.
Былі нам лепшаю ядой
Прыгоршчы поўныя суніц.

Збіралі шчаўе мы ў траве,
На дудкі рэзалі чарот.
Ї ў гнёзды мшыстыя свае
Для нас чмялі насілі мёд.

Мы бульбу ў вогнішчы пяклі,
Лушпайкі дралі кіпцюром.
Палі і лес для нас былі
Ї хатай, хлебам, і сталом.

Касцёр ніколі ў нас не тух.
Смялей у лесе пры агні.
Адзін палатаны кажух
Нас двух ад сцюжы бараніў.

Калі-ж прызімкам уначы
Было нам холад не сцярпець,—
Палілі смольныя карчы,
Каб рукі ззябшыя сагрэць.

Даўно не бачыўся з табой,
Мой родны брат,
Мой дружа, Глеб.
Мы разышліся над ракой
Надвое падзяліўшы хлеб.

З табою без цябе я жыў,
Табе я дружбу брата нёс,
Цябе гукаў я на мяжы
Ї праклінаў твой горкі лёс.

Ї я прышоў к табе, мой друг,
Разбіць жалеза цёмных крат.
Упаў навек з цябе ланцуг,
Дай пацалуемся, мой брат.

Верасень, 1939.



## 125 год з дня нараджэння
## МІХАІЛА ЮР'ЕВІЧА ЛЕРМАНТАВА



*Міхаіл Юр'евіч* ЛЕРМАНТАЎ

# ДЭМАН

*Усходняя легенда*

(Урывак)

I

Журботны Дэман, дух выгнання
Блукаў над грэшнаю зямлёй,
І дум аб светлым яго ранні
Над ім снаваўся тлумны рой,
Аб днях, калі ў харомах света
Ён жыў, шчаслівы херувім,
Калі вандроўніца—камета
З усмешкай яснаю прывета
Любіла памяняцца з ім;
Калі праз вечныя туманы
Ён, веды прагнучы, сачыў,
Як ходзяць зорак караваны,
У багнах неба плывучы;
Калі ён верыў і любіў,
Шчаслівы першы сын тварэння,
Не ведаў злобы і сумнення,
І не пужаў душу яго
Вякоў бясплодных рад панылы,
І многа-многа, ды ўсяго
І ўспомніць не было ў ім сілы.

II

Даўно забыты, ён блукаў
У пустках света без прыпыну,
І век за векам працякаў,
Як за хвілінаю хвіліна.
Маркотнай, роўнай чарадой.
Уладу меўшы над зямлёй,
Ён сеяў зло без асалоды
І злу спрадвечнаму свайму
Не сустракаў ён перашкоды,
І зло дакучыла яму.

III

І над грамадай гор Каўказа
Выгнаннік рая пралятаў.
Пад ім Казбек ярчэй алмаза
Снягамі вечнымі блішчаў.
Глыбока чорнаю разорай,
Дзе нібы змей рассунуў горы,
Дар'ял заломісты ляжаў,
Унізе Церак белагрывы,
Як львіца, скачучы між скал,
Грымеў, і горны звер пужлівы
І птушка, лятучы ў прагал,
У гоман вод яго ўнікалі,
І хмар шаўковых талака
З краін паўднёвых здаляка
Яго на поўнач праваджалі;
І скалы шчыльнай чарадой,
Таемнай поўныя дрымоты,
Стаялі моўчкі над вадой
І хваль яе сачылі ўзлёты
І вежы замкаў тут і там
Глядзелі грозна праз туманы,
Нібы каля каўказскіх брам
Іх вартавыя веліканы.
І дзікі і дзіўны вакруг
Быў божы свет, ды горды дух
Зняважлівым акінуў вокам
Тварэнне бога—ўладара,
І на чале яго высокім
Ні цені злобы ні дабра.

IV

І перад ім у падарожжы
Малюнкі іншыя ляглі:
Даліны Грузіі прыгожай
Красой жывою расцвілі.
Шчаслівы, пышны край зямлі!
Старыя, стромкія руіны,
У звонкім бегу ручаі
Па дне з каменьчыкаў усякіх,
І купкі роз, дзе салаўі
Красуняў славяць, абыякіх
На вабны голас іх любві;
Чынар густыя сутарэнні
Пад іх ліственным шалашом;
Пячоры, дзе гарачым днём
Знаходзяць схоў сабе алені,
І блеск, і пых; і тлум лісця,

Ĭ гоман радасці жыцця
Ĭ подых кветак і праменняў,
Ĭ поўдня палкі, млявы жар,
Ĭ араматных розаў дар,
Што вільгаць шлюць у прохладзь ночы,
Ĭ зоры яркія, як вочы
Грузінкі юнай, поўнай чар.
Ды апроч зайздрасці халоднай
Не абудзіў прыроды шум
Ў душы выгнанніка бясплоднай
Ні новых сіл, ні новых дум,
Ĭ ўсё, што прад сабой ён бачыў,
Адной знявагаю адзначыў.

V

Высокі дом, шырокі двор
Пабудаваў князь, Гудал сівы.
Ён каштаваў шмат слёз і сілы
Рабам, паслушным з даўніх пор.
На светлы схіл суседніх гор
Ад сцен яго кладуцца цені
У скале выбіты ступені.
Яны ад вежы рагавой
Вядуць на рэчку. А па сходах
Пад лёгкай белаю чадрой
Князёўна юная па воду
У Арагву ходзіць пад гарой.

VI

Заўжды маўкліва на даліны
Глядзеў з гары пануры дом,
Ды сёння ў ім і шум і гром,
Гучыць зурна, і льюцца віны,
Сасватаў князь дачку сваю.
На баль заклікаў ён радню.
На стрэсе, высланай каўрамі,
Сядзіць нявеста, а вакруг
Гульня і спеў яе падруг.
Ужо далёкімі гарамі
Закрыўся сонейка поўкруг.
У ладкі такты адбівае
Дзявочы тлум, і бубен свой
Бярэ нявеста маладая.
Ĭ вось яна адной рукой
Кружне яго над галавой,
То паімчыцца лягчэй птушкі,
То раптам спыніцца, глядзіць
Ĭ волкі зрок яе блішчыць

З-пад гожай вейкавае дужкі;
То чорнай броўкай павядзе,
То раптам нахінецца трошкі.
Ї па каўры плыве—ідзе
Яе чаруючая ножка,
Ї пасміхаецца яна,
Дзяцінай радасці паўна.
Ї месяц, што з-за хмар застрэшнік
Зірне, гуляючы з вадой,
Не параўнаецца з усмешкай,
Як маладосць сама жывой.

## VII

Клянуся зоркамі стожар
Праменняў сонечных патокам,
Багатай Персіі ўладар
Ї ні адзін у свеце цар
Не цалаваў такога вока.
Гарэма іскрысты фантан
Ні разу душнаю парою
Сваёй срэбранаю расою
Не абмываў падобны стан.
Яшчэ нідзе рука людская
Такой галоўкі не ласкала
Ї кос такіх не расплятала
З тых дзён, як свет пазбаўлен рая,
Клянуся зноў—краса такая
Пад сонцам поўдня не цвяла.

## VIII

Апошні раз яна скакала.
Увы! на другі дзень чакала
Яе, наследніцу Гудала,
Прыроды жвавае дзіця,
Нядоля горкая рабыні,
Цяпер чужая ёй айчына
Ї незнаёмая сям'я.
Ї часта ўпотайку імглівы
Лажыўся цень на яе твар,
Але былі яе парывы
Так гожы, просты і так жывы,
Так поўны вабнасці і чар,
Што калі-б Дэман той парою
Яе заўважыў і зірнуў,
То, ўспамінаючы былое,
Ён адвярнуўся-б і ўздыхнуў.

## IX

І Дэман бачыў... і на мгненне
Штось недаступнае найменню
Адчуў ён раптам над сабой.
Глухой душы яго пустыню
Напоўніў гукаў новых рой.
І яшчэ раз пазнаў святыню
Любві, прыгожства і дабра.
І доўга слодычнай хвілінай
Ён упіваўся, і мара
Аб шчасці доўгай павуцінай,
Нібы тых зорак ясны пас
Прад ім снавалася ў той час.
Прыкуты невідомай сілай,
Пазнаў жальбу ён выразней,
Пачуцце ў ім загаманіла,
Як гаманіла і даўней.
Ці быў то прывід нараджэння?
Ці слоў падступных спакушэнне—
Знайсці ў сабе ніяк не мог.
Забыць? забыцца не даў бог,
Ды ў забыцці няма збавення.

## X

Стаміўшы добрага каня,
На шлюбны пір, на схіле дня
Жаніх спяшаўся нецярплівы.
Арагвы светлай ён шчасліва
Дасяг зялёных берагоў.
Вязе ён шмат з сабой дароў.
Вярблюдаў плёўся доўгі рад.
Па горнай сцежачцы далёка
Званкі пазваньваюць у лад.
Ён, уладар сам Сінадала
Вядзе багаты караван.
Папругай сцягнут спрытны стан.
Аправа шаблі і кінжала
На сонцыззяе. Як рубін,
Блішчыць за спінай карабін.
Гуляе вецер рукавамі
Яго чухі. Яна кругом
Аблямавана галуном.
Расшыта яркімі шаўкамі
Сядло. Вуздэчка з кутасамі.
Пад ім запенены ўвесь конь
Чырвонай масці. як агонь.
Ён, выхаванец Карабаха,
Вушамі водзіць, поўны страха,

Храпе і скоса з крутых скал
Глядзіць на пенны хваляў вал.
Ї страшны шлях той узбярэжны:
Уцёсы з левай стараны,
Направа глыб ракі мяцежнай.
Ї позні час. На горах снежных
Блеск сонца згас. Устаў туман.
Прыбавіў ходу караван.

XI

Вось і капліца пры дарозе,
Тут з даўніх пор пачые ў бозе
Якісьці князь, што стаў святым,
Забіты помснікам сваім.
З тых дзён—на свята ці на бітву,
Куды-б дарожнік ні спяшыў,
Заўсёды шчырую малітву
Таму святому прынасіў.
Малітва гэта памагала—
Удар адводзіла кінжала.
Але няўважліва жаніх
Забыўся звычаяў старых.
Яго спакуслівай намовай
Лукавы Дэман падбіваў—
У мыслях ён пад цемры сховам
Нявесты вусны цалаваў.
Ї раптам выскачылі двое
Ї болей... Стрэл! Што-ж то такое?
Прыўзняўшыся на страмянах,
Глыбей насунуўшы папах,
Адважны князь не мовіў слова:
Ў руках бліснуў турэцкі ствол,
Нагайка лясь!—і як арол
Ён кінуўся ўпярод. Стрэл новы!
Ї дзікі крык і цяжкі «ой!»
Пачуліся ў глыбі даліны.
Нядоўгім быў няроўны бой,
Пабеглі ў боязні грузіны.

XII

Ї сціхла. Ні душы жывой.
Вярблюды, збіўшыся гурмой,
На трупы ў страсе паглядалі
Ї толькі ў цішыні начной
Званкі іх глуха бразгаталі.
Разграблен пышны караван,
Ї над цяламі хрысціян
Кругі рысуе птах-начніца,

Ї не чакае іх грабніца
Пад плітамі манастыроў,
Дзе прах пахован іх бацькоў.
Не прыдуць сёстры з мацяркамі
Са скрыжаванымі рукамі
Пад доўгаю чадрой з мальбамі
На гроб іх з долаў і са ўзвыш!
Затое-ж дбалаю рукою
Тут пры дарозе пад скалою
На памяць узнясецца крыж,
Ї плюшч, разросшыся вясною,
Яго ласкава ахіне
Сваёю сеткаю густою,
Ї часам, стомлены хадою,
Дарожны на той крыж зірне
Ї ў божым ценю аддыхне.

XIII

Ймчыцца конь, ляціць стралою,
Храпе і рвецца, нібы к бою,
То раптам стане наскаку,
Прыслухаецца к вецярку,
Паводзіць чуткімі вушамі,
То раптам б'е капытам дол
І, страсянуўшы збітай грывай,
Їзноў імчыцца, як арол.
На ім ёсць коннік, ды маўклівы,
У сядле б'ецца, чуць жывы,
Узняць не можа галавы,
Ён не кіруе павадамі,
Бяссільны ногі ў страмянах,
Ї кроў шырокімі цуркамі
На чапраку яго відна...
Эх, быстры конь! гаспадара ты
Як віхар з бою праімчаў,
Ды асяцін яго зацяты
У цемры куляю дагнаў.

XIV

Гаруе, плача дом Гудала.
На двары ціснецца народ.
Чый конь прымчаўся? Што з ім стала?
Чаму ён паў каля варот?
Хто гэты коннік нерухомы?
Хавалі след ваяцкіх громаў
Маршчыны смуглага чала.
Сам, зброя ўся ў крыві дазвання,
Рука ў апошнім пацісканні
На грыву конскую лягла.

Нядоўга жаніха мілога,
Нявеста, зрок твой выглядаў!
Стрымаў ён слова князя строга:
На шлюбны пір ён прыскакаў.
Ды, эх, ніколі ён, нябога,
Не сядзе на каня другога!

## XVI

На бестурботную сям'ю
Як гром зляцела божа кара.
Упала на пасцель сваю,
Рыдае бедная Тамара,
Слязу раняе за слязой
І вось яна нібыта чуе
Дзівосны голас над сабой:
«Не плач, дзіця, не плач напрасна!
Твая сляза на труп няшчасны
Не упадзе жывой расой.
Яна туманіць зрок твой ясны
І твар дзявочы паліць твой.
Далёка ён, ён не пачуе,
Не будзе знаць журбы тваей;
Святло нябёс цяпер цалуе
Бясплотны зрок яго вачэй.
Ён чуе райскіх песень хоры...
Што наш нікчэмны гэты лёс
І слёзы дзеўчыя і гора
Для госця рая і нябёс?
Не, доля смертнага стварэння,
Павер мне, ангел чысты мой,
Не варт ніводнага імгнення
Тваёй журботы дарагой.

«У надземным акіяне
Без стырна і без вятрыл
Ціха носяцца ў тумане
Хоры стройныя свяціл.

Пасярод палёў бязмежных
Ў небе ходзяць без слядоў
Сткі лёгкіх, беласнежных,
Тонкарунных аблакоў.

Час разлукі, час спаткання
Ім ні радасць, ні нуда.
Няма ў прошлым ім жадання,
Ім былога не шкада.

У дні цяжкія няшчасця
Ты іх толькі прыгадай
І на земныя напасці,
Як яны, ты не зважай.

Як толькі ночка сваім сховам
Вярхі Каўказа ахіне;
Як толькі свет, чароўным словам
Нібы замоўлены, засне;
Як толькі ветрык над скалою
Зашэпча з блеклаю травою,
Ї птушка, на нач сеўшы ў ёй
Мільгне і знікне ў цьме густой;
Ї пад галінкай вінаграда,
Расе нябёс прахладнай рада,
Начная кветка зацвяце;
Ї месяц блісне ў цемнаце,
Калі з-за гор ціхутка ўстане
Ды на цябе украдкам гляне,—
К табе я стану прылятаць,
Гасціць я буду да дзянніцы
Ї на павейкі-шаўкавіцы
Сны залатыя навяваць...

## XVI

Замоўклі словы, ў заміранні
За гукам гук яшчэ трымціць.
Яна ўсхапілася, глядзіць
У невыказным замяшанні.
Журба і радасць, шчасця ніць
Нішто прад ім у параўнанні.
Пачуццяў вір у ёй кіпіць
Душа скідала сваековы,
Агонь па целе прабягаў,
Ї гэты голас, дзіўна новы,
Усё, здавалася, гучаў.
Ї перад раніцай на мгненне
Сон змарыў, вочы ёй самкнуў,
Ды яе мыслі скалыхнуў
Прарочым цьмяным лятуценнем:
Прышэлец мглівы і нямы,
Нібы сатканы з сонца, цьмы,
Схіліўся ціха к узгалоўю,
Ї зрок яго з такой любоўю,
Так сумна на яе глядзеў.
То быў не ангел, služка божы,
Яе ахова і старожа:
Вянок з праменняў залатых
Не аздабляў кудзер святых,
То быў не пекла госць няўчасны,
Ганебны дух, што сее зло,—
О, не: ён быў як вечар ясны,
Ні дзень, ні ноч і не святло.

*Пераклаў Я. КОЛАС.*

# ПЕСНЯ ПРА ЦАРА ІВАНА ВАСІЛЬЕВІЧА, МАЛАДОГА АПРЫЧНІКА І ЎДАЛОГА КУПЦА КАЛАШНІКАВА

(Урывак)

III

Над Масквой вялікай, златаглаваю
Над сцяной крамлёўскай, белакаменнай
З-за далёкіх лясоў, ды з-за сініх гор
Над застрэшкам новым ззяючы,
Хмаркі шэрыя разганяючы
Зара алая паднімаецца,
Рассыпае косы залацістыя,
Абмываецца снягамі сыпучымі,
Як дзяўчына-краса, ў люстры гледзячы,
Ў неба чыстае глядзіць, усміхаецца.
Ах, нашто ты, алая зара, прасыпалася?
Ды з якой ты радасці разгулялася?

Як сыходзіліся, збіраліся
Удалыя байцы маскоўскія
На Маскву-раку, на кулачны бой
Разгуляцца для свята, пацешыцца.
І прыехаў цар, і дружына з ім,
І баяры з ім і апрычнікі.
Адвялі ланцугамі сярэбранымі
Чыстым золатам у колцах спаянымі
Месца вольнае ў дваццаць пяць сажон
Для ахвотніцкага бою адзіночнага.
І вялеў тады цар Іван Васільевіч
Кліч клікаць громкім голасам:
«А і дзе вы, малойчыкі добрыя?
Вы пацешце цара, нашага бацюхну!
Ну-т-ка выйдзіце вы ў шырокі круг;
Пераможа хто—ўзнагароду цар дасць,
А каго перамог—хай даруе бог».

І выходзіць удалы Кірыбеевіч,
Цару ў пояс моўчкі кланяецца,
Скідае з магутных плеч шубу аксамітную,

Падпёршыся ў бок рукою праваю,
Папраўляе другой шапку алую
Ї чакае ён сабе супрацїўніка...

Тройчы громкі кліч праклікалі—
Ні адзін баец і не зрушыўся,
Ўсе стаяць ды друг друга падштурхваюць.
А у полі апрычнік пахаджывае,
З баязлівых байцоў жарты строячы:
«Прыцішэлі, нябось, забаяліся!
Так і быць, абяцаю для свята я
Адпусціць жывога пакаяцца,
Вось пацешу толькі цара-бацюхну.

Раптам людзі ў бакі расступаюцца,
Ї выходзіць Сцяпан Парамонавіч,
Малады купец, удалы баец,
А па прозвішчу Калашнікаў.
Пакланіўся раней цару грознаму,
Пасля беламу Крамлю ды святым царквам,
А тады ўсяму народу рускаму.
Гараць вочы яго сакаліныя,
На апрычніка ўзіраюцца.
Насупроць яго ён становіцца,
Баявыя рукавіцы нацягвае,
Магутныя плечы распроствае,
Ды русую бараду пагладжвае.
Ї сказаў яму Кірыбеевіч:
«А паведай мне, добры моладзец,
Ты якога роду, племені,
Якім імем ты называешся?
Каб мне знаць, па кім паніхіду служыць,
Ї было-б таму пахваліцца чым.

Адказаў тут Сцяпан Парамонавіч:
«А завуць мяне Сцяпанам Калашнікавым,
А радзіўся я ад чэсных бацькоў,
Ї жыў па закону гасподняму,
Не паганіў жонкі я чужой,
Не разбойнічаў цёмнай ночкаю,
Не таіўся ад света нябеснага...
Ї сказаў ты тут праўду шчырую:
Па адным з нас двух будуць паніхіду пець
Не пазней мо', як заўтра ў час абедзенны,
А другі няхай выхваляецца
Між сяброў сваіх піруючы.
Не жарт жартаваць, не людзей пацяшаць
Вышаў я к табе, басурманскі сын,
Вышаў я на страшны бой, на апошні бой!»

Тое чуючы Кірыбеевіч
Пабялеў, як снег цёмнай восенню,
У вачах яго свет затуманіўся,
Паміж дужых плеч як мароз прабег
І не змог у адказ слова вымавіць.

Вось моўчкі яны разыходзяцца
Багатырскі бой пачынаецца.

Размахнуўся тады Кірыбеевіч
І ударыў ён першы Калашнікава.
І ўдарыў яго пасярод грудзей,
Аж пачуў народ—грудзі трэснулі,
Пахіснуўся Сцяпан Парамонавіч;
На грудзях яго шырокіх вісеў медны крыж,
Са святымі мошчамі з-пад Кіева,
І пагнуўся крыж і у грудзі ўліп,
Як раса з-пад яго кроў закапала.
І падумаў Сцяпан Парамонавіч.
«Што прысуджана, тое й збудзецца;
Пастаю за праўду да астатняга!»
Падлаўчыўся ён, падгатовіўся,
І сабраўшы ўсю сілу дужую
Ён ударыў свайго ненавісніка
Проста ў левы вісок з усяго пляча.

І апрычнік малады застагнаў чуць-чуць,
Захістаўся і паў замертва.
Паваліўся ён на халодны снег,
На халодны снег, як сасоначка,
Як сасоначка, што ў сырым бару
Пад смалісты пад корань падсечана.
Тое бачыўшы цар Іван Васільевіч
Прагневаўся гневам, топнуў вобземлю
І нахмурыў бровы чорныя;
Загадаў ён схапіць удалога купца,
Загадаў ён прывесці купца к сабе.
І прамовіў тут праваслаўны цар:
«Адкажы мне па праўдзе, па шчырасці:
Вольнай воляю, альбо нехаця
Ты забіў на смерць майго вернага слугу,
Майго лепшага байца, Кірыбеевіча?»

— Я скажу табе, праваслаўны цар:
Я забіў яго вольнай воляю,
А за што, пра што не скажу табе,
Скажу толькі богу адзінаму.
Загадай мяне казніць—адсячэ хай кат
Галаву маю павінную,
На пакінь ты малых дзетачак,

Не пакінь маладую ўдаву
Ды братоў маіх двух сваёй ласкаю».
«Ды не блага зрабіў, ты купецкі сын,
Удалы баец, добры моладзец,
Што адказ ты даў нам па шчырасці:
Жонку я тваю і сірот тваіх
Са сваёй казны абдару цяпер,
Загадаю братам тваім з сённяга
Па ўсяму царству рускаму шырокаму
Таргаваць без мыт, без подаці
А ты сам ступай, купецкі сын,
На высокае месца лобнае
Складзі сваю буйную галовачку.
Я сякеру вялю натачыць-навастрыць,
Загадаю кату прыбраным быць
У вялікі звон вялю біць-званіць
Няхай ведаюць людзі маскоўскія
Што і ты не абдзелен маёй ласкаю».

Вось на плошчы натоўпы збіраюцца,
Звон жалобны гудзіць, нібы стогнучы
І разносіць ён вестку нядобрую.
Па высокаму месцу лобнаму,
У сарочцы чырвонай, з яркай запанкай,
З вялікай сякерай навостранай
Рукі голыя паціраючы
Кат з усмешкаю пахаджвае,
Удалога малайца чакаючы.
А ліхі баец, малады купец
З роднымі братамі развітваецца:
«Вы, браточкі мае, другі кроўныя
Пацалуемся ды абнімемся
На апошняе развітанейка.
Перадайце мой паклон Алёне Змітраўне,
Не сумуе няхай—перадайце ёй,
Пра мяне маім дзеткам не расказываць.
Пакланіцеся дому бацькаўскаму,
Пакланіцеся маім таварышам,
Памаліцеся самі ў божай царкве
За душу маю вы, душу грэшную!»
І каралі Сцяпана Калашнікава
Смерцю лютаю, ганебнаю
І галоўка яго бесталанная
У крыві на плаху пакацілася.

Пахавалі яго за Масквой-ракой
На чыстым полі паміж трох дарог;
Паміж тульскай, разанскай, уладзімірскай,
І бугор зямлі сырой тут насыпалі
І кляновы крыж тут паставілі

І гуляюць, шумяць ветры буйныя
Над яго безыменнай магілкаю.
І праходзяць міма людзі добрыя:
Пройдзе стар чалавек—перахрысціцца,
Пройдзе хлопец—той падбадзёрыцца,
Пройдзе дзеўчына—замаркоціцца,
А пройдуць гусляры—спяюць песеньку.
Гэй вы, хлопцы удалыя,
Гусляры маладыя,
Галасы заліўныя!
Добра пачыналі, добра і канчайце
Кожнага праўдай і чэсцю вітайце.
Радавітаму баярыну слава!
І красуні-баярыні слава!
І ўсяму народу хрысціянскаму
слава!

1837 г.

*Пераклаў М. КЛІМКОВІЧ.*

---

# ПАЭТ

Кінжал мой зіхаціць аправай залатой,
Клінок надзейны, без заганы;
Булат яго калісь таемнаю рукой
На Ўсходзе бранным гартаваны.
Джыгіту шмат гадоў служыў ён у гарах
Без жаднай платы за паслугу;
Правёў ён страшны след не па адных грудзях
І не адну прарваў кальчугу.
Як паслухмяны раб, забавы ён дзяліў,
Звінеў на крыўдныя прамовы;
У тыя-б дні яму чужым, ганебным быў
Убор багаты, каляровы.
Яго за Тэракам казак адважны ўзяў
На трупе пана па скančыне,
І доўга ён пасля закінуты ляжаў
У пыльнай краме армяніна.
Цяпер без родных ножан, збітых на вайне,
Вісіць героя друг паходны;
Ён цацкай залатой зіхціцца на сцяне—
І несланвуты, і няшкодны.
Ніхто яго прывычнай, дбайнаю рукой
Не чысціць больш, не даглядае,
І надпісу яго з малітвай прад зарой
Ніхто рупліва не чытае...
А ці не так у кволы век наш ты, паэт,
Сваё затраціў прызначэнне,
На срэбра ўладу прамяняў, якую свет
З маўклівым слухаў захапленнем?
Бывала, мерны гук тваіх магутных слоў
Успалымняў байца для бітвы;
Ён быў патрэбны ўсім, як чара для піроў,
Як фіміям у час малітвы.
Твой верш, як божы дух, лунаў над грамадой,
І водклік дум высокародных
Гучаў, нібыта звон на вежы вечавой
У дні нягод і свят народных.

Ды надакучыў нам твой просты, горды зык,
Нас цешаць бляскі і падманы;
Як даўняя краса, наш даўні свет прывык
Хаваць маршчыны пад румяны...
А ці праснешся зноў, абсмеяны прарок?
Ці ўжо ніколі для змагання
Ты з ножан залатых не вырвеш свой клінок,
Пакрыты ржою ганьбавання?

## ХМАРЫ

Хмаркі нябесныя, вечна вандроўныя!
Строем мінаючы стэп лазуровую,
Вы ляціце, па выгнанню мне роўныя,
З мілае поўначы ў далеч паўднёвую.

Хто-ж выганяе вас: лёс тут прычынаю?
Злосцьідавочная? зайздрасць нячутная?
Альбо цяжар на вас дзеі злачыннае?
Альбо сяброў нагаворы атрутныя?

Не, вам абрыдалі нівы няўродныя...
Вы без пакут, без жаданняў лятаеце;
Вечна-халодныя, вечна-свабодныя,
Вы без радзімы й выгнання не знаеце.

*Пераклаў* ПЯТРО ГЛЕБКА.

*М. Паслядовіч*

# ПАЎСТАННЕ[1])

## XXII

Старая напоўразбураная смалярня: высокая і круглая цагляная печ з наплывамі гліны, чорная драўляная труба-латок, зарослы ў зямлю чан, набраклыя дзёгцем клёпкі ад бочак. Крокаў за пяцьдзесят—невялічкая, з выбітымі шыбамі хацінка гоншчыка Ермачка. Пагорбіліся ад сонца і дажджу калісьці жоўтыя дошкі на даху. Пагніў і абсунуўся ў бурную парасль дзікай травы плот. Адзін толькі журавель студні ганарыста і дзёрзка ўзнімаў угару сваю галаву. Яшчэ не збуцвелі тоўстыя дубовыя вілы, не з'ела іржа шворань, на якім вагаўся журавель. Нават цэлым застаўся вочап, нават засталося вядро.

Доўгія нізкія штабелі пашчапанага карчэўя ляжалі некранёнымі. Бурна і густа абсеяўся каля іх ельнік, закланяліся да зямлі калючыя ажэвіны. У іх светла-жоўтым лісці паблскваюць нібы налітыя цёмнай крывёю ягады. Ніхто іх тут не кратаў, ніхто не таптаў, бо навокал лес густы і, здаецца, непраходны. Нязрушнаю сцяною стаяць меднастволыя сосны, касматыя елкі. Сурова і ўрачыста сцерагуць яны сонную цішыню і спакой палянкі, дзе прыстроілася смалярня.

Вось ужо каля пяці год, як перастала дыміцца печ, складзеная ў драўляным прыбудоўку да вежы. Смалярню паставіў у 1913 годзе барон Тунк, высокі кастлявы немец. Хадзілі чуткі, што гэта яго дзесятая па ліку смалярня. Разам з капіталам на новую справу, прывёз барон гоншчыка, нізенькага і пухлявага чалавечка, па прозвішчу Ермачок. Кругленькі ружовашчокі Ермачок груба, на ты, размаўляў са сваім гаспадаром, нават часта, у прысутнасці цесляроў лаяўся на яго па-мацернаму. Немец нічога яму не адказваў, толькі хваравіта торгаў сваімі пухлявымі чуйнымі губамі і мармытаў на чыстай беларускай мове:

— Ну, навошта так голасна? Навошта?! Ермашок...

І яго плоскія, сіняватыя ад штодзённага брыцця, шчокі і барада пакрываліся ружовымі плямамі... А Ермашок ад гэтага злаваў яшчэ больш і лаяўся яшчэ больш брыдкімі словамі.

Верасняцы, якія будавалі смалярню, дзівіліся з такіх нечуваных узаемаадносін паміж гаспадаром і яго падначаленым. Дзіві-

---

[1]) Пачатак гл. „Пол. Рэв." № № 5, 6, 7.

лася з позірку барона Тунка, якім ён заўсёды праводзіў свайго «Ермашка», куды-б той ні кацiўся на кароткіх тоўстых нагах.

— Глядзіць як на бабу,—гаварыў і пляваўся Дарафей Булынка.

Пасля абвяшчэння вайны барона Тунка разам з усімі немцамі высялілі з Расіі. «Ермашка» забралі ў армію і смалярня апусцела. Гаспадарлівы Ашман прыехаў тады ў пушчу на кані, павыдзіраў з дзвярэй унутраныя замкі, паадрываў завесы і, узваліўшы на воз цэлую бочку дзёгцю, задаволены вярнуўся дахаты.

Цяпер на парозе хацінкі сядзеў Змітрок Буйневіч. Цяжкая французская вінтоўка, адбітая ў жаўнера, была прыстаўлена да вушака. Буйневіч паглядаў у закіданае валавянымі хмарамі неба. Час ад часу з-за іх выглядвала на кароткі момант сонца. Высока над лесам, велічна махаючы крыллем, плыў арол—беркут. Вакол яго, паблiскваючы чорным пер'ем, кружыліся два крумкачы. Яны то ўскручваліся ўгару, то ападалі да самых вершалін дрэў, трывожачы сонную восеньскую цішыню хрыпатым карканнем. Беркут зусім не звяртаў увагі на гэтых далакопаў. Роўнай лініяй прайшоў ён да Лісіных нор і там імкліва, нібы камень, апаў у цёмную зеляніну дрэў. Пасля гэтага крумкачы разляцеліся ў розныя бакі.

Буйневіч перавёў позірк на вузкую зарослую травою сцежку. Там раптам трывожна залапаталі сойкі. Неўзабаве над палянкаю праімчаўся вывадак цецярукоў. Буйневіч тады ўскочыў з парога і схапіўся за вінтоўку. Неспакойна і коратка азірнуўся на хацінку.

Хутка з цёмнай зеляніны лесу на палянку вышаў чалавек і накіраваўся да смалярні. Гэта быў Віктар Жаркевіч. Пазнаўшы яго, Змітрок паспакайнеў, але шпарка пайшоў яму насустрач.

— Ну што? Што?—крыкнуў Змітрок Віктару яшчэ здалёку.— Палякі зноў наляцелі на Верасніцу?

— Знайшоў дзіва! Я, браток, ледзьве вырваўся. Яны-ж абкружылі вёску. Кулямётаў панастаўлялі. У цябе ёсць што курыць?

Буйневіч моўчкі дастаў кісет. Папяросу Віктар скручваў доўга, разы два парваўшы паперку і засеяўшы зеленаватымі калівамі самасаду пачарнелую зямлю каля парога. Буйневіч угадваў яго настрой і таму вырашыў не трывожыць яго роспытамі. Не прыпаліўшы скручанай нарэшце папяросы, Віктар скамячыў яе і адкінуў далёка ад сябе. Бровы яго сышліся і ўтварылі над глыбокімі цёмнымі вачамі адну суцэльную лінію.

— Яны распытваюць у вераснянцаў, дзе можна злавіць Токарава, дзе можна злавіць майго бацьку, цябе. Страшна мне ад гэтага, Зміцер! Вам-жа цяпер нельга паказвацца ў вёсцы...

Буйневіч коратка свіснуў.

— Рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ!.. Затое панам страшна паказвацца ў лесе. А тут, коцік, сабраліся стрэленыя птушкі... Панюхалі, па чым фунт ліха! Тут ёсць такія хлопцы, якія пралезуць усюды, дзе ім будзе патрэбна.

Тон змітраковага голасу быў павучальны. Нарэшце ён дапытліва зірнуў на Віктара:

— Колькі іх прыехала ў Верасніцу? Колькі ў іх кулямётаў?

— Чалавек сто, а кулямётаў штук шэсць. Я думаю, калі падпаўзці да вёскі ад ракі ды выстраліць разоў сорак, дык яны і кулямётаў цураюцца... Як ты глядзіш на гэту справу, Міцька?

Змітрок зноў свіснуў.

— Шкада, што цябе за начальніка атрада не прызначылі. Ты-б паказаў панам такога страху, што і духу свайго не звёў-бы!.. Але сама лепш, калі ты раскажаш пра ўсё Токараву. Заходзь у хацінку. Толькі пра тое, што тут убачыш, нікому ні слова! У нас, брат, строга з дысцыплінай.

Хата, у якой жыў Ермачок і дзе часта спыняўся барон Тунк, была перагароджана на два пакоі. Першы пакой быў пусты: ні стала, ні табурэтаў. Толькі ўздоўж дашчатай сцяны ляжала прымятае сухое сена. Дзве коўдры з чырвонасінімі клеткамі пакрывалі гэтую паходную пасцель.

З другога пакою дайшліся да Віктара два галасы: адзін спакойна-разважлівы—Дарафея Булынкі і нейчы нецярпліва-прагны бас, які часта паўтараў:

— Ну, ну! Вот, чорт!

Калі Віктар увайшоў, Булынка ўжо канчаў гаворку:

... так і закончылася паўстанне ў нашым корпусе. Адных расстралялі, другіх на катаргу ў Афрыку пагналі. Я паспеў уцячы. Знаёмыя французскія рабочыя дасталі мне фальшывы пашпарт. Прыстроілі на авіяцыйны завод...

— Ну і што, не сумуеш па жонцы? Па сыну? Жонка хто—французская баба?

— Француженка,—проста адказаў Булынка.—Але сюды яшчэ пабаялася ехаць. У вас там, кажа, вайна. Страшна ў вас. Вот, кажа, пасля вайны... Харошая жонка, але дурная, як і ўсе бабы.

Булынка ўздыхнуў і з раптоўна пасмутнелым тварам адвярнуўся да акна. Незнаёмы, якога Жаркевіч бачыў толькі загарэлую жылістую шыю і шырокія круглыя плечы, шумна ўстаў.

— Тут чорт не разбярэ, дурная яна баба ці не,—прамовіў ён, звяртаючыся ні то да Токарава, ні то да Рафаіла, які, седзячы на ляжанцы, змазваў маслам «наган». Памойму яна проста хітрая баба. Мне здаецца, табе было цяжка жыць з ёю. Так ці не?

— Бывала, што і спрачаліся,—ужо неахвотна, нібы робячы непрыемнае цяжкое прызнанне, прамовіў Булынка.—Але я часта смуткую, што няма яе тут...

— Ну вот!.. Дык я табе скажу так: грош цана тваёй жонцы! Падабаецца табе гэта, ці не. Няхай сабе. Яна напэўна ласкавая была да цябе толькі тады, калі ўсё было добра. Ледзь якая завіруха альбо няўдача, яна паварачваецца да цябе тым сваім месцам, дзе няма вачэй. Не, пра сям'ю я думаю толькі так: жаніцьба—нібы клятва дапамагаць адно аднаму падзяляць не толькі радасць, але і гора! Сям'і патрэбна жанчына-друг, а не фінціклюшка, якая дзеля сваёй маленькай радасці гатова зарэзаць не толькі мужа, але і сваіх уласных дзяцей... Ну, што: Жаркевіч яшчэ не прышоў?—раптам звярнуўся незнаёмы да Токарава.

Паварот у гутарцы быў такі імклівы і круты, што Віктар сам адказаў замест Токарава.

— Жаркевіч?.. Прышоў... Я—Жаркевіч...

Вялікае расчараванне і здзіўленне прамільгнулі на твары незнаёмага.

— Чакайце... Мне здаецца, што я ведаю другога Жаркевіча: сівога Жаркевіча. А гэта-ж яшчэ дзіця. Маміна малачко на губах відаць.

Віктар спахмурнеў і задзірыстым позіркам агледзеў незнаёмага. Прысадзісты, але шырокаплечы, з затоеным бляскам светласініх вачэй, ён быў апрануты ў кароткі матроскі бушлат, у чорныя штаны.

— Вы хоць пазнаёмцеся, чэрці!—усхміхнуўся ў сівыя вусы Токараў.—Гэта, Віктар, свой чалавек: Андрэй Блажко, матрос.

— Што Андрэй Блажко—першы раз чую, а што матрос—відаць адразу,—адказваючы на жалезны поціск рукі матроса прамовіў Віктар.—Смела ты ходзіш, таварыш марак!

З правай кішэні бушлата вытыркалася рукаяць «нагана» з пацёртай насечкай. Віктар яшчэ заўважыў скрыжаваны след кулямётных істужак цераз плечы. І непакорны пільны позірк блакітных вачэй! Усё гэта было цяпер, здавалася Віктару, большэвіцкім пашпартам, самагубнай пуцёўкай на панскую шыбеніцу... Матрос, што апынуўся ў лясной хацінцы Ермачка, быў адным з многіх, якіх большэвіцкая партыя пасля рэволюцыі семнаццатага года кінула ў баявое сухапутнае плаванне. За тысячы кілометраў ад ваенных марскіх баз можна было ў тыя часы сустрэць суровую безказырку ў залатым прошыве слоў: «Аврора», «Стремительный», «Забияка». Андрэй Блажко быў адным з многіх, якія арганізоўвалі часткі асобага прызначэння, кіравалі бронепаяздамі, працавалі ў Чэка, са зброяй у руках вырывалі ад кулакоў і фальваркоўцаў хлеб для згаладалага горада. Часта, акружаныя з усіх бакоў афіцэрскімі або кулацкімі бандамі, яны адстрэльваліся да астатняга патрона і апошнюю кулю «нагана» пускалі ў сябе, каб толькі не заплямяць свайго рэволюцыйнага імя ганебным пленам.

Антон Токараў, Рафаіл, Дзямід і гэты матрос Андрэй Блажко! Іх самаахвярная мужнасць і здзіўляла без меры і разам з тым надавала надзеі і ўпэўненасці Віктару. Гэта былі людзі, якім заставанне на захопленай панамі тэрыторыі не давала ніякіх асабістых выгод. Наадварот—страшная небяспека смерці кожную гадзіну, кожную хвіліну вісела над іх галовамі. Ніякіх маёнткаў, калі толькі ўсё скончыцца добра, яны для сябе не атрымаюць. Ніхто не насыпле ім золата ў аддзяку за небяспечную працу. Нічога і ніхто ім не абяцаў. Ім партыя проста сказала—«ідзіце», і яны пайшлі. За ўладу рабочых і сялян, супроць памешчыкаў, супроць акупантаў. У глыбокім тылу ворага, за многія вёрсты ад агнявой лініі, якая падзяляла свет на два непрымірымыя лагеры, сабраліся яны на сход.

— Таварыш Блажко прышоў да нас дагаварыцца вось аб чым,—пачаў Антон Токараў пасля некаторай паузы.—Іх атрад дае нам кулямёт. Я думаю, гэта будзе нядрэнна. Яны просяць у нас вінтовак. Сустрэнецца дынаміт альбо піраксілінавыя шашкі—таксама возьмуць.

Змітрок Буйневіч, які яшчэ да прыходу Жаркевіча даведаўся аб чым будзе гаворка і меў на гэта свой погляд, раптам сказаў:

— Што-ж, калі яны ведаюць, дзе яно ляжыць—няхай бяруць. А тут, што ў гэтай хаце, нам самім трэба. Сваёй вінтоўкі я нікому не аддам...

— Міця!—з жорсткай ноткай у голасе гукнуў Токараў.—Дай мне скончыць. Та-ак... Мы бярэм у іх кулямёт. Гэта адно. Па-другое, таварыш Блажко дапаможа нам трымаць сталую сувязь з Мінскам. Ну, а мы можам лягчэй, чым дукорскія партызаны, пераправуляцца цераз Беразіну. Штаб шаснаццатай арміі, таварышы Сталін, Орджанікідзе дапамогуць нам усім, чым можна дапамагчы.

Токараў гаварыў з поўгадзіны. Кожнае яго слова было поўна вялікай значымасці. Віктар зразумеў, што ў гэтай хацінцы задумана нешта большае, чым ён меркаваў. У параўнанні з будучымі падзеямі выратоўванне заложнікаў, у тым ліку і яго, Віктара,— было дробным эпізодам, нязначным фактам, пра які цяпер ніхто і не ўспомніў.

— Людзі ў нас ёсць. Харошыя людзі! Сёння, кожную гадзіну, кожную хвіліну, мы павінны думаць пра зброю. Зараз павінен прыехаць Майсей Жаркевіч. Ён прывязе вінтоўкі з-за Беразіны. Але гэтага нам, усё-ж, будзе мала. Нам патрэбны не дзесяткі, а сотні і тысячы вінтовак, дзесяткі кулямётаў. Тады мы загаворым з панамі зусім па-іншаму. Што вы, таварыш, на гэта скажаце? Што скажаш ты, Віктар?

Віктар адступіў ад сцяны, да якой быў прыпёрся плячом. Ён хацеў сказаць, што прыбег сюды паведаміць пра панскі налёт на Верасніцу, пра тое, што жаўнер Кжачкоўскі зноў апынуўся ў польскай арміі. Але зварот Токарава да яго, як да роўнага, як да сапраўднага байца, адсунуў усё гэта на другі план. Перад яго вачамі паўстала родная вёска, сціснутая няўмольным і жорсткім кальцом акупантаў. У вушах яшчэ біўся плач жанчын і дзяцей, якіх секлі бізунамі... Пазіраючы на груд вінтовак, састаўленых у кутку гэтай лясной хацінкі, Віктар прамовіў глухім голасам:

— Я скажу так, таварышы: усё сваё жыццё, да астатняга дыхання, аддам за справу Леніна.

## XXIII

Пятро Ашман найбольш за ўсіх верасняцаў спалохаўся карнага атрада. Ён вырашыў рабіць усё, чаго-б пан Свяцліцкі не запатрабаваў, вырашыў гаварыць пану толькі чыстую праўду. Гэта быў бадай адзін з тысячы, які надумаўся даверыцца літасці пераможцаў. «Абманам свет пройдзеш, але назад не вернешся»—прыгадаў старую прыказку. Дайшоўшы ў сваім страху перад панам да такой адратоўчай, здавалася яму, яснасці, Пятро Ашман не схаваў ні фунта збожжа, не закінуў у зацішны куток ніводнага палена, што здабыў у панскім лесе. Астаўся ў хляве конь, асталася ў вёсцы ўся ашманава сям'я.

Свяцліцкі доўга не марудзіў. На чале сотні конных жаўнераў ён

досвіткам пераправіўся цераз Свіслач у брод і акружыў Верасніцу. Дзейнічаў ён па распрацаванаму капітанам Марушэчкам плану. Усё ў гэтым плане было распісана па парадку, з тою дакладнасцю, якая сустракаецца толькі ў вайсковых часцях. У першую чаргу з Верасніцы накіроўвалася на чыгуначную станцыю пяцьдзесят фурманак. Далей інтарэсы арміі, усёй Жэчы Паспалітай, патрабавалі неадкладнай адбудовы спаленага хлопамі маста праз раку. На гэту справу капітан Марушэчак вызначыў дваццаць пяць фурманак і пяцьдзесят чалавек цесляроў. Толькі пасля ўсіх гэтых неадкладных мерапрыемстваў, якія мелі агульна-дзяржаўнае значэнне, можна было распачынаць ажыццяўленне «маніфеста пана Свянціцкага», якому таксама надавалася не меншае значэнне.

Шэсць станкавых кулямётаў, пастаўленых у канцах вёскі і за гумнамі, павінны былі надаць верасняпцам вялікай павагі да паноў. Толькі пасля гэтага сотня коннікаў уляцела ў вёску і рассыпалася па дварах.

Цвёрда вырашыўшы слухацца паноў, што-б яны ні загадвалі, Пятро Ашман са спакойнай душою стаяў цяпер на ганку. Яснасць, да якой ён дайшоў, надавала яму ўпэўненасць, што ўсё скончыцца добра. У гэтую хвіліну ён мог аддаць панам і каня ў абоз, і ўсё збожжа, якое ён сеяў і вырасціў на панскім полі, і ўсё дрэва, якое прывёз з панскага лесу.

— Конь ёсць?—крыкнуў Ашману падхарунжы Струсь, падлятаючы да ганку.—Калёсы ёсць?

— Ёсцека, панок, усё ёсцека,—заспяшаўся Ашман.

— Зараз-жа запрагай.

Ашман кінуўся ў хлеў. Не прайшло і поўгадзіны, а конь быў ужо запрэжаны.

— Выязджай на вуліцу.

— Зараз, паночку. У абоз паедзе Мацвей, сын мой... я так сабе... толькі запрог... Я сам застануся дома...—шпарка мармытаў Ашман.

Ён нават забыўся на сваё частае «што-а?» Ён вырашыў паслаць у абоз свайго старэйшага сына, ён гатовы быў выправіць з дому меншага сына, дачку, каб застацца дома толькі з жонкаю. Вельмі не давяраў Пятро Ашман моладзі! Яна магла ляпнуць языком такое, за што паны ніколі не даруюць. Адно неасцярожнае слова магло загубіць усю гаспадарку, усё дабро, якое даставалася цяжкім крывавым мазалём. З панамі, думаў Ашман, трэба гаварыць умеючы, гаварыць так, каб яны цябе зразумелі.

Нельга сказаць, што Ашман вельмі правініўся перад памешчыкамі. Дрэва на хату ён не навазіў, жэрдкі ў яго не ляжалі пад страхою. Адно, за што мог пан Свянціцкі прычапіцца да яго—гэта кароткія стрыжнёвыя круглякі, тоўстыя, без адзінага сучка, яловыя калодкі, акораныя і парадачкам складзеныя ў падпавеці. Там-жа былі наколаныя, але не абструганыя клёпкі, навенькі, яшчэ без дна цэбар, дзве дзежкі, тры вядры і адзін адмыслова зроблены кубельчык на сала. Добра і прыгожа ўмеў рабіць драўляны пасудак Пятро Ашман! На кірмашах у мястэчку ён не меў адбою ад пакупнікоў. Лёганькія, як пяро, дайніцы, высокія тонкія бойкі для

масла, шырокія і глыбокія ночвы, прасторныя балеі—усё гэта выходзіла з ашмановых рук дасканалым і прыгожым. Пасля таго, калі ў Верасніцы прабылі тыдзень казакі з мяцежнага корпуса генерала Карнілава—асартымент старога бондара павялічыўся новымі рэчамі—бражнікамі і запарнікамі для самагонных апаратаў.

— А ці далёкая будзе дарога?—запытаўся Ашман у падхарунжага, чакаючы покуль выйдзе з хаты сын.—Трэба ведаць, колькі браць яды, колькі аўса каню... Я то нядаўна толькі вярнуўся з абозу...

Замест адказу, падхарунжы так зірнуў на бондара, што той палічыў за лепшае больш не гаварыць. Нарэшце вышаў з хаты сын, здаравенны, але яшчэ зусім малады хлопец, апрануты ў зялёную салдацкую ватоўку. Стары перадаў яму лейцы і фурманка рушыла на вуліцу. Ашман хацеў правесці сына, але адзін з жаўнераў загарадзіў яму дарогу:

— Стой на месцы!

Ашман паслухмяна спыніўся. Ён ужо думаў, што надышла хвіліна, калі паны пачнуць патрабаваць адказу за лес, за зямлю...

— Жонка ў цябе ёсць?—запытаўся падхарунжы.

— Што-а?—не ведаючы яшчэ для чаго спатрэбілася панам яго старая, перапытаў Ашман.—Баба мая?.. Ёсцека, панок...

— Пакліч яе сюды.

Ашман сумеўся на момант. Потым нерашуча падаўся ў хату, каб зноў спыніцца на парозе і ўжо разгублена зірнуць на падхарунжага.

— Яна, баба мая, не дзейнічае...—пачаў стары, паглядаючы кудысьці ў бок.—Яе годы чатыры як разбіў паралюш... Пайшла збіраць на балота капытнік свінням і там яе аблажыла... Чатыры годы ляжыць на палку, нібы мярцвяк...

Падхарунжы цяжка скочыў на ганак. Ашман пачціва адступіўся, каб даць яму дарогу ў хату. Увайшоў следам за палякам нечутна і ўрачыста, як у царкву.

— Дзе твая старая?—грымеў Струсь, спярша не заўважыўшы ў змрочным пакоі ніводнага свежага чалавека.—Ты што-ж гэта, сабачая твая скура, хлусіць адважыўся?..

— Яна во тут, пане,—прашаптаў Ашман.—На палку... Я вам казаў... Во, зірніце, калі не верыце...

Пятро Ашман крануў за коўдру. Толькі цяпер зглядзеў падхарунжы нейкі няземны светла-васковы твар, вузенькія, плоскія грудзі, цяжка апалыя ўздоўж цела сухія рукі з шматлікімі сінімі жыламі. Жанчына нерухомым пільным позіркам утаропілася на печ, на груд пакладзеных там для прасушкі альховых клёпак.

— Хто тут?—нарэшце шавяльнуліся тонкія, як лісткі, празрыстыя губы.—Дайце мне вады... Усё нутро сасмагла... Нікога не дазвацца...

— Што-а? Вады?—аж падскочыў Ашман.—Я зараз...

Падхарунжы моўчкі рынуўся на двор.

Ашман думаючы, што ўжо закончыліся ўсе яго абавязкі перад панамі, астаўся пры старой. Ён зачарпнуў медным, зробленым з гарматнай гільзы кубкам ваду і, прыўзняўшы хворую, уліў ёй у рот некалькі глыткоў. Потым стаў папраўляць коўдру, падушку. Рабіў

ён усё гэта нетаропка, скоса паглядаючы за акно і прыслухоўваючыся да таго, што чувацъ на двар. Вельмі не хацелася старому выходзіць цяпер з хаты. Наракаючы ў дні спакойнага жыцця на сваё няшчасце, на незварушную жонку, якая была бескарыснай для гаспадаркі і ўпарта не хацела паміраць, зайздросцячы ўсім тым, у каго былі ўсе здаровыя і здольныя да працы,—ён цяпер на момант нават узрадаваўся сваёй бядзе. Пасля таго, калі падхарунжы моўчкі выляцеў з хаты, упэўніўшыся, што баба сапраўды «не дзейнічае», Ашману стала ясна: палякі не адарвуць яго ад хворай жонкі! Яны напэўна ўжо забыліся на яго, на ўсю гэту сям'ю...

Але падхарунжы Струсь не забыўся пра Ашмана. Пачакаўшы хвіліны дзве, ён забарабаніў у акно.

— На сход да царквы!—загадаў ён, калі Ашман пакорліва высунуўся з сянец.

— У мяне нямашака нікога каля хворай,—разлічваючы на панскую чуласць, прамовіў стары.—Хто дагледзіць хворую, калі я пайду?

— Дагледзіць пан бог. А ты мне яшчэ паразважай!

Зноў, як і ў першы раз, сустрэліся каля царквы пан Свянціцкі і верасняцы. На тым-жа самым месцы стаялі кулямёты. За вынесеным з папоўага дома сталом сядзеў капітан Марушэчак, гортаючы нейкія паперы. Свянціцкі стаяў каля агарожы, нібы староннi наглядальнік усяго таго, што тут рабілася.

Як толькі падхарунжы Струсь далажыў панам афіцэрам, што ўсе жыхары Верасніцы з'явіліся на сход, капітан Марушэчак пачаў:

— Антон Токараў ёсць тут?

Сяляне маўчалі.

— Хто Антон Токараў?—павысіў голас Марушэчак.—Зараз-жа выходзь наперад!

Сяляне маўчалі. Толькі ў сярэдзіне натоўпа пачуўся прыглушаны смяшок на такую панскую прапанову. Капітан ўсхапіўся з табурэткі і стукнуў кулаком аб стол.

Сцяпан Шлапак, мужчына год сарака пяці, з вялізнай сіне-барвовай плямай на ўсю правую шчаку (яго абварыла самагоннай брагай, калі разарваўся ад празмернага награвання запарнік) павольна агледзеў бліжэйшых да яго мужчын і адказаў:

— Нямашака ў нас такіх, пане начальнік.

— Няма! А дзе ён?—падыходзячы да натоўпа запытаўся Марушэчак.

Сцяпан Шлапак ужо быў нярад, што дабраахвотна ўвязаўся ў гаворку. Тым больш, што пан афіцэр ішоў проста на яго. Тым больш, што непадалёку ад стала быў шырокі заслон, ляжалі свежанарэзаныя вішнёвыя дубцы, якія разбіралі жаўнеры.

— Дзе ён, калі яго тут няма?—ледзь не наступаючы Шлапаку на ногі, пазіраючы на яго знізу ўгару калючым халодным позіркам, паўтарыў Марушэчак.

Шлапак адхіснуўся назад і выдыхнуў:

— Мусіць, за Бярозай, пане начальнік...

— За Бярозай?

— Ага, за Бярозай... Яны, камісары, усе туды паўцякалі. Хіба яны не ведаюць, што ім тут будзе?..

— А пазаўчора Антон Токараў не быў у вас? А ну—адказвай! Дзе ты яго пазаўчора бачыў?

Сцяпан Шлапак сумеўся толькі на момант.

— Нідзе я яго не бачыў. Як была ў нас совецкая ўлада, дык ад таго дня ён і на вочы ўжо не паказаўся.

— А хто страляў па жаўнерах?..

— Не ведаю. Я не страляў. Я нічога не бачу правым вокам.

І Сцяпан Шлапак паказаў пальцам на вялікае бяльмо ў правым воку.

— Ну, што-ж, вы ўсе калекі, як толькі прыцягваюць вас да адказнасці,—лагодна праспяваў капітан Марушэчак.—А ці не скажаш ты, дзе падзеўся Змітрок Буйневіч?

— Не ведаю.

— За Бярозай?

— Можа і за Бярозай,—не улавіўшы іроніі ў панскім голасе, проста адказаў Шлапак.—Большэвікі ўсе паўцякалі за Бярозу. Тут засталіся адны ціхія людзі...

— А ты хто такі? Як прозвішча?

— Я тутэйшы, пане начальнік. А завуць мяне Шлапаком.

— Ты сеяў на панскім полі?

— Трохі сеяў,—скоса зірнуўшы на Свянціцкага, адказаў аслаблым голасам Шлапак...

— Лес панскі сек?

— Трохі сек.

— Колькі?

Капітан Марушэчак кіўнуў жаўнеру, які сядзеў з краю стала над аркушам паперы. Той нарыхтаваўся запісваць.

— Колькі ссек дрэў?

— Дрэў дзесяць... Не больш.

— Хату новую паставіў?

— Хату?.. Паставіў...

— Дык што-ж гэта ты, сабака, хлусіш, што ссек усяго дзесяць дрэў? Хто гэта можа збудаваць хату з дзесяці дрэў? Гэй, узяць яго!—крыкнуў Марушэчак жаўнерам.

Сцяпана Шлапака схапілі і кінулі на заслон тварам уніз. Адзін з жаўнераў задраў яму на галаву суконную жакетку разам з сарочкай.

— Ты зараз скажаш мне ўсю праўду,—дастаючы папяросу, прамовіў капітан.

— Панок,—узмаліўся Шлапак, увесь згараючы ад сораму і крыўды, што яго як малога, пачнуць зараз драць дубцамі.—Я цяпер успомніў... У мяне была гнілая хата... Усяго я высек сорак дрэў... Магу прысягнуць чым хочаце... Што болей не ўзяў ні ламінкі...

— Сорак дрэў! О, пся твая скура!.. А хто табе дазволіў рабіць такое спусташэнне ў чужым лесе? Як ты адважыўся грабіць чужое дабро? А-а?

Шлапак маўчаў.

— Адлічыце яму сорак udaraў!

Адзін жаўнер сеў на ногі Шлапака, другі прыцісн ўшыю да краю заслона. Трэці махнуў дубцом. На шырокай смуглай спіне забялеўся доўгі пісяг, каб зараз-жа наліцца цёмнай фарбай. Шлапак густа зароў. Страшная сіне-барвовая пляма на твары ѕрабілася яшчэ страшнейшай ад натугі, заблІскала раптоўна выступіўшымі кропелькамі поту.

— Адзін,—голасна прамовіў капітан.—Лічыце далей... Ты ў мяне навекі запамятаеш, як грабіць чужое дабро... Што ты яшчэ узяў у маёнтку?

— Больш нічога...

Калі Марушэчак адлічваў апошні саракавы ўдар, Шлапак ужо не мог гаварыць. Адно невыразнае мармытанне чулася на заслоне. Густая цягучая сліна звісала з яго роту, спіна пачарнела, як галавешка, белую сарочку абсеялі чырвоныя кроплі. Калі яго паставілі на ногі, ён зараз-жа абсунуўся, як мяшок, на зямлю.

— Аднясіце ў бок,—загадаў Марушэчак і павярнуўся да натоўпа.—Ну, хто прызнаецца, дзе Токараў, дзе Буйневіч? Прысягаю панам богам, што я перабяру вас такім чынам усіх да аднаго! А той, хто будзе гаварыць праўду, атрымае поўнае дараванне. Ну, хто з вас ведае, дзе Токараў?

Пакуль катавалі Сцяпана Шлапака, Пятро Ашман, стоячы ў натоўпе, уздрыгваў ад кожнага ўдару, нібы ён падаў на яго ўласную спіну. Вялікі страх пранізваў яго наскрозь. Ашману здавалася, што каб Шлапак адразу прызнаўся, а не хітраваў, не таіўся,—усё-б скончылася добра. Варта было толькі Шлапаку растлумачыць афіцэру ўсё, як мае быць, і кара мінула-б яго спіну. Таму, калі Марушэчак звярнуўся ў другі раз да натоўпу, Ашман выступіў наперад. Яснасць, да якой ён дайшоў пасля таго, калі карны атрад быў яшчэ ў маёнтку, зноў апанавала яго душу.

— Токараў, панок, уцёк за Бярозу,—пачаў бондар.—Яму цяперака няма патрэбы сядзець тутака. З таго дня, калі нашы адступілі, мы яго не бачылі...

— Хто гэта нашы?—нібы спакойна запытаўся Марушэчак у Ашмана.

Пятро Ашман, які не звяртаў увагі на стыль сваёй гаворкі, стараючыся данесці пану толькі сутнасць, толькі праўду, растлумачыў:

— Ну войска наша... А што да таго, чаму некаторыя секлі панскі лес і засявалі панскую зямлю, дык я вам растлумачу...

Нехта быў пацягнуў Ашмана за рукаў, каб ён схаваўся ў натоўпе і не вытыркаўся з сваімі тлумачэннямі, але Ашман не звярнуў на гэта ўвагі. Такая прырода таго ці іншага чалавека, што ён лічыць самым разумным у натоўпе толькі самога сябе, лічыць сябе самым разважлівым і прадбачлівым. Такому чалавеку здаецца, што каб усе людзі жылі так, як ён, рабілі так, як робіць ён, дык усё-б на свеце было добра, усюды быў-бы лад і парадак. Таму падазроную і маўклівую насцярожанасць капітана Марушэчка Ашман палічыў за вялікую ўвагу і пастараўся як мага прасцей, як мага хутчэй выказаць усё, што яму было ясна, і за што, здавалася бондару, паны могуць даравадь не толькі яму, але і ўсім верасняндам. Ён

хацеў сказаць панам тое, што мот сказаць, але не сказаў, па сваёй дурасці Сцяпан Шлапак.

— Сцяпан Шлапак не вінаваты,—пачаў бондар.—І нікога сярод нас няма вінаватых. Зямлі мы не грабілі, лесу панскага мы не кралі... Вераснянцы, народ, тут богу душою не вінен...

— Далей, далей,—падахвоціў недалёкага старога Марушэчак.— Я слухаю.

— Каб не савецкая ўлада, дык ніхто-б у панскі лес, альбо на панскую зямлю і нагою не адважыўся ступіць. Крый божачка! Хіба мы не ведаем старых законаў? Хіба не ведаем, якая за гэта магла быць кара? Ведаем, панок! Але прышлі большэвікі ў сяло... савецкая ўлада прышла...

— Ну-ну, далей,—праспяваў Марушэчак.

— ... запісалі ў паперы, у каго колькі зямлі, у каго хата гнілая, у каго няма каня, альбо каровы. Паспісвалі ўсіх, каму што трэба было, і сказалі—бярыце. У маёнтку бярыце...

— Дык вы і пачалі браць?

— А як-жа-ж. Калі ўлада загадала браць, дык улады трэба слухацца. Я вот так падумаў, што каб пан Свянціцкі загадаў мне паехаць у пушчу і насеч сабе лесу на хату, дык хіба я адважуся не паехаць? Колькі разоў мне Корбут ні загадваў ехаць у падводы, і заўсёды я слухаўся... Так што, панок, мы тут ні прычым. Усё ўлада вінавата... І дарэмна вы сталага чалавека гэтак зрэзалі...

— Ты кажаш, што ўлада загадала браць. А навошта вы бралі?

— Бо на ўсё галодныя век былі, а тут бясплатна ўсё даецца...

— Цяпер яшчэ адно пытанне, каханы дзедусь,—ужо амаль шэптам прамовіў капітан Марушэчак.—Хто раздаваў вам панскую зямлю і лес? Хто складаў спісы?

— Тыя, каго выбраў народ,—нічога яшчэ не падазраючы адказаў бондар.

— А каго гэты народ выбраў? Прозвішчы іх?

І тут настаў канец «яснасці» Пятра Ашмана. Трэба было гаварыць пра Майсея Жаркевіча, пра Поташа, Буйневіча. Пра ўсіх тых, з кім сустракаўся кожны дзень, з кім яшчэ не раз сустрэнешся, пакуль будзеш жыць на гэтым свеце. Нагаварыць на іх, падвесці, а як тады глянеш ім у вочы? «Сабака ты, Пятро Ашман, хоць і стары чалавек»,—скажуць яны.—Панскі ты сабака, Пятро Ашман!»

— Не ведаю,—унікаючы вострага, як лязо брытвы, позірку капітана Марушэчка, адказаў Ашман.—Я не хаджу на сходы... Мне з-за работы дыхнуць няма калі... Што я ведаў, тое і сказаў. Чыстую праўду сказаў. Што-а?.. Можна мне, панок, ісці дахаты? У мяне там незварушная жонка...

Марушэчак адступіўся задам ад Ашмана, нібы ён не мог яго разглядзець зблізу. Падаўшы знак двум жаўнерам, ён праспяваў ласкава:

— Не, каханы дзедусь! Ты пойдзеш туды, куды загадаем ісці мы. Мы, каханы дзедусь, павінны аддзякаваць табе за тваю чыстую праўду. Ты будзеш здаволены, каханы дзедусь!

Цяпер толькі Ашман здагадаўся, што яго пакутная яснасць не дайшла да тонкіх панскіх вушэй. Зняважаны ў сваіх найлепшых

пачуццях, ён раптам зрабіўся ўпартым, як малое дзіця. Адштырхнуўшы з незвычайнай сілай двух жаўнераў, стары бондар заспяшаўся дахаты.

Марушэчак скочыў наперад, каб загарадзіць яму дарогу. Пятро Ашман піхнуў у грудзі і Марушэчка

— Стой! Назад!—зароў капітан, рвучы з кабура браўнінг.

Стрэл, кароткі і сухі, дайшоўся да свядомасці бондара толькі пасля таго, калі спіна і ўсё нутро яго закалацілася ў шалёнай млосці. Яшчэ трымаючыся на нагах, стары павярнуўся да капітана Марушэчка з шырока адкрытымі наіўнымі вачамі. Раптам дзве празрыстыя слязінкі скаціліся па яго маршчыністым твары і задрыжэлі на канцы шырокай тонкай барodкі.

— А-а-ах!..—бухнуў усім сваім нутром.

І паваліўся на зямлю, як зрэзаны сярпом даспелы колас.

## XXIV.

Гамулька прыбыў у Мінск і адразу з цягніка накіраваўся ў Раду. У шматлікіх пакоях дома, які займаў урад, ён знайшоў толькі вартаўніка, аднавокага Бенедыкта Грыба. Карыстаючыся адсутнасцю міністраў і самога прэзідэнта, Бенедыкт Грыб вольна размясціўся ў доўгай і прыцемкаватай залі пасяджэнняў. На стале перад вартаўніком цьмяна паблісквала бутэлька самагону, на кавалку газеты ляжалі квашаныя гуркі, некалькі лустаў чорнага хлеба. Бенедыкт зусім не заўважыў прыходу Гамулькі. Пазіраючы перад сабою ўжо мутным, невідушчым вокам, ён размаўляў сам з сабою:

— Дык я табе і кажу, брат, шмат развялося на свеце свалаты!.. Што мне табе, брат, пра яе сказаць? А-а?.. Яна каб змагла, дык-бы ў лыжцы вады ўтапіла простага чалавека... А-а?.. З'ела яго з усімі вантробамі... Яна, брат, хітрая... запомні гэтае... Ну, давай, брат Банадысь, яшчэ вып'ем... За здароўе цёткі Антаніны... Бо толькі тое і спажываеш, што яна падарыць...

«Цэлы сюжэт для апавядання»!—у захапленні пазіраючы на адзінокага, але шчырага Грыба, падумаў Гамулька і пaціху прысеў на крэсла, якое стаяла каля дзвярэй.

— Будзь, брат Грыб, смялейшым...—пацягнуўшы з бутэлькі і закусіўшы гурком, прадаўжаў вартаўнік гаворку сам з сабою.— Адразу заяві, каб табе заплацілі за працу! Бо калі ты сам за сябе не скажаш, дык хто гэта пра цябе падумае? Хоць здыхай з голаду, хоць вый воўкам... Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць!.. Хай яны пагараць усе!..

Ціхі і нямы, як рыба, Бенедыкт Грыб віда-віда ператвараўся ў злога і балбатлівага чалавека. Гарэлка развязвала яму язык, прымусіла яго душу закрычаць аб нейкім вострым, але затоеным раней болі. Заняты сваімі пакутамі, ён зусім не заўважаў таго, што ён у пакоі не адзін. Тым больш, што Гамулька, баючыся прапусціць такую важную для пісьменніка псіхалагічную дэталь, сядзеў моўчкі і нерухома. Гамулька толькі не разумеў аднаго: каго так бэсціць, супроць каго збіраецца ісці ў смертны бой Бенедыкт Грыб? З'яў-

ленне галавы ўраду самым нечаканым чынам перапыніла выяўленне затоеных мар вартаўніка.

— Ты што-ж гэта, даражэнькі, робіш?—пачуўся са змроку пакою ціхмана-ядавіты голас.

Бенедыкт Грыб лёганька ўсхапіўся з крэсла. Устаў і Апанас Гамулька.

— Я, даражэнькі, нікому не дазволю бэсціць такую ўстанову,—прадаўжала асоба.—З гэтай хвіліны вы, даражэнькі, лічыцеся звольненым. Ступайце!

Бенедыкт Грыб шпарка запхнуў у кішэню сялянскай жакеткі гуркі, згроб са стала газету і рынуўся з пакоя.

— Вы, даражэнькі забыліся на сваю пляшку,—усё з тою-ж забойчай спакойнасцю гукнула вартаўніку наўздагон высокая асоба.— Зараз-жа забярыце. І не з'яўляйцеся больш у гэтым доме.

Калі за Бенедыктам зачыніліся дзверы, галава ўраду звярнуўся да Гамулькі:

— Я не разумею, пане Гамулька, як маглі вы, міністр, зносіць такое у вышэйшай ступені варварскае відовішча? Вы разумееце: у доме, дзе вырашаецца лёс цэлага народа! У доме, які для нас больш святы, чым святая царква!..

— Я, дзядзька Ласоўскі, толькі што зайшоў,—прамармытаў пасаромлены Гамулька.—Прызнацца шчыра, мяне вельмі заінтрыгавалі паводзіны нашага вартаўніка. Да гэтага часу я ведаў яго, як маўклівага і недалёкага чалавека. Гарэлка развязала яму язык і ён стаў паграджаць...

— Паграджаць?—занепакоіўся прэм'ер.—Каму паграджаць?

— Я не дачакаўся, каб ён назваў асоб... Ды і вы хутка зайшлі...

— Ён напэўна паграджаў нам. Гэта падрыхтоўка замаху на ўрад. Пазваніце, калі ласка па нумару 25-31. Там ён прызнаецца... Хаця, я сам пазваню.

Прэм'ер-міністр накіраваўся ў другі пакой.

Гамулька правёў позіркам яго мешкаватую, зацягнутую ў чорны фрак, постаць і, абмацаўшы на сцяне выключацель, запаліў святло. Раптам зрабіліся чорнымі сінія да гэтага часу шыбы вакон. Вечар за вакном ператварыўся ў глухую восеньскую ноч. Недзе на першым паверсе загрукалі дзверы, пачуліся прыглушаныя далячынёю галасы.

Людзі, якія неўзабаве ўвайшлі ў залу, не вельмі імпаніравалі гамулькаваму настрою. Гэта былі два браты Цыркевічы—Іван і Антон. Яшчэ задоўга да гэтага дня адзін з іх—Антон галоўны дарадца—стаў на дарозе славы Гамулькі. У той час, калі Гамулька павінен быў даваць прыніжлівыя тлумачэнні адносна сваёй асобы дробным вайсковым сошкам, як, напрыклад, капітан Марушэчак,— Цыркевіч вёў шырокую дружбу з генераламі і самымі радавітымі шляхцічамі: Шэптыцкімі, Радзівіламі, Чапскімі. Пісанне і рэдагаванне важнейшых дакументаў Рады даручалася рабіць толькі Антону Цыркевічу, асабліва пасля таго, калі Гамулька склаў адзін з няўдалых варыянтаў пісьма кайзеру Вільгельму. У гэтым пісьме ён доўга і адцягнена жаваў пра жаданне «свядомых» беларусаў

будаваць дзяржаву, скрупулёзна апісваў нікому непатрэбныя факты з часоў «залатога» веку. Пісьмо заняло цэлых сорак друкаваных старонак. Калі Гамулька дачытаў яго да канца, усе ў Радзе, апрача Антона Цыркевіча, задрамалі.

— М-м... калега,—пачаў Цыркевіч, калі Гамулька адклаў у бок ліст і выцер насавою хусткаю ўпацелы лоб.—У вас, калега, тут, мгм, атрымалася нешта нелаканічнае... Мгм... Нешта бясплотнае... Яно зусім не расчуліць нямецкай крыві...

Чорныя запалыя вочы Цыркевіча зірнулі кудысьці ў бок, рэдкая казліная бародка застыла, ў нерухомасці.

— Я ўклаў у гэты ліст усю сваю душу,—крыкнуў Гамулька з крыўдай у голасе.—Пісаў нібы нейкае святое апавяданне.

Цыркевіч лёгка дакрануўся доўгімі нервовымі пальцамі да гладка-зачасаных валасоў.

— Мгм, калега... Мы, здаецца, дамовіліся, што ліст зойме не больш двух-трох старонак... Гмм, каб не было цяжка яго светласці ўлавіць вашу думку... Гмм. А ў вас думка загурашчана, прашу прабачэння, нікому непатрэбнымі дэталямі... Вы павінны ведаць, што дзелавыя людзі аддаюць перавагу толькі тэлеграфнаму стылю пісьма... Патрэбна, мгм, брацъ, як кажуць, мёртвай хваткай...

Гамульку прапанавалі скараціць ліст да трох старонак. Калі з гэтага нічога не атрымалася, Цыркевіч сам сеў за стол і за поўгадзіны, у прысутнасці членаў Рады, напісаў вядомы ліст «яго светласці кайзеру Вільгельму».

«Беларусь—гэта лес, лён, мёд... мгм, воск»,—неўзабаве чытаў Цыркевіч членам Рады. Ліст выклікаў захапленне ўсіх прысутных. Цыркевічу, калі ён скончыў чытаць, доўга апладыравалі. Апладыраваў і Гамулька, але ў душы яго была вострая крыўда і зайздрасць. Тое, над чым ён пакутваў два тыдні, адкідалася ў бок без усякага шкадавання і спачування. На яго нават цяпер не пазіралі. Уся ўвага, усе сяброўскія ўсмешкі былі скіраваны на гэту ненавісную казліную бародку, якой так лёгка далося напісанне адказнейшага дакумента. Гамулька зайздросна пазіраў на доўгія вузлаватыя пальцы Цыркевіча—пэўную адзнаку адароных людзей—якія без усякай утомы і шпарка афармілі лёс цэлага народа.

— Маеце, панове, разумець, што мгм, платанічнай любві на свеце не існуе,—адказаў Цыркевіч на віншаванні сяброў.—Вільгельм акажа нам дапамогу ў барацьбе з советамі толькі пры ўмове, мгм, поўнай матэрыяльнай аддзякі.

— Хвацкае пасланне!—усё яшчэ не мог апамятацца ад захаплення просты і грубы Іван Серада, міністр без партфеля, былы ветэрынар.—Гэтакай зычлівасцю мы возьмем імператара як у ляшчоткі!..

Тэлеграма была ўхвалена і накіравана ў стаўку кайзера. З таго часу ўсе важнейшыя дыпламатычныя дакументы складаліся толькі Антонам Цыркевічам. Пісьмо аўстрыйскаму імператару Францу Іосіфу, французам, амерыканцам. Лёгка, надзвычай лёгка мог настроіцца гэты прайдзісвет пад стыль афіцэраў замежных генеральных штабаў, якія марылі пакарыць увесь свет, без меры распаліць прагнасць дырэктараў зброевых фірм, банкіраў, звычайных купцоў

тымі высокімі процантамі прыбытку, якія яны маглі мець ад краіны, дзе шмат лесу, лёну, мёду. Трапна, як ніхто іншы з членаў Рады, падбіраў ён людзей у склад пасольскіх місій да гетмана Скарападскага, датскага караля, у Вільню да літоўскай тарыбы, у Варшаву, Германію, Швейцарыю. Усюды, дзе толькі можна было знайсці хоць малейшую падтрымку для барацьбы з маладой савецкай рэспублікай, поўзалі праінструктыраваныя ім пасланцы—былыя адвакаты, журналісты чорнасоценскіх газет, карнілаўскія афіцэры. З цёмных сутарэнняў, з глухіх кулацкіх хутароў, дзе ўся гэтая поўная злобы падла пахавалася ад караючага меча Кастрычніцкай рэволюцыі, былі пракладзены да Рады сцежкі. У газетцы «Звон» усё часцей сталі з'яўляцца прозвішчы невядома адкуль з'явіўшыхся беларускіх культурных дзеячоў, якія раптам распаліліся любоўю да «гаротнай маткі-айчызны». Парнас за час нямецкай акупацыі папоўніўся новым беларускім літаратурным імем—Янкам Бараднёю. Але толькі Цыркевіч і Гамулька ведалі, што сапраўднае прозвішча Бародні—фон Тунк, былы ўладар Вецярэвіцкай смалярні, якога царскі ўрад выслаў перад вайною з Расіі, як немца-іншакраінца. Цыркевіч спаткаўся з ім у адным з кафэ «Унтэр дэр Ліндэн» і, азнаёміўшыся з яго біяграфіяй і светапоглядам, прапанаваў яму, як «вялікай культурнай адзінцы», вярнуцца на Беларусь. Барон фон Тунк ахвотна згадзіўся, тым больш, што Цыркевіч паабяцаў пасля стварэння аўтаномнай дэмакратычнай рэспублікі вярнуць яму не толькі ўсе дзесяць смалярняў, але і стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы для збудавання новых прадпрыемстваў.

— А-а, калега з'явіўся,—усклікнуў Антон Цыркевіч, бліскаючы на Гамульку празрыстымі ільдзінкамі пенснэ.—Мгм, вельмі рад. Ну, што там робіцца на фронце?

— Усё, што робіцца, павінна відаць з маіх нарысаў і тэлеграм,—паціскаючы халодныя, як у мерцвяка, вузлаватыя пальцы прагугнявіў Гамулька.—Рысачка ў рысачку апісана.

— Мгм... чыталі, чыталі. Трапныя параўнанні, вялікая назіральнасць. А галоўнае, мгм, лаканічнасць... Вы мяне разумееце, паважаны калега?

Гамулька не паспеў адказаць, як у пакой заявіўся Бенедыкт Грыб. Прыпёршыся спіною да афарбаванага пад дуб вушака і шырока расставіўшы ногі, ён утаропіўся нёміготным вокам у Цыркевіча. Вольна засунутая за борт жакеткі правая рука і ўпарта сцятыя губы сведчылі пра тое, што Бенедыкт мае нешта цікавае сказаць.

— Вам, дзядзька Грыб, што трэба?—запытаўся ў яго Цыркевіч.—Колькі разоў вас ні вучылі, вы, мгм, па-ранейшаму лезеце без даклада.

— Мне цяпер усёроўна,—глуха адказаў Грыб.—Мне цяпер няма чым дакладваць...

— Што вы маеце сказаць?

— А тое, каб мне заплацілі за маю працу. За два месяцы... Абяцанкі—ца...

— Добра, добра,—перапыніў яго малодшы Цыркевіч.—Звярніцеся па гэтай справе да сакратара Дулькі. Ну, як вам не сорам,

дзядзька Банадысь, гаварыць аб такіх дробязях усім міністрам. Тут хутка пачнецца паседжанне, а вы...

— Няхай сабе і паседжанне,—усё яшчэ не зводзячы са старэйшага Цыркевіча зачараванага вока, упарта прамовіў Бенедыкт Грыб.—Ёсці мне трэба? А-а?

Малодшы Цыркевіч шпарка ўсхапіўся з крэсла.

— Ах, божа мой, што сталася з гэтым чалавекам! Ну хадзем да сакратара... Ды ад вас, дружа, пахне гарэлкай... Што гэта з вамі зрабілася?

Калі Бенедыкт Грыб з неахвотай вышаў следам за малодшым Цыркевічам, Гамулька пачаў:

— Я, дзядзька Цыркевіч, прыехаў у Мінск з надзвычайнай ідэяй. Лічу, што яна створыць пераломны момант на фронце. Вядома, калі яе, гэтую ідэю, ажыццявіць. Мы, не ў крыўду кажучы, да гэтага часу займаліся саматужніцтвам...

— Што вы, мгм, прапануеце?

— Абвясціць пагалоўную мабілізацыю насельніцтва!

Антон Цыркевіч неўцямліва зірнуў на Гамульку. Гамулька не звярнуўшы на гэта ўвагі, гаварыў далей:

— Колькасная перавага войска пры наступленні адыгрывае рашаючае значэнне нават з пункту погляду псіхалагічнага. Дадайце сюды першакласнае тэхнічнае аснашчэнне, якім забяспечваюць нашу армію Англія і Францыя, і справа будзе вырашана за адзін-два тыдні. Вы разумееце, што атрымаецца, калі да польскай арміі далучыцца страшэнная армада беларусаў у мільён салдат?

— Адкуль мільён?—пацікавіўся галоўны дарадца.

Гамулька ўхмыльнуўся і паправіў акуляры. Ён, відаць чакаў, што будзе такое запытанне, таму адказаў без затрымкі:

— Ну, калі не мільён, то васемсот тысяч. Я мяркую, што пры пагалоўнай мабілізацыі ўсіх, хто можа насіць зброю, можна выбраць такую лічбу з дзесяцімільённага насельніцтва...

— Вы забыліся, што значная тэрыторыя Беларусі знаходзіцца пад советамі.

Гамулька сумеўся, але толькі на момант. Ён вырашыў не адступаць перад гэтым сухім забойчым практыцызмам галоўнага дарадцы. Жывое і хвалюючае гэты адвакат зводзіў да двух формул: «можна» і «няможна», у той час, калі ў Гамулькавай свядомасці жыла толькі адна формула—«усё можна!» Цыркевіч больш не перапыняў свайго калегу, які пасля апошняй заўвагі знізіў колькасць уяўнай арміі яшчэ на трыста тысяч чалавек. Галоўны дарадца толькі крыху адхінуўся ад свайго калегі, бо разам з безліччу страсных слоў на яго бараду, на празрыстае шкло пенснэ густа запырскала сліна.

— Пяцьсот тысяч! Вы разумееце, што гэта азначае? То-ж цэлая напалеонаўская армія!—закончыў Гамулька.—Уласна дзеля гэтага я кінуў карэспандэнцкую працу. Сёння мы ўхвалім гэта пытанне на паседжанні Рады, а заўтра можна давесці да ведама пана Пілсудскага.

— Я таксама, мгм, думаў пра гэта,—пачаў галоўны дарадца.

«Трасцу ты думаў!»—абурыўся ў душы Гамулька.—«Лёганька ты, браце, у сааўтары запісваешся».

— Я, мгм, думаў таксама,—прадаўжаў Цыркевіч, пазіраючы ў далячыню, за акно, у цемру вечара.—Але на сёння гэта толькі адна, мгм, фантазія. Не больш. Так рабіць няможна.

Гамулька ўстаў на дыбкі. Ён вырашыў перамагчы гэты страшны практыцызм, гэтае забойчае «няможна».

— Вы разумееце, што я прапаную?—крыкнуў ён, амаль з нянавісцю пазіраючы на Цыркевіча.—Не дабраахвотны набор у армію, а пагалоўную мабілізацыю! Чуеце? Пагалоўную мабілізацыю! Тых, хто будзе ўхіляцца ад службы, павінны растрэльвацца, як дызертыры...

У пакой адзін за адным уваходзілі міністры. Заўважыўшы гарачую спрэчку, яны моўчкі віталіся з Гамулькам, Цыркевічам, стараючыся хутчэй улавіць сэнс размовы. Цыркевіч зірнуў на гадзіннік і пазяхнуў.

— Дык што? Значыць, нічога не выйдзе?—стомленым голасам запытаўся Гамулька.

— Так, нічога. Трэба разумець, што такое мабілізацыя. Гэта значыць, даць народу, мгм, зброю ў рукі. Народу, які яшчэ ўчора карыстаўся памешчыцкай зямлёю, гаспадарыў на фабрыках. Мгм, даць зброю франтавікам, якія зрывалі з афіцэраў пагоны... Цяпер яны пачнуць страляць нашым афіцэрам у спіну. Трэба быць, выбачайце, вар'ятам, каб так зрабіць. Адзінае, панове, што можна— гэта ўзмацніць набор дабраахвотнікаў. Толькі ў гэтым плане мы пачнем, мгм, наша абмеркаванне.

Прэзідэнт, які ўжо ўсеўся ў канцы доўгага стала, гукнуў:

— Дык пачнем, даражэнькія, наша паседжанне. Час досыць позны і нам трэба закончыць працу да дзесяці гадзін...

— Заплаціце мне за маю працу!—раптам пачулася ў залі.— Заплаціце і ўсё...

Прэзідэнт, міністры, як па камандзе павярнуліся ў бок дзвярэй, дзе зноў запанаваў Бенедыкт Грыб.

— Заплаціце...

Гэта было недаравальнае нахабства. Галоўны дарадца, а за ім і прэзідэнт, за прэзідэнтам міністры—усхапіліся з крэслаў.

— Паслухай ты, мужык!—крыкнуў у гневе галоўны дарадца.— Зараз-жа выйдзі вон, калі не хочаш трапіць у турму. Мгм, якая грубасць, якая подласць... Хто яго наймаў на працу?

Бенедыкт Грыб нават не скрануўся з месца.

— Выйдзіце, даражэнькі, вон,—прашаптаў пакарэжанымі губамі прэзідэнт.—Заўтра вы атрымаеце поўны разлік.

У гэты момант настойлівасць вартаўніка, відаць, дасягнула найвышэйшага пункта.

— Не хочу заўтра. Плаціце сёння! Думаеце, калі Грыб, дык яго можна карміць цацанкамі?.. Нагадавалі на сваім карку сала па два пуды... Ксплататары! Толькі і ведаеце кспляціраваць рабочага чалавека. Папы вы, а не людзі!

— Ну, гэта ўжо занадта!—грукнуў кулаком аб стол галоўны дарадца.—Дапусціцца, каб такі хам здзекваўся... Эй, хто там? Вывесці адсюль буяна, накіраваць у дыфензіву!

— Я і сам выйду,—супакоіў яго Грыб.—Думаеце, цікава мне сеймікаваць з вамі? Аддайце мне маё і пагарыце вы на гэтым месцы!..

Бенедыкт Грыб не чуў грукату салдацкіх ботаў за сваёю спіною. Азірнуўся толькі тады, калі нехта ўчапіўся за яго каўнер і пацягнуў прэч з пакою.

— Хто вы?.. Што вы?..—замармытаў ён разгублена, хапаючыся рукамі за вушак. Але заўважыўшы, што цягнуць яго два здаравенныя жандары, адразу абвяў і змоўк. Зрабіўся нямым і ціхім, такім, якім яго ведалі міністры да бунту.

## XXV

Сінявокі Мішка Страмок ледзь не заплакаў, калі разам з Віктарам і іншымі верасняннцамі трапіў у абоз. Злавілі іх у невялікім ляску непадалёку ад Верасніцы.

— Два дні, як вярнуўся, а тут зноў! Спамянеш маё слова, што ўцяку! Толькі хвіліну добрую выбяру...

Іх пагналі на станцыю пад пільнай вартай жаўнераў. Адтуль, нагрузіўшы вазы вінтоўкамі і патронамі, зноў павярнулі назад у Верасніцу. Часовы мост цераз Свіслач ужо быў зноў адбудаваны і фурманкі рушылі далей, да Беразіны.

— Як-жа гэта выходзіць?—хваляваўся неспакойны Мішка.— Выходзіць, што нас прымусілі везці патроны, якімі будуць страляць у нашых чырвонаармейцаў? А-а. Чуеш, Віцька?

Віктар не сцярпеў:

— Не гаўкай ты!—крыкнуў ён люта.—Карысці многа з твайго балбатання!.. Хочаш, каб цябе ў штаб Духоніна без пары адправілі?

Мішка баязліва аглядваўся на жаўнераў, якія суправаджалі абоз, і змаўкаў. Ехаў далей ціха, увесь аслаблы ад неспакойных думак.

Яны праязджалі роўныя, як стол, палі, цягнуліся па доўгіх вузкіх грэблях праз балоты, дзе толькі адступіся крыху ў бок і не выцягнеш ног з дрыгвы. Сустракаліся ім па дарозе лясы: то цёмныя хмурныя бары з высока-ўзнятымі кронамі сосен, то светлыя, з полымным убёрам восені, бярозавыя гаі. Ехалі ўдзень і ўночы, зрэдку прыпыняючыся дзе-небудзь на краі вёскі, ці ўзлессі, каб даць папаску коням. Віктар з тугою азіраўся назад, або трывожна пазіраў наперад. Дзесьці ў далячыні быў агнявы рубеж, які дзяліў напал два светы: комунізм і капіталізм. Дзесьці за лясамі і за балотамі былі людзі з чырвонымі зоркамі на шапках, блізкія і родныя! І сэрца яго абліваласся крывёю, калі ён дакранаўся да свайго, накрытага брэзентам воза...

На другі дзень пасля ад'езду з Верасніцы, калі абоз рыпеў прыцемкам па вузкай лясной дарозе, Віктар пацягнуў за правую лейчыну каня і накіраваў яго так, каб вось закранула цвярды, як камень граб. Неўзабаве пачуўся кароткі сухі трэск і конь стаў.

— Што такое? Паганяй!—закрычалі жаўнеры, якія сядзелі на задніх вазах.

— Зламалася вось, пане,—ціхамірна адказаў Віктар.

— Што-а?

— Вось зламалася. Вельмі цяжкая паклажа... Як я цяпер заеду дадому?

Заднія вазы спыніліся. Спыніліся, каб не разлучацца, і пярэднія. Жаўнеры падбеглі да месца аварыі. Хутка сюды прыскакаў начальнік абоза, які ехаў наперадзе.

— Што за тлум? Зараз-жа разыйдзіся!—крыкнуў ён яшчэ здалёку.

Убачыўшы, што калёсы безнадзейна аселі на зямлю, начальнік расхваляваўся і пачаў лаяцца. Ён нават саскочыў з каня і ўзяўся за драбінку, нібы для таго, каб падняць яе і ў адну хвіліну парашыць з няспраўнасцю. Гэта быў яшчэ зусім малады начальнік, у чыне сержанта, які, відаць, вельмі ганарыўся ўскладзенай на яго адказнай місіяй.

— Як я цяпер даеду да дому?—мітусіўся Віктар каля воза.— Паглядзіце толькі, пане начальнік: і пярэдняя вось трэснула! А-а?

Мішка Страмок зайздросліва і ў захапленні пaглядаў на аварыю. Было ясна, што Віктар далей не паедзе!

— Дзе сякера? Чаго вы стаіце?—раптам накінуўся сержант на падводчыкаў.—Зараз-жа зрабіце другую вось і—гайда. Ну, хутчэй паварачвайцеся!

— Павярнуцца не штука,—разважліва адказаў адзін з сялян.— Толькі нічога не выйдзе. Ды вы, пане начальнік, паглядзіце, што атрымалася. Пярэдняя вось стукнулася аб граб і воз падаўся ў левы бок. За пярэдняй воссю ішла задняя. А задняя вось ніколі не адскаквае ў бок. Яна ўжо калі зачэпіцца, то альбо прыстане як масла, і тады конь стане, або зусім зломіцца... Я вот толькі пагляджу, дзе і чаму яна здала пазіцыі. Можа без новай восі абыйдземся...

Віктар коратка ўсміхнуўся. Выказаўшы такое доўгае меркаванне, чалавек сеў на карачкі і пачаў абмацваць месца паломкі. Адзін з жаўнераў паслушліва пстрыкнуў электрычным ліхтарыкам. Расчулены такім клопатам падводчык бліснуў на яго ўдзячнай усмешкай з-пад густых абвіслых вусоў і крыху адсунуўся ў бок. Начальнік абоза, жаўнеры, падводчыкі стаялі моўчкі, чакаючы канца агляду, нібы пасля яго воз сам падымецца і рушыць далей.

— Віцька, халера! Ты гэта як: наўмысля?—горача зашаптаў Мішка свайму сябру і таўхануў яго локцем пад бок. Віктар у сваю чаргу таўхануў Мішку так шчыра, што той ахнуў і прысеў.

— Вы толькі паглядзіце, пане начальнік,—гаварыў далей падводчык.—Вось зламалася якраз у тым самым месцы, дзе яны, восі дзяраваныя заўсёды ломяцца. А ўся бяда, што вельмі цяжкія вазы і што мы вельмі хутка паганяем.

— А што можна зрабіць?—ужо нецярпліва запытаў сержант, відаць, вялікі прафан у гаспадарчых справах.—Ехаць на гэтым возе можна?

Падводчык нарэшце ўстаў. Змахнуў з доўгай світы вільготнае лісцё.

— Калі зрабіць новую вось, тады можна.

— Ну, дык—зрабіць. Хутка!—ужо тонам загаду крыкнуў сержант.

— Дык на гэта-ж, пане начальнік, патрэбен струмент. Патрэбна піла, гэта раз. Потым—сякера, каб абцясаць дубіну, гэблік патрэбен. А ў восі, пане начальнік, ёсць яшчэ дзіркі—на загваздкі і на шрубы. Значыцца, давай сюды свярдзёлак. Без струмента, кажуць, і вошы не заб'еш, а не то што вось зрабіць... Ого! Я ведаю. Я сам некалі, як мы наступалі на Пярэмышль, аўстрыйскую крэпасць, у такіх канваірах быў. Дык мы раз прастаялі тры дні на адным месцы. І што вы думаеце?—ужо больш ажыўлена і ўрачыста звярнуўся вусаты да слухачоў.—Нідзе гэтага струменту так і не знайшлі! Дзе зламалася вось, там і кінулі фурманку. Пайшлі ў наступленне на Пярэмышль без яе!..

Сержант яшчэ з хвіліну стаяў моўчкі, нарэшце гукнуў двух жаўнераў і загадаў ім паехаць у бліжэйшую вёску і прыгнаць новую фурманку. Ужо зусім сцямнелася. Жаўнеры пасталі каля кожнага воза, пільна вартуючы адказную паклажу. У гэтым лесе ўсяго можна было чакаць, на ўсё спадзявацца... У халодным змроку чулася толькі, як хрумсталі падкінутае сена коні.

Віктар, упэўнены, што далей яму не давядзецца ехаць, адпрог каня і прывязаў за драбінку. Жаўнер, які сеў на віктаравым возе, сачыў за кожным рухам хлапца. Гэта быў маўклівы і, здавалася, вельмі злы чалавек. Ён не размаўляў не толькі з падводчыкамі, але і са сваімі—жаўнерамі. Ехаў на возе, ці ішоў каля яго моўчкі, час-ад-часу рвучы паветра сухім брахлівым кашлем.

Віктар ужо збіраўся яшчэ раз загаварыць да яго, калі наперадзе пачулася цоканне калёс і неўзабаве—ажыўленыя галасы. Гэта вярнуліся з новай фурманкай жаўнеры. Яны дагналі яе недзе па дарозе, у канцы лесу. Той, хто сядзеў на возе і кіраваў канём, усё яшчэ настыраўся тоненькім голасам:

— Добранькая справа!.. Толькі выцерабіўся, а тут зноў! Добранькая справа... Ды каб-жа конь, а то жарабя няшчаснае...

З ім мала размаўлялі і тады, калі ён паспрабаваў не даць, каб усклалі на яго воз яшчэ дзве скрынкі патронаў з віктаравага воза.

— Прозвішча, імя? Якой вёскі і гміны?—пытаўся і запісваў у свой сшытак новага падводчыка начальнік абоза, у той час, калі жаўнер свяціў ліхтарыкам.—За гэты груз ты адказваеш галавою. Зразумеў?

— Хай яно затане!—ужо стомлены бескарыснай спрэчкай, адказаў падводчык.—Добранькая справа, «адказвай». А хто адкажа, калі падарвецца мой конь?

Віктар к гэтаму часу адцягнуў свае пустыя калёсы ў бок і чакаў, калі знікне ў змроку ночы абоз, каб павярнуцца і рушыць дахаты.

Але не паспелі падводчыкі праехаць і дзесяці крокаў, як пачуўся новы трэск і следам за гэтым—страшэнная лаянка, пакрыўджаны Мішкаў голас.

Мішку западазрылі ў наўмысным псаванні воза. Раз'ятраны

чарговай затрымкай начальнік заляпіў яму адну аплявуху, другую. Адзін салдат нават замахнуўся быў прыкладам, але хлопец паспеў адскочыць у бок. Ён цвёрда вырашыў не варочацца да воза, хоць сабе загіне і конь. Асцярожна ступаючы ў змроку, ён усё далей адыходзіў у гушчар.

Паклажу з мішкавага воза сержант загадаў параскідаць па ўсіх фурманках. Калі, нарэшце, абоз рушыў далей і неўзабаве ўсё аціхла, Віктар пачуў, што Мішка яго гукае.

— А конь твой дзе?—коратка свіснуўшы ў адказ, запытаўся Віктар.—Не забралі?

— Не,—адказаў нябачны Мішка.

Яны засталіся адны сярод гэтай непраніклай халоднай цемры. Без меры здаволены, што так удала зваліў з воза і са сваёй душы страшны цяжар, Мішка нават пачаў задавацца:

— Каб ён мяне ўдарыў яшчэ адзін раз, быў-бы капут і яму самому! Думаеш, не? Благаславіў-бы кулаком па вуху і канцы ў ваду. Паспрабуй знайсці ў такую ноч... Бр-р... у цябе няма запалак?

— Ёсць.

— Давай раскладзём агонь. Холадна нешта...

— Толькі далей ад дарогі. Сцягнем і твае калёсы ў бок, а коней пабярэм з сабою.

Мішка аж падскакваў ад радасці. Насвістваючы нейкую песеньку, ён рушыў да свайго каня.

Хвілін праз дзесяць вясёлы аганёк затрашчаў у лясным гушчары. Лёгкія светлыя дымкі павіліся ў чарнату неба.

— Ну вот мы і прыехалі,—прымашчваючыся бліжэй да агню і развязваючы торбу з ядою, прамовіў Мішка.—Угоркла мне глядзець на гэтыя іх рагатыўкі. Чорт яго ведае, што за форма! Пытаюся ў салдата, а ён і сам не ведае, чаму чатыры рагі на шапцы. «Гэта, адказвае, пан сержант ведае». Пад'ехаў сержант. «Пане афіцэр,—ужо ў яго пытаюся,—што азначаюць рогі на шапках?» Ён, відаць, быў у добрым настроі, адказаў: «Кожны рог азначае частку света. На свеце, кажа, чатыры часткі свету: Поўнач і Поўдзень, Усход і Захад. Чатыры рогі на шапцы азначаюць, што мы з дапамогай пана бога павінны панаваць ва ўсіх чатырох частках свету. Запамятай гэта, хлоп!» Вот, ядрыт тваю качана, што ён мне праспяваў!

— А ты што яму?

— Хацеў даць па мордзе.

— Чаму-ж не даў?

— Перадумаў. Як ты яго, дурня, ні вучы—заўсёды дурнем застанецца... Нож у цябе ёсць?

— Зараз дастану.

Мішка вылушчыў з торбы чатыры жоўтыя антонаўкі і падаў два яблыкі Віктару.

— Памятаеш, Віцька, калі мы былі малыя і з начлегу хадзілі ў папоў сад? Калі сабака разлупіў табе штаны і пакусаў нагу? Але ты сказаў бацьку, што на цябе наскочыў воўк... І цябе павезлі ў Мінск рабіць прышчэпку. Як я зайздросціў тады табе! Такі малы і ў такі вялікі горад трапіў...

— А як я зайздросціў табе, калі мне пачалі ўколы шпіляць!— усміхнуўся Віктар, нанізваючы сала на ражон.

Мішка таксама завастрыў лamінку і ўсадзіў на яе шырокую белую лусту сала. Агонь разгараўся ўсё больш, асвятляючы схіленыя над хлопцамі махнатыя лапы елак. Здарожаныя і згаладалыя коні, прывязаныя да сухастоіны, гулка хрумсталі сена. Далей была густая цемра, напоеная вострым смалістым пахам і гарэнім восеньскім туманам.

*Канец будзе.*

*Кузьма Чорны*

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

*(Драма ў 4-х дзеях[1]).*

АСОБЫ:

ЛЕАПОЛЬД ГУШКА[2]
АДАСЬ ГУШКА (яго сын)
МАРЫЛЬКА (яго дачка)
ЖОНКА ЛЕАПОЛЬДА ГУШКІ
ЕВЕЛЬ ЦЫВІН
ПАВАЛ НЯМІРА
КАСТУСЬ СУРАВЕЦ
МІХАЛ ТАКАРЧУК
СЫМОН РАПЕЦЬКА
УЛЬЯНА
СУРВІЛА
МАЗАВЕЦКІ
ПЕРШЫ МЕШЧАНЧУК
ДРУГІ МЕШЧАНЧУК
ПАЛІЦЭЙСКІ ПРЫСТАЎ
ПАН ЁТКА
УЛАДЫСЛАЎ ЁТКА (яго сын)
БАРАДАТЫ САЛДАТ

Сяляне, сялянкі, хлопцы, дзяўчаты, гандляры, музыканты, салдаты, поп, паліцэйскія, рабочы.

## ПЕРШАЯ ДЗЕЯ

За гадоў паўтара да імперыялістычнай вайны.

Глухі гарадок на заходніх абшарах Рускай імперыі. Рынкачны пляц у кірмашны дзень. Паверх дахаў узвышаюцца царква і касцёл. Направа, бліжэй, канцэлярыя пристава, з шыльдай, двухгаловым імперскім арлом і паліцэйскай будкай ля ўваходу. Налева, насупроць канцыляры, трухлявая даміна з шыльдай „тракцір“. Проста перад гледачом пляц упіраецца ў паўкруг дробных крам, увешаных замест шыльдаў узорамі тавараў: палова хамута, каса, чыгун, зашмальцаваная падушка, бочачка ад дзегцю.

З балкона свае канцыляры прыстаў вялікасным позіркам акідае рынак, на якім не сціхае кірмашны гармідар. Натоўп залівае пляц.

Звоняць касцельныя і царкоўныя званы. На зямлі сядзіць гурт жабракоў з лірамі—сляпыя, крывыя, бязногія, так сабе бяздольныя людзі.

Старэчы хор.

Матка божа глянула
На галодных сіратак:

---

[1]) Новы варыянт.
[2]) Памылка рэдакцыі (И.Л.П.).

Былі яны голыя,
Босыя, галодныя.
Матка божа сумелася,
Небаракам сіраткам
Колькі трэба хлеба
З неба спусціла.

Гандлярка *(высаджваецца з крамы)*. Чалавек, колькі просіш за палатно?
Кастусь Суравец *(падыходзіць з палатном)*. А колькі дасі?
Гандлярка. А колькі просіш?
Кастусь Суравец. Мая цана—як аддаць.
Гандлярка. Каб мой вораг гэтулькі здароўя меў, колькі я хачу з твайго палатна нажыцца.
Кастусь Суравец. Лепш-бы маё дзіця з гэтага палатна кашулю знасіла, дык не, на зямлю грошы патрэбны.
Гандлярка. Пакажы сюды.
Кастусь Суравец. Паказаць можна. *(Уваходзіць у краму)*.
Гандляр *(з другой крамы)*. Мыла, газа, гусіны пух!
Сымон Рапецька *(выходзіць з гэтай самай крамы)*. Гэта здзірства! За бутэльку дзёгцю на раз боты вымазаць ты скуру дзярэш!
Гандляр *(высоўваецца з крамы)*. Дзёгаць,—як масла!
Сымон Рапецька. Каб ты гэтае масла сам з'еў! *(Пайшоў)*.
Гандляр *(яму наўздагон)*. Каб я так у бога здароўя не прасіў, колькі я з цябе лішняе прашу... Можа цыбулю маеш на продаж?.. *(Крычыць)*. Мыла, газа, гусіны пух!!.
Старэчы голас. За яснымі свячамі, за божымі імшамі, за галоснымі званамі, пры царквах, пры намастырах!..
Старэчы хор. Колькі трэба хлеба з неба спусціла.
Старэчы голас. Пакрый божа зямлю травою, мора вадою, рыбу лускою, неба зоркамі, а чалавека шчасцем.
Старэчы хор. Божа, акрасы штодня людзям і нам.

Адась Гушка ідзе з Ульянаю.

Адась Гушка. Дык і твой бацька надумаўся зямлі купіць? Дзе-ж ён грошай возьме?
Ульяна. У таты было пяцьдзесят рублёў майго пасагу. А цяпер гэты пасаг на куплю зямлі ідзе. Можа ты мяне цяпер браць не захочаш?
Адась Гушка. Няўжо ты думаеш, што мне твой пасаг патрэбен?
Ульяна. Я ведаю, што ты не з-за пасагу мяне хочаш браць. Але каб спачатку было з чаго абжыцца. Ты так мала на гэтай фабрыцы зарабляеш.
Адась Гушка *(развёўшы рукамі, сумна)*. Больш не плацяць.
Ульяна. Дык ты мяне без пасагу возьмеш?

Адась Гушка смяецца, трасе яе рукой за плячо. Пайшлі абое. Ідзе Павал Няміра з Марылькаю.

Павал Няміра. На сваёй зямлі чалавек заўсёды сам сабе пан.

Уладыслаў Ётка выходзіць з пакояў, таксама як і бацька гатовы ў дарогу.

Уладыслаў Ётка *(да Леапольда Гушкі)*. Ты хто тут?
Леапольд Гушка. Старшыня ўпаўнаважаных ад пяці вёсак.
Уладыслаў Ётка *(паказвае на Сураўца)*. А гэта хто?
Леапольд Гушка. Упаўнаважаны.
Уладыслаў Ётка. А ну, дай дарогу!
Леапольд Гушка. Ніхто табе, пане браце, дарогі не дасць. Дзе падзеў коні і маёмасць?!
Уладыслаў Ётка *(змяніўся з твару)*. Таварыш Гушка..
Леапольд Гушка. Які я табе таварыш!
Уладыслаў Ётка. Пане Гушка...
Леапольд Гушка. Я не пан, я чалавек.
Уладыслаў Ётка. Не будзем рабіць адзін аднаму зла.
Леапольд Гушка. Ты думаеш, што калі ты прывык рабіць зло, дык і мы такія?
Уладыслаў Ётка. Я даю слова не рабіць табе злога.
Леапольд Гушка. Ці знойдзецца на свеце дурань, які паверыў бы панскаму слову.
Уладыслаў Ётка. Калі ты толькі адкрыеш нам дарогу...
Леапольд Гушка. Я прышоў сюды як гаспадар.

(За сцэнай гул. Галасы: „Здароў, братка! Упару з'явіўся!“ У дзвярах з'яўляецца Адась Гушка).

Адась Гушка *(да Еткі)*. Ты яшчэ жывы? Не кончыўся тады?

Натоўп пачынае ўліваецца ў пакоі і абкружвае старога і маладога Еткаў.

Стары Ётка. Вось маёмасць... Спіс... *(Перадае народу спіс)*. Божа, божа...
Леапольд Гушка. Нават перад сконам вы думаеце, як-бы найбольш хамутоў ускласці на чалавечыя шыі.
Адась Гушка. Бацька! *(Кідаецца бацьку на шыю)*.

Старога і маладога Еткаў выводзяць у глыб пакояў. У дзвярах Цывін.

Евель Цывін *(паднімае ўгару друкаваную паперу)*. Яны сюды не дапускалі нічога, што ішло з Петраграда. Вось дэкрэт падпісаны Леніным аб зямлі. Адась Гушка прывёз. Уся зямля пераходзіць да народа!
Народ. Ура!
Леапольд Гушка. Няхай жа ніводная паганая нага не ступіць на зямлю нашай бацькаўшчыны. І няхай ніколі на чалавечую шыю не вернецца ярмо!
Галасы. { Не вернецца! / Не дамо! }
Цывін *(да Адася)*. Твае плечы не аслаблі ад вялікай работы?
Адась Гушка. Такімі моцнымі як цяпер яны яшчэ ніколі не былі.

Евель Цывін і Адась Гушка цалуюцца. З натоўпа выходзіць Ульяна і кладзе рукі Адасю Гушку на плечы. Усе знікаюць у глыбіні пакояў, астаюцца толькі Адась Гушка і Ульяна.

Адась Гушка *(абнімаючы Ульяну)*. Цяпер твае вочы будуць вясёлыя.

Ульяна. Будзеш тут?

Адась Гушка. Калі навядзем тут парадкі, я паеду ў армію ваяваць з нашымі адвечнымі ворагамі, якія стараюцца вырваць з нашых рук наша шчасце. *(Стаяць, прытуліўшыся адно да аднаго)*.

*ЗАСЛОНА.*

*Канец.*

*Мікола Цэлеш*

# ЗАРНІЦЫ

Вечар. На траву лягла начная прахлада. Там, дзе яшчэ нядаўна быў вялікі, ярка-чырвоны дыск сонца, засталася толькі светлая палоска, і макаўка разгалістага дуба, пад якім мы выбралі сабе начлег, губляецца ў попельным змроку.

Да дуба прыстаўлены нашы прылады: стаяць вуды, сачкі, ляжаць піджакі, рукзакі. Падалей, каб не наткнуцца на яго і не перакуліць, стаіць рыбацкае вядзёрца, у якім плёскаюцца некалькі плотак з цёмнымі спінкамі. (Нейк было шкада, каб яны страцілі жыццё).

Аганёк патрэсквае, чырвоныя іскры, нібы рой дробных мятлічкаў, падымаюцца ўверх і круцяцца, круцяцца над кастром, захопленыя цёплым цячэннем паветра. Потым знікаюць у змроку. Полымя шоўкавым палатном сцелецца над дрывамі, шуміць, жоўтымі языкамі звіваецца ў бакі, ліжа пачарнелае ад копаці дно кацялка, які вісіць над кастром з вадою.

Мы ўдваіх ля кастра. Больш ані нікога кругом; толькі дзе-ні-дзе віднеецца цёмная постаць каня, ды чуецца прыглушаны звон балабона. Праўда, яшчэ бляялі ў паветры бакасы, над ракой пранёсіўся качур, ды ў траве хрыпеў стомлены драч.

Я сяджу на купіне, нібы ў мяккім аксамітавым крэсле. Таварыш ляжыць на баку, падэшвамі да кастра, схіліўшы галаву на левую руку, глядзіць у задуменні на Вялікую Мядзведзіцу, што сямю яркімі кропкамі віднеецца на поўначы.

Мы маўчым, і нам так прыемна. Якое свежае цёплае паветра. Як лёгка і радасна на сэрцы! Лягушкі, якія недзе ў лужыне спраўляюць канцэрт, здаецца нам, не квакаюць, а рагочуць— рагочуць ад радасці!

Так прайшло з поўгадзіны.

Вада ў кацялку закіпела. На траве з'явіліся два зялёных кубкі, белыя кускі цукру; з рукзака вылезла белая булка хлеба; кавалак вяндліны, каўбасы, кансервы і яшчэ тое-сёе з'явілася на траве. Дзве пузатыя чаркі, напоўненыя іскрыстым віном паблісквалі ля агня, падобна буйным рубінам.

— Ну, вып'ем, друг!

— Вып'ем, за заўтрашняе шчасце!..

Мы ўсміхаемся, выпіваем, і гаворым паглядаючы друг на друга.

Раптам ірвануў вецер, і пакаціўся па макаўках маладых дрэў ціхім шэптам. Ад агня ў чорнае неба веерам пасыпаліся іскры.

Пад узгоркам над ракою затоена прашумелі сасонкі і ўслед за асляпляючай маланкай пачуліся глухія раскаты грома. Гукі музыкі, што чуліся з калгасу, адразу патанулі недзе ў хмарах.

— Будзе дождж!

— Будзе.

Мы ўглядаемся ў неба, мяркуем, ці хопіць дроў? Раптам недалёка пачуўся голас—павольны, спакойны:

— Ко-ось! Ко-ось, кось!

Паводдаль, як можна бачыць, паказаўся чалавек. Ён ішоў цішком, з калком на плячы. Ён кружыў усё, не падыходзячы к кастру, заходзіў з-за кустоў. «Хто такі і што яму трэба?» Нечакана ён нібы вынырнуў з цемры і бразнуў калком вобземлю.

— Хлеб-соль!

Голас суровы, нібы сярдзіты.

— Просім!

Чалавек мількам глянуў на наш распрасцёрты рукзак і, нібы засаромеўся, што папаў якраз да вячэры. Ён кінуў пад дуб, нібы жмут шэрых гадзюк, вязанку пяньковых аброцей і сказаў пра сябе:

— Конюх з тутэйшага калгаса! Бачу, будзе дождж, дай, думаю, пайду да аганька.—Потым, пацёршы далонь аб далонь над агнём запытаў:—А вы хто такія будзеце?

Ён унікліва глянуў нам у вочы і раптам твар яго асвятліла ўсмешка:

— Божачкі, ці не Алёшка?!

— Ён самы,—сказаў я, пазнаючы чалавека.—Дзядзька Нестар!

— Нестар, Нестар!

Дваццаць пяць год назад, калі мне было ўсяго пятнаццаць год, я з сынам Нестара ад'язджаў у шахты. Нестар праваджаў нас да станцыі. Каня ў іх не было, і торбы неслі на плячах. Дзядзька Нестар усё скардзіўся: «От, каб каня! От-бы зажыў! Бліны сабе еў-бы і еў». Раптам у Нестара разваліўся напалам лапаць: анучы хлюпалі па таючаму снегу. «Ідзі, дзядзька, дамоў!» «Не, не! Што вы? Данясу ўжо як-небудзь». Ён загортаваў адубелыя сінія пальцы ног у анучу стараючыся ўмацаваць яе абораю ад лапця і бубнеў: «Ліханька! Лык-бы як-небудзь з хунцік на лапці дастаць!»

... Нестар, усхвалёваны, зняў сваю лахматую шапку. Доўгую світку ён павесіў на сук дуба, сеў да кастра, паставіўшы ногі ў новых ботах к агню. Пасівеў дзядзька Нестар! На макаўцы з'явілася лысіна. Але ў рухах яго, у поглядзе шэрых вачэй былі спакой і радасць.

— Вось і зноў стрэліся!

Ён узяў у пальцы абгарэлы сук і кінуў яго ў касцёр. Мы яшчэ раз запрасілі далучыцца да нашай вячэры. Стары доўга адмаўляўся, гаворачы, што «яно следвала-б у такіх выпадках перакуліць чарку», але «ён пры сваіх службовых абавязках, і дрэнна, калі ўп'ецца, а коні—раз!—ды ў авёс!» Потым згадзіўся і ўзяў чарку ў рукі:

— Я бачу ў вас нейкае асаблівае, ружовае, але каб не вышла так, што я і з катушак далоў!

Ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся,—больш вачамі. Сказаў: «Будзьце здаровы», і выпіў. Абцёр вусы рукавом:

— Дык не! Нічога! Даволі заборыстая! А я думаў—ліманад?!

— Закусіце!

Конюх узяў у два пальцы скрылёк вяндліны і паклаў яго ў рот.

— Яшчэ чарачку!

— Ды што вы... Прыехалі да нас у госці і такі пачастунак!

— Пабываем яшчэ і ў вас.

Ён выпіў. Потым, закусваючы, спытаў:

— Ну, а як рыба?

— Дрэнна! Не клюе! Але, што нам. Не ў рыбе справа!

— Ды яно верна. Але ўсё-ж прыемней, калі рыбка тыркае. Я сам люблю гэту справу. Сядзеш вечарком каля рэчкі—ціха, прыгожа, прыемна...

І ён пачаў расказваць, якіх ён язёў падчэпліваў, якіх ментузоў выцягваў з-пад крутых берагоў. «Во, па аршыну!» І маршчыністы твар яго пры гэтым асвятляўся нейкай ласкавай прыгожай усмешкай. Стары расхадзіўся так, што і суняць яго нельга было. Язык яго развязаўся. Ён пачаў хваліцца, якіх коней выгадаваў іхны калгас. «Будзённы (ён прыязджаў у іх калгас) гаварыў, што няма лепшых у раёне», потым ён памянуў старое. «Бывала—хлеба не хапала, дзеці елі мякіну, а зараз не хочуць есці пшанічных бліноў!»

Я ўспомніў і спытаў:

— Ну, а пра Ігната так нічога і не чуваць?

Нестар раптам варухнуўся на месцы, нібы яго штурхануў нехта.

— Не чуць!—адказаў ціха.—Як быў тады паход пад Варшаву, з таго часу і не чуць!

Ён уздыхнуў і апусціў галаву. Потым, нечакана, захлыпаў вачмі і заплакаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раптам яркі бляск маланкі разадраў цемру ў некалькіх напрамках і, асляпляючы нас, зеленаваты клубок агня закружыўся ля дуба. Не паспелі мы галавы ўзняць, як пачуўся страшэнны сухі трэск. Верхавіна дуба, што стаяў недалёка ад нашага, трэснула, павольна нахілася і паляцела дадолу ўслед за ветрам, які шалёна шкуматаў лісце.

Спачатку паліў такі дождж, што неба, зямля, дрэвы—усё кругом, здавалася, змяшалася і патанула ў патоку вады, якая лілася з неба. Потым дождж пачаў ліць радзей, драбней, але раскаты грома, нібы залпы гарматаў, каціліся па небу з краю ў край.

Мы перабеглі пад елачку. Коні, што пасвіліся паводдаль, збіліся ў круг і кінуліся да кастра, храпучы і тупаючы нагамі (пры святле маланкі былі відаць іх гладкія бліскучыя спіны, па якіх сцякала зялёная вада).

Стары ўскочыў з месца.

— Во ліха, воўк!

Ён пачаў углядацца ў цемру, потым узяў з кастра, у які мы ўвесь час падкладалі дровы, галавешку і высока падкінуў яе

ўгару. Галавешка, патрэскваючы ад вады, закулялася, рассыпаючы вакол сябе снапы іскраў і ўтвараючы чырвоныя кругі. Коні бегалі, храплі. Конюх склаў рупарам далоні рук і некалькі разоў пракрычаў:

— Ко-ось! Кось-кось!

У вёсцы забрахалі сабакі. І коні адразу сцішыліся, наблізіўшыся да кастра і гледзячы ў агонь зялёнымі круглымі вачамі. Але недзе далёка-далёка пачулася адзінокае іржанне.

— Самадум!—сказаў конюх, і, схапіўшы з-пад елкі вязанку аброцей знік у цемры.

* * *

Даўней на начлег вадзілі дзеці. З кожнай хаты па хлапцу, або па дзяўчынцы. Збярэцца дзяцей дваццаць. І ля кастра—крыўда, бойкі і здзекі: той многа дроў прынёс, а той не хоча зусім; адзін устае коней уначы паглядзець, а другі не ўстае. Так стомлены рукі і ногі! Цэлы дзень баранаваў, вазіў гной, або зграбаў сена. І так зліпаюцца вочы. І бура—гром, дождж! І страх! І яшчэ—ваўкі або рысі, мядзведзь, ці войт пана. І коні згубяцца, забяруцца кудынебудзь нанач, далёка-далёка! Потым слёзы: каня трэба ледзь золак прывесці дадому, а яго няма! І дома—зноў крыўда, і слёзы, слёзы, слёзы...

Пад шум дробнага дажджа аб пругкае лісце дуба я заснуў. Снілася, нібы за мною нехта гоніцца, я ўцякаю, кідаюся ў рэчку; вада крышталльна-светлая і на дне поўзаюць рачкі, слімакі. Пад карчом стаіць шчупак. Ён варушыць плаўнікамі,—прыгажун шчупак! Я падплываю да яго. «Хацяб не замуціць ваду!»—я хачу злавіць шчупака. Раптам:

— Уставайце, рэбяткі!

Раніца. Сонца яркае-яркае выпаўзла з-за ляска, і ноч, здавалася, адступіла ў кусты... Раса іскрылася, зіхацела. Над лугам плыў туман, і праз яго сівыя кудры віднеліся спіны коней, ад якіх падымалася пара.

Нестар пад'ехаў да нас на кані.

— Якая раніца!

Ён жмурыў сіняватыя вочы, паглядаючы на ўсход. Рыжы конь, на якім пад'ехаў стары, тупаў нагой і нюхаў учарашняе попелішча. Ноздры дрыжэлі, моршчыліся.

— Вось ён—наш Самадум!—конюх перабіраў шурпатымі пальцамі мяккую грыву каня.—Што за конь! Цаны няма! Персці, карак! Толькі адна загана—куды захоча, туды і ідзе,—адным словам «Самадум».

Ён павярнуў рыжага да нас бокам. Гладкая шэрсць блішчэла на сонцы і конь, здавалася, быў заліты чырвоным віном.

— Іх у нас сто дзевятнаццаць! У маёй толькі брыгадзе трыццаць тры.

І стары, нібы пятнаццацігадовы юнак, саскочыў на зямлю, узяў сваю світку і зноў ускочыў на каня.

— А было, што і ні аднаго.

— Было, было! Ĭ бліноў тады не было. Ну, ладна. Дык, калі будзеце ў нашых краях, заходзьце да нас. Ĭ потым пойдзем лавіць язёў,—а мясціны я такія ведаю...

Ён падміргнуў і ласкава ўсміхнуўся, яшчэ раз пад'ехаў да кожнага з нас і горача паціскаў руку.

— А чаго-ж!? Зойдзем, зойдзем!

Далёка за лесам паблісквалі зарніцы ўчарашняй хмары...

---

*Уры Фінкель*

# МЕНДЭЛЕ МОЙХЕР-СФОРЫМ

## *Дзяцінства і юнацтва*

### Сярэдневякоўе ў XIX стагоддзі

Цяжкія хмары навіслі над жоўтымі, пясчанымі беларускімі палямі, над спрадвеку густымі, дрымотнымі лясамі, над шырокімі, балацянымі раўнінамі, з якіх тырчаць дзе-ні-дзе невялічкія, крывыя вербы.

Адсюль не выпетрыліся яшчэ, здаецца, сляды напалеонаўскіх войн. Гэта было ўсяго толькі дваццаць год назад.

Паабапал звілістых, заўсёды гразкіх, заўсёды ў калюжынах дарог віднеюцца ўзгоркі—брацкія магілы немцаў, французаў, палякаў, неапалітанцаў... На чале з Напалеонам ішлі яны заваёўваць сусвет, маршыравалі праз Польшчу на Смаленск, з Смаленска на Маскву. З Масквы яны марылі ісці ў Індыю, таксама, як калісьці войска старадаўняга цара Македоніі Александра.

Удары пад Масквой развеялі мары ганарлівага карсіканца і яго саюзнікаў. Выгнаныя з Масквы, беглі яны дахаты і падалі адзін за адным, не ўбачыўшы роднага дому, на тутэйшых дарогах. Ляжаць яны тут пад узгоркамі як жудасны ўспамін аб пажарах, аб пакутах, аб здзеках, як успамін аб ашуканых народных масах, якія гнаў на смерць малады еўрапейскі капіталізм.

Быў 1835 год.

Вёскі пад саламянымі стрэхамі ўздыхалі і енчылі пад свіст прыгонніцкіх бізуноў, марнелі ў галечы пад наглядам панскіх гайдукоў. На самай ускраіне гэтых саламяных вёсак стаяла звычайна адна, напоўразбураная, пакрытая саломай, а часам можа і гонтаю, хатка з разбітымі вокнамі, з сарванымі дзвярмі, пакінутая сваімі жыхарамі.

Больш як два дзесяткі год прайшлі з таго часу, як жыхары такіх хатак, амаль у кожнай вёсцы, былі выселены па загаду ўрада асесарам бліжэйшага мястэчка і выгнаны невядома завошта, невядома куды.

Гэта былі хаткі вясковых яўрэяў. На працягу шматлікіх пакаленняў служылі гэтыя ішуўнікі *) трагічнай мішэнню для пана, які сядзеў на карку селяніна. На працягу шматлікіх пакаленняў глядзеў на іх селянін, як на сваіх непасрэдных крывасмокаў, якія пры дапамозе гарэлкі даюць яму часам забыцца на сваю горкую нядолю.

---

[1] Ішуўнік—вясковы ўярэй.

Калі царскі ўрад заігрываў з польскімі панамі і рабіў выгляд, нібыта хоча дапамагчы селяніну ў яго галечы, першай ахвярай з'явілялася яўрэйская вясковая беднага.

Цэлымі абозамі, на фурах, запрэжаных худымі клячамі, цягнуліся былыя ішуўнікі з мястэчка ў мястэчка, начуючы ў лазнях, у школах ці проста ў адвечна густым лесе, у дрыгве, разам з малымі дзецьмі, каб не схапілі іх лоўчыя з кагалу, асэсар і ключвойт. Цэлымі абозамі цягнуліся яны, фура за фурай, выгнаныя царскімі чыноўнікамі ў стэпы Наварасіі, каб засноўваць там калоніі пад начальствам царскага ефрэйтара.

А ў горадзе, у мястэчку? Сполах пануе ў народных масах. Кіраўнікі кагалу, старэйшыны, пры дапамозе асэсара і ключвойта лупяць скуру з яўрэйскіх народных мас, абкладаючы новымі і новымі падаткамі мяса, святло, соль і інш. Масы пратэстуюць, скардзяцца самі сабе на свой лёс, пяюць песні з плачам, лаюцца, а часам нават б'юцца.

Маці і жонкі шаўцоў, краўцоў спалохана аглядаюцца навокал. Яны калоцяцца пры кожным шораху, пры кожным скрыпу дзвярэй. Яны баяцца, каб не аднялі іхнае дзіцё, каб не выхапілі яго з іх спрацаваных, змарнелых рук, каб не замкнулі яго за жалезныя краты, каб не пагналі яго далёка, далёка. Са звязанымі рукамі і нагамі, прывязаных адзін да аднаго, уводзяць іх на чужыну і аддаюць у салдаты.

Плач і лямант нясецца разам з восеньскім ветрам над гарадамі і мястэчкамі. Плачуць, б'юць сябе ў грудзі, скардзяцца і праклінаюць свой лёс бацькі і маці з беднаты. А калі яны спрабуюць абараніць сваё дзіцё, жорстка б'юць іх тады лоўчыя, соцкія, ды салдаты.

У смутку і горы, пад адвечнай пагрозай рэпрэсій жылі тады яўрэйскія народныя масы ў гарадах і мястэчках. Яны—пад бізуном кагала, пад кулаком нікалаеўскіх асэсараў і соцкіх, а селянін у вёсцы—у лапах прыгона, у сецях адвечнага голада і бруду, пад пагрозаю панскай і царскай пугі.

Кожны дзень новае няшчасце, кожны дзень новыя рэпрэсіі.

У горадзе, у мястэчку, на вёсцы людзі гінулі ад халеры, эпідэмія якой лютавала ў тыя часы па ўсёй Беларусі, не шкадуючы ні старых, ні малых, ні дзяцей, ні дарослых.

## Мястэчка Капыль

У баку ад вялікага шляху з Масквы ў Варшаву, недалёка ад паштовай станцыі Слуцк знаходзіцца мястэчка Капыль.

Гэта вельмі старое мястэчка. Сваёй старадаўнасцю яно можа паспрачацца з Слуцкам, адной з рэзідэнцый князёў Радзівілаў. Яно абкружана, гэта мястэчка, замкамі і курганамі, нямымі сведкамі таго, што ўжо тысячы год назад тут жыў і змагаўся чалавек.

Калісьці, у XVI і XVII стагоддзях прыгоннымі рукамі сялян была тут пабудавана цытадэль і цудоўны княжы палац. На працягу соцень гадоў танцавала і гуляла тут пад гукі чужаземнай музыкі шляхта з сваімі жонкамі і палюбоўніцамі.

Гэта быў час вялікіх кірмашоў, якія адбываліся на гары, насупроць замка, дзе тулілася яўрэйскае насельніцтва з крамамі і яткамі, з прапінацыяй і спадчыннымі прывілеямі на арэнду. Яўрэйскае насельніцтва з ганарлівымі багачамі ў штрэймелах, у даўгіх атласных і шоўкавых кафтанах, у вузкіх, лёгкіх пантофлях і беласнежных панчохах, з працоўнай масай шаўцоў, краўцоў, кавалёў, стальмахаў, шапачнікаў і ткачоў, з партачамі і сапраўднымі майстрамі—рамеснікамі ў простых шапках на галаве, зрэдку ў грубых, юхтавых ботах, часцей за ўсё ў зношаных чаравіках, у падраных лахманах.

А навакол рынка, пад гарою,—беларускія мяшчане, рамеснікі, арганізаваныя ў цэхі. Гэта—бондары і ткачы. Калісьці выраблялі ткачы цудоўныя, вытканыя золатам слуцкія паясы для шляхты ўсёй Беларусі. А далей, недалёка ад іх, калонія татар, былой лейбгвардыі князя.

У часы кірмашоў, якія адбываліся на рынку, неаднойчы адбываліся паседжанні акруговага ваада. Яўрэйскі багач, яўрэйскі ліхвяр прымаў тут, таксама як і ў іншых цэнтрах яўрэйскага насельніцтва, свае пастановы для абароны багатага яўрэйскага дзяржаўцы, арандатара.

Тут прымаліся таксама пастановы адносна быту яўрэйскіх рамеснікаў, яўрэйскай беднаты. Адносна таго, што рамеснік не мае права апранаць такое адзенне, якое носяць багатыя мытнікі, арандатары і купцы. Сродкаў пакарання было ў ваада нямала: цялесная кара, херэм, выгнанне з кагалу і іншае.

Аж з Любліна і Кракава прывозілі сюды прадукцыю першых яўрэйскіх друкарняў. Тут, на кірмашы, прадавалася літаратура і «навука» яўрэйскага мытніка і ліхвяра. Тут збіраліся абанементы на выданне рэлігійных твораў на гебрэйскай мове. З кірмашоў у Капылі распаўсюджвалася гэта літаратура па ўсёй Беларусі.

Цяпер, у 1835 годзе, капыльскія кірмашы прышлі да заняпаду. Замак зруйнаваўся, ад яго засталіся толькі руіны. Капыль нічым не адрозніваецца цяпер ад іншых мястэчак Беларусі.

Але жывуць яшчэ старадаўнія традыцыі.

Багач па-ранейшаму кіруе кагалам, трымаючы ў руках бізуны херэма. Ён носіць штрэймел і кафтан, ён мае ўладу. Бедната ўсё яшчэ не мае права апранацца так, як багачы. Хай толькі асмеліцца які-небудзь кравец ці шавец апрануць кафтан! Адразу пакаштуе ён бізуна на камяні за будынкам школы, а адтуль трапіць у куну.

У 1827 годзе вышаў указ Нікалая I аб тым, каб браць яўрэяў у рэкруты. Кагал ва ўсіх гарадах і мястэчках адразу ўзяўся за яўрэйскую беднату: яна павінна дастаўляць рэкрутаў.

Капыль—таксама мястэчка з кагалам, з багачамі і з беднатой. Капыльскія багачы ў штрэймелах ізноў, як і іх дзяды ў часы панавання польскай шляхты, з запалам узяліся тэрарызаваць яўрэйскія народныя масы.

Вялікім горам, жудасным няшчасцем была рэкрутчына для беднаты ўсяго насельніцтва Расіі. Дваццаціпяцігадовы тэрмін службы і катаржная дысцыпліна знішчылі і загубілі нямала жыццяў рускага сялянства. Шмат поўных смутку і скаргі журботных песень стварыла

наконт рэкрутчыны руская, беларуская, украінская сялянка. Але яшчэ цяжэйшай была рэкрутчына для яўрэйскіх беднякоў, якія дагэтуль нічога пра яе не ведалі. У дзіцячым узросце хапалі іх і аддавалі ў рэкруты.

Кожны кагал меў цэлы штат людзей, якія ездзілі па гарадах і мястэчках, па сёлах і вёсках і пры дапамозе паліцыі лавілі дзяцей і юнакоў, каб здаць іх у салдатчыну. Такіх людзей меў і Капыльскі кагал.

«Знайшліся нягоднікі,—апавядае пра тыя часы ўраджэнец Капыля, крытык 60-ых гадоў мінулага стагоддзя, Абрам-Якаў Паперно,—якія выкарыстоўвалі гэты бесчалавечны закон (адносна рэкрутчыны) для ўласнага ўзбагачэння. Яны запасліся брычкамі з параю коней, з наёмнымі разбойнікамі і ганялі па ўсіх дарогах, хапаючы яўрэяў, не гледзячы на ўзрост... дзяцей і дарослых, жанатых і нежанатых, вязалі ім рукі і ногі... і прадавалі за вялікія грошы. Пашпарт пры гэтым таксама не дапамагаў: хто меў пры сабе пашпарт, у таго забіралі яго і знішчалі. Страх ахапіў усіх».

Але дзяцей кіраўнікоў кагала, клерыкалаў і багатыроў ніхто не вязаў і ніхто не прадаваў, хоця яўрэйская буржуазная гісторыяграфія і спрабуе часам давесці, што дзеці багатых нібыта цярпелі таксама ад рэкрутчыны.

Хапаць дзяцей багатых і клерыкалаў урад не патрабаваў і кагал, дзе сядзелі выключна багачы і клерыкалы, гэтага не рабіў.

Яны-ж былі «карыснымі» грамадзянамі для Нікалая І. Не былі «карыснымі» толькі яўрэйскія беднякі. Мы-ж ведаем з дакументаў, што Магілеўскі кагал аддаў у рэкруты «непатрэбных» і «некарысных» у грамадзе. Мы-ж ведаем, што Мінскі кагал аддаў у першы год рэкручыны такіх юнакоў, якія «вучацца кравецкаму рамяству, шавецкаму рамяству, шклярнаму, і што ходзяць па свету». Пад словам «некарысныя» трэба разумець толькі яўрэйскую беднату.

Крыкі і плач былі чутны толькі на вуліцы і ў хатах яўрэйскіх беднякоў. Вялікія багатыры пра гэты плач, пра гэтыя крыкі нічога не ведалі.

Паўліна Венгерава, дачка багатага адкупшчыка гарэлкі, не бачыла і не чула пра пакуты яўрэйскіх народных мас у тыя часы. Яна апавядае сваім буржуазным унукам: «Яўрэйскае сямейнае жыццё ў першай палове мінулага стагоддзя было ў доме маіх бацькоў, таксама як і ў іншых дамах, вельмі мірнае, прыемнае, сур'ёзнае і разумнае... тагочаснае яўрэйскае жыццё было характэрна сваім вытрыманым стылем...»

## Капыльскі зборшчык рэб Хаімка

Старшынёй Капыльскага кагала быў высокі, худы, шоўкавы яўрэй з чорнай барадой і чорнымі пейсамі. Звалі яго рэб Хаімка. Ён меў «прыгожую фігуру і бледны твар, як у Езуса на іконах. Ён быў вучоны і спрактыкаваны ва ўсіх цяжкіх шляхах і сцежках талмуда. Ён меў востры і спрактыкаваны схаластычны розум».

Не лепшым і не горшым было і яго асяроддзе, якое складалася з Лейбкі-святога, Шмуеля Шмелькес і іншых.

На вуліцы і ў кагале хапаў рэб Хаімка, разам з сваімі дапаможнікамі, дзяцей бедных шаўцоў і краўцоў, біў іх за найменшы пратэст, скоўваў іх ланцугамі і кідаў у куну.

У часы набору рэб Хаімка і яго світа «працавалі» нямала. Уласна кажучы, не яны асабіста «працавалі». За іх старалася наёмная банда забойц, «якім ён, рэб Хаімка даваў есці і піць, а яны шнырaлі цэлымі днямі па гораду і ўначы рабілі аблавы, хапаючы тыя ахвяры, на якія паказваў ім рэб Хаімка...

Свае ахвяры ён шукаў сярод беднякоў, якія павінны былі выканаць цяжкі абавязак не толькі за сябе асабіста, але і за сямействы заможных членаў кагала. Для абароны апошніх кагал або зусім не запісваў іхных сыноў у кнігі насельніцтва, або—яшчэ горш,—прыпісваў іх да простых, г. зн. бедных людзей. Такім чынам атрымоўвалася, што, паводле сказкі, у заможных людзей або зусім не было сыноў, або быў толькі адзіны сын. Затое лік сыноў у бедняка даходзіў да шасці, да васьмі. Гэта давала магчымасць выпраўляць у салдаты ад адной сям'і двух-трох чалавек падрад».

Зразумела, што гэтыя два-тры чалавекі ад раздзьмутага сямейства былі сапраўднымі сынамі бедняка, а багач хадзіў сабе вольна, не ведаючы ні гора, ні страху.

Выканаўшы ў кагале «свой абавязак» і прыняўшы ахвяру, рэб Хаім спяшаўся дахаты. Там ужо чакала яго світа. Там ужо чакала яго скуранoe бацькаўскае крэсла, што стаяла каля стала насупроць вялізнай шафы з кнігамі, у скураных, аздобленых срэбрам вокладках. Ён садзіўся і пачынаў з уздыхам мармытаць малітвы, а світа закусвала, гладзіла бароды, таксама ўздыхала і падтаквала.

І часта, калі адбываўся набор, сядзеў ён, як быццам нічога не было, у сінагозе і маліўся, або вывучаў тору, праліваючы... горкія слёзы. «Ён быў вялікім плаксам»,—пісаў пра яго Паперно.

Ён пакінуў нам характэрную фігуру аднаго з старэйшын кагала ў трыццатых, саракавых і пяцідзесятых гадах мінулага стагоддзя.

Вадзяністымі слязмі хацеў ён, рэб Хаімка, абмыць з сваіх рук кроў яўрэйскіх народных мас. Ён стаяў у сінагозе і плакаў і прасіў «грознага бога», каб той прыслаў яму ў час ахвяру і каб бараніў «авечак народа ізраільскага з залатою воўнай на поўсці».

Яўрэйскія народныя масы адказвалі часам на гэтыя здзекі, на бесчалавечнае тыранства журботнаю песняй-скаргай, якую спявалі яны ў сваіх цесных пахілых хатах.

Часам бядняцкія масы ўзнімалі, нарэшце, рукі і давалі дыхту кіраўнікам кагала і сваім «заступнікам». У такіх выпадках на дапамогу кагалу прыходзіла паліцыя або войска. Знаходзіліся і такія, што наіўна верылі нікалаеўскаму начальству і звярталіся да яго са скаргамі супроць кагала. У сапраўднасці-ж яны звярталіся да саюзнікаў кагала. Гора было такім. Кагал цкаваў іх, называючы «даносчыкамі», і кідаў нарэшце ў турму, дзе яны і гінулі.

### Помнік Мендэле

Так і жыло мястэчка Капыль не толькі з сваім моцным, сапраўдным сярэдневякоўем, з сваімі курганамі, з сваімі старымі могілкамі, што займаюць такое значнае месца пад гарою, за сінаго-

гай і рынкам, але з сваімі здзекамі над яўрэйскай беднатой з боку кагала і яго вараціла ў. Яно займае досыць паважнае месца ў гісторыі яўрэяў на Беларусі.

У часы ваўкаватага рэб Хаіма ў яго лісяй штраймел, у часы рэпрэсій Нікалая I, у адным з лепшых, пабеляных і тынкаваных дамоў на рынку, у сям'і Капыльскага патрыцыя Хаіма-Мойшэ Бройдэ, таксама аднаго з вараціла ў кагала, балтаксы, казённага равіна, нарадзіўся сын Шолам-Янкель, будучы Шолам-Янкель Абрамовіч, класік яўрэйскай літаратуры—Мендэле Мойхер-Сфорым.

Гэта было прыблізна ў 1835 годзе,—тады, калі Нікалай I забараніў яўрэйскія друкарні ў Расіі.

Год, калі нарадзіўся Шолам-Янкель Абрамовіч,—Мендэле Мойхер-Сфорым, не быў дакладна вядомы нават яму самому. Капыльская знаць дарэформенных часоў, у 30—40—50-ых гадах мінулага стагоддзя, каб уберагчы сваіх сыноў ад вайсковай павіннасці, прыпісвала іх да многасямейных краўцоў, шаўцоў, шапачнікаў, да «простых людзей», як пісаў ужо аб гэтым А. Я. Паперно, або зусім запісвала ў сказкі.

Хаім-Мойшэ Бройдэ, паважаны і знатны ў сваім кагале чалавек, рашыў таксама не запісваць свайго сына Шолам-Янкеля. Не прыпісаў ён яго таксама і ні да каго з «простых людзей».

— «У нашай сям'і устанавілася думка аб тым,—апавядае Мендэле Мойхер-Сфорым,—што я нарадзіўся ў канцы 1835 года». Такім чынам, гісторыя яўрэйскай літаратуры трымаецца той даты, якую устанавіў сам Мендэле на падставе ўспамінаў яго сваякоў.

Усё сваё дзяцінства і значную частку юнацтва правёў Мендэле ў мястэчку Капыль, у доме свайго бацькі, капыльскага балтаксы. Будучы класік яўрэйскай літаратуры яшчэ дзіцем прыглядаўся да тыранства і здзекаў над яўрэйскай народнай масай, да культуры яўрэйскіх ліхвяроў, купцоў, арэндатараў і клерыкалаў. Яшчэ ў дзяцінстве здавалася яму цяжкім асяроддзе яго бацькі, яго хатні побыт.

Мендэле назаўсёды запомніў шмат капыльскіх здарэнняў, шмат рысаў з жыцця капыльскіх вараціла ў, кагальных дабрачынцаў і местачковай беднаты.

Пазней, калі Мендэле зрабіўся пісьменнікам, ён выкарыстаў усё тое, што ён бачыў у часы свайго дзяцінства і юнацтва ў Капылі, у Слуцку, у Цімкавічах, у Вільні і ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі, а таксама жыццё і барацьбу на Украіне, у Падоліі і на Валыні, у Бердзічаве, Жытоміры, Каменец-Падольску і інш.

Мястэчка Капыль і іншыя, падобныя да яго, мястэчкі, Мендэле па-мастацку абагуліў у сваіх манументальных Капцанску і Глупску. Ён выкарыстаў яго для свайго помніка, які ён узвёў у яўрэйскай літаратуры XIX стагоддзя, помнік змрочнага часу яўрэйскага сярэдневякоўя.

## Знаць адчувае сваю пагібель

У 30-ых гадах яўрэйскія патрыцыі ў гарадах і мястэчках пачалі адчуваць сваю пагібель. Пачаў развівацца гандаль з замежжам. Феадальныя суадносіны ўсё больш і больш руйнаваліся.

Яўрэйскія купцы экспартыравалі пшаніцу ў Прусію, ездзілі ў Кенігсберг і Данцыг. У часы напалеонаўскіх войн яўрэйскія пастаўшчыкі трапілі разам з царскім войскам за граніцу. Яны пазнаёміліся з прагрэсіўнымі ідэямі заходне-еўрапейскага асветніцтва, з прагрэсіўнымі элементамі яўрэйскага асветніцтва ў Германіі. Яны прыглядзеліся да еўрапейскіх звычаяў у жыццёвым побыту.

Салдаты, удзельнікі паходаў супроць Напалеона, вярнуўшыся з-за граніцы, распаўсюдзілі сярод рускага сялянства новыя ідэі.

Нярэдка даводзілася ў той ці іншай мясцовасці Беларусі ўсміраць паўстанне супроць таго ці іншага пана, супроць таго ці іншага яўрэйскага арандатара.

У Расіі яўрэйскі капітал пачаў засноўваць фабрыкі. Асаблівае прыстасаванне знаходзіў сабе яўрэйскі капітал пры выпрацоўцы сукна для рускай арміі. Яўрэйскі капітал набываў таксама землі і вёў гаспадарку для экспарта. Яму было цяжка развівацца ў феадальных умовах наогул. Яшчэ цяжэйшымі былі для яго феадальна-рабінскія ўмовы яўрэйскага жыцця. Яны перашкаджалі развіццю ўзнікшай яўрэйскай буржуазіі.

У пачатку XIX стагоддзя, у першых яго дзесяцігоддзях, сярод яўрэйскага насельніцтва Літвы і Беларусі, а таксама Валыні і Падоліі былі распаўсюджаны творы асветніка і філосафа яўрэйскай буржуазіі ў Германіі, Мозеса Мендэльсона і яго вучняў.

У гарадах і мястэчках, у асяроддзі буйных купцоў ішлі гутаркі наконт неабходнасці ведаць еўрапейскія мовы, і асабліва нямецкую. Першы выдатны тэарэтык яўрэйскай гаскалы *) ў Расіі, «крэменецкі філосаф» Іцхок-Бер Левінсон выпусціў ужо свой «Тэйдо бейсроэль», дзе ён пры дапамозе вытрымак з талмуда даказваў неабходнасць асветы і адукацыі, неабходнасць карыстацца дзяржаўнай мовай. Ён імкнуўся даказаць, што нібыта адзінай прычынай цяжкага становішча яўрэйскіх народных мас з'яўляецца толькі тое, што яны не адукаваны.

У вялікіх цэнтрах і ў малых гарадках з'яўлялася ўсё больш такіх, што чыталі ўпотай, дзе-небудзь у кутку, ці на чардаку, каб ніхто не чуў і не бачыў, зборнікі «Гамеасеф», якія выдавалі вучні Мендэльсона. Дзе-небудзь у цішы, седзячы над вялікімі, старымі, закапанымі свечкаю фаліянтамі, марылі «шоўкавыя» маладыя людзі аб новым свеце, гутарылі аб Мендэльсоне, аб «гаскале, дачцы неба».

На Беларусі гутарылі таксама і аб адным яўрэі з мястэчка Магільна, які некалькі год назад пакінуў сваю радзіму, сваю жонку і дзеці, пайшоў пехатою у Прусію і зрабіўся там славутым каментатарам Канта,—Саламонам Майманам, частым наведвальнікам Мендэльсона. Некаторыя асуджалі гэтага «трэфняка», а іншыя лятуценнікі моўчкі дзівіліся з гэтага смелага вандраўніка. Баючыся выказаць гэта ўголас, яны цішком абвінавачвалі клерыкалаў, якія гвалтам разлучылі яго з жонкай і дзецьмі.

У кожным горадзе і ў кожным мястэчку знаходзіліся маладыя людзі, якія ўпотай гутарылі аб «пачатку ўсіх пачаткаў», аб тым, што такое бог. Яны пачыналі сумнявацца ў сапраўднасці таго бога, якога

*) Асветніцтва.

абмалёўвалі ім равіны, яны пачыналі сумнявацца ў равінскай культуры, у равінах, яны нават бралі пад сумненне самога бога.

Бацька Мендэле, Хаім-Мойшэ Бройдэ, моцна яшчэ трымаўся за старыя феадальна-рабінскія традыцыі, ён зусім і не думаў марыць аб дачцы нябёс, гаскале. Але, як практычны купец, ён хацеў, каб яго дзеці ведалі не толькі гебрэйскую мову, але каб умелі і пісаць, таксама як ён, Хаім-Мойшэ Бройдэ, для чыста практычных, гандлёвых мэт.

Хаім-Мойшэ Бройдэ не быў такі багаты, як яго блізкія сваякі, Бройдэ з Вільні і Мінска, будучыя банкіры Беларусі, але ён не хацеў, каб яго сын вучыўся ў хейдэры, дзе вучацца таксама дзеці і «непаважных і нязнатных людзей». Трымаць у хаце ўласнага меламеда, выключна для сваіх дзяцей, ён не меў магчымасці. Калі ён знойдзе адпаведнага, на яго думку, чалавека, ён аддасць яму на выхаванне свайго сына і знойдзе для яго яшчэ некалькі вучняў сярод дзяцей «добрых гаспадароў» у мястэчку і зробіць з яго меламеда для багатых.

## У хейдэры, ці між небам і зямлёй

Мендэле, яшчэ шасцігадовае дзіцё, вучыцца ў хейдэры. Ён вучыцца ў меламеда для багатых, у Есі Рувена. Яго меламед не б'ецца заусёды канчыкам і не пагражае дзецям калатнёю, як меламед яго сучаснікаў Лінецкага, Смаленскіна і другіх.

Хаім-Мойшэ Бройдэ стараецца аддзяліць свайго сына Шолам-Янкеля ад дзяцей беднаты. Па таму шляху, па якому хоча весці свайго сына Хаім-Мойшэ Бройдэ, вядзе Шолам-Янкеля меламед Еся.

У сваім «Маленькім чалавечку» Мендэле намаляваў жудасную карціну талмуд-торы і меламеда. Ён паказаў нам, як здзекваўся рэбэ з дзяцей беднаты, з адзінокіх, занядбаных дзяцей-сіротак.

Вось што расказвае Іцхок-Авром Такеф:

«Вучыўся я ў талмуд-торы. Што такое талмуд-тора, вы ведаеце добра самі. Дарэмна вам гэта тлумачыць. Гэта магіла для пахавання бедных яўрэйскіх дзяцей, для таго, каб дурыць ім галаву, каб адрываць іх ад свету; гэта—фабрыка для вырабу нікчэмнікаў, абібокаў, сляпых, няшчасных істот. Гэта—яма, брудная хата на курыных ножках... Як мне здаецца, я не быў тупым хлопцам. За восем гадоў навучання я ўжо вывучыў біблію з каментарыямі, з усімі тлумачэннямі Рашы, хоць я яшчэ і не быў спрактыкаваны ў чытанні. Як відаць, можна быць вучоным і тым не менш вялікім дурнем. Адно другому не перашкаджае...

Мая маці звала мяне звычайна няўдачнікам і, сапраўды, яна мела рацыю. У талмуд-торы я быў няўдачнікам больш чым усе іншыя дзеці. Рэбе, які не заслужыў, каб так называцца, меў ад лупцоўкі асалоду можа яшчэ большую, як ад гарэлкі. Ён меў вялікую асалоду мучыць без прычыны занядбаных няшчасных дзетак, якім і без таго хапала пакуты, так што душа ў іх ледзь трымалася ў худым, кастлявым целе.

Ён ламаў ужо зламаныя косці, шчыпаў і драпаў худое цела і лепшыя порцыі ўдараў даставаліся звычайна мне. Нарэшце ён уз'еўся на мяне за нейкае глупства і так мяне пабіў, што я вышаў з яго рук ледзь жывы і прымушаны быў не хадзіць больш у талмуд-тору. Справа была вось у чым:

Рэбе растлумачыў мне адзін з вершаў у першым раздзеле біблії: «ваёмер Лемех леношаў» наступным чынам: «Лемех быў сляпы, Тувал-Каін яго вёў; калі ён убачыў здалёк свайго дзеда Каіна, яму здалося, што гэта жывёла (рэбе сказаў—ліса, для таго, каб лепш было зразумела). Дык ён сказаў сляпому, Лемеху, каб той мерыўся ў ліціцу, той намерыўся і забіў. І калі Лемех даведаўся, што гэта зусім Каін, яго дзед, ён узмахнуў рукамі і забіў свайго сына Тувал-Каіна. Жонкі пакінулі яго, гэта значыць, ён іх перапрасіў, ваёмер, і ён сказаў леношаў—сваім жонкам, Одо вэ Цыло—Одзе і Цыле, шмаан—слухайце, койлі—мой голас, нешай—жонкі мае, Лемех-Лемех!»

Аднойчы прышоў у талмуд-тору нейкі немец, голены, здаецца з Пецербургу. З ім разам прышлі ўсе апекуны паслухаць дзяцей. На тую бяду ён выклікаў якраз мяне і загадаў растлумачыць кавалак з біблії і яшчэ добры верш «ваёмер Лемех леношаў!» Хіба мне калі даводзілася гаварыць з чалавекам, ды да таго-ж з немцам, голеным? Я трапятаў і дрыжэў як рыба ў вадзе. У мяне шумела ў вушах, стукала ў сэрцы, валасы ў мяне ўзняліся і ў вачах зрабілася цёмна і адначасова светла, акурат накшталт таго, як глядзіш на сонца. Я адчуваў, што ніколі не здолею расказаць такую вялікую, даўгую гісторыю з Лемехам. А тут стаяць над душою: кажы, кажы!—Што мне рабіць, трэба казаць. У мяне заняло дух. Нарэшце, я загаварыў, страшэнна засароміўшыся: «Ваёмер—ліса, Лемех—сляпы, леношаў—жонкі яго пакінулі, Тувал-Каін—яго павёў, Одо-Ода, вэ Цыло—ён яго забіў».

Немец стаяў нібы варам абліты, ён ледзь з сваёй скуры не вылез ад злосці. Ён звярнуўся да рэбе і сказаў яму злосна: «Га, што я чую? Гэтак навучаеце вы сваіх вучняў?! Сорам і ганьба!..» Рэбе чухаў патыліцу, калупаў у носе і мармытаў з разгубленым выглядам: «Паночку, хлапец спалохаўся, хлапец гэты здольны і добры, каб я так жыў!»

— «Ну,—звярнуўся немец да мяне,—не бойся, маё дзіцятка, табе нічога не будзе. Скажы мне, што гэта значыць,—ваёмер?

Але-ж я не ведаў, што са мной робіцца.

Я вылупіў на яго вочы як гліняны балван і выпаліў немцу проста ў твар:

— Ліса! Гэта значыць—ваёмер, ён прасіўся да жонак...

Небарака рэбе стаяў як абліты варам і ад вялікага сораму гатоў быў закапацца ў зямлю.

З таго часу ён заўсёды чапляўся да мяне, ён біў мяне бязлітасна, не шкадуючы, так, што я не мог вытрымаць. Я захварэў і перастаў хадзіць у талмуд-тору».

Вось такім быў хейдэр у часы, калі Мендэле вучыўся.

Вось такой была школа, дзе марнавалі лепшыя годы свайго жыцця дзеці яўрэйскай беднаты. Багатыя хадзілі ў іншыя хейдэры,

яны мелі сваіх уласных меламедаў, але праграма навучання аставалася нязменнай.

Там яшчэ вучылі пісаць па гебрэйску, бо гэта было неабходна багатым дзецям ў іх будучых гандлёвых справах.

Не лепшымі былі хейдэры і маламеды ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі і Украіны.

Успомніце карціну, якую намаляваў нам Шолам-Алейхем у сваім «Ножыку». Успомніце Бэрэле-Злодзея, аднаго з галоўных герояў «Ножыка». Хейдэр, які характарызуе Шолам-Алейхем, належыць да семідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, калі хейдэр у апошнія дзесяцігоддзі свайго існавання змагаўся супроць «новага света».

Зразумела, што тыя, каторыя маглі абыйсціся без хейдэра, не пасылалі туды сваіх дзяцей, яны трымалі для іх уласных меламедаў. Так рабіў і Хаім-Мойшэ, бацька Мендэле.

Але гэта не значыць, што Мендэле не вучыў у меламеда для багатых Ёсі Рувена таго, што вучылі дзеці яўрэйскай беднаты.

Хейдэр Ёсі Рувена выхоўваў дзяцей у той самай рэлігійнай, сярэдневяковай, ліхвярскай, адарванай ад сапраўднага жыцця культуры, якая затуляла розум забабонна-дзікімі, фантастычнымі байкамі, шавіністычнай пагардай, адмаўленнем навакольнай рэчаіснасці.

Шолам-Янкель, дзіця, лунае ў сферах рэлігійна-шавіністычнай фантастыкі. Хейдэр, усё навучанне ў якім заключалася выключна ў рэлігійнай фантастыцы, у міфалогіі, скоўваў уражлівае дзіцё жалезнымі ланцугамі, адрываў яго ад рэчаіснасці, ад зямлі, па якой ён ходзіць.

«Перад ім знаходзяцца людзі, з якімі трэба гаварыць па гебрэйску, ці нават па арамейску. Яны сядзяць у шатрах, ездзяць на мулах і на вярблюдах, п'юць з мяхоў, ходзяць босыя і носяць кольцы ў носе... Наша прырода з яе раслінамі, жывёламі і птушкамі яго не датычыцца... Адным словам, ён тут толькі народжаны, а сам ён не тутэйшы, ён жыве недзе там... там... Яго час—у мінулым і яго свет—той які быў калісьці... Ён прыходзіць дамоў толькі на імгненне, як госць. Ён есць, ён пераначоўвае і зноў ідзе туды... туды...»

У гэтых радках Мендэле бліскуча перадаў самы змест феадальна-рабінскага выхавання ў часы яго заняпаду. Гэта школа, якая аддана служыла эканамічным умовам яўрэйскага асяродку пад уладаю царызма, ліхвяроў і рабінаў. Гэта школа, якая дапамагла Мендэле стварыць вобразы Вен'ямінаў і Сендэрле—людзей, што марнелі пад змрочным ценем выдуманага, абымшэлага, фантастычнага свету, што не ведалі ідэй, не хацелі ведаць, што робіцца навокал, што не мелі ніякіх рэальных жаданняў і ніякага розуму. Гэта была школа яўрэйскага феадальнага кагала.

### Хлопчык з хейдэра апавядае

Сядзяць у кутку дзеці і апавядаюць байкі аб тым, што здарылася ў Капылі ці ў бліжэйшых мястэчках. Сядзіць хлопчык з хейдэра і кажа:

— Дзеці, ці ведаеце вы, чаму гэта ў Ёшкі-барабана адно вока замест двух? Мая бабуля мне пра гэта казала.

Аднойчы ў суботу ўвечары пасля малітвы сядзіць сабе Ёшка-барабан разам з жонкаю Гішай-Сорай і есць сабе міх'ю. Раптам уваходзіць у хату прыгожы яўрэй, апрануты ў золата і срэбра, цар, кажу я вам, і гаворыць:

— Ці гэта тут жыве рэб Іосіф музыкант?—і працягвае яму руку.—Я прышоў вас прасіць рэб Іосіф,—кажа ён,—на знатнае вяселле, і вам не выпадае адмовіцца ад такой справы. Пашліце вашу супругу Гішу-Сару, няхай яна будзе здарова, каб яна паклікала капелу.

— Як гэта?—пытаецца Ёшка-барабан,—ехаць на вяселле ў такую непагадзь?

— Ат,—кажа той,—глупства. Каня і павозку мы маем найлепшых, дык які-ж гэта яўрэй адмовіцца ад добрачыннай справы, каб павесяліць жаніха з нявестай ды 'шчэ з'есці добрую вячэру і падхапіць пару добрых злотых?

Так ці інакш, прышла капела, селі на добрыя павозкі і паехалі на вяселле. Коні бягуць як падсмаленыя. Зусім не коні—ляцяць, ляцяць ды ляцяць!

Прыехалі на вяселле, гуляюць, танцуюць, скачуць, ядуць добрыя стравы, смачныя ласункі, рыбу і мяса, тлустыя куры, індычкі і смажаных галубоў. Гасцей поўная хата. Кабеты апрануты ў вясельную вопратку капыльскіх жанчын.

— Э-е-е!—падумаў Ёшка-барабан,—а і добра-ж мы трапілі, файнае вяселле мы згуляем! Ну, тэ-тэ-тэ! Трапілі, няма чаго казаць!

Бачыць Ёшка-барабан, як бягуць госці ў камору. Бягуць туды і назад. Ёшка-барабан таксама ўваходзіць у гэты пакой. Аж на стале стаіць там сярэбраная міса з чыстай вадой. Дык кожны з гасцей падыходзіць, мажа сабе вадою вока і выходзіць.

Ёшка-барабан стаіць і чакае, пакуль нікога не будзе ў каморы.— «Эге,—думае ён,—трэба і мне памазаць».—Дык памачыў ён палец і памазаў вока і пайшоў зноў да капелы.

Глядзіць ён,—а божа-ж мой, любенькі, а што-ж гэта робіцца? Чэрці, барані божа! Папаўся! Дык ён ужо маўчыць. Граюць яны ды граюць, а ён бачыць чарцей з рогамі, з капытамі, з хвастамі! Зуб на зуб у яго не трапляе.

— «Панове,—гаворыць сват,—вы гралі так, што сам бог і цар могуць вас слухаць. Людзі стаміліся, ужо за поўнач, госці параз'ехаліся, трэба класціся спаць. Хадзем,—кажа ён,—для вас пасланы ўжо лепшыя пярыны і падушкі».

І ён паклаў іх спаць. Музыкі адразу і паснулі на мяккіх пярынах. Раніцою ўсхапіліся, аж ляжаць яны ўсе ў балоце, на імху, а барабан і скрыпкі і флейты вісяць на дрэвах.

А вы ведаеце, хлопцы, на якім балоце? За замкам на балоце. Нішто сабе вяселле было. Аднойчы на кірмашы бачыць Ёшка-барабан, як стаіць адзін з той хеўры і таргуе каня ў Ошэраскуралупа. Ён адлічвае яму ўжо грошы. Падыходзіць да яго тады барабан, хлопае яго па плячы, дае яму руку і гаворыць:

— Што ты тут робіш, малайчына? Новы купец на кірмашы знайшоўся!

— Адкуль ты мяне ведаеш?—пытаецца той.
— Хіба ты забыўся,—адказвае барабан,—пра тое вяселле, калі я ў вас іграў?
— Як-жа гэта ты мяне бачыш?—пытаецца той малойчык.
— Я-ж тады памазаў сабе вока вадою,—адказвае барабан.
— Га, якое-ж вока?—пытаецца малойчык.
— Левае вока,—адказвае барабан.
— Пакажы, пакажы вока,—кажа малойчык ды тыц раптам у вока пальцам.

З таго часу Ёшка-барабан сляпы на адно вока. Ён ужо цяпер закажа дзесятаму ездзіць да чарцей на вяселле.

Ведаеце вы, калі гэта было? Тады, як мая мама была яшчэ маленькай дзяўчынкай.

Ад самай калыскі было яўрэйскае дзіцянё запалохана чарцямі і нячысцікамі. Усюды, на кожным кроку, ганяліся за ім выдуманыя жудасныя стварэнні. Жыццё было напоўнена байкамі пра мерцвякоў, што жывуць пасля смерці і блукаюць па свету, усёроўна ці днём ці ўначы, па вуліцах, ці па хатах.

Яшчэ больш дурманіў мазгі дзяцей талмуд.

Вось як расказвае пра гэта Мендэле:

«Перад ім ляжыць вялізная, таўстая гемора з такімі законамі і забаронамі, што псуюць мазгі, цэлыя горы розных спраў. Перад ім гісторыя з быком, які штурхануў карову, з яйкам, што знесла курыца ў свята; дзве асобы спрачаюцца з-за гэтага, кожная з іх спасылаецца на цэлы пак навін. Яму часта прыходзіцца займацца справамі адносна ахвяр, прынашэнняў, а таксама і жаночымі справамі».

## У хаце каля бацькі і маці

Не адну байку пра жывых мерцвякоў, пра чарцей і нячысцікаў пачуў Шолам-Янкель у дзяцінстве ад сваёй маці і яе прыяцелек. Гэтыя байкі яшчэ больш узмацнялі уплывы хейдэра і спрыялі таму, што дзіця лунала між небам і зямлёю. Феадальна-рабінскі «фальклор» усялякім чынам тлуміў галовы яўрэйскім народным масам.

Гэты «фальклор» меў сваіх носьбітаў—магідаў і цудадзеяў, якія вандравалі з горада ў горад, з мястэчка ў мястэчка і распаўсюджвалі свае забабонныя байкі. Нямала рабіла ў гэтых адносінах і рэлігійная літаратура на яўрэйскай мове, накшталт бібліі для жанчын, у якой змяшчаліся ў значнай колькасці матэрыялы яўрэйскага рэлігійнага фальклора, фальклора эксплаатуючых класаў.

Вярнуўшыся з хейдэра дамоў, Шолам-Янкель прыслухоўваўся звычайна да гутарак у хаце, да ўсялякіх баек, у якіх ён знаходзіў пацверджанне таго, што тое ці іншае здарэнне ў мястэчку было выклікана толькі тым, што людзі не здолелі задаволіць бога, чарцей і нячысцікаў.

У сцюдзёны зімні вечар сядзяць каля прыпечку, пры святле лучніка, жанчыны—местачковыя гаспадыні—і апавядаюць жудасныя гісторыі. Побач з імі сядзіць і Шолам-Янкель. Жанчына, якую

Мендэле ў сваёй мастацкай аўтабіяграфіі «Шлейме рэб Хаіма» назваў Лейбчыхай, расказвае пра дзіўнае здарэнне, якое адбылося ў маленькім мястэчку Галінг, з чалавекам, якога звалі рэб Гаўрыілам.

— Ён запрасіў да сябе на абразанне цадыка рэб Элю. У дарозе, ужо недалёка ад мястэчка, бачыць рэб Эля чарцей і ведзьмаў, больш сотні тысяч. У кожнага з рота вырываецца полымя, вакол іх таксама гарыць агонь і ўсе гуляюць з дзіцем, што нарадзілася. Рэб Эля, зразумела, не мог гэтага вытрымаць і ўзяўся ратаваць дзіцё, сказаўшы свайму слузе: «Дай мне хутчэй вады з маёй бутэлькі». Перад тым, як вымыць рукі, узяў сем нажоў, сем дошак, дзве халы і сем чаравікаў. У кожны чаравік ён паклаў па аднаму нажу. Потым ён зняў чаравікі з сваіх ног, двойчы памыў рукі, выставіў наперад вялікі палец правай рукі і сказаў гэтак: «Сілаю святога духа я здымаю чары з мужчын і жанчын, з чарцей і ведзьмаў, каб не было шкоды дзіцяці». Такім чынам рэб Эля пабіў усіх чарцей. Дзіцё засталося жыць і рэб Эля ўзяў яго з сабой да рэб Гаўрыіла.

У хаце рэб Гаўрыіла аб усім гэтым, зразумела, не ведалі. У парадзіхі ў ложку ляжала дзіцё. Толькі калі ўвайшоў рэб Эля, убачылі, што ў ложку, каля парадзіхі, ляжыць не дзіцё, а салома і мякіна.

Шмат яшчэ гэткіх баек чуў Мендэле ў хаце, у хейдэры, у сінагозе. Усе гэтыя гісторыі адбываліся нібыта ў Капылі або ў бліжэйшых мястэчках.

### Ніводная справа не рабілася без яго

У хаце свайго бацькі Шолам-Янкель меў таксама магчымасць наглядаць розных кіраўнікоў местачковага кагала.

Хата Хаіма-Мойшы Бройдэ заўсёды была поўна імі. Без яго не рабілася ніводная справа. Дзе толькі спрэчкі ці непаладкі, там ён заўсёды за пасрэдніка. Калі толькі была якая патрэба ў грамадскіх справах, заўсёды звярталіся да яго за парадай.

Асеннім вечарам сядзіць каля каганца Хаім-Мойша Бройдэ, бацька Мендэле. Ён паглыблены ў кнігу, якая ляжыць перад ім. Ён напявае сабе нешта і гладзіць сваю чорную бараду.

У хаце ціха.

Мендэле сядзіць насупраць бацькі і чытае рэлігійна-легендарную кнігу «Цэйл Ойлом». Ён чытае пра карову, што мае толькі адну нагу, але ходзіць шпарчэй за ўсіх жывёл, і яшчэ пра шмат дзіўных стварэнняў.

Адчыняюцца дзверы, чуецца гучнае: «Добры вечар!» Гэта прышоў Шмуел Шмелькес, багаты арандатар, які мае сем сыноў і ніводны з іх не служыць у салдатах. За ім уваходзіць няпэўным крокам жанчына сярэдняга ўзросту, захутаная ў трапты, у падранай коўдры, накінутай на галаву. Яна гаворыць плачучым голасам, шморгае сваім даўгім носам і безупынна выцірае яго рукавом. Гэта яна прышла, каб прадаць свайго сына Лейзерку ў «ахвотнікі»— ў рэкруты. Уласна кажучы, яна яго ўжо раней прадала, але цяпер яна ідзе да казённага рабіна, каб падпісаць здзелку.

Яна любіць яго, Лейзерку, але занадта сораму церпіць яна праз яго. Яна не можа больш вытрымаць. Цяжка ёй перанасіць дакоры жанчын у мястэчку і свайго уласнага мужа, Ічэ-Моты балагола, калі ён прыходзіць п'яны з дарогі. І сам ён, Лейзерка, сядзіць у ёй таксама ў пячонках. Ледзь толькі з'яўляецца ён з талмуд-торы, як адразу крычыць: рэбе цягнуў яго за вушы, рэбе б'е яго галавой аб сцяну, рэбе крычыць на яго: байструк! трэфная костка!»

— Я не магу больш цярпець. Мой муж, гэты грубіян крычыць на мяне ўсё: «Уздзенская пані». Ідзі,—кажа ён,—адвядзі яго да бацькі, да пана. І хто яго ведае, рэб Шмуэл кажа, што яму там будзе лепш чым дома, у сваёй няшчаснай маткі. Ён-жа мае дом усёроўна як сабака мае дом. Ён там не памрэ... А тут яго ўсёроўна заб'юць. Дык вось, рэб Хаім-Мойшэ, зрабіце мне ласку і прыпішыце яго да рэб Шмуэла Шмэлькес, дай божа яму здароўе.

Незадаволены, загнуў Хаім-Мойшэ Бройдэ адкрытую старонку сваёй кнігі, закрыў яе і паклаў у бок. Ён падняўся і павольна пайшоў да шафы ў другім пакоі.

Праз хвіліну ён вярнуўся назад з чарнілам, пяром і чыстым аркушам паперы ў руках. Моўчкі сеў ён за стол. Шмуэль Шмелькес яшчэ больш надзьмуў свае пухлыя ружовыя шчокі і зірнуў сваімі блiскучымі чорнымі вачыма на Хаіма-Мойшэ Бройдэ. Ужо даўно нешта Шмуэлу Шмелькес непрыемна глядзець у твар Хаіму-Мойшэ Бройдэ. Ён не можа яго цярпець, гэтага рахманага дзівака. Не аднойчы даў ён гэта яму. адчуць, Хаіму-Мойшэ Бройдэ, у сінагозе.

Цяпер яму, Шмуэлу Шмелькес, здалося, што Хаім-Мойшэ Бройдэ, ідучы за чарнілам і пяром, глыбока ўздыхнуў, а на твары Соры Капуснік з'явілася празмерная роспач. Шмуэлу Шмелькес здалося, што вось-вось яна адмовіцца ад усёй гэтай куплі. Што-ж будзе тады з яго сынам?

Ён, Шмуэл Шмелькес, узбуджана пачаў махаць сваімі белымі рукамі, стаў пасярод хаты і звярнуўся да Хаіма-Мойшэ Бройдэ:

— Эт, рэб Хаім-Мойшэ,—сказаў Шмуэл Шмелькес,—не думайце, што гэта дарма. Я даю ёй пятнаццаць злотых. Не забывайце, што мае сыны вывучаюць тору, яны сядзяць і вучацца,—шляхетныя кашэрныя дзеці з добрага роду, унукі рабіна з Грозава. А яе сынок народжаны ад грэха, ён проста не больш не менш як байструк.

— Але-ж ён—пакупная душа небарака,—сказала жанчына ў смутку.

Калі Шмуэл Шмелькес гаварыў, а Сора Капуснік спрабавала абараняць сваё дзіцё, Хаім-Мойшэ Бройдэ падняўся са свайго крэсла і, узяўшыся за сваю бараду, пачаў шагаць па пакою. Зноў уздыхнуўшы, ён махнуў правай рукой, махнуў зверху ўніз.

Зніжаным голасам, у якім адчувалася адначасова і просьба і загад, Шмуэл Шмелькес сказаў Хаіму-Мойшэ Бройдэ:

— Прашу вас, рэб Хаім-Мойшэ, пішыце, калі ласка, прыгавор і падпішыцеся.

Мойшэ Бройдэ сеў зноў за стол, узяў паперу, напісаў кантракт і падпісаўся за непісьменную Сору.

Здаволены Шмуэл Шмелькес вынуў з кішэні пернік і гарэлку і паставіў на стол. Потым ён кінуўся да шафы, што стаяла насупроць стала. Полы яго расшпіленай шубы зачапіліся за зэдлік і зэдлік упаў. Шмуэл Шмелькес не пачуў шума, які напоўніў хату Хаіма-Мойшэ Бройдэ. Ён падышоў да шафы, адчыніў яе шкляныя дзверцы, узяў адтуль тры бляшаныя чаркі і шпарка паставіў іх на стол.

— Бяры, Сора, чарку, пі гарэлку і няхай усё будзе добра,— звярнуўся Шмуэл Шмелькес да жанчыны.—Табе трэба дзякаваць богу за тое, што ён вызваліў цябе ад ганьбы і што табе далі яшчэ за гэта на выдаткі.

Сора Капуснік ківала галавой і выцірала рукавом вочы. Яна ледзь пакаштавала гарэлкі і скамечыла ў руцэ кавалак перніка. Хаім-Мойшэ Бройдэ зірнуў на жанчыну ў брудных лахманах і таксама паківаў галавой.

Праз хвіліну жанчына вышла з плачучым «добрай ночы». Шмуэл Шмелькес застаўся ў хаце. З хвіліну глядзелі яны адзін на аднаго. Шмуэл Шмелькес на Хаім-Мойшэ. а Хаім-Мойшэ на Шмуэла Шмелькес. Потым яны зірнулі на Шолам-Янкеля, які сядзеў з боку стала.

— Хай залічыцца гэта вам як добрая справа·,—сказаў нарэшце Шмуэл Шмелькес, звярнуўшыся да Хаіма-Мойшэ Бройдэ.

— Дай бажа,—адказаў Хаім-Мойшэ, зноў уздыхнуўшы і дадаў, гледзячы на Мендэле:—той, які бярэ на сябе ярмо навукі, будзе вызвален ад ярма дзяржавы.

У хуткім часе Шмуэл Шмелькес таксама пакінуў хату. У хаце Хаіма-Мойшэ Бройдэ зноў запанавала цішыня. Аганёк каганца перастаў танцаваць на сцяне. Хаім-Мойшэ Бройдэ сеў за стол, адкрыў сваю кнігу і яшчэ журботней зрабіўся яго напеў.

Праз некалькі хвілін прарэзлівы дзіцячы крык парушыў цішыню капыльскага асенняга вечара. Гэта лоўчыя цягнулі звязанага Лейзерку-байструка, якога матка прадала за пятнаццаць злотых.

Да Хаіма-Мойшэ Бройдэ, капыльскага балтаксы, часта прыходзілі таксама пагаварыць аб павышэнні налога на мяса. Тут, у хаце свайго бацькі, не аднойчы даводзілася Мендэле чуць пратэсты бядняцкіх пластоў мястэчка, якія скардзіліся на дарагоўлю на мяса, на тыранства, што пануе над імі. Тут ён бачыў і чуў, што гаворыць «знаць» пра «простых людзей». Тут знайшоў ён упершыню матэрыял для сваёй будучай «Таксы», якая выклікала гэткае абурэнне сярод разбойніцкай банды феадальна-рабінскай хеўры ў Расіі XIX стагоддзя.

Яшчэ ў дзяцінстве, як ён потым расказваў, выяўляў малы Мендэле зацікаўленасць мастака да ўсяго навакольнага і здольнасці па мастацку рэагіраваць на ўсё. Зусім яшчэ малым дзіцем, не ўмеючы нават чытаць, выяўляў Мендэле ў мастацкай форме свае адносіны да той ці іншай асобы. Ён любіў «крыўляць абы каго, з усімі ўласцівымі яму рысамі, як той гаворыць, як стаіць, як ходзіць, аж усе браліся за бокі ад смеху».

## Барацьба супроць капыльскіх рамеснікаў

«Капыльскія патрыцыі (і паміж іх, зразумела, бацька Мендэле. *У. Ф.*),—расказвае Паперно,—якія ганарыліся сваёй рэлігійнай вучонасцю, сваім багаццем і знатнасцю, пазіралі зверху ўніз на рамеснікаў, балаголаў, падзённікаў і іншых».

Мендэле таксама гаворыць аб гэтым у сваім «Шлейма рэб Хаіма»: рамеснік не мог апранаць у суботу шоўкавага халата. У сінагозе яго месца было на апошняй ад амбона лаўцы.

Яго думкі ніколі нават і не пыталіся. Яго дзяцей «хапалі», аддавалі на службу, як ахвяру за «дзяцей паважных бацькоў».

У той час, аб якім гаворыць Паперно, адбываліся ў Капылі канфлікты паміж патрыцыямі і плебеямі. Пад кіраўніцтвам дворных краўцоў, г. зн. заможных, бедныя рамеснікі пакінулі агульную сінагогу і арганізавалі хаўрус краўцоў са сваёй уласнай сінагогай і касай узаемадапамогі.

Пра гэтыя падзеі ў Капылі гаварылі, зразумела, не аднойчы ў хаце Хаіма-Мойшэ Бройдэ. Не адно вострае слоўца было кінута капыльскімі патрыцыямі ў хаце Хаіма-Мойшэ па адрасу ўсялякіх Гдале-Гершанаў. Паперно сам смяецца з аднаго беднага краўца, заікі, які ў гневе крычаў капыльскім варацілам: «Яны ядуць л-л-лапшу і ц-ц-цымэс кожны дзень».

Мендэле, зразумела, таксама слухаў усе гэтыя размовы пра першы арганізаваны пратэст яўрэйскай дэмакратыі супроць патрыцыяў у мястэчку. Пазней ён выкарыстаў усё гэта ў сваёй літаратурнай дзейнасці.

## Лейбка-святы

Акрамя вандруючых магідаў і балшэмаў кожнае мястэчка мела сваіх уласных «святых людзей», сваіх уласных ламедвоўнікаў, якія ўсялялі страх сярод насельніцтва.

У Капылі Шолам-Янкель часта бачыў Лейбку-святога.

Гэта быў тыповы батлен, які сваім юродствам наганяў нямала страху на цёмную яўрэйскую беднату ў мястэчку.

Пакінуўшы жонку і дзяцей на «божую ласку», гэты схуднелы вар'ят адмовіўся ад свету і займаўся толькі малітвамі. Яго жонка сама клапацілася аб матэрыяльным добрабыце яго і дзяцей.

Таму ён даў ёй спецыяльны дакумент, у якім уступаў ёй палову ўсяго таго, што ён атрымае на тым свеце як узнагароду за сваю святасць.

У асобе гэтага Лейбкі-святога Мендэле яшчэ ў дзяцінстве меў магчымасць наглядаць тыя рысы, якія ён потым, у 70-ых гадах, гэтак па-майстэрску выкарыстаў, характарызуючы вобразы феадальна-рабінскай культуры ў сваіх «Вандраваннях Вен'яміна».

Тут, у Капылі, яшчэ ў дзяцінстве пазнаёміўся ён з Вен'ямінамі і Сендэрамі, не зусім нармальнымі лятуценнікамі гінучага яўрэйскага феадальна-рабінскага свету.

Хіба гэты Лейбка-святы не Вен'ямін з Капыля, які ўзрос на містычнай глебе яўрэйскага сярэдневечча і які запэўняе капыльскую беднату ў блізкім надыходзе месіі?

Хіба не чакае ён таго дня, калі ён узнімецца раптам над усім светам, калі ўсе прыдуць і будуць пытацца: «Дзе-ж гэта ён, той вялікі чалавек, рэб Лейбке, з ласкі якога мы жывем? Толькі дзеля яго бог нас ахоўвае і абараняе!»

Хіба не можа ён разам з Вен'імінам крычаць: «Усе мае дні, усё маё жыццё звязана з Тунеядаўкай. Там я нарадзіўся, там я ўзрос, пакуль бог не даручыў мне вялікую справу,—абвяшчаць аб хуткім надыходзе месіі».

Так жыў Мендэле-дзіця ў атмасферы нячыстай сілы, змрочных фантазій і друзлых прадстаўнікоў яўрэйскага сярэдневечча, у хаце кагальнага варацілы, балтаксы.

## Розгі

Быў зімні, марозны дзень. Сярэбраныя стрэлкі на гадзінніку ў капыльскай сінагозе паказвалі чацвертую гадзіну. Скрыпучымі крокамі надыходзіў зімовы змрок.

Яго лупцавалі ў кагальнай сінагозе. Цяпер-жа зіма, а зімою нельга лупцаваць на камені. Дык яго лупцавалі ў сінагозе.

Сабралася ўся знаць мястэчка. Яны прышлі на «святы сход». Прышоў Неях, крывая шыя, прышоў Лейбка-святы, Шмуэл Шмелькес, кантар і рэзнік. Прышлі ўсе крамнікі і шынкары са сваімі дзецьмі. А на чале ўсіх святы суд—рэб Хаімка-зборшчык, рэб Хаім-Мойшэ Бройдэ, сакратар кагала і балтакса, рабін і даян.

Хаімка-зборшчык устаў на біме і пачаў чытаць паперу, напісаную па-гебрэйску: «Па волі божай і па волі кагала і па волі вялікага рабіна святога нашага горада Капыля, хай бароніць яго наш абаронца і збавіцель. Мы ўсе, сабраўшыся на святы сход, рашылі: з-за нашых вялікіх грахоў, распаўсюдзілася па нашаму гораду пошасць оспы і з-за нашых вялікіх грахоў паміраюць малыя дзеці. Мы думалі і шукалі, адкуль гэта ідзе такое пакаранне на нашы галовы і даведаліся, што ў суботу на хануко Аўрэмл-кравец еў з усім сваім сямействам трэфнае мяса, зрабіўшы гэтым злачынства супроць закона, бо гэта забароненае законам мяса. Апрача таго высветлілася, што ён шые трэфнымі ніткамі. Таму мы, кіраўнікі кагалу святога горада Капыля, сабраўшыся на святы сход у трэці дзень месяца рашылі пакараць яго, Абрама, сына Грэйнем-Нісна краўца, па мянушцы гугнявы, трыццацю дзевяццю розгамі і няхай будуць дараваны вялікія грахі яму і ўсяму нашаму кагалу і няхай наш усемагутны абаронец і збавіцель затрымае гэтую пошасць і няхай смерць загіне навекі. Амэн».

Аўрэмл-кравец стаіць згорблены, з крывым плячом. Тупы твар яго збялеў, бародка яго загнулася ўверх, да плюскатага носа.

Яго схапілі моцныя грубыя рукі Ешы-хапуна і Тэўе-соцкага. Ошэр-скуралуп стаяў з розгамі напагатове і састрахаў з іх ваду ў вядро. Аўрэмл ляжыць ужо на вялікай, шырокай лаўцы.

Непадалёку ад лаўкі стаіць святы суд. Стаіць таксама і Хаім-Мойшэ Бройдэ з сваім маленькім сынам, будучым Мендэле.

Хаімка-зборшчык утаропіўся вачыма ў лаўку і пачаў напяваць на святочны лад:

— Ахас вэахас—адзін і адзін; ахас уштайм—адзін і два; ахас вэшолойс—адзін і тры. Розгі свісцелі, а Авромл-кравец крычаў:

— Гвалт! Яўрэі, ратуйце! Я загіну!

Але ў адказ зноў чулася на малітоўны лад: ахас вэшолойс—адзін і тры; ахас вэхомойш—адзін і пяць...

— Добра, добра. Так яму і трэба!—крычаць паважныя гаспадары.

Свісцяць розгі, льецца кроў.

— Ахас вэхомойш—адзін і пяць; ахас-вошэяш—адзін і шэсць...

— Добра, добра. Так яму і трэба!

— Хай ведае! Хай адчуе!

Свісцяць розгі, льецца кроў.

— Добра, добра! Так яму і трэба!

— Няхай кладзецца ў труну!

Свісцяць розгі, льецца кроў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Розгі ўжо зламаліся, Аўрэмл-кравец таксама. У кагальнай сінагозе сцямнела. Хаімка-зборшчык стаў каля амбону і пачаў выкрыкваць: «Воху рахум ехапойр овойн»,—ён літасцівы і даруе грахі. І ўсе за ім, ківаючыся ва ўсе бакі, выкрыкваючы. Толькі адзін не крычаў—Аўрэмл-кравец...

На школьным двары жонка яго Нехама білася галавой аб сцяну і галасіла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Набажэнства спынілася. Знаць разышлася па хатах. Хаім-Мойшэ Бройдэ вёў малога Шолам-Янкеля за руку.

— Тата, карова мае душу? Га, тата?

— Не, дзіця маё.

— Тата, Аўрэмл-кравец мае душу, ці не?

— Што гэта ты кажаш? Вырасцеш, сам будзеш ведаць, дзіця маё,—сярдзіта адказаў Хаім-Мойшэ.

### З хаты, хейдэра на вуліцу

Мендэле-дзіця жыў у свеце абаротняў. «Гусь гэта не гусь, кошка не кошка, чалавек не чалавек. Свет гэта, сапраўды, толькі здань, міраж, фантазія».

Ён жыве па-за часам і прасторай. Не толькі ён, але і ўсё яго асяроддзе. Так жывуць і ў хейдэры і ў школе.

Але як на вуліцы? Хіба там таксама пануе жыццё якое нібыта нічога не ведае пра матэрыяльныя справы, пра эгаізм, пра грабежніцтва?

Тут пачынаецца раптам мітусня, шум, беганіна людзей на рынак, гукі трубы, бой барабана, які гавораць аб нейкіх надзвычайных падзеях, кліча ўсіх з нор, з сінагогі, з кагальнай хаты, з начлежак, ад рамесніцкага варштата, з дому. Мендэле выходзіць таксама на вуліцу.

Ганарліва шагае з вайсковым выглядам капыльскі асэсар Здраеўскі. Ён апрануты сёння ў сваю парадную уніформу. За

ім—інвалід Александр. Крок яго моцны, упэўнены. Ён трасе вусамі, яго бакенбарды выглядаюць сёння ўрачыста. Што сілы б'е ён сваёй левай рукой у барабан. Рэшткі правай рукі ён прыціскае па вайсковаму да боку.

Наперад выбягае Сёмка-соцкі, за ім цэлы натоўп спалоханых татар. Мяшчане-беларусы, кабеты і мужчыны, выбягаюць спалоханыя з сваіх двароў, глядзяць са здзіўленнем і далучаюцца да працэсіі.

Працэсія прайшла па вуліцы мяшчан. Яна ўвабрала ў сябе амаль усё неяўрэйскае насельніцтва мястэчка. От вышла яна на базар і спынілася перад хатай Хаіма-Мойшэ Бройдэ.

Сёмка-соцкі ўжо загадаў сагнаць усё яўрэйскае насельніцтва Капыля на базарны пляц. Тут сабраліся ўсе: Хаімка-зборшчык, Лейбка-сьвяты, Неях-крывая шыя, Шмуэл Шмелькес, «дворныя» краўцы і бедныя краўцы, ткачы, шаўцы, шапачнікі, балаголы, ваданосы, жабракі,—усе сабраліся тут з сваімі жонкамі і дзецьмі. Вось стаіць Аўрэмл-крывы, кравец-заіка. Паважаныя людзі з кагала стаяць сёння і калоцяцца. Дрыжаць іх рукі, засунутыя за паясы кафтанаў.

Цішыня... І раптам жудасны крык і лямант. Гэта пацягнулі Аўрэмла-кульгавага, краўца-заіку, Пінньку з лазні, які з'яўляецца таксама і магільшчыкам і бадхенам у Капылі. У іх стрыгуць бароды, іх голяць, у іх падразаюць даўгія полы кафтанаў, іх б'юць. Яны крычаць, яны не даюцца.

Капыльскія патрыцыі дрыжаць і калоцяцца ад страху. Яны туляцца каля свайго старэйшага, рэб Хаімкі-зборшчыка. Хто ведае, можа і з імі будуць рабіць тое самае, што і з «простымі людзьмі»? Аўрэмла-заіку і Пінньку з лазні пацягнулі да асэсара ў ключ.

Раптам зноў запанавала цішыня. Асэсар узлез на стол, узмахнуў кулаком і абвясціў сярдзіта і ўрачыста:

— З сёнешняга дня вы не маеце права, яўрэі, насіць ні штраймл, ні кафтанаў, ні паясоў, ні жаночых турбанаў. Вы павінны апранацца па-нямецку! Чуеце? Апранацца па-нямецку!

Асэсар ледзь вымавіў усё гэта па-руску з сваім чыста польскім акцэнтам.

З сёнешняга дня—школа! Усіх яўрэйскіх дзяцей у школы!

Асэсар закончыў сваю прамову моцнай лаянкай царскага ефрэйтара. І зноў дадаў:

— Без пейсаў! Без барод! Чуеце?

Ледзь толькі асэсар Здраеўскі з сваімі памочнікамі пакінуў базарны пляц, рабін і зборшчык далі каманду:

— Яўрэі, да святога месца! Маліцеся! Прасіце бога! Мы ў небяспецы!

Увесь натоўп, малыя з вялікімі, у тым ліку і Мендэле-дзіця, рушыў з гары на могілкі.

Мендэле-дзядуля гаворыць пра гэта наступнае:

«— Гвалт,—крычыць Шлеймеле (Шолам-Янкель), заходзячыся пад рукой у маці.

— Ой, Грышка, скажы, чаго гэта нашы яўрэі тамака плачуць, крычаць гвалт, быццам іх рэжуць?

— Гэта хапуна яны пугаюцца, каб хапун іх не схапіў...

— А не! Да хапуна 'шчэ далёка, можа месяцы два або тры будзе да іх суднага дня. Трэба пытаць, што гэта такое? Бачыш, от Хайка!

— Стой, Хайка! Кажы нам, што гэта ты так бяжыш і горка плачаш, а?

— Ой-вей, Мікіта, няшчасце, няма часу, от Берка! Пытай у Беркі, няхай кажа Берка, гора мне!—адказвае Хая-Груня, бягучы з гары на могілкі».

Усе беглі з гары ўніз. На базары засталіся толькі Грышка, Мікіта і яшчэ некалькі сялян, разгублена паглядаючы адзін на аднаго.

Козы скакалі па гарах смецця, ківаючы барадамі, здалёку, з-пад гары ўзнімаўся лямант і плач, усё вышэй і вышэй, над саламянымі стрэхамі, над комінамі. Ён пранікаў праз крывыя вокны ў кожную хату беднаты, мінаючы мураванку Хаімкі зборшчыка і прыгожыя дамы яго сяброў.

## Два ўказы Нікалая I

Прадстаўнікі новай яўрэйскай буржуазіі ў 40-ых гадах мінулага стагоддзя насіліся з праектамі рэформы яўрэйскага быта ў былой царскай Расіі. Ім трэба было мець рабочых для сваіх толькі што адкрытых мануфактур. Ім хацелася дамагчыся кіраўніцтва ў кагале. Ужо тады яўрэйская буржуазія ў Расіі імкнулася стаць агентам царызма ў справе русіфікацыі Беларусі і Украіны.

Акрамя рэкрутчыны, царскі ўрад выдаў у выніку намаганняў новай яўрэйскай буржуазіі два ўказы, якія павінны былі з аднаго боку ўзмацніць тэрор нікалаеўскай сістэмы, а з другога боку—дапамагчы русіфікацыі ўскраін, нікалаеўскай нівеліроўцы шматнацыянальнага насельніцтва так званага Паўночна-Заходняга і Паўднёва-Заходняга края.

Гэта былі ўказы адносна неабходнасці апранацца на нямецкі лад, адносна пакарання тых яўрэяў, якія носяць традыцыйную яўрэйскую сярэдневяковую вопратку і адносна адчынення казённых яўрэйскіх школ пад наглядам хрысціянскіх настаўнікаў, верных služкаў цара, бацькаўшчыны і праваслаўя.

Але феадальна-панскі ўрад Нікалая I хутка ўцяміў, што казённыя школы могуць таксама прынесці шкоду. Ён баяўся, каб гэтыя школы не пайшлі па шляху шкоднага асветніцтва, рацыяналізма і атэізма. Хаця, па сутнасці, гэтыя школы былі не больш як русіфікаванымі ці анямечанымі хейдэрамі.

Рэволюцыйны рух у Расіі ўжо тады быў даволі моцны. Даволі ўспомніць паўстанне дзекабрыстаў. А ў 30-ых і ў пачатку 40-ых гадоў з'явіліся ўжо Герцэн, Станкевіч і інш.

Рэволюцыйныя буры ў Еўропе, рэволюцыя 1848 года, дыктавалі ўраду Нікалая I неабходнасць быць вельмі асцярожным нават з праектамі рэформы яўрэйскага быта.

Вучні казённых школ набіраліся з беднаты. Спачатку проста гвалтам хапалі дзяцей і аддавалі іх у школы. Але ў гэтых школах

выхоўваліся не толькі вернападданыя, але і тыя, якія падкопваліся пад царскую сістэму, або дапамагалі яе разбураць.

У барацьбе супроць казённых школ, у якіх феадальнае яўрэйства бачыла найвялікшую небяспеку для свайго існавання, кагальныя варацілы карысталіся сваімі выпрабаванымі сродкамі: яны палохалі масы.

### Вядуць рэкрутаў

Праз некалькі месяцаў, асенняй раніцай нёс Пінька з лазні Мендэле і яго таварыша Бенчэ да Есі Рувена, у хейдэр.

Было яшчэ цёмна. Мендэле ўсё мацней сціскаў шыю Пінькі, тулячыся шчыльней да яго плечаў і абхапіўшы нагамі яго бакі.

Вецер выў і тарахцеў па стрэхах. Мендэле дрыжэў ад ветра. Ён баяўся нячыстай сілы, чарцей, прывідаў, ангелаў і бога. Цёмна. Ледзь можна распазнаць, куды ідзеш. Пінька тупае па гразі. У цемры з'явіўся агеньчык. Агеньчык мігціць усё бліжэй і бліжэй. Чутны цяжкія крокі.

Пінька толькі глянуў на агеньчык, задрыжэў і кінуўся ў бліжэйшы двор.

— Ша, дзеці!—сказаў ён, схаваўшыся за хатай.

Усё бліжэй і бліжэй пасоўваўся аганёк і глухі шум ззаду яго. Стоячы за хатай бачыць Шолам-Янкель, як нясе салдат ліхтар на жэрдцы. За ім ідуць салдаты з шаблямі ў руках. Ззаду цягнецца абоз. Пінька рукамі закрыў рот Мендэле і Бенчэ. Ён не дазваляе ім вымавіць ні слова, а сам дрыжыць і калоціцца ад страху.

Вось што пачулі і ўбачылі Пінька, Мендэле і Бенчэ:

«На падводах дзесяці- і дванаццацігадовыя дзеці, усе яны звязаны і закуты ў кайданы, адзін ляжыць на другім, адзін крычыць горка: мая нага! Другі скардзіцца: Ой, у мяне рука зламаецца! Трэці лемантуе: Мая галава, ой, мая галава! Чацверты крычыць: Гора мне, я паміраю! Мама ратуй мяне! Я паміраю! Пяты не можа вымавіць ні слова. Ён задыхаецца... А маткі? Яны бягуць за імі з жудасным крыкам і плачам:

— Аддайце мне маё дзіця! Памру, а выратую яго!

— Прэч, дурная яўрэйка!—крычыць салдат, што ідзе каля фурманкі, бачучы, што яна працягнула рукі, каб схапіць сваё дзіця. Усе жанчыны б'юць сябе ў грудзі, рвуць на сабе валасы, але яны баяцца падыйсці да падводы, бо ўзброеныя салдаты абкружаюць іх з усіх бакоў. Адна зусім звар'яцела і хоча гвалтам ратаваць свайго сына. З вялікім гневам падбегла яна да падводы, але салдат ударыў яе і яна ўпала. Струмень крыві лінуў з рота. Але яна ўзнялася, яна хоча бегчы за ім, і раптам, калі падвода праязджае па масту над рэчкай, яна кідаецца ў ваду».

Гэтая карціна, якую можна было з надыходам асенніх дзён бачыць амаль у кожным мястэчку з яўрэйскім насельніцтвам, заўсёды стаяла перад вачыма Мендэле. Пазней ён апісаў яе ў сваіх творах.

«Старшыні кагала,—піша Смоленскін у сваім «Той, хто блукае»,—якія былі пастаўлены ўладай у кожным горадзе, каб

адбіраць дзяцей у салдаты... набывалі сабе шмат грошай. Яны атрымлівалі грошы ад багатыроў, вызваляючы за гэта іх дзяцей і абракаючы на горкую долю дзяцей беднаты і сіротак, за якіх не было каму заступіцца».

## Файвл-асілак і Берл-блазан

Засталося ўсяго некалькі дзён да летняга кірмаша. Цягнуцца ўжо фурманкі ўверх, на гару, на рынак, праз Клецкую і праз Слуцкую вуліцы. Гэта прыбываюць першыя падводы, нагружаныя ўсялякімі таварамі, падводы гандляроў і рамеснікаў,—купляць і прадаваць на кірмашы.

Файвл-асілак таксама прыехаў на кірмаш. Толькі на кірмаш з'яўляецца ён у Капыль. Як і заўсёды спыніўся ён сёння у Айзіка-каваля. Сам ён спіць на кухні, на тапчане, а яго друг, мядзведзь, якога ён называе Берл-блазан, прыкут на ланцугу да задняй сцяны стайні.

Файвл-асілак прыходзіць на кірмаш не для таго, каб купляць, ці прадаваць. Але калі з'яўляецца ў Капылі, ведаюць пра яго ўсе, малыя і вялікія. Цэлыя гурмы дзяцей, рамеснікаў, старыя і маладыя крудяцца тады вакол двара Айзіка-каваля, а дзеці расказваюць адзін аднаму:

— Гэта было яшчэ да французаў. Файвл быў тады малады. Ідзе гэта ён сабе з мядзведзем у мястэчка на кірмаш. Ідзе гэта ён праз лес і поле ды спыняецца ў карчме пасярод лесу. Мядзведзя ён прывязаў на ланцугу за стадолай, а сам улёгся спаць на зямлі.

Прышоў тым часам у карчму французік, ударыў па сталу так, што паразбіваліся ўсе шклянкі.

— Рохка,—крычыць ён раззлавана да карчмаркі,—есці давай, грошы давай!

Карчмарка пачала крычаць ні жывая, ні мёртвая:

— Гвалт!—крычыць яна,—ратуйце!

Яна-ж забылася, што Файвл тут. А французік робіць сваё дый крычыць: «Грошы давай!» Яны так раскрычаліся, што Файвл усхапіўся.

— Гвалт!—чуе ён.—Файвалачка, ратуй удаву з малымі дзецьмі!

І Файвл кінуўся да француза, схапіў яго і кінуў на зямлю. Французік ледзь узняўся і пачаў крычаць. Дык Файвл як дасць яму тады ў твар, аж французік мёртвы паваліўся на месцы. Усе дрыжаць перад ім. Нават рэб Хаімка-зборшчык, нават Ёся-хапун і нават сам асэсар. Адным штуршком можа ён разбурыць хату, але не хоча. Ён-жа не злодзей...

Ніколі не адчуваў Шолам-Янкель так моцна цяжар хейдэра, як за некалькі дзён перад кірмашом. Як толькі ён вырываўся з хейдэра, дык бег адразу са сваім другам Бенчэ да новых падвод, каб ірваць струны з конскіх хвастоў. Ён так шпарка вырываў валасы, што конь не паспяваў нават агледзецца і брыкнуць нагой.

Ён знайшоў у Герцэля Кейлес дошчачкі, выразаў з іх скрыпку, нацягнуў струны, зрабіў смык. Ён адкінуў назад галоўку, прыціснуў пальцамі струны, правёў па іх смычком і заспяваў пры тым на

матыў танца «шэр». Вакол яго і Бенчэ збіраюцца дзеці, яны танцуюць, яны скачуць, яны гуляюць у вяселле. Яны круцяцца ў танцы «шэр», а Шолам-Янкель усё іграе на сваёй скрыпцы.

— Нявесту на дзяжу!—крычыць ён раптам голасам Пінькібадхена. Нявесту садзяць на дзяжу. І Фрадл ужо сядзіць.

Потым хапае ён зноў сваю скрыпку і, адкінуўшы галоўку назад, зноў пачынае іграць, але ўжо на журботны матыў.

Пасярод ігры ўрываецца Бенчэ ў вывернутай шубе пасярод кампаніі і пачынае танцаваць мядзведзя. Шолам-Янкель перадае скрыпку камусьці другому, робіць з смычка пугу і пачынае сцёбаць. Бенчэ тупае нагамі ў такт, ён згінае рукі ў даўгіх рукавах вывернутай шубы і раве. Шолам-Янкель спявае:

Ехаў пане
Ды з Малава,
Дае цапке,
Піва лове.

. . . . . . . . . . .

Эц, прэц!
Дуд канец!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ да раніцы былі заняты ўсе месцы на базары. Сёння першы дзень кірмаша. На базары расстаўлены палаткі мясцовых і прыехаўшых рамеснікаў і гандляроў.

Да палудня яшчэ далёка, а сонца свеціць гэтак горача. Неба зацягнута густым пылам. У паветры разносіцца іржанне коней, мычанне кароў, візг парасят, квахтанне курэй.

Каля царквы спяваюць жабракі. Недалёка ад іх, у балагане, ідзе царкоўнае прадстаўленне. Адзін з актораў-балаганшчыкаў, апрануты як шляхціч у кунтуш, тупаў нагамі, трос сваімі даўгімі, сівымі вусамі і збіваў актора, які іграў высокага, хударлявага яўрэя—карабейніка. Карабейнік крывіўся, цалаваў шляхцічу рукі і бедаваў на мяшанай мове, адначасова па-польску, па-яўрэйску і па-беларуску.

— Я-ж вельмі мала ўкраў, толькі залаты келіх з царквы ды пару дыяментавых вачэй у свентай Марыі. Я-ж не магу варажыць, каб я так жыў! Клянуся гэтай скурай маткі маёй свінні!—і ён паказаў пальцам на свіную скуру, што вісела насупраць.—Я-ж самы сумленны, самы набожны чалавек у цэлым свеце.

На падмосткі ўскочыў новы актор. На ім была чырвоная канфедэратка з кутасам, крывая турэцкая шабля вісела збоку:

Ах, ты, дурань Арку,
Што ты робіш сварку?
Ходзіш на ярманку,
Як купуеш, як таргуеш,
Тылько людзям псуеш...

Сяляне, сялянкі, яўрэі і татары, дзеці і дарослыя стаялі навокал і з цікавасцю глядзелі на гэтыя сцэны.

Адна з сялянак, якая сёння ўпершыню апранула свой новы кафтан з халсціны, на якой былі надрукаваны Басяй-друкаркай

жоўтыя кветкі і лісточкі, і якім яна была вельмі задаволена, таргануда сваю сяброўку за спадніцу і ціха запыталася:

— Ці гэта нашы капыльскія яўрэі такія злодзеі? Ці праўда гэта, што нашыя капыльскія яўрэі бога забілі?

— От, гаворыш! Гэта не нашы, а зусім слуцкія яўрэйчыкі,—адказала тая і махнула сваёй старой, жылістай рукой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каля двара Айзіка-каваля было поўна людзей. Чалавек на чалавеку. Кожнаму хацелася быць вышэй за іншых, каб паглядзець, што там робіцца ў будцы з рагожы, якая была ўзведзена на драўляных падмостках якраз насупроць варот Айзіка-каваля.

— От-от, выйдзе ён зараз! Чуеце, як бразгочуць ланцугі?— гавораць некаторыя, каб хоць крыху задаволіць цікавасць натоўпу.

Шолам-Янкель і Бенчэ ледзь праціснуліся на двор Айзікакаваля. Яны прынеслі для мядзведзя пучок моркаўкі.

— Добра, піскляты,—сказаў Файвл.—За гэта вы мне дапаможаце выгнаць мядзведзя з будкі. Слухай, ты, з кірпатым носікам,—кіўнуў ён Шолам-Янкелю,—ты будзеш крычаць: «гу-гу!» Ідзіце, закасайце рагожы.

Файвл узышоў на падмосткі. Трысцінкай ён пахлопваў сябе па чырвоных панчохах, што былі нацягнуты аж па калені і звінеў званочкамі на зялёнай шапцы. Яго чорнай барады з сівізнай не было відаць, бо на твары яго была маска з даўгім носам, з казінай бародкай, з вялізнымі дзіркамі замест вачэй. Ён выпраміўся, падняў левую руку і заспяваў:

Выходзь, выходзь, за мной,
Блазан ты мой!
Выходзь, выходзь за мной,
Мядзведзік ты мой!

Дзеці закрычалі: «гу-гу!» Файвл пацягнуў за ланцуг, пачулася сапенне і тупат мядзведзя. Файвл прадставіў мядзведзя публіцы. Трымаючы ў адной руцэ ланцуг, а ў другой пугу, ён схіліўся перад грамадой і заспяваў:

Пумей, пумей, пумей!
Раз і два і тры,
Раз і два і тры!
Я іду, іду сюды,
Я іду, іду сюды!
Пумей, пумей, пумей!
    Кароль перад вамі
    Усіх звяроў
    Літвы і Беларусі.
    Кусаць і рваць я ўсіх гатоў,
    Калі мяне раз'юшыць!
Пумей, пумей, пумей!
Раз і два і тры,
Раз і два і тры!
Я іду, іду сюды,
Я іду, іду сюды!
Пумей, пумей, пумей!
        Я—кароль
        Усіх звяроў,
        Гаспадар
        Густога бора.

Бяда таму,
На каго нападу,—
Ён спазнае
Ї жах і гора!
Пумей, пумей, пумей!
Раз і два і тры,
Раз і два і тры!
Я іду, іду сюды,
Я іду, іду сюды!
Пумей, пумей, пумей!

Мядзведзь узышоў на падмосткі. Натоўп адсунуўся ад будкі. Файвл дакрануўся сваёй пугай да пярэдніх лап мядзведзя. Мядзведзь засоп, потым зароў і ўзняўся на заднія лапы. Файвл ударыў пугай па сваіх кароткіх і шырокіх сініх штанах і заспяваў густым басам:

Бім-бом-бо,
Бім-бом-бо!
Я тут ужо,
Я тут ужо!
Мае лапы што камень,
Я зараз перад вамі
Скакаць буду кадрэль,
Пабачыце гэта самі.
Бім-бом-бо,
Бім-бом-бо!
Я тут ужо,
Я тут ужо!

Айзік-каваль прынёс на абцугах два вялікія медныя падносы, толькі што распаленыя на яго горне. Ён кінуў іх на пясок, якім былі густа пасыпаны падмосткі.

Файвл нацягнуў ланцуг, глянуў на мядзведзя сваімі бліскучымі чорнымі вачыма, нібыта хацеў яго, мядзведзя, пранізаць стрэламі і махнуў сваёй пугай у бок гарачых падносаў. Мядзведзь цяжка павярнуўся і, калі дакранаўся пярэднімі лапамі да падносаў, падскокваў—пачынаў «танцаваць» і раўсці. Файвл круціў ланцуг вакол сваёй правай рукі і крычаў: гу-гу-гу!..

Шолам-Янкель і Бенчэ, як і ўсе людзі навокал, з жахам і цікавасцю глядзелі на медныя падносы, на вялізнага бурага мядзведзя, на высокага і моцнага Файвла, на яго пачырванеўшыя рукі, на жылы, што ўспухлі як перакручаныя вяроўкі.

Коні настаражылі вушы. Яны пачалі іржаць і рваццa з сваіх прывязей. Вялізны белы вол, што стаяў выпражаны каля сваёй павозкі, нахіліў цяжкую галаву і зачапіў рагамі падводу, напалоханы рэвам мядзведзя. Людзі стаялі як прыкутыя. Позіркі іх былі ўсё больш накіраваны да падмостку і будкі з рагожы.

— От чорт, от д'явал, нячыстая сіла,—чуліся выгукі з натоўпа.

Некаторым ужо абрыдла глядзець і яны пачалі крычаць:

— Даволі ўжо мучыць жывёліну!

Файвл засмяяўся і сказаў:

— Гэта-ж не жывёла. Зараз я пакажу вам, што гэта чалавек.

Ён пацягнуў ланцуг і кінуў мядзведзю. Той злез з медных падносаў, але ўсё яшчэ не спыняў сваіх танцаў. Файвл сцёбнуў пугай, мядзведзь перастаў танцаваць, спыніўшыся на месцы. Файвл даў яму моркаўку. Мядзведзь узяў яе сваімі пярэднімі лапамі і пачаў

грызці. Файвл надзеў яму на галаву саламяны капялюш, афарбаваны ў чырвоны колер. Сам ён зноў надзеў маску і расшпіліў сваю журтку паяца. Трымаючы адной рукой ланцуг, ён пагладзіў другой рукой сваю чорную бараду, схіліўся перад мядзведзем і пачаў спяваць сатырычныя куплеты пра старшыню кагала і пра асэсара.

Файвл махаў пры гэтым рукамі, трос барадой, знімаў шапку і цалаваў пярэднія лапы мядзведзя. Мядзведзь сапеў. Файвл спяваў, а натоўп яму дапамагаў. Адспяваўшы сваю песеньку аб тым, як старшыня кагала прыносіць хабар асэсару, Файвл зняў саламяны капялюш з галавы мядзведзя і надзеў на яго штраймл. Цяпер мядзведзь павінен быў прадстаўляць старшыню кагала і Файвл пачаў гаварыць да яго...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шум і крыкі сялян у хаце Соры Бройдэ раптам спыніліся. У хату ўварвалася Шэйндл-удава. Заламіўшы рукі, яна крычала і плакала:

— А божа-ж мой... гора мае... сыночак мой адзіны... бедная я ўдава няшчасная...

Стары селянін спыніўся з чаркай гарэлкі ў руцэ, не данёсшы яе да рота. Здзіўлена глядзеў ён сваімі блакітнымі затуманенымі вачыма на ўсхваляваную жанчыну.

— Што здарылася? Што з табою?

— Ратуйце, Сора-Несенька! Бяжыце да Берла-урача. Ён кажа... сіротка мой... пайду збіраць на дарозе яблыкі... пайшоў на цэлы дзень... наеўся сырызны... і цяпер... Ой, гора мне... Гэта, напэўна, халера... Ой, што робіцца з хлопцам...

Сора Бройдэ толькі цяпер успомніла, што Шолам-Янкеля няма ў хаце. Яна не бачыла яго з самага рання. Напэўна ён таксама бегае па базару і есць сырызну. Яна пабяжыць па ўрача, а потым пашукае Шолам-Янкеля. Трэба бегчы на двор да Айзіка-каваля, можа ён там, каля мядзведніка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца ўжо было нізка. Цьмянае ружавінне апускалася над дахамі. Станавілася прахладна. Каровы перажоўвалі сваю жвачку, аблізваючы шурпатымі языкамі слізкія насы. Адзін з коней пяшчотна закінуў сваю шыю за шыю другога каня. На базары ўсё часцей пачалі сустракацца п'яныя сяляне, хістаючыся на нагах, лаючы сябе і ўвесь свет, спяваючы хрыплымі галасамі нешта пра горкую долю.

Файвл-мядзведнік заканчваў сваё прадстаўленне. Ён адспяваў ужо ўсе свае яўрэйскія і беларускія песенькі. Мядзведзь стаяў цяпер на бочцы, а Файвл хрыплым голасам спяваў:

З бочкі рэб Берл
Глядзіць на вас.
Што ён п'е?—
Мядовы квас.
Мядовы квас
Берэле п'е,
Лапай грубой
Па бочцы б'е.
Скок туды,
Скок сюды,
Сам ледзь верне
Карк таўсты.

Прыходзяць яўрэі
Сюды з базару
Дзівіцца на Берэле
Тлусты карак.
　　На тлусты карак
　　Прышлі глядзець:
　　Фокус пакажа
　　Вучоны мядзведзь.
Берэле, Берэле,
Трэба канчаць.
Час падаянне
Табе збіраць.
　　Лапу сваю
　　Да іх працягні,
　　Каб далі хлеба
　　Кавалак яны.

Ён абкруціў канец ланцуга вакол Айзіка і саскочыў з падмосткаў у натоўп, зняўшы шапку. Натоўп адступіў назад, некаторыя павярнуліся да яго спіной.

Шолам-Янкель глядзеў на Файвла сваімі шырока раскрытымі дзіцячымі вачыма. Яму было крыўдна, што ён не дарослы. Калі-б у яго былі грошы, дык ён першы кінуў-бы ў шапку Файвл тры капейкі, а можа нават і цэлыя дзесяць. Ён задумаўся, яму вельмі хацелася быць дарослым. Калі ён вырасце, Файвл будзе спыняцца ў яго. Ён дасць яму самае лепшае месца ў хаце. Ён-жа такі прыгожы, гэты Файвл, і такі добры, вясёлы, зусім не злодзей, а мядзведзь таксама, калі толькі даць яму есці...

Думаючы пра ўсё гэта, ён напяваў пра сябе:

Лапу сваю
Да іх працягні,
Каб далі хлеба
Кавалак яны.

Раптам пачуў ён, як нехта схапіў яго за руку. Ён азірнуўся. Аж гэта яго маці стаіць каля яго і глядзіць яму проста ў твар.

— Гм, нішто сабе! Цэлы дзень трэба за ім бегаць усюды, за хлапчуком дзевяці год. Не мог ты сядзець у школе і вучыцца, замест таго, каб цэлы дзень тырчаць каля Файвла, гэтага кабана, гэтага буяна?

— Ён-жа яўрэй, Файвл, дык які-ж ён кабан?

— Такі яўрэй як ён—не яўрэй. Каб ты мне больш да яго не хадзіў. Я скажу пра ўсё тату. Чуеш?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надышла ноч. У хаце Хаіма-Мойшэ Бройдэ ўсе спалі. Спалі на падлозе, на сталах, на ляжанках. У вокны свяціў бледны, сярэбраны месяц, асвятляючы сонныя твары сялян. Шолам-Янкелю сёння не спіцца. Ён ціха напявае сам сабе ўсе тыя песенькі, якія ён чуў ад Файвла. Смутак агартаў яго дзіцячае сэрца. Ён пытаўся сам у сябе: чаму гэта ён, Шолам-Янкель, яшчэ не дарослы? Чаму ў яго няма трох капеек? Чаму гэта Файвл не яўрэй і чаму дзецям нельга хадзіць да яго?

## Бліжэй да зямлі

Між небам і зямлёй, у адвечным страху, звязанае сотнямі догмаў, жыло дзіця ў яўрэйскім мястэчку. У хаце і ў хейдэры—атмасфера прывідаў, чарцей, нячыстай сілы; знявага да бедняка, да рамесніка. На вуліцы—тыранства, рэпрэсіі, грабяжы, жах, удары—заломленыя рукі і заплаканыя вочы.

Гэтае асяроддзе выхавала ў мястэчку Вен'яміна,—фантазёра, ці гугнявага Сендэрла, ці Ісера Варгера з «Малога чалавечка», які на ўсё трымае арэнду, перад якім усе калоцяцца і дрыжаць.

Шолам-Янкель, будучы Мендэле Мойхер-Сфорым, імкнуўся вырвацца, як і кожнае здольнае дзіця, з гэтага цеснага, змрочнага свету. Яго цягнула да зямлі, каб зрабіцца «тутэйшым».

Этыка яўрэйскага гандлёвага капітала ў яго кодэксе «Шумхамарух» і ў шматлікіх каментарыях на працягу тысячы год прымушала яўрэйскія народныя масы падаўляць у сабе найменшыя пачуцці да матэрыяльнага, найменшае імкненне да лепшага жыцця, хоць крыху падобнага да жыцця ліхвяроў і багачоў.

Яго, Мендэле-дзіця, ахапіла «нешта, што не растлумачыць, нейкае імкненне, што не мае імя. Такіх імкненняў не было ў заклапочаных, дабрачынных яўрэяў у мястэчку, у якім было яму цесна, душна аж да непрытомнасці». Так пісаў сівы дзядуля, Мендэле Мойхер-Сфорым у 90-ых гадах мінулага стагоддзя.

Але для нас гэтае імкненне мае сваё імя.

Ад хваравітага свету фантастыкі, ад свету ангелаў, чарцей і драконаў імкнуўся ён да рэчаіснасці, да рэальнага свету, да жывых людзей з жывымі пачуццямі, з жартамі, са здаровымі, моцнымі плячамі і з сільнымі рукамі.

Гэты свет адкрываўся перад Мендэлем, калі ён пакінуў хейдэр, дзе ён вучыўся большую частку дня.

З гэтага часу Мендэле пачаў яшчэ больш сябраваць з сынам суседа-рамесніка, хлопчыкам Бенчэ.

Новы свет, які адкрыўся перад Мендэле, быў уласна кажучы, не такім ужо новым. Ён быў не маладзей таго старога свету, у якім знаходзіўся Мендэле да гэтага часу, у хаце бацькоў, у хейдэры, у сінагозе. Новы свет быў такі самы стары, як і свет яўрэйскіх ліхвяроў і купцоў. Але заўсёды ён быў прыціснут лапамі Шэйлакаў і клерыкалаў.

У 40-ых гадах мінулага стагоддзя ў рады местачковых рамеснікаў уліліся прадстаўнікі збяднелай яўрэйскай знаці. Гэтыя элементы лічыліся ў мястэчку спачатку за «паважаных людзей», але потым пачалі самі адчуваць пэўную знявагу да знаці і сябраваць з рамеснікамі. Іх заняткі аддалялі іх, зразумела, ад знаці і набліжалі да матэрыяльнай культуры.

У сваім «Шлойме Хаіма» Мендэле апавядае: «У мястэчку Капыль рамеснікі былі закапаны глыбока ў зямлю, настолькі яны былі прыніжаны. Мець рамесніка сярод сваякоў, краўца, шаўца, лічылася плямай, ганьбай. Гэта нават магло перашкодзіць шлюбу. Пры сватаўстве шукалі знатнага паходжання. Выкопвалі з-пад зямлі рабінаў, вучоных, купцоў, кантараў і закапвалі рамесніка, калі ён

часам знаходзіўся ў сваяцтве, гэта значыць, адмаўляліся ад яго костак. От, так сабе, глупства, сёмая вада на кісялі! Затое шынкар, арандатар, гаспадар заезнага дома, карчмар, ліхвяр—былі заўсёды ў пашане. Гэта—добрыя сваякі, жаданыя сваты, паважныя гаспадары ў горадзе, з вялікай пашанай усюды: у лазні, у школе, у кагальнай хаце».

Сябраваць з дзецьмі рамеснікаў, гэта значыла для Мендэля ў той час сыйсці з правільнага шляху. Тут давялося Мендэле вытрымаць барацьбу са сваім бацькам, які імкнуўся адарваць яго ад дэмакратыі і павесці па шляху феадальнага яўрэйскага купца. Але Мендэле заўсёды цягнула да весялосці, каб пазбавіцца суму. Ён шукаў гэта сярод рамеснікаў.

«Наколькі бедна, журбліва выглядалі хаты рамеснікаў звонку,—пісаў Мендэле Мойхер-Сфорым,—настолькі-ж весела, жвава было ў іх часам.

Вось стаіць, напрыклад, Іцык-кравец з уцюгом у руках над працай і пачынае іграць марш, адбіваючы такт уцюгом, а хеўра чаляднікаў, хлопцаў навакол стала, спрытна працуючы іглой, дапамагае, хто на чым можа... Тут, у рамеснікаў,—гаворыць далей Мендэле,—спяваюцца часта песні ўласнага вырабу, якія разыходзяцца потым па свету, між людзей, трапяць у вусны дзяўчат, служанак і набываюць назву народных песень».

Мендэле-дзіця заўсёды цягнула да гэтых рамеснікаў, бяспраўных у Капылі, таксама як і ў іншых гарадах і мястэчках.

Да іх хадзіў Мендэле-дзіця з дому, каб падыхаць свежым паветрам. Гэта былі Айзік-каваль і Герцль Кейлес, столяр.

Гэтыя рамеснікі знаходзіліся ў больш прывілеяваным становішчы, чым усе астатнія, але ім, зразумела, было вельмі далёка да такіх як Шмелькес, як шынкары і іншая гэтак званая знаць.

Да іх, да Герцля Кейлес і да Айзіка-каваля, часта заходзілі маладыя людзі, якія пакаштавалі ўжо ад «гаскалы» і якіх лічылі ў мястэчку за бязбожнікаў.

У іх можна было свабодна чытаць асветніцкія кнігі на гебрэйскай і нават на чужаземных мовах.

Аднойчы ў ноч на суботу схапілі нават некалькі капыльскіх асветнікаў, калі яны рабілі нейкія хімічныя эксперыменты ў кузні. Гэта прасачылі набожныя людзі. Маладых людзей збіраліся нават аддаць у салдаты, але яны гэтага не чакалі, і ўцяклі з мястэчка.

У рамеснікаў упершыню пачуў Мендэле-дзіця пра філосафаў, пра Арыстотэля, пра Платона. У іх чуў ён здаровыя жарты. Тут бачыў ён любоў да працы і зацікаўленасць да яе. Герцль Кейлес «мог сядзець за працай, больш чым гэта было патрэбна, упрыгожваць яе рознымі цацкамі, узорамі, хоць заказчык гэтага і не патрабаваў, ён рабіў гэта толькі для таго, каб было прыгожа».

## Пажар

Ужо каля двух гадзін стаіць Шмуэл Шмелькес у кухні ля дзвярэй крэдэнса *). Праз кожныя дзве-тры хвіліны рукавы яго атласнага кафтана труцца аб срэбныя падносы з пышным фарфарам і

*) пакой для пасуды.

пазалочаным начыннем. Вымуштраваныя лакеі графа Вітгенштэйна нясуць пачастункі гасцям, што балявалі тут усю ноч.

Шмуэлу Шмелькес млосна. Ён адчувае на галаве цяжар аксамітнай ярмолкі. Гарачая пара б'е ў вочы. Вільгатнеюць пейсы, чорная барада. Буйныя кроплі поту капаюць з белага ілба на ружовы пульхны твар.

Сёння гарачы летні дзень, а ў кухні так душна, Шмуэл Шмелькес нібы варам абліты, але ён і не думае ісці на двор. Больш чым заўсёды палохаюць яго сёння белыя каменныя львы. Яны стаяць пасярэдзіне двара на п'едэстале, адзін супроць аднаго, зубастыя, з высунутымі языкамі, з узнятымі пярэднімі лапамі, нібы вось-вось раздзяруць адзін аднаго на шматкі.

Лакей Ян шэпча Шмуэлу Шмелькес на вуха:

— Зараз, Шмуйлачка, раз'едуцца госці... Прэндка...

У гэтым двары лакей Ян самы прыхільны да яго чалавек. У кожнай гандлёвай справе паміж Шмуэлам Шмелькес і графам нізенькі і шчуплы Ян заўсёды бывае пасрэднікам. Ён падміргвае чырвонымі жылкамі кашачых вачэй высокаму Шмуэлу і гладзіць сябе весела і пяшчотна па кішэні.

Заўсёды Ян мае ад Шмуэла Шмелькес сваю залатую долю і часта папярэджвае яго:

— Пане Шмуйлачка, купцы прыехалі да графа... Прадаецца бор у сто дзесяцін... шпіляр пшаніцы... дваццаць быкоў... Не спі ў шапку, пане Шмуйлачка...

І Шмуэл Шмелькес не спіць у шапку.

Бадай у кожную суботу адвячоркам наведваецца Ян у госці да Шмуэла Шмелькес. Хадыром ходзіць тады ўся сям'я Шмуэла. Госць ахмялеў, гаспадар асалавеў. Сора-Фейга не шкадуе смачных хрустоў, насмажанай рэдзькі ў мёдзе, макавых цукерак, міндалю. Гаспадыня зазірае Яну спагадліва ў вочы і з яе тлустай ніжняй губы зрываецца:

— Нех пан пакаштуе тэйгл, то зрабіла мая цурка.

Сора-Фейга паказвае на сваю дочку—пятнаццацігадовую замужніцу, што ўвіхаецца каля стала. І два прыяцелі—лакей Ян і багаты арандатар графа, Шмуэл Шмелькес,—шчыра чокаюцца, дзынкаюць срэбнымі кілішкамі з шабасавайналіўкай і выхваляюць адзін аднаго за спрыт і за розум.

Калі Ян падышоў у графскай кухні да Шмуэла Шмелькес і паведаміў, што зараз раз'едуцца госці, ён адной рукой пагладзіў свае сівыя закручаныя вусы, а другой—Шмуэла Шмелькес па даўгой чорнай барадзе зверху ўніз, да завостранага клінка.

На гэты раз Ян памыліўся. Госці сядзелі ў графа далёка за поўдзень і Шмуэл Шмелькес доўга павінен быў выстойваць у кухні ля дзвярэй крэдэнса.

Нарэшце ён дачакаўся. Стары граф, які дрыжэў ад холаду і ўлетку, прыняў яго ў адным з сваіх пакояў. Ён сядзеў захутаны ў халат, падбіты ваверкавай футрай, і курыў з бурштынавай люлькі, аздобленай залатой вечкай, з плеценым цыбуком даўжынёй у гайдуцкі бізун. Граф абапіраўся сінаватымі падагрычнымі рукамі аб сабачыя галовы на поручнях утульнага крэсла з мастацкімі інкруста-

цыямі. На яго круглым твары яшчэ пераліваласся сінявая чырвань бяссоннай ночы, а з-пад густых брывей зіркалі вялікія папяловага колеру вочы.

Звычайна Шмуэл Шмелькес першы пачынаў гутарку, але на гэты раз граф адразу запытаўся:

— Як, Шмуйла, справа з прапінацыяй і ў якім стане бровар?

Граф узняў галаву і ў усмешцы выскаліліся яго закураныя пажоўклыя зубы.

Упершыню Шмуэл Шмелькес бачыць графа ў такім добрым настроі, хаця і на гэты раз граф не прасіў яго падыходзіць да сябе бліжэй чым на дзесяць крокаў. Але сёння граф даволі лагодны, у голасе няма палохаючай строгасці.

Шмуэл Шмелькес ледзь прыкметна перабірае нагамі, трэ рукамі адну аб адну, нібы мыліць іх, і выраз шчырай адданасці расплываецца па яго твары. Ён згорбіўся, і яго высокі стан зрабіўся нізкім, схіленым. Граф ужо не раз гаварыў яму, што местачковыя яўрэі мала плацяць яму за пляцы, якія яны займаюць. Граф хацеў яму аддаць у арэнду спагнанне чыншоў з местачкоўцаў. Але Шмуэл Шмелькес ахвоты не меў: грошай у іх няма, а на адпрацоўку яны не пойдуць, гэтыя гультаі. У графа няма прывілея на тое, каб местачкоўцы выплачвалі яму чыншы працай. Ужо некалькі дзён, як у яго, Шмуэла Шмелькеса, выспявае новы спосаб спагнання чыншоў. Граф да яго сёння прыхільны. Ён, арандатар, пакажа цяпер местачковай галоце, дзе ракі зімуюць. У яго на іх вялікая злосць: на кожную суботу яны купляюць гарэлку не ў яго бровары, а ў зялёнай карчме з іншай аколіцы.

Цяпер ён напомніць графу аб тым, аб чым граф сказаў яму па сакрэту яшчэ два гады таму назад: чырвоны певень...

Няхай яны гараць—пякельнікі! І яны не хворыя адбываць прыгон, як вясковыя хлопы! Вось у яго для графа гатовенькі план, як дабіцца гэтага. З хуткасцю маланкі ляцяць яго думкі.

— Не добжэ, яснавяльможны граф,—Шмуэл Шмелькес разнімае рукі і зноў трэ іх адну аб адну.—Пакрысе нішчыцца прапінацыя. Карчмары ўпотайку дастаюць гарэлку з іншай аколіцы. Грэбля пры млыне руйнуецца, няма каму рамантаваць. Надыходзіць касавіца—няма каму касіць. Хлопы яснавяльможнага пана графа маюць і без гэтага працы па горла. Чаму-ж гэта местачковым абібокам, яўрэям і мешчанчукам, не даставуляць бочкі ў бровар? І яны не хворыя ісці на сенакос! Чаму не?

Граф Вітгенштэйн узняўся з крэсла. Ён успомніў сваю гутарку наконт гэтай справы з Шмуэлам Шмелькесам у мінулым годзе. Арандатар тлумачыў тады, што няма ад каго спаганяць—галадранцы. Але граф раптоўна зноў сеў. Падагрычныя колікі пранізвалі яго наскрозь, прасвідравалі з паясніцы аж да плеч. Граф уздрыгнуўся на крэсле, і бурштынавая люлька грукнулася аб васкаваную падлогу—аж водгаласкі пайшлі па зале.

Шмуэл Шмелькес спыніў гутарку, нізенька пакланіўся, хутка, на цыпачках падбег да таго месца, дзе ўпала люлька, падняў, падаў графу і, не адводзячы вачэй ад графа, адышоў асцярожна назад на дзесяць крокаў. У гэты-ж час ённазбіраў у галаве моцныя пе-

раконваючыя словы, якімі зноў пачне ўздзейнічаць на графа. Шмуэл Шмелькес глыбока ўздыхнуў, зноў памыліў руку аб руку, разняў іх і пачаў працягваць перапыненую гутарку:

— Яшчэ ў мінулым 1844 годзе гэтай самай парой меў я гонар чуць ад міласцівага графа аб тым самым. Граф хацеў скасаваць старыя прывілеі, што местачкоўцы атрымалі ад вялікіх памёршых святой памяці дзядоў графа—прывілеі, каб плаціць грашыма, а не працай, за пляцы, дзе стаяць будынкі местачкоўцаў. Цяпер я прыдумаў паратунак: адна толькі галавешка—і няхай яны гараць! Чаму не? У такія гарачыя дні кінуць агеньчык у іхныя саламяныя стрэхі, дык о-го-го...—хаткі спапяляцца, як лучына—і пляцы чысцюткія застануцца для яснавяльможнага пана графа, хоць кветкі на іх садзі.

У Шмуэла Шмелькеса набажна замасліліся вочы. Ён пачынае гаварыць шэптам, сардэчна:

— Калі местачкоўцы захочуць адбудаваць хаты, няхай ідуць на гвалт, на паншчыну, няхай рамантуюць грэблю, няхай сапраўды папрацуюць некалькі дзён у месяц на арандатара яснавяльможнага пана графа. Чаму не? Рукі не адсохнуць...

Як заўсёды, лакей Ян і сёння хацеў уткнуць сваю глюту, каб даведацца, аб чым гэта так доўга Шмелькові вядзе гутарку з графам. Ці не новы гешэфт часам?.. Пэўна граф прадае некалькі дзялянак лесу. Ян не дапусціць, каб Шмелькові яго абмінуў. І з гэтага гандлю ён павінен сабе выцягнуць костку з мясам...

Лакей ціхутка адчыніў дзверы і ўсунуў галаву, як ліса. Але граф махнуў сіняй, падагрычнай рукой у бок дзвярэй. Лакей зразумеў, што граф думае, ірвануўся назад нячутна, як цень, і зачыніў за сабой дзверы.

Граф ужо даўно шукаў сродкаў, каб прыцягнуць да паншчыны местачковае насельніцтва—яўрэяў, беларусоў і татар.

Цяжка ўзняўся ён са свайго вольтэраўскага крэсла, паспрабаваў выпрастацца, іранічна паківаў галавой, пацягнуў сябе за доўгія сівыя вусы і цяжкім крокам накіраваўся да Шмуэла Шмелькеса. Падышоў, пахлопаў свайго арандатара па спіне і сказаў:

— Я ўжо даўно ведаю, што ты шляхетны чалавек, што ты не галган, Шмелькові. Твой сёнешні пражэкт напоўнены ізраільцянскай мудрасцю. Аднак, пажар—рызыкоўная справа. Кій мае два канцы. Млын таксама драўляны. Трэба быць вельмі асцярожным, а маёнтак... Еднак... Ты сам павінен зразумець, што трэба рабіць. Няхай яны ведаюць, з кім снедаюць. Едзь дадому і нех табе дапаможа пан бут патрыярхаў Абраама, Ісака і Якава.

Граф працягнуў яму сінюю руку з пухлымі, нібы кілбаскі, пальцамі. Шмуэл Шмелькес схапіў яе і набожна прыцісную да сваіх губ, як шоўкавае адзенне на пергаментнай торы. Па зале разлёгся пошчак гучнага пацалунка. Шмуэл Шмелькес пакланіўся графу ў ногі, з вясёлым «да відзэння» зачыніў за сабой дзверы і апынуўся на ганку.

Граф зірнуў на яго праз акно, паківаў галавой і самому сабе сказаў:

— Ну, і д'явальская галава ў Шмелькеса! Ну і спрыт...

Сонца ўжо вісела невысока над лесам, калі Шмуэл Шмелькес выехаў з двара ў таполевыя прысады.

А вось і шырокі пыльны шлях.

Над полем распрасцёрлася ледзь ружовае неба, чырыкалі жаўранкі. Гэта нагадвала яму цымбалы стагодняга Янкеля на яго ўласным вяселлі. На буланым гарачым кані пераліваліся залатыя пасмы сонечных колераў. Шмуэл Шмелькес сядзеў у брычцы і меў асалоду ад заліхвацкіх посвістаў фурмана. Ён пачаў падпяваць і тарарамкаць шабасавыя мелодыі без слоў.

Дамоў ён прыехаў задаволены, прыхільны да сваёй жонкі, высокай і хударлявай Соры-Фейгі з мышынай лапкай на носе.

Гэта самая чорная лапка на носе жонкі набыла сёння ў яго вачах нейкую асабістую прывабнасць і сімпатыю. Яму сёння зусім не было прыкра глядзець на яе.

Праз некалькі дзён тры гайдукі, апранутыя ў сялянскія грубыя світкі, возяць на двор Шмуэла Шмелькеса вялізныя медныя бочкі з вадой. Яны працуюць да цямна.

Надышоў вечар—ціхі летні вечар.

З-за вуглоў старых хатак падкрадвалася ноч. Над мястэчкам навіс сіні купал з яснымі зоркамі. Ля рэчкі працягла квакалі жабы. Цвіркуны па хацінах заходзіліся ў цвірканні. Насельніцтва наваражыла сабе па ясных зорках лепшую долю, пасля чаго старых і малых агарнуў сон. Лёгкі ветрык зачосвае і пяшчотна трэпле саламяныя стрэхі.

Спяць і ў мураванцы Шмуэла Шмелькеса. Толькі ён адзін дыбае па падлозе туды і сюды, крыху ўсхваляваны, з таямнічым выразам на твары. Гладзіць сабе бараду, шчыпле з яе паасобныя валаскі. Раптам выходзіць ён з хаты і накіроўваецца ўніз з гары на грэблю ў невялічкі хвойнік.

Толькі ён даходзіць да першых дрэў, як чуе працяглае галёканне:

— Гу-гу-гу-у-у...

Гэта яны—пяць графскіх гайдукоў. Яны нецярпліва чакаюць каманды Шмуэла Шмелькеса...

Поўнач.

Шмуэл Шмелькес не спіць. Нейкая сіла не дае яму сядзець на месцы, ганяе яго па мураванцы туды і сюды. Часта, крадком, таропіць ён вочы ў начную сінь акна.

Яго цяпер непакоіць гэта сінь. Ён прагна жадае ўбачыць зусім іншае неба. Ён нецярпліва чакае. Адыходзіць злосна ад акна і зноў падыходзіць... Праклінае гайдукоў:

— Чаму іх трасца не бярэ, гэтых п'яных гультаёў? Партачы! І для такой работы не гадзяцца...

І раптам... Неба змяніла свой колер. Яно заплывае чырванню з усіх бакоў. Становіцца светла, як сярод дня. Нібы ў гуце—пыхае гарачыня, яна ўсё больш і больш ахоплівае паветра. Іскры і гарачыя галавешкі казачнымі птушкамі ўзнімаюцца ўгару, апускаюцца на дахі, падаюць на зямлю.

Усё шырэй і шырэй разгортваецца па небу агнявая заслона. З поўдня на поўнач цягнуцца на сярэдзіну неба аграмадныя палыхаючыя пальцы. І рукі волата накідваюць на бледны месяц полымя,

душаць яго, затуляюць—і ўжо не відаць яркага месяца. А ён зусім нядаўна плыў па сінім полі нябеснага бяздоння, залаціў краі ваўняных хмарак і сеяў срэбныя зёрны на спячае мястэчка.

— Бум-бум-бум!—звіняць глухім басам званы праваслаўнай царквы.—Пажар! Пажар!..

У тонкім візгаце на меднай мове чуецца трывога са званіцы каталіцкага касцёла.

Прачынаецца ўсё мястэчка:

— Пажар! Пажар!

Збянтэжаныя, спалоханыя людзі выбягаюць з хат, крычаць, ламаюць рукі, скубуць сабе валасы, бягуць з двара ў двор, галосяць, цягнуць бэбахі на гароды.

Жаласліва і пранізліва мэкаюць козы, сакочуць спалоханыя куры. Дзе-ні-дзе пераклікаюцца рыканнем каровы.

Гарыць вуліца на схіле гары, драўляныя хаты на рынку, і іншыя вуліцы.

Успыхвае агонь у татарскай слабадзе.

Бягуць сюды на паратунак з блізкіх вёсак. Бягуць сяляне з сякерамі, вёдрамі. Але не памагае.

Сярод людскога тлуму і голасу ўецца, нібы ўюн, Шмуэл Шмелькес у вывернутым кажуху, падперазаным ручніком, абуты ў старыя атопкі.

Ён войкае, стогне, крычыць, камандуе:

— Вады, вады! Сюды падавайце! Нясіце туды! Туды!

Ён аглядаецца ў бакі, шнырае позіркамі ў людскі тлум і пачынае на малітоўны лад прычытваць—галасіць, і ў голасе яго чутны слёзы:

— О, якую долю горкую дае нам господзь-бог... Агнём і дымам ідзе... Дробныя дзеткі без даха... У адну ноч голыя, як бізуны...

Усю ноч неба было затулена агнявой палыхаючай заслонай.

Раніцою заслона стала дымнай і чорнай.

Гарэла.

Нібы скрыначкі з лучыны, разбураліся хаткі, агнявыя языкі злізвалі іх з графскай зямлі.

Полымя балявала ў мястэчку аж двое сутак. Ад большасці чалавечых гнёздаў засталіся на памятку толькі печы з комінамі ў купінах вугалляў і попелу.

На папялішчах сядзелі напоўпрытомныя жанчыны, ламалі рукі, галасілі, плакалі. Слёзы іх цяклі ручайкамі па загрыміраваных сажай тварах. Мужчыны моўчкі шнырылі па папялішчах і збіралі ў кучы недагарэлыя бярвенні, галавешкі, асобна адкладвалі жалезныя крукі, клямкі, цвікі... Большасць местачкоўцаў засталася на чыстым полі без дахаў.

Хата Хаіма-Мойшэ Бройдэ не згарэла.

Шолам-Янкель у часе пажара вызваліўся крыху з-пад нагляду свайго бацькі.

Больш таго, у гэтыя дні Шолам-Янкель упершыню адчуў сябе дарослым. Ён дапамагаў цягаць вузлы і пакункі з гарода назад у хату. Ён дапамагаў ставіць на месца сталы і лаўкі, кнігі ў шафы.

Яшчэ адну радасць спазнаў Шолам-Янкель у часе пажара.

Фрадл, дзяўчынка, што гуляла з Бенчэ і Шолам-Янкелем у жмуркі і хованкі, жыве цяпер у іхнай хаце. Шолам-Янкель перавозіць разам з ёю на свой двор усё, што засталося ад пагарэлай хаты бацькоў Фрадл.

«Ён прышоў з тачкай да пагарэлай хаты Фрадл якраз тады, калі і Фрадл была там. Моўчкі не гаворачы, ні слова, пачаў ён там шукаць, капаць і класці ў тачку ўсё, што толькі падвернецца пад рукі, а таксама і тое, што знаходзіла Фрадл, прымаючы з яе рук. Калі тачка напоўнілася, ён павёз яе дахаты, чырвоны як бурак, а Фрадл дапамагала яму, падштурхоўваючы тачку ззаду. Такім чынам разабраў ён цэлы комін, печку і прывёз цэглу дахаты. Радасць асілка, што вяртаецца з вайны з вялікай здабычай, з золатам і срэбрам, не магла параўнацца з радасцю Шолам-Янкеля тады, калі ён разам з Фрадл цягнуў тачку з цэглаю, кавалкамі жалеза і іншый драбязой з пажару.

Яму балюча было прызнацца сабе ў тым, што пажар, гэткая навала, гэткае няшчасце для стольkіх людзей, у глыбіні душы быў яму вельмі да спадобы...»

Па акольных мястэчках збіралі хлеб для пагарэльцаў. Сёння з'явіліся першыя фурманкі з хлебам.

Яны стаяць на рынку.

Дзеці, жанчыны, старыя і маладыя—беларусы, яўрэі, татары—галодным натоўпам наступаюць на вазы.

Ля вазоў стаяць «апякуны» мястэчка—Хаімка-зборшчык, Шмуэл Шмелькес, крывы Ноех ды іншыя. Гэта яны будуць дзяліць хлеб паміж галоднымі.

Лямант дзяцей, выццё жанчын, праклёны мужчын зліваюцца ў адзін жудасны хор, які невідочнымі хвалямі коціцца па рынку.

— Што вы на гэта скажаце? Га? Да скулы—прышчык. Чулі, што бондар Тодар, гаварыў? Га?—сказаў ахрыплым голасам нізенькі Эля Тугу, глухі кравец з Млынавай вуліцы.—Так жадае бог. Га?—і Эля Тугу ў роспачы махнуў рукой і гучна плюнуў.

— Ты гэта, Эля, аб пляцах?—запытаў даўганосы і шыракаплечы каваль Айзік.—Вось яны, слупы горада, рэб Хаімка і Шмуэл Шмелькес! Іх мала абыходзіць! Іхнія мураванкі засталіся. Іхнія пляцы забудаваныя. Ім без лесвіцы ў неба ляцець і богу песні спяваць... Хі-хі-хі... ха-ха-ха...

Рогат Айзіка скрыпеў, як нямазаныя калёсы і яго саркастычныя вочы з чырвонымі абадкамі, з абгарэлымі брывамі, з вясёлым смуткам таропіліся ў людзей.

— Чаму табе не строіць кепікаў? Чаму не жартаваць? Гэта-ж твая хата і кузня засталіся цэленькімі...—з дакорам сказаў каваль Янкель, нібы вінаваціў Айзіка, узняў рудыя бровы і затрос даўгой ільняной барадой.

Гэтыя два кавалі ніколі спакойна між сабой не гавораць. Яны заўсёды сварацца. Кожны раз вылазіць наверх, як шыла з мяшка, непрыязнь двух канкурэнтаў.

Янкель трасе ільняной барадой. Айзік чмыхае носам.

Янкель крычыць:

— Калі твае будынкі засталіся, дык табе весела?

— Айзік крыўдліва пытаецца:
— Чаго крычыш, боўдзіла?
Янкель тлумачыць:
— Каму баліць, той і крычыць.
Айзік сароміць Янкеля:
— Эх, ты боўдзіла. Не ведаеш нават, што на свеце робіцца. Што пляцы? Якія пляцы?
Эля Тугу стаіць каля іх, навастрыўшы вушы і прыслухоўваецца.
— Гад,—кажа Эля.—Вось Тодар! Няхай сам раскажа.
— Што ў цэху гавораць аб пляцах?—пытаюцца ў Тодара.
— Невясёлае, кажуць, браткі...—Тодар цярэбіць сагнутым тоўстым пальцам патыліцу, моршчыць лоб і дадае:—Граф хоча, каб цэхавыя і ўсё мястэчка, якое жыве на яго зямлі, хадзіла некалькі дзён у месяц на прыгон у млын, у бровар, на поле...
З усіх бакоў—спалоханыя і здзіўленыя галасы:
— Нас на паншчыну?!
— Пад бізуны гайдукоў?
— Разбой! Здзек...
— А дзе старыя прывілеі?
— Прывілеі...
Тодару не даюць гаварыць. На розныя лады і галасы чуваць словы «прывілеі».
З хвалі галасоў вылазяць на ўзверх басавыя ноткі Тодара:
— Граф кажа, што дзядоўскія прывілеі мышы згрызлі... Вось што кажуць, лебедзікі мае... Гора ідзе на нас, суседзі мілыя... Гора...
Дзеляць хлеб, хвалюецца натоўп галодных людзей. Штурхаюць адзін аднаго ў бокі.
Мацнейшыя прабіраюцца наперад, бліжэй да вазоў. Чутны лаянка, крыкі. Ніхто не заўважае, што пачынае накрапваць дробны, як мак, дожджык. Людскія галасы зліваюцца ў адно мора войкання, у нейкі гул без слоў. Нечакана ў гэты гул урываецца спеў меднай трубы. Натоўп у адзін міг нямее.
— Што гэта?
— Хто гэта?
Натоўп рэжа на дзве часткі двуколка графскага аканома. За двухколкай—цэлы атрад конных гайдукоў. Зверху ўніз паглядаюць яны на натоўп тупымі вачыма, ляскаюць у паветры бізунамі.
Людзі даюць дарогу дзікай кавалькадзе, спалохана ціскаюцца ў бакі. Чуваць шэпты:
— Аканом...
— Аканом...
Аканом спыніўся на рынку. Вылез з двуколкі. Гайдукі абкружылі людзей, гналі іх ад вазоў з хлебам да пляцоўкі, дзе стаяў графскі аканом.
Аканом, светлавусы немец з ружовым тварам, узлез на адну з абгарэлых пячэй, і пачаў аглядаць местачкоўцаў халоднымі вачыма колеру волава. Ён дастаў з кішэні паперу і стаў чытаць манатонным голасам...
І, нібы новы пажар пачынаецца... Людзі камянеюць на месцы ад страху і роспачы, што агортвае іх усё больш і больш, з кожным но-

вым словам аканома. Ціхая жуда праносіцца над галовамі людзей, нібы смерць.

З графскай паперы местачкоўцы даведваюцца, што граф забараняе ім адбудоўвацца на старых пляцоўках, калі яны не абавязуюцца адпрацоўваць на карысць графа некалькі дзён у месяц: чыніць масты, ісці «на гвалт», працаваць на графскім полі, рамантаваць бровар, кожны год дастаўляць у двор вызначаную колькасць патакі, бочак для бровара і яшчэ... і яшчэ...

— Пан аканом!—крыкнуў з грамады бондар Тодар.—Мы ніколі на паншчыну не хадзілі... Мы цэхавыя...

— Цэхавыя!—пачуўся стогн аўчынніка Мунькі, старога татарына з голенай сіняватай галавой.

— Мы ніколі на паншчыну не хадзілі!

— Не хадзілі!

— Разбойнікі! П'яўкі! Новая бяда на галаву! Няхай кагал умешваецца! Дзе кагал?—гэта надрываўся ад крыку каваль Янкель, трос ільняной барадой і ўзнімаў угару кулак.

Узбураная грамада падхапіла апошняе слова Янкеля:

— Кагал!

— Дзе кагал?

Айзік паказваў рукой на Шмуэла Шмелькеса і Хаімку-зборшчыка.

— Вось яны—апякуны горада! Няхай скажуць, што рабіць? Вось яны! Вось яны!

Адна маўклівая жанчына з гнеўнымі агнявымі вачыма схапіла галавешку, высунулася наперад і кінула ў аканома. Галавешка ўпала ля яго ног. Аканом зараз-жа саскочыў з печы і пачаў шукаць вачыма гайдукоў. Жанчыны, дзеці і многія з мужчын пачалі закідваць аканома вугаллем, каменнем, цаглінамі. На паратунак імчаліся на конях гайдукі.

Тут спатрэбілася і тачка Шолам-Янкеля з цэглай. Натоўп накінуўся на яе, як незадоўга перад тым на вазы з хлебам. Хапалі цагліны і кідалі ў гайдукоў.

Шолам-Янкель і Фрадл пабеглі за натоўпам. Толькі назаўтра даведаліся яны аб тым, што тачка іх паламана на кавалкі.

Шмуэл Шмелькес і Хаімка-зборшчык уварваліся ў грамаду, узнімаючы рукі ўгару і ўпрашвалі:

— Людзі, злітуйцеся над вашымі жонкамі і дзецьмі... Усё гэта ад бога...

Гайдукі ўрэзаліся ў натоўп і пачалі сцёбаць бізунамі па галовах, па тварах, па вачах. З візгатам і войканнем уцякала грамада з рынку ўніз, на схіл гары. Нагамі таптал па толькі што атрыманым хлебе. Гайдукі, азвярэлыя, лютыя, дзікія гналіся за імі далёка за мястэчка.

Праходзілі дні, тыдні. Загад графа прыціснуў местачковую беднату дашчэнту. Многія пакінулі мястэчка і пусціліся ў вандроўку па свеце. Некаторыя доўгія гады судзіліся, шукалі сваю праўду, але пляцоў адсудзіць у графа не здолелі...

Заможнікі адкупліваліся ў Шмуэла Шмелькеса, а вялікая частка бедноты і рамеснікаў прынялі на сябе абавязак, які ўсклаў на іх

граф: пэўныя дні ў кожны месяц яны працавалі на арандатара прапінацыі—на Шмуэла Шмелькеса.

А ён «Шмелькові́ч», тарарамкаў шабасавыя песні без слоў і паказваў народу сваё шчырае, добрае сэрца: ён, нібыта, даставаў бярвенні для тых, якія ўпрагліся ў ярмо яго паншчыны і за гэта адрабляялі яму ўдвойчы і ўтройчы. З гэтага часу ён быў забяспечаны дарэмнымі кваліфікаванымі рукамі ў сваім велізарным млыне, у бровары і на полі, што ён арандаваў у графа Вітгенштэйна.

Вынікі пажару адчуў Шолам-Янкель значна пазней, калі і яго самога закранула няшчасце. Бацькі Фрадл, страціўшы надзею ўзняцца зноў на ногі ў мястэчку, развіталіся з ім назаўсёды. Яны ўзялі дзяцей і паехалі кудысьці далёка.

Шолам-Янкель столькі часу быў разам з Фрадл і так прывязаўся да яе, што раптоўны ад'езд дзяўчыны здаваўся яму ўдарам у самае сэрца.

Жыццё яго было сапсута!

## Трактат наконт галечы

У 40-ых гадах мінулага стагоддзя кніганошы, што ездзілі звычайна па гарадах і мястэчках, прадаючы рэлігійныя кніжкі, пачалі браць з сабою таксама і творы свецкай літаратуры, як белетрыстыку, так і публіцыстыку. З'яўляліся яны і ў мястэчку Капылі.

У той час у Капылі была ўжо досыць значная група асветнікаў. Былі сярод іх нават і такія, што мелі гандлёвыя справы з Прусіяй. Яны ездзілі за граніцу і прыязджалі адтуль у цыліндрах, у фраках, з падстрыжанымі барадамі і падрэзанымі пейсамі. Яны прывозілі з сабой усялякія асветніцкія выданні і нават кнігі на нямецкай мове.

У хату бацькі Мендэле таксама пранікла асвета праз аднаго з зяцёў, які жыў у другім горадзе. У хату да Хаіма-Мойшэ Бройдэ прыходзілі «зяці, сярод якіх былі і такія,—піша Мендэле Мойхер-Сфорым,—што жылі ў большых гарадах. Гэта можна было адразу заўважыць па іхнай вопратцы і паводзінах, бо яны значна адрозніваліся ад жыхароў мястэчка Капыля. Трымаліся яны ўсе разам, адной кампаніяй, а паводзіны іх набывалі часам такі «модны» характар, што ў мястэчку на іх глядзелі скоса, мармочучы сабе пад нос, што яны, напэўна, належаць да новага свету».

Асабліва былі распаўсюджаны ў той час у Капылі творы Айзіка-Меера Дык. Гэтыя творы былі ў аднаго з швагроў Мендэле, які чытаў іх.

У Айзіка-каваля Мендэле-дзіця меў магчымасць чуць, як цытыруюць там на сінагагальны матыў усялякія пародыі на талмуд і кпяць пры гэтым з набожных яўрэяў у талмудычным стылі.

У той час была асабліва распаўсюджана вядомая пародыя Айзіка-Меера Дыка пад назвай «Трактат наконт галечы». Гэта пародыя мела вялікі ўплыў на пісьменнікаў гаскалы і таксама на Мендэле.

У пародыі Дыка ўбачыў Мендэле ўпершыню высмейванне хейдэра. З надзвычайнай сілай зрываючы маскі з усялякіх святынь феадальна-рабінскага свету, Айзік-Меер Дык бязлітасна біў у сваёй пародыі і па хейдэру.

— «Дзеці з хейдэра,—пісаў ён у талмудычным стылі,—спяць прыблізна не больш як дзве гадзіны ў суткі. У тры гадзіны раніцы ідуць яны ў хейдэр. Цэлую гадзіну моляцца яны там, потым снедаюць, у чатыры гадзіны яны ўжо сядзяць і вучацца, а рэбе стаіць над імі і б'е. У першай гадзіне, удзень, дзеці абедаюць, а рэбе ідзе сватаць. У тры гадзіны прыходзяць дзеці зноў у хейдэр і чакаюць рэбе з гадзіну, другую. У пяць гадзін садзяцца яны зноў вучыцца, а рэбе стаіць над імі і б'е...»

Мендэле, для якога хейдэр быў заўсёды цяжарам, які імкнуўся быць «тутэйшым», знайшоў у гэтым месцы «Трактата» лепшае пацверджанне сваіх пачуццяў.

З «Трактата наконт галечы» даведаўся Мендэле, што акрамя яўрэяў жывуць на свеце яшчэ і іншыя народы.

Ён даведаўся таксама, што ў гарадах і мястэчках мужчыны і жанчыны марнуюць сваё жыццё ў плётках, у хлусні, у ашуканстве. Ён даведаўся, што гэта зусім не сорам,—займацца фізічнай працай.

«Дачкі Ізраіля,—пісаў Дык у талмудычным стылі,—амаль нічым не адрозніваюцца ад дачок усіх іншых народаў. Хіба толькі тым, што апошнія ткуць і вяжуць для сваёй сям'і і для продажу, а дочкі Ізраіля займаюцца абгаворамі адна адной». Але тут Дык робіць памылку. Не ўсе дочкі іншых народаў «ткалі і вязалі», для сваёй сям'і, але толькі дочкі працоўнага сялянства іншых народаў займаліся гэтым. Дочкі багатых класаў гэтых народаў не ткалі і не вязалі, на іх працавалі тады прыгонныя слугі. Дочкі яўрэйскай беднаты можа і не займаліся тым, што «ткалі і вязалі» для сваёй сям'і, але яны ткалі і вязалі і скублі пер'е для знаці, для «добрых гаспадароў».

Новае асяроддзе Мендэле і першае знаёмства яго з новымі кнігамі, якія гэтак адрозніваліся ад тых, на якія ён марнаваў столькі часу ў хейдэры і ў хаце свайго бацькі, выклікала цэлы пераварот у яго адносінах да ранейшых аўтарытэтаў. Прыслухоўваючыся да размоў, якія вялі ў хаце яго бацькі маладыя людзі з «моднымі паглядамі», і да размоў у хатах Айзік-каваля і Герцэля Кейлес, Мендэледзіця пачаў адносіцца скептычна да тагочаснага навакольнага яўрэйскага жыцця.

Пад выглядам талмудычнага трактата Дык першы пачаў высмейваць духоўную і матэрыяльную галечу:

«Рабіны вучылі: маленькі яўрэй праз сем год робіцца гарэзай, яшчэ праз сем год ён робіцца жаніхом, жаніх робіцца праз сем год бацькам шматлікіх дзяцей, яшчэ праз сем год ён робіцца меламедам, меламед праз сем год робіцца сватам, сват праз сем год робіцца бадхенам, бадхен праз сем год робіцца батленам, а пасля гэтага ён памірае».

Гэты «Трактат наконт галечы» Айзіка-Меера Дыка ўплываў на Мендэле не толькі сваім зместам, але і сваёй формай.

## Бенчэ

Блізкае сяброўства з Бенчэ таксама ўплывала на Мендэле.

— «Бенчэ,—піша Мендэле-дзядуля,—адрозніваўся ад усіх іншых дзяцей у мястэчку. Гэта быў адначасова і гарадскі і вясковы хлопец. Ён мог добра вучыцца ў хейдэры, але не бачыў смаку ў вучэнні. Затое з вялікім замілаваннем аддаваўся ён гаспадарскім справам у хаце і ў полі. Звычайна ён быў добрым, ціхім і больш рабіў, чым гаварыў».

Хлапец гэты, які быў адначасова хлопцам «і гарадскім і вясковым», цягнуў Мендэле з свету завоблачнага на зямлю.

Пра гэтыя часы свайго дзяцінства ў далёкім, закінутым беларускім мястэчку ўспамінае ў сваім кабінеце пісьменніка сівы дзядуля: «Нешта сумуе ён, вочкі яго глядзяць, глядзяць туды, дзе неба апускаецца да зямлі, дзе цягнецца цёмназялёная лінія высокіх дрэў. Ён бачыць,—о, там сядзіць Бенчэ. Адным скачком ён каля яго. Бенчэ ківае яму, шморгае носам, падымаецца і ідзе, а Шоламка з ззяючым тварам за ім. Гэта ідуць яны далёка за мястэчка на шпацыр».

Бенчэ вадзіў яго не толькі ў майстэрню свайго бацькі і ў кузню да Айзіка-каваля. Бенчэ паказаў яму яшчэ адну галіну чалавечай працы: засеяныя палі. Бенчэ звярнуў яго ўвагу на прыгажосць прыроды. Ён першы адхіліў Мендэле ад аскетычнага ўспрыймання прыроды, уласцівага феадальна-рабінскаму яўрэйству.

Пра лясы, палі і рэчкі, жыта і пшаніцу чуў Мендэле яшчэ ў хейдэры. Але ён уяўляў іх сабе як нешта, што было калісьці ў мінулым, калі гаварылі на арамейскай мове. Пра адну раку ён ведаў, што яна існуе недзе. Але дабрацца да яе вельмі цяжка. Цэлы тыдзень кідае яна камені, і толькі адзін дзень на тыдні адпачывае,—у суботу.

Бенчэ паказаў яму, што недалёка ад яго хаты, паміж замкавай гарой і татарскім канцом, цячэ таксама рэчка, але ціхая, люстраная, спакойная. Бенчэ першы адцягнуў фантазію Мендэле ад свету чарцей і зданей, адагнаў ад яго страх перад неіснуючай, надуманай небяспекай.

Вось вышлі яны за мястэчка.

Яны бачаць здалёку прыгожы краявід: рэчку, аздобленую з усіх бакоў золатам. Навокал усюды пшаніца. Сінія кветкі паміж калоссяў цешаць вока. Лётаюць і скачуць усялякія стварэнні, напаўняючы вушы сваім гудзеннем».

Блізкае знаёмства Мендэле з прыродай усё больш адцягвае яго ад сінагагальнага асяроддзя. Ён позніцца на вячэрнюю малітву. Ён вучыцца мала. Ён пачынае цікавіцца сельскай гаспадаркай, ён выпалвае градкі на гародзе.

«Ён шукае сабе работы на гародзе, што знаходзіцца за хатай, поўзае паміж градак, рве цыбулю, рэдзьку, агуркі. Ён вырывае крапіву і па дзесяць раз на дзень аглядае зеляніну, ці расце яна. Ён займаецца галубамі, для якіх ён робіць з саломы гнёзды на гары. Трымае ён таксама і птушак у клетках. Садзіць квактуху на яйкі ў кошыку пад ложкам і часта глядзіць, ці не вылупіліся з іх куранятkі».

Зацікаўленасць Мендэле да прыроды, да працы, яго адыход ад фантастычна-ілюзорнага свету рабінскага яўрэйства не падабаліся яго бацьку, Хаіму-Мойшэ Бройдэ, капыльскаму паважнаму гаспадару.

— «Ты!—казаў рэб Хаім сваёй жонцы, якую ён па яўрэйскаму звычаю, ніколі не называў па імені,—ты! Індычка—твая справа. Захацелася ёй мець пісклянят! А тым часам хлапец не вучыцца. У яго на ўме толькі індычкі ды пісклянята. Н-н-ну!»

— «Тора—найлепшы тавар»,—тысячагоддзямі гучэла гэта песенька яўрэйскага гандлёвага капітала,—песенька ліхвяроў і багатыроў. Вывучаць тору ў юнацтве, а потым «гандляваць разінкамі і міндалём»... Але Мендэле хоча браць прыклад з Бенчэ і з яго бацькі Геруля Кейлес не толькі ў сельскай гаспадарцы, але і ў рамястве, у мастацтве. Ён займаецца разбярствам, ён малюе, ён бярэ прыклад з рамесніка Геруля Кейлес, бацькі свайго прыяцеля.

## Шлейер або жаночы галаўны ўбор

40-ыя і 50-ыя годы мінулага стагоддзя характарызуюцца моцным развіццём капіталізма ў былой царскай Расіі, у тым ліку і ў яўрэйскай «черте оседлости». Збядненне яўрэйскіх дробнабуржуазных мас усё больш павялічваецца. Значная частка яўрэйскага дробнабуржуазнага насельніцтва пачынае перасяляцца ў буйнейшыя цэнтры.

У буйныя гарады пераязджаюць і яўрэйскія багатыры, каб прыстасаваць там свае капіталы да іншых галін. Яны засноўваюць фабрыкі, банкі, гандлёвыя канторы. Пераязджае ў горад і частка яўрэйскай беднаты, дзе яна ўцягваецца паступова ў капіталізіраваную прамысловасць.

Але большая частка яўрэйскага дробнабуржуазнага насельніцтва застаецца ў мястэчку і ўсё больш бяднее. Капіталістычная прадукцыя падрывае існаванне дробнабуржуазных рамеснікаў. У асабліва цяжкім становішчы апынулася тая частка яўрэйскага насельніцтва, якая была звязана эканамічна з арандатарамі, з памешчыкамі. Памешчыкі самі пачынаюць вывозіць сваю прадукцыю за мяжу, або прадаюць яе буйным экспартным гандлярам.

Павялічваецца таксама і збядненне сялян.

У буйных цэнтрах яўрэйскай «черты» ўзнікаюць фабрыкі—мануфактуры па вырабу ўсялякай тканіны. Гэтыя фабрыкі выпускаюць прадукцыю значна лепшую, прыгажэйшую і таннейшую за вырабы большай часткі местачковых рамеснікаў. Развіццё капіталізма адштурхоўвае з свайго шляху ўсё, што звязана з феадальнымі суадносінамі, з феадальным бытам. Кожны спрабуе прыстасавацца да новых умоў. Жанчыны і мужчыны заможных пластоў пачынаюць змяняць свае аблічча, сваю традыцыйную яўрэйскую вопратку.

Старую яўрэйскую вопратку выраблялa значная колькасць рамеснікаў, якія працавалі выключна ў гэтай галіне, каб не парушаць законаў яўрэйскай рэлігіі.

Але цяпер з'яўляецца шмат тандэтнікаў, якія вырабляюць гатовыя рэчы як для няяўрэйскага, так і для яўрэйскага насельніцтва.

Забарона насіць традыцыйную яўрэйскую вопратку была таксама прычынай эканамічнага заняпаду большай часткі яўрэйскіх рамеснікаў у гарадах і мястэчках. Узнікаюць буйныя майстэрні, якія выраб-ляюць шапкі, чапцы, кучмы. Значная частка рамеснікаў застаецца без работы, ператвараючыся ў беднякоў і жабракоў.

Мястэчка Капыль апынулася ў асабліва цяжкім становішчы. Асноўным заняткам капыльскага насельніцтва было ткацкае рамяство. Неяўрэйскае насельніцтва Капыля складалася пераважна з ткачоў, арганізаваных у цэхі яшчэ з 17-та стагоддзя. Былі ў Капылі таксама і яўрэйскія ткачы.

Як першыя, так і апошнія працавалі на заказах, якія давалі ім капыльскія купцы.

Галоўным заказам быў шлейер, турбан, традыцыйнае ўбранне яўрэйскіх жанчын. Выраблялі турбаны ўсялякіх сартоў, лепшыя і горшыя. Прадаваліся яны выключна ў яўрэйскім асяроддзі.

Кожная жанчына павінна была насіць на галаве шлейер. Багатыя насілі звычайна турбан з прыгожымі аздобамі. Не было ніводнай яўрэйскай жанчыны, якая не насіла-б на вуліцы турбана.

На кірмашах у Капылі выстаўляліся шлейеры ўсялякага вырабу,—шлейеры, упрыгожаныя жэмчугам і дыяментамі, звычайнымі шклянымі пацеркамі, вышытыя залатымі ніткамі і іншыя. За імі прыязджалі сюды гандляры з усіх гарадоў і мястэчкаў Беларусі, Валыні і Падоліі. Яны скупалі шлейеры вялізнымі партыямі, можа дзесяткамі тысяч, і развозілі іх па ўсёй краіне.

У сваім «Шлойме рэб Хаіма» Мендэле Мойхер-Сфорым піша пра шлейер гэтак:

«Шлейерам называўся тонкі кавалак палатна, даўгі і вузкі як ручнік... Гэтым ручнікам абкручвалі жанчыны галаву так, каб ззаду, на патыліцы, звісалі два канцы, па велічыні і па выгляду нібы крыллі ветрака, а з бакоў—два меншыя, якія называліся «веерамі». Абкручаную галаву абкружала як абруч складзеная хустка».

Вакол гэтага занятку капыльскіх рамеснікаў кармілася не мала клерыкаў, якія выдавалі пасведчанні ў тым, што гэта—тканіны кашэрныя. Нават гандляваць шлейерамі кагал дазваляў толькі «пэўным» людзям, здаючы права на гандаль у арэнду. Арэнда знаходзілася ў руках некалькіх «паважных гаспадароў» у мястэчку. Сярод сваяцтва Мендэле былі таксама асобныя ўласнікі гэтай арэнды.

Закон аб тым, што яўрэі павінны апранацца па-нямецку, або як усё навакольнае насельніцтва, спыніла выраб у Капылі спецыфічнай яўрэйскай прадукцыі. Гэта яшчэ больш абвастрыла эканамічны крызіс у Капылі, ад якога пацярпелі таксама і бацькі Мендэле.

Вось што піша Мендэле-дзядуля пра гэты крызіс у Капылі:

— «У мястэчку з'явіліся новыя беднякі, свежаспечаныя жабракі. Заняпалыя гаспадарчыкі, абцяжараныя дзецьмі, ператвараюцца ў меламедаў. Батлены і меламеды растуць як крапіва. Але няма столькі вучняў, колькі настаўнікаў. Кепска. А калі людзям кепска, яны робяцца самі кепскімі. Яны грызуцца, яны сварацца. Кожны хоча выхапіць кавалак хлеба ў другога, усе паміж сабой як на шпільках».

Соцыяльныя супярэчнасці ў мястэчку вельмі абвастрыліся. Так было не толькі ў Капылі, але і ў Вільні, у Віцебску, Мінску і ў іншых гарадах і мястэчках.

Кагальныя справы таксама пагоршалі. Галоўная крыніца па здабыванню грошай ад дробнабуржуазных і бядняцкіх мас—такса дае мала прыбытку. Бедната пачынае зусім адмаўляцца ад мяса.

Гандляры шлейерамі разараюцца і ўцякаюць з мястэчка, пакідаючы жонак і дзяцей. Рамеснікі патрабуюць грошы. Крычаць, б'юцца. Адзін з дзядзек Мендэле таксама збанкрутаваў і ўцёк з мястэчка. Людзі прышлі патрабаваць грошы ў бацькі Мендэле, у пакінутых дзяцей.

— «На рэб Хаіма (бацька Мендэле) заняпад гандлю адбіўся вельмі дрэнна. Яго замужнія і жанатыя дзеці засталіся без заработку,—расказвае Мендэле ў сваім «Шлойме рэб Хаіма».—Швагар, які гандляваў ніткамі, збанкрутаваў і ўцёк, пакінуўшы, як на вадзе, жонку з малым дзіцем. Яны засталіся на шыі ў рэб Хаіма. Уласныя яго справы былі таксама кепскія. Такса на мяса, якую ён трымаў у апошні час, не давала яму прыбытку. Народ еў мала мяса. У хаце было не весела».

Мендэле-дзіця таксама пачаў адчуваць змены ў жыцці свайго бацькі. Знікла кудысьці ранейшая самаўпэўненасць, задаволенасць.

Самаздаволены, заможны гаспадар, Хаім-Мойшэ Бройдэ, спакойны, павольны, заўсёды з усмешкай, пачаў цяпер часта злавацць. На твары яго з'явіўся выраз заклапочанасці, смутку. «Заклаўшы рукі за спіну ходзіць ён па хаце ўзад і ўперад, часта спыняецца, закусіўшы губу і пахмурна глядзіць навокал». Раптам з'явіліся ў яго сівыя валасы. Ён пачаў заўчасна старыцца, а было яму тады ўсяго год сорак два ці тры.

Не дапамагаюць ужо пастановы кагала аб павышэнні каробачных збораў з кожнага фунта мяса ў тры, у чатыры разы больш, чым каштуе самае мяса. Яго больш не ядуць.

Усё гэта паклала канец бесклапотнаму, сытаму жыццю Хаіма-Мойшэ Бройдэ.

Эканамічнае становішча яго пахіснулася. Ён захварэў і ў хаце канчаткова запанавала нястача.

## Княжаскі лейб-медык

Было гэта ў месяцы красавіку. Дзень быў цёплы, вясновы. Сонца пакончыла з апошнімі рэшткамі снегу, якія дзе-ні-дзе засталіся яшчэ на рынку пасля вясновых адліг. Зямля была гразная і глiністая. Воблакі адлюстроўваліся ў базарных калюгах.

Каля аднаго з лепшых дамоў на базары, ля ганку Хаіма-Мойшэ Бройдэ стаяў натоўп з мужчын і жанчын. Яны горача спрачаліся, махаючы рукамі і трасучы бародамі. Яны гаварылі аб цяжкім стане здароўя гаспадара гэтай хаты. Адны гаварылі пра нявыплачаныя пазыкі, другія шкадавалі яго вялікую сям'ю, а некаторыя нават лаяліся.

Недалёка ад людзей стаяла карэта з чатырма коньмі, чорнымі, бліскучымі панскімі коньмі. Коні білі пярэднімі капытамі аб зямлю,

схіляючы ўніз галовы. Фурман сядзеў злосны і ганарлівы. Паўлінавае пер'е яго кучмы красавалася на сонцы. Бліскучыя сярэбраныя гузікі на яго ліўрэі адлюстроўваліся ў вадзе.

Натоўп сялян, мяшчан, яўрэяў і татар, мужчын, жанчын і дзяцей цясніўся каля карэты, у якой нікога не было.

Кожны з іх меў сваю хваробу. Тут былі людзі з каўтуном і з пархамі і з каростай, кульгавыя і гарбуны. Усе яны чакалі вялікага прыдворнага княжаскага доктара, які прыехаў сёння, у суботу, да цяжка хворага Хаіма-Мойшэ.

Людзі цясніліся вакол карэты і лаялі фурмана, які не падпускаў іх падыйсці бліжэй. Раптам дзверы ў хату Хаіма-Мойшэ шырока адчыніліся.

На ганак вышаў высокі, тлусты, шырокі чалавек гадоў семдзесят з вялізным брухам. Яго тлусты, прыпухлы твар быў паголены. На галаве яго была высокая, сабалёвая штраймл. Вадзяністыя вочкі міргалі. З-пад расшпіленай лісінай шубы быў відаць кароткі сурдут і доўгія унцэс. Гэта быў зяць прыдворнага краўца, лейбмедык Радзівіла, доктар Шмуэль Кушэлеўскі.

Ён быў заўзяты Любавіцкі хасід і апрача гэтага асветнік. Ён пісаў оды польскім магнатам па-гебрэйску, па-французску і папольску. Рабін дазволіў яму галіць бараду і ездзіць у суботу.

Увесь натоўп кінуўся ад карэты да ганку. Кушэлеўскі штурхаўся, тупаў нагамі, крычаў на ўсіх, але кожны імкнуўся да яго, каб выпрасіць у яго сродак супроць сваёй хваробы.

Сяляне і сялянкі кідаліся на калені і цалавалі яго ногі, але ён сілаю вызваліўся ад іх і сеў у карэту. Ён пісаў рэцэпты і кідаў іх у натоўп. Хворыя на каўтун хапалі рэцэпт супроць кароcты, кароcныя—супроць каўтуна. Змагаючыся за рэцэпты, натоўп крыху адсунуўся ад карэты.

Кушэлеўскі міргануў кучару і коні павезлі яго да сінагогі. Ён паехаў маліцца. У сінагозе ён сказаў: святло Хаіма-Мойшэ гасне...

## Сірата

У мястэчку гаварылі аб тым, што Хаім-Мойшэ Бройдэ дажывае свае апошнія дні, што ён пакідае сірот і вялікія даўгі. Праз некалькі дзён пасля візіта доктара Кушэлеўскага Хаім-Мойшэ памёр.

У хаце Соры Бройдэ запанавала галеча. Яна не магла весці далей справы свайго мужа. Не на адной прызбе ў Капылі гаварылася аб голадзе і нястачы ў сям'і нябожчыка. Смутак і жальба ахапілі «высокага хлопца з крыху кірпатым носам, што надавала яго твару іранічны выраз».

Зноў наблізіўся да яго свет, ад якога вызваляўся Мендэле пры дапамозе рамеснікаў. Ён робіцца аб'ектам кагальнай дабрачыннасці. Ён бачыць у сабе знатнага чалавека, які часова трапіў у галечу. Ён становіцца адным з сталых наведвальнікаў сінагогі. У хаце яму цяжка, бо не хапае самага галоўнага ў жыцці—хлеба.

Багаты гаспадар сярэдняга ўзросту, зяць местачковага багатыра бярэ яго пад свой догляд. Ён суцяшае яго, ён абяцае яму залатыя горы і багаты шлюб. Ён запрашае Мендэле вучыцца разам з ім.

Багаты зяцёк заблытаўся ў вучэнні. Мендэле хоча яму дапамагчы, але зяцю багатыра не да твару, каб яго вучыў бедны хлопец... Дружба парушана.

Сора Бройдэ не хоча, каб сын яе быў рамеснікам, нават калі галодная смерць пагражае ёй з усім яе сямействам. У яе фаміліі ніколі не было «ніводнага пярэхрыста і ніводнага рамесніка».

Знайшліся добрыя сябры, яны дапамагалі бедаваць, уздыхалі, войкалі і мармыталі сабе пад нос. Пасля доўгіх абмеркаванняў сябры вырашылі, што Мендэле, старэйшы з маленькіх дзетак Соры, павінен пакінуць Капыль і паехаць вучыцца ў суседняе мястэчка Цімкавічы. Там ён не будзе бадзяцца па вуліцах і сядзець у кузні Айзіка-каваля. Тым часам і ў хаце адным едаком будзе менш.

У бацькоў Мендэле былі сваякі ў мястэчку Цімкавічы. «Дні» будзе ён мець, прытулак на ноч таксама. Сваякі—багатыя, паважныя яўрэі. Яны звернуць на яго ўвагу.

Мендэле едзе ў мястэчка Цімкавічы. Мястэчка гэта значна меншае за Капыль. На працягу ўсяго лета сядзіць ён у мясцовай сінагозе адзінока цэлымі днямі. Яму сумна. Смутак ціснe яго дзіцячае сэрца. Яго грызе туга па роднай хаце, па роднаму мястэчку, па хвалях жыта на полі Герцэля Кейлес, па вясёлых жартах Айзіка-каваля, па цікавых кніжках Айзіка-Меера Дыка.

Цімкавічы адрозніваліся ад Капыля таксама і тым, што ўсё насельніцтва мястэчка было хасідскім. Тут мог Мендэле наглядаць яшчэ больш моцны фанатызм, яшчэ большую цемру, як у Капылі, Тут нельга было знайсці ніводнай свецкай кніжкі.

Знявагу, пагарду да сінагогі, да набажэнства адчуваў Мендэле ў Капылі яшчэ тады, калі жыў яго бацька, калі добрыя сябры не называлі яго сіроткай. Тут, у Цімкавічах, пазнаёміўся Мендэле з зусім новым характарам набажнасці, якая перавышала нават Лейбку-кодэша ў Капылі.

Кожны дзень прыязджаюць сюды ўсялякія цудадзеі і батлены, куды больш, чым у Капыль. Кожны дзень у Цімкавічах здаваўся Шолам-Янкелю цэлым годам. Усёй душою імкнуўся ён з новага павуціння, якое пачынала яго абвалакваць.

Ледзь дачакаўшы канца лета, Мендэле уцёк з Цімкавіч дамоў, дахаты, да сваіх таварышоў, у роднае мястэчка.

## „Д н і“

Халодны асенні дзень. Цёмныя хмары насунуліся на мястэчка. Дождж, змешаны з снежнай крупою, біў у зацвілыя шыбы местачковых бядняцкіх халупак.

На вуліцах не відаць людзей. Яны сядзяць у сваіх пахілых, напоўразбураных хатах, прытуліўшыся адзін да аднаго, хутаючыся ў анучы і лахманы.

Вось ужо некалькі дзён, як збіраецца Мендэле пакінуць свой родны дом. Апошні вечар праводзіць ён сёння ў хаце, дзе прайшло яго дзяцінства. Восень усё мацней апаноўвае мястэчка. Вецер дзьме, гразь павялічваецца, усё халаднейшым робіцца дождж.

Маці падрыхтавала яму тое-сёе «з сабой» і паклала ў торбу. Ён развітаўся і пайшоў. Пайшоў з кійком у руцэ, з торбай за пля-

чыма, з гары ўніз, у раўніну, якая ляжыць паміж Капыльскай гарой і лесам па дарозе ў Слуцк.

Ён ідзе вучыцца ў Слуцкім ешыбоце. Ён ідзе шукаць сабе мэту ў жыцці. Ён возьмецца там за вучобу. Калі-небудзь прыедзе ў ешыбот багаты вясковы арандатар шукаць жаніха для сваёй «здаровай поўнацелай» дачкі сярод бедных вучоных хлопцаў. Ён Шолам-Янкель будзе добра вучыцца і кіраўнік ешыбота пакажа на яго. Ён ажэніцца і будзе купцом.

У той час у Слуцку быў адзін з буйнейшых ешыботаў на Беларусі. Гэтаму ешыботу былі ўласцівы ўсе тыя адмоўныя, шкодныя якасці, якія былі характэрны для ўсіх іншых ешыботаў. Гэта была фабрыка па выпрацоўцы сапсутых, фальшывых крывадушнікаў, адвечных калек, грубых цынікаў, «чарвякоў у хрэне». Гэта была феадальна-рабінская казарма, у якой муштравалася цэлая армія салдат для рабінскай алігархіі, для крывасмокаў і прыгнятальнікаў яўрэйскіх народных мас з аднаго боку і бездапаможных, адарваных ад жыцця фантазёраў з другога боку.

Вось што пісаў аб ешыботах вядомы крытык 60-ых гадоў мінулага стагоддзя, Уры Коўнер:

«Кіпіць маё сэрца і робіцца мне смутна, калі я бачу, як тысячы людзей гінуць у нікчэмнасці і аднačасова шкодзяць і калечаць усіх навокал сябе. Я не магу маўчаць, не магу не гаварыць аб тым нарыве, які шырока распаўсюдзіўся па ўсяму літоўскаму краю і праз які гінуць тысячы ахвяр. Я кажу пра ешыботы».

Мендэле зрабіўся на пэўны час адной з такіх ахвяр. Тут, у ешыбоце, Мендэле трапіў у бяздонне крывадушнасці, спекуляцыі набожнасцю. Тут убачыў ён нешта накшталт кірмашу, усёроўна як у Капылі на базары: гандлююць, прадаюць і пакупаюць, ашукваюць адзін аднаго. Калі там, на кірмашы, гандлююць хоць сапраўднымі таварамі, дык тут, у ешыбоце, гандлявалі жабрацтвам:

«... Хлопцы, якія мелі хлеб ці грошы, гандлявалі, а тыя, хто не меў ні хлеба, ні грошай, займаліся крадзяжом. Тыя-ж, якія не гандлявалі і не займаліся крадзяжом, сядзелі і апавядалі адзін аднаму жудасныя гісторыі пра разбойнікаў і волатаў, пра чараўнікоў і чарцей, што з'яўляюцца ўначы на полі і зводзяць людзей, пра мерцвякоў, што пакідаюць свае магілкі і блукаюць навокал і лечуць хворых людзей пры дапамозе палявых траў ці мучаюць грэшнікаў, і пра іншыя разумныя рэчы...»

Асноўнай глебай, на якой трымалася ўся гэта армія жабракоў, былі так званыя «дні». «Днём» называўся чужы хлеб за чужым сталом. Кожны дзень у іншага гаспадара. «Дні» трэба было шукаць самому, гэта значыць, хадзіць па хатах і пытацца, ці нельга тут пракарміцца на працягу аднаго дня. Але ў ешыбоце гандлявалі нават і «днямі». Некаторыя хлопцы мелі па сорак «дзён» на тыдзень, а мо' і больш. Яны прадавалі іх бедным хлопцам, якія мелі не больш двух «дзён» на тыдзень. Мендэле таксама іграў на гэтай біржы: прадаваў і купляў «дні».

Мендэле хадзіў маліцца над нябожчыкамі, хадзіў з кіраўніком ешыбота па хатах збіраць падаянне для хлопцаў-беднякоў. Яго за-

цягвае гэта жабрацкае жыццё і ён марыць аб будучыні рабіна ў якім-небудзь маленькім мястэчку.

У 50-ых гадах мінулага стагоддзя Слуцк быў у культурных адносінах не вышэй Капыля. Феадальна-рабінская алігархія была тут нават мацней чым у Капылі.

У Слуцку было ўсё тое, што і ў Капылі, толькі ў пяць-шэсць разоў большае. Той самы бруд, той самы фанатызм, той самы кагал, але ў пяць разоў мацнейшы. Беднасць была тут яшчэ большая, а багатыры—буйнейшыя. Праўда, у Слуцку была ўжо тады досыць значная група асветнікаў, але ў грамадскім жыцці горада яна не карысталася яшчэ ніякім уплывам.

## Ля ганебнага слупа

У Слуцку ўбачыў Мендэле адну з найбольш жудасных праяў фанатызма. На вуліцы стаяў раз'юшаны натоўп і крычаў:

— Забіць яе трэба, лайдачку! Праз яе столькі людзей гіне!

Няшчасную жанчыну цягнуць на школьны двор да ганебнага слупа.

«Вось стаіць яна, грэшніца, на стале,—твар яе бледны, як у нябожчыцы, яна дрыжыць, вопратка ў яе парвана, усё ў пер'і. Яна б'е сябе ў грудзі, а народ глядзіць і кляне і лаецца і крычыць:

— Лайдачка! Лайдачка!

— Яна забіла майго мужа, цадыка!—крычыць высокая хударлявая яўрэйка, пагражаючы кулакамі.

— Калі мы ёй даруем, дык усе загінем!—гаворыць нейкі таўсты чалавек і гладзіць сваю даўгую бараду.

— Нявінныя дзеткі пакінулі праз яе гэты свет!—закрычала раптам ціхая, сціплая жанчына і зірнула на чалавека, што стаяў побач з ёю.

— Толькі ў нашым горадзе можа быць такая распуста!—злосна крыкнула старая яўрэйка і кінула чаравік у галаву грэшніцы.

Няшчасная пахіснулася і ўпала. У натоўпе ўзняўся рогат. Два служкі схапілі яе за рукі і пацягнулі да хаты».

У горадзе быў дыфтэрыт, паміралі малыя дзеці і цёмная маса шукала прычыну гэтаму ў грэхах. Шукалі віноўных і знайшлі жанчыну, пра каторую казалі, што яна нібыта размаўляла з нейкім чужым незнаёмым чалавекам.

Такія экзекуцыі нярэдка можна было ўбачыць у 50-ых гадах у кожным горадзе ці мястэчку Беларусі і Украіны.

Большая частка хлопцаў з ешыбота прымала звычайна ўдзел у такіх экзекуцыях. Ва ўсіх жудасных праявах яўрэйскага фанатызма ешыботнікі былі заўсёды першымі.

## Парушаныя заручыны

Насупроць завулкаў і драўляных хатак, што цісну́цца адна да другой, знаходзіцца на пляцы, пакрытым травой і палыном, двор рэб Ейны.

Двор гэты абкружан вялізным мураваным парканам з дубовымі брамамі з усіх чатырох бакоў. Пасярэдзіне двара ўзвышаецца мураваны палац рэб Ейны. Венецыянскія вокны палаца (такія вокны

былі яшчэ толькі ў слуцкай халоднай сінагозе і ў каталіцкім касцёле) строга глядзяць на бровар, на піваварню і на свірны.

На двары рэб Ейны пануе заўсёды гоман і мітусня. Гоняць «затор» у бровар і дзень і ноч едуць падводы з меднымі бочкамі спірта. Едуць падводы, выязджаюць праз брамы мураванай агарожы ў горад і за горад, у бліжэйшыя мястэчкі і вёскі, вязучы горкую кроплю селяніну-гарапашніку.

Цэлыя мяхі з залатоўкамі і трохрублёўкамі прыбываюць у палац да рэб Ейны, а ён дзякуе за гэта богу: ён мае ўласную сінагогу на двары і дбайна служыць богу яўрэйскага гандлёвага капітала.

Хаця, уласна кажучы, не сам ён служыць богу. Сам ён збірае толькі трохрублёўкі ў шафу, а служыць богу ён наймае іншых. Хай яны вучацца і служаць. У рэб Ейны ў сінагозе навучаюцца толькі «выбраныя».

Бог благаславіў рэб Ейну золатам і срэбрам, шоўкам і футрамі, хлебам і віном. Таксама і дзецьмі благаславіў ён рэб Ейну. Усе яны вельмі ўдалыя і разумныя, спрактыкаваныя ў навуках. Яны гавораць і па-нямецку і па-французску і па-польску і нават па-руску. Ён прывозіў для іх настаўнікаў спецыяльна з-за граніцы.

Толькі адна дачка ў рэб Ейны няўдалая. Толькі адна яна як бяльмо на яго воку. Гэта—дачка яго Фейгл. Яна—нізкага росту. У яе—дзіўныя, маленькія вочкі, ледзь прыкметныя на шырокім, тоўстым твары. У горадзе яе нездарма завуць—«маленькія вочкі». Яна, таксама як усе яе сёстры і браты, вучылася і па-нямецку і па-французску, але ёй ужо амаль восемнаццаць год, а яна ўсё яшчэ ходзіць у дзеўках. Сваты з усяго краю шукалі для яе жаніхоў у Вільні і ў Мінску, у Слоніму і ў Пінску, але не было аматараў на «маленькія вочкі».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо некалькі месяцаў як знаходзіцца Шолам-Янкель на двары ў рэб Ейны. Ён пакінуў слуцкі ешыбот і вучыцца цяпер тут, у якасці аднаго з тых «выбраных», што навучаюцца ў сінагозе слуцкага багатыра Ейны.

Рэб Гірш, поруш *) з Івенца, прышоў сёння ў сінагогу вясёлы. Пульхнай белай рукой здаволена гладзіць ён сваю чорную бараду.

— Ай, добра я з ім дагаварыўся,—сказаў ён, ударыўшы правай рукой па століку і падміргваючы сваімі чорнымі вачыма, другому порушу з тлустымі чырвонымі вуснамі і заўсёды слязлівымі вачыма.

— Што? Адносна сіраты? Наконт сватаўства з Фейгл? Добрая справа.

— Хай будзе ўхвалёна яго імя! Я сказаў яму, што гэта зусім такі не выпадае, каб рэб Ейна парадніўся з збяднелай капыльскай удавой. Але... усевышні падказаў мне трапную думку. Дык я кажу: яна дзеўка ў гадах. Адным словам—добра атрымалася. Няхай дасць ім бог шчасця,—сказаў рэб Гірш і засунуў таўсты палец глыбока за каўнер.

З таго часу ўсе дзесяць «выбраных» пачалі глядзець на Шолам-Янкеля зусім інакш, як раней. Яны стараліся падабацца яму.

Рэб Гірш адчуваў сябе сярод порушаў гаспадаром. Седзячы за

*) Сінагагальны služка, які прысвяціў сябе вывучэнню талмуда.

раскрытым фаліянтам, ён гаварыў сам сабе здаволена ківаючы галавой:

— Хутка пасля вялікадня зраблю я ёй шлюб з гэтым выдатным вучнем; няма сэнсу ёй сядзець далей. Неся, каб яна здарова была, малодшая мая дачка, таксама ўжо дзеўка на выданні, а тым больш і старэйшая.

Усё гэта ён казаў сам сабе, мяркуючы як найлепей выкарыстаць тыя грошы, якія атрымае ён за ўдалае сватанне ад рэб Ейны, слуцкага багатыра.

Усе іншыя порушы зайздросцілі шчасцю рэб Гірша, зайздросцілі таму вялікаму заработку, які павінен быў ён атрымаць у недалёкім будучым. Кожны з іх стараўся чым-небудзь дагадзіць і Шолам-Янкелю і рэб Гіршу, каб таксама перахапіць тое-сёе з вялікіх грошай.

Але Шолам-Янкель сам яшчэ, уласна кажучы, не ведаў, з кім гэта павінен ён ажаніцца. Ён ніколі не бачыў яе, дачкі рэб Ейна. Ён яшчэ, нават, не зусім быў упэўнены ў тым, што яму сватаюць, сапраўды, дачку рэб Ейны. Ад порушаў ён чуў толькі адно: цудоўнае сватанне, сапраўдная яма з шмальцам, ты нарадзіўся ў сарочцы.

Быў зімні вечар. Мароз трашчаў. Ён панаваў як уладар у вузкіх слуцкіх завулках з драўлянымі хаткамі, гонячы жыхароў з аднаго пакою ў другі, з адной хаты ў другую.

У сінагозе рэб Ейны сёння, як і заўсёды ў зімовы вечар, зырка гарэла ў вялізнай кафлянай печцы полымя, распаўсюджваючы вакол сябе густую цеплыню. Порушы чухаліся пад ярмолкамі, абмахваліся поламі кафтанаў.

Рэб Гірш больш як заўсёды чухаў сваю бараду. Ён паклікаў Шолам-Янкеля да сябе і паведаў яму, нарэшце, пра сватанне, і пра нявесту, якую завуць Фейгл.

— Гэтую суботу ты правядзеш у хаце рэб Ейны; калі ты спадабаешся рэб Ейне і яго гаспадыні, дык у наступны тыдзень пашлюць па тваю матку ў Капыль, каб зрабіць заручыны.

Шолам-Янкель усю ноч марыў аб нявесце. Яму здавалася, што ў нявесты яго якраз такія вочы і якраз такія чорныя косы як у Фрадл, якая з ім і з Бенчэ і з іншымі хлапчукамі і дзяўчынкамі гуляла ў жмуркі і хованкі.

Яна, яго нявеста, таксама як і Фрадл завяжа яму вочы суботняю хусткай сваёй маці, яна таксама будзе бегаць з ім па пляцу, а потым схопіць яго раптам сваімі мяккімі ручкамі.

Да мараў аб Фрадл далучалася яшчэ карэта рэб Ейны. От, едзе ён у гэтай карэце, з чатырма бліскучымі чорнымі коньмі. Побач з ім сядзіць яна, яго нявеста, падобная на Фрадл. Яны пад'язджаюць да Капыля. Слупы пылу ўзнімаюцца з-пад ног коней над дахамі, дзеці бягуць насустрач і паміж іх—Бенчэ. Ён спыняецца і бярэ дзяцей да сябе ў карэту. Як весела! Яны прыязджаюць на базар і спыняюцца каля хаты яго маці, насупроць кузні Айзікакаваля.

Некалькі дзён і некалькі начэй хадзіў ён нібы ў сне, адчуваючы на сваім плячы ручку Фрадл...

Рэб Гірш, поруш з Івенца, таксама хадзіў і марыў. Ён уяўляў сабе: вось кліча яго да сябе ў кантору рэб Ейна.

— Сядайце, рэб Гірш,—гаворыць яму рэб Ейна.—Я вас, рэб Гірш, не пакрыўджу. Скажыце мне, рэб Гірш, вы не будзеце на мяне злаваць, калі я вам дам паперу да івенецкага пана, каб вам прывезлі бярвенняў для новай хаты?

У рэб Гірша б'ецца сэрца:

— Бог з вамі, рэб Ейна, хата ў мяне яшчэ добрая. Усяго за дзесяць год да майго вяселля пабудаваў яе мой цесць. Мабыць, толькі год трыццаць мінула з таго часу. Я маю двух дзевак, рэб Ейна, каб яны былі здаровы, і мне хацелася-б мець зяця разумнага і вучонага і дажыць да ўнукаў.

— Выбачайце, рэб Гірш,—гаворыць рэб Гірш сам сабе,—вы атрымаеце ад мяне трыста рублёў. Праўце вяселле сваім дочкам.

— Дай бог вам добрага здароўя, рэб Ейна,—адказвае рэб Гірш сам сабе, засунуўшы вялікі палец за каўнер.—З вамі прыемна мець справу. Дай бог шчасця вам, вашым дзеткам і ўсяму народу ізраільскаму.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Х'ена-кухарка бегае па кухні распаленая як ніколі.

— Гэтакая гушчарня... гэткі натоўп... цэлую сінагогу порушаў трэба накарміць... Бяжы да разніка, няхай рэжа курэй,—звярнулася яна да Моты-служкі і адразу закрычала:

— Чаго ты стаіш? Пляга ты мая! Рэзаць іх трэба, абжораў, без нажа!

Цэлы дзень працуе яна і крычыць на людзей у кухні, крычыць на ўсіх і на сябе, заткнуўшы спадніцу за пояс.

Весела сёння ў палацы рэб Ейны. Радасней за ўсіх адчувае сябе Адэль, малодшая сястра Фейгл. Цяпер і перад ёю адчыняюцца шляхі. Цяпер і яна можа выйсці за свайго любімага жаніха, настаўніка Маркуса з Прусіі. Яна паедзе з ім у Кенігсберг, дзе ён кончыць сваю вучобу і зробіцца доктарам медыцыны.

Яна сёння з асаблівай увагай сочыць за парадкам у хаце, каб слугі як найлепей прыбралі сталовую, каб была пастаўлена на стол самая лепшая пасуда, што засталася яшчэ ад дзеда і была зроблена на каралеўскай фарфаравай фабрыцы, каб у сьвяцільніках былі запалены ўсе свечы.

Гаварыла яна сёння ўвесь дзень па-нямецку і пела нямецкія песні.

Івенецкі поруш сам сёння пайшоў з Шолам-Янкелем у лазню. Ён яго цёр і шараваў так, што ў Шолам-Янкеля нават выскачылі з думак вочы Фрадл. Ён сцёр з яго пляча нават ручку Фрадл. Шолам-Янкель стаміўся ад тых наказаў, якія даваў яму на працягу цэлага дня івенецкі поруш аб тым, як павінен ён трымаць сябе за сталом багатыра сёння, у пятніцу вечарам:

— Не спяшайся, калі будзеш есці, і не хапай, каб не бачылі, што ты галодны. Багатыя гэтага не любяць. Не хапайся за мяса рукамі. Гэта выпадае толькі грубіянам. Пакінь што-небудзь на талерцы. Фэ, з'есці ўсё, што пакладуць на талерку, выпадае толькі

абжорам. Багатыя гэтага цярпець не могуць. Трымайся так, як напісана ў святой торы: не хапаць, не лапаць. Багатыя гэта любяць.

Так ён вучыў Шолам-Янкеля сваім бляшаным голасам.

Порушы ў сінагозе адчувалі сябе сёння як сапраўдныя сваты. Поруш, што гаварыў хрыплым голасам, звярнуўся да другога поруша, нюхаючы пры гэтым табак:

— Што вы скажаце, сірата, здаецца, шлімазарнік, але не было-б шчасця, ды няшчасце дапамагло.

Порушы ўсё чакалі, каб хутчэй скончыўся кароткі дзень і надышоў вечар, калі можна будзе памаліцца і пайсці з жаніхом у палац да рэб Ейны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вечар надышоў. З венецыянскіх акон палаца на снег, пераплятаючыся ў сініх, чырвоных і жоўтых шыбах, ліліся прамені святла. Увесь натоўп порушаў з сінагогі рэб Ейны пайшоў на чале з Шолам-Янкелем у палац на вячэру.

Слугі прыносяць і ставяць на стол срэбныя міскі. Перад кожным стаіць талерка на талерцы. За сталом сядзяць рэб Ейна з жонкай і «малыя вочкі» з братамі. Астатнія дочкі ядуць сёння асобна, у другім пакоі.

Шолам-Янкель безупынна глядзіць на поруша: ён будзе рабіць тое самае, што і той. Але ў адным не мог Шолам-Янкель пераймаць поруша: увесь час сыпаў той цытатамі з торы сваім бляшаным голасам, нават белы твар яго крыху пачырванеў.

Раптам з галавы яго выскачылі ўсе мары аб Фрадл, аб яе вачах і руках, нават аб карэце рэб Ейны. Яму таксама захацелася гаварыць, каб паказаць, што і ён умее, але поруш не даваў яму сказаць ні слова і ўвесь час гаварыў за яго.

Фейгл, «малыя вочкі», сядзела на другім баку стала і ўсё глядзела на Шолам-Янкеля, на яго сінія, засмучоныя вочы, на высокі лоб з круглымі брывамі, на новую ярмолку на яго кучаравай галаве.

— Калі ядуць—не гавораць,—сказаў рэб Ейна сваім гучным голасам.—Частуйцеся добрыя людзі, кушайце на здароўе.

Яму было крыўдна, чаму гэта ён, рэб Ейна, слуцкі багатыр, павінен парадніцца з бедным хлопцам, што харчуецца ў яго на кухні.

Госці змоўклі і ўзяліся за вячэру.

Шолам-Янкель рабіў усё, што загадаў яму поруш з Івенца. Ён не накідваўся на стравы, не хапаў і пакінуў амаль поўталеркі.

Госці з'елі першую страву і чакалі другой. Пачаліся зноў гутаркі і рэб Гірш зноў пачаў сыпаць тэкстамі з торы.

Слугі прынеслі смажаных курэй. Шолам-Янкель успомніў пра наказ рэб Гірша адносна відэльца. Ён чакаў, пакуль івенецкі поруш не возьмецца за відэлец, а сам разглядаў тым часам люстры над сталом і карціны на сценах, прывезеныя рэб Ейнай з Прусіі.

Усе госці даўно ўжо елі.

— Чаму ты не еш, хлопец?—звярнулася да яго жонка рэб Ейны.—Не саромся, будзь як дома.

Шолам-Янкель усхапіўся, нібы яго прабудзілі ад цяжкога сну. Ён узяўся за відэлец і смела ўваткнуў у курыную ножку. Але

ножка выслізнула з-пад відэльца. Ён паспрабаваў падчапіць яе яшчэ раз, але яна зноў выслізнула з-пад відэльца, вылецела нечакана з талеркі і трапіла неяк у вока рэб Ёйны.

Узнялася мітусня, крык. З суседняга пакою прыбеглі дочкі рэб Ёйны.

Рэб Ёйна крычаў, прыціскаючы рукі да вока. Госці пакінулі свае месцы за сталом. Івенецкі поруш схапіў Шолам-Янкеля за плечы і пачаў яго трэсці.

— Што ты зрабіў, злодзей! Знарок ці незнарок—якая розніца?

— Ой, ой! Ганіце прэч гэтага злодзея, гэтага грубіяна!— крычала жонка рэб Ёйны.—Якая нахабнасць з боку івенецкага жабрацтва забрацца з лапцямі да рэб Ёйны ў зал і прывесці яшчэ з сабой гэтага капыльскага абжору. Прэч, прэч! Ідзіце сабе з богам!

Рэб Ёйна не аслеп ад курынай ножкі, але рэб Гірш не атрымаў трыста рублёў. Шолам-Янкель ужо больш не жаніх. У карэце рэб Ёйны яму ездзіць не давялося. Ён прымушан быў пакінуць сінагогу рэб Ёйны.

Мендэле пайшоў вандраваць. Ён хадзіў з горада ў горад, з мястэчка ў мястэчка, вучыўся і еў «дні», аж пакуль не апынуўся ў Вільні.

## Прамень асветы

У Вільні Мендэль зноў пачаў вучыцца ў ешыботе. Жыў ён і харчаваўся ў аднаго вядомага віленскага багатыра Бройдэ, які быў блізкім сваяком яго бацькі.

Тут, у доме багатага сваяка, Мендэле яшчэ больш адчуў сваю горкую долю. Яму, бедняку, давалі есці толькі на кухні, не дапускаючы да стала, за якім сядзелі яго багатыя сваякі.

Занадта цяжкім здавалася цяпер Мендэле яго жабрацкае жыццё, абрыдла яму есці «дні». У віленскія ешыботы пачалі ў той час пранікаць творы першых асветнікаў. Вільня, у якой Мендэле пражыў больш двух год, была тады цэнтрам асветніцтва на Беларусі.

Імёны асветнікаў Ш. Каценельбогена, Мордуха-Арона Гінцбурга, Айзіка-Меера Дыка, Лебензона, Міхаіла Гардона былі вядомы нават і ў ешыботах.

Вільня была буйнейшым гандлёвым і прамысловым цэнтрам Беларусі. Капіталізм развіваўся тут досыць шпарка і моцна.

Песні Міхаіла Гардона і іншых паэтаў-асветнікаў на гебрэйскай і яўрэйскай мовах былі ўжо шырока распаўсюджаны сярод самых рознастайных пластоў яўрэйскага насельніцтва.

Паэты-асветнікі змагаліся супроць местачковых прымхаў. Яны прапаведвалі разбурэнне феадальна-рабінскага быту, каб ачысціць шлях для развіцця капіталізма.

Праўда, асветнікі ніколі не выступалі супроць яўрэйскай рэлігіі. Але яны штурмавалі клерыкалізм і ўсё, што было звязана з яўрэйскім сярэдневеччам.

Найбольш прагрэсіўныя элементы сярод беднякоў-ешыботнікаў пакідалі ешыботы і ішлі вучыцца ў казённыя школы. Большая

частка з іх вывучала мову мясцовага насельніцтва і рыхтавалася да купецкай дзейнасці.

Беднякі, якія заставаліся ў ешыботах, пачалі таксама глядзець на сябе, як на людзей «старасвецкіх». Ім, ешыботнікам-беднякам. рабілася ўсё цяжэй шукаць сабе «дні» за чужым сталом, хадзіць у даўгіх халамідах, несці на сябе ўсю журбу яўрэйскага сярэдневечча.

Адной з прычын, якія выгналі Мендэле з ешыбота і прывялі да новага, рэальнага свету, быў дрэнны «дзень».

— «Першая злая гадзіна,—пісаў ён у сваім «Шлойма рэб Хаімка», надышла ў часе дня ў аднаго сапраўднага гаспадара. На кухні, куды прышоў ён як звычайна, давялося яму доўга чакаць. Дзверы на кухню адчыняліся заўсёды са скрыпам. Вось-вось, здавалася яму адчыняцца яны і з'явіцца перад ім вячэра—але ўсё дарэмна... Іменна тады ўсплыла перад ім як з-пад зямлі ў маляўнічых фарбах карціна яго жыцця... Ён сядзіць раззлаваны, разгублены, незадаволены самім сабой... Хто ён такі? Не больш як няшчасны ешыботнік, што есць «дні», што ходзіць з сваім рэбе па хатах і збірае падаянні ў торбу».

Мендэле было тады каля семнаццаці год. Гэта было ў 1853 годзе.

Цяжкі смутак ахапіў яго. Туга грызла яму сэрца. Яму ўжо абрыдла адвечная знявага ў ешыбоце, за чужым сталом, нават на вуліцы.

На вуліцах Вільні ўжо можна было ў той час сустрэць некалькі сот вучняў рабінскай школы. Яны кпілі і смяяліся з адсталых жабракоў-ешыботнікаў.

Вільня мела ўжо ў той час свой уласны орган асветнікаў «Пірхей цофойн» (Паўночныя кветкі). Мендэле знаёміцца з тагочаснай літаратурай на гебрэйскай мове. Ён пачынае вызваляцца ад імкненняў ешыботнікаў і ўсё часцей думае аб тым, каб пакінуць лаўку ў ешыбоце і далучыцца да перадавой часткі яўрэйскага грамадства.

Нарэшце, ён едзе дамоў, у Капыль.

## У вотчыма

Маці Мендэле, Сора Бройдэ, вышла замуж у другі раз, за багатага вясковага арандатара Хоню Млыніцэра. Меншых дзяцей яна ўзяла з сабою, да вотчыма, і пакінула Капыль. Вёска Млыніцы, дзе яна пасялілася ў хаце мужа, была за дзесяць кілометраў ад Капыля. У хаце бацькоў Мендэле засталася яго старэйшая сястра, разводка Лея.

Адзінокі, сумны, у думках аб сваёй горкай долі, хадзіў Мендэле па вуліцах роднага мястэчка. Па свайму развіццю ён стаяў значна вышэй за ўсіх астатніх хлопцаў у Капылі. Усё-ж такі, ён бачыў свет, ён быў у Вільні, бачыў асветнікаў, аўтараў шматлікіх кніжак, якія ён чытаў яшчэ ў Капылі, у Герцля Кейлес і Айзіка-каваля. Цяпер гэтыя кніжкі можна было знайсці ў Капылі ў вялікай колькасці. Адносіны Мендэле да багатыроў і да феадальна-рабінскага, ліхвярнага выхавання былі адмоўныя.

Мендэле хадзіў у Капыльскую сінагогу і спрачаўся там наконт

непатрэбнасці мовы біблії і неабходнасці ведаць мясцовую мову, а ў той час гэта лічылася ўжо адыходам ад шляхоў сапраўднай, пабожнай яўрэйскасці.

Мендэле рашыў у ешыбот больш не вяртацца. Ён хацеў жыць з сваёй уласнай працы.

Яго вотчым запрасіў яго да сябе ў Млыніцы. Ён прапанаваў Мендэле вучыць яго дзяцей і самому зарабляць сабе на хлеб. Праўда, прафесія вясковага меламеда не вабіла яго да сябе, бо яшчэ ў Вільні выпрацаваліся ў яго пэўныя адносіны да меламедаў, але ўсё-ж такі ён рашыў паехаць на некаторы час у вёску да вотчыма, каб мець там магчымасць чытаць, займацца літаратурай. Апрача таго, ён не будзе там, побач з маці, братамі і сёстрамі, гэткім адзінокім.

Ён едзе на вёску.

Мендэле навучае там дзяцей свайго вотчыма. Ён чытае і чытае сам, але туга яго не пакідае. Паміж ім і яго маці расце сцяна. Ён застаецца адзінокім. Маці яго не разумее. Яму няма перад кім адкрыць сваё сэрца.

У Млыніцах толькі адна хата і млын. Няма да каго хадзіць, няма з кім пагутарыць.

Ён—адзінокі.

Яго цягне зноў у горад, але ў горадзе—«дні» і брудная ляжанка, жабрацкая торба і гандаль хлебам і малітвамі.

Мендэле часта выходзіць з хаты.

Ён ідзе ў цёмны, вялізны лес, што абкружае хату і млын яго вотчыма. Ён прыслухоўваецца да шуму дрэў, да шэпту чарота.

«Вялікая рэчка цячэ паміж дрэў да млына, там ператвараецца яна ў вадаспад і круціць колы з грукатам і шумам. Гэты грукат млына, гэты штурм вады аглушае вушы».

Мендэле ўспамінае тут сваё дзяцінства, калі ён разам з Бенчэ хадзіў у поле за мястэчкам.

Скончыўшы свае заняткі з дзецьмі вотчыма, ідзе ён адразу ў лес, на рэчку, і думае там аб справядлівасці і несправядлівасці.

Сваё сэрца ён пачынае раскрываць на паперы. Ён робіць свае першыя літаратурныя спробы. Яму хочацца выказаць усё тое, аб чым ён думае, што бачыў ён і чуў навокал.

Мендэле піша драму.

У той час найвялікшым аўтарытэтам сярод драматургаў-асветнікаў, што пісалі на гебрэйскай мове, быў містык Мойшэ-Хаім Луцато. Мендэле пераймае яго і піша драму на мове біблії па ўзору «Лайшорым тхіло» Луцато.

У гэтай драме, як Мендэле сам потым расказваў у сваёй аўтабіяграфіі, ён спрабаваў сарваць маску з феадальна-рабінскай хеўры.

Акрамя гэтай драмы, Мендэле напісаў некалькі песень, пераймаючы псалмы.

Адна з гэтых яго тагачасных песень мела назву—«Псалм Шолама ў часы бытавання яго ў пустыні Млыніцы».

Перайманні біблії і Луцато былі вельмі распаўсюджаны ў асветніцкай літаратуры пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Гэта быў жанр торы і гаскалы ў гебрэйскай паэзіі таго часу.

У першых сваіх літаратурных творах Мендэле абвясціў аб тым, што ён развітаўся з старым феадальна-рабінскім светам яўрэйскіх ліхвяроў. У першых сваіх творах з юнацкім трэпетам стукаўся ён у дзверы «новага свету».

Першымі літаратурнымі творамі Мендэле быў закончаны цэлы перыяд у яго жыцці. Імі пачынаў ён сваё новае жыццё, уступаючы ў барацьбу супроць старога свету.

Мендэле пакінуў віленскі ешыбот, каб не есці чужы хлеб, каб не залежаць ад чужой ласкі, каб пазбегнуць духоўнай адсталасці. Цяпер ён пакідае параўнальна сытае, але адзінокае жыццё ў Млыніцах, каб шукаць тое, што больш адпавядала-б яго новым імкненням.

Ён вяртаецца зноў у Капыль.

Тут знаходзіць ён больш удзячную глебу для сваіх духоўных запатрабаванняў. Асвечаныя прыносяць яму кнігі, тут ёсць з кім пагаварыць, тут ёсць людзі, якія могуць яму паспачуваць, але матэрыяльная нястача цягне яго назад, у балота сярэднявечча.

У задуменні, нездаволены блукае ён па капыльскіх завулках, ходзіць за мястэчкам, яго позірк накіраваны ў далечыню.

Нейкі непакой гоніць яго і штурхае, штурхае ісці далей з той ростані, на якой ён знаходзіцца.

## Бывай, Капыль!

Зноў веснавы дзень на капыльскім рынку.

Сярэдзіна мая.

Хата ўжо не глядзіць цяпер з такой веліччу сваімі вокнамі на рынак.

Яна не пабелена.

Дах над ганкам праваліўся.

Перад ганкам стаіць худая, замардаваная кляча, запрэжаная ў сялянскія драбіны. Кляча абмахваецца аблезлым хвастом.

У хаце спадчыннікаў Хаіма-Мойшэ Бройдэ паўнютка. Сюды прышлі ўсе бедныя суседзі. Прышла Лейбчыха, прышла кульгавая Шэйндл-удава, поўная хата жанчын, дзяцей. Няма ніякай адзнакі мінулых наведвальнікаў, «паважаных гаспадароў», усіх тых, што прыходзілі да Хаіма-Мойшэ Бройдэ, балтаксы.

Каля клячы мітусіўся Аўрэмл-кульгавы. Ён аглядаў яе, аглядаў колы і лаяў стэльмаха: адно кола здаецца таўсцейшым за іншыя і няроўным,—каб на яго халера!—на Міхла пільшчыка,—каб ён дабра не ведаў!

Два гады падрад цягаўся Аўрэмл-кульгавы з пасведчаннем аб тым, што ён пагарэлец, па гарадах і мястэчках Валыні, Падоліі і Бесарабіі.

Яму вельмі падабалася гэта багатая мясцовасць, таму ён і стараўся пераймаць валынскі яўрэйскі дыялект, які ў яго вуснах рабіў вельмі моцнае ўражанне на капыльскую беднату.

Аўрэмл паклаў у падводу свае шматы, зрабіў вышэй сядзенне і павярнуўся тварам да ганку, чакаючы сваіх пасажыраў.

З ганку зышла пакінутая мужам цётка Мендэле з дзіцёнкам на

руках, а за ёй засмучоны і адначасна поўны надзей Мендэле і яшчэ цэлая хеўра жанчын і дзяцей.

Кляча рушыла з месца, выцягнуўшы даўгую хударлявую шыю наперад і ківаючы галавой направа і налева. Аўрэмл сцебануў небараку і яна пацягнула фуру праз рынак на вуліцу мяшчан, з гары ўніз, на закручастую дарогу, што вядзе ва ўсе канцы свету: у Данцыг і Стамбул, у Кенігсберг і Броды, на Валынь і ў Літву.

Натоўп жанчын і дзяцей, цётка Мендэле і яго маці, Сора Бройдэ, што прыехала ў Капыль спецыяльна для таго, каб выправіць у дарогу свайго сына і сястру,—усе яны былі побач з тымі, хто ад'язджаў.

Гаварылі аб шчасці, якое можна знайсці на Валыні, аб тым, што там шмат багатых, але простых яўрэяў, што літвака там і за золата не знойдзеш, што там можна знайсці вучняў і нават добрую службу жасіра дзе-небудзь у багатага яўрэя.

Гаварылі таксама і пра пакінутую мужам цётку. Казалі, што, мабыць, ужо хутка скончацца яе бядоты, бо Аўрэмл бачыў яго там. Яна прыедзе туды і ён, мабыць, возьме яе да сябе,—напэўна.

Шэйндл-удава не прапусціла выпадку і таксама прымае ўдзел у праводзінах. З таго часу, як памёр яе муж, Хаім-ніен, шавец, або Хаім-ніен каза, як яго звалі за казіную бародку, і як хапуны забралі яе адзінага сына, яна засталася назаўсёды засмучонай і журботнай.

Шэйндл-удава ўсюды першая: на вяселлі, на пахаванні. Усюды з'яўляецца яна з сваімі «рыфмамі». Яна гаворыць свае рыфмы нараспеў, пляскае пры гэтым рукамі і тупае правай нагой. Яна гаворыць рыфмы, а жанчыны стаяць вакол яе і ківаюць галовамі і льюць слёзы.

Сёння яна таксама тут. Знайшла добры выпадак, каб паплакаць крыху, каб выказаць сваё сэрца. Вось пляснула яна рукамі, узняла іх уверх, закінула назад галаву з шэрымі вачамі і пачала гаварыць нараспеў з цяжкімі ўздыхамі і вохканнем.

Яна ахвотна спявала-б усю дарогу. Але з-за паркана на татарскай слабадзе выскачыў з брэхам вялізны чорны сабака. Усе спалохаліся і Шэйндл адразу перастала спяваць.

Усе плюнулі тры разы.

— Цьфу, на яго галаву!—дадала Шэйндл.

— Чуеш, Сора-Нейша,—звярнулася Лейбчыха да маці Мендэле,—гэта добрая адзнака, вось убачыш, гэта на шчасце. Мне мая бабуля расказала адну гісторыю пра кудлатага сабаку, што здарылася ў Холмскай мясцовасці. Гэта, напэўна, чараўнік, барані божа. Але скула яму ў бок! Хай выхварэе. Гэта, напэўна, Ясь—татарын.

Мендэле моўчкі ішоў побач са сваёй маці і адчуваў сябе яшчэ больш адзінокім, як раней. Ён марыў аб нечым зусім іншым, аб новым свеце, аб новым грамадстве. Ён не хацеў больш нічога ведаць пра ешыботы і меламедаў.

— Ну, даволі, праўдзілі і досыць,—сказаў Аўрэмл кульгавы, робячы пры гэтым набожны і заклапочаны твар.

— Ну? Што скажаш пра яе бацьку? Яна-ж зусім голая! Такой голай ты думаеш ехаць у далёкую дарогу?—звярнулася адна з жан-

чын да пакінутай мужам цёткі Мендэле.—І ён таксама. Няхай-бы ты выврнуў сваю вопратку на левы бок, бо шкада.

Пакінутая абкруцілася трантамі, што ляжалі ў падводзе. Дзіця яна агарнула старым, зношаным і злінялым мужчынскім кафтаном.

Суседка хацела сцягнуць з Мендэле яго халадайку і вывернуць яе на другі бок, але ён не захацеў. Левы бок быў значна лепшы і чысцейшы за правы, растлумачыў ён. Пасля ён яго перашые. Суседка агледзела халадайку, згадзілася з ім і пакінула яго ў спакоі.

Павольна цягнулася фура Аўрэмла-кульгавага па далёкай, пясчанай дарозе, пакуль яны не даехалі да густога дрымотнага лесу.

Жанчыны ўсё стаялі і глядзелі, пакуль падвода не знікла з вачэй. Тады яны вярнуліся назад, у мястэчка, на рынак, да сваіх пакрыўленых хатак. Па дарозе яны ўсё жадалі шчасця тым, хто ад'ехаў. Сора і яе дочка моўчкі ўздыхалі.

Некалькі жанчын ішлі асобна і гаварылі пра сваякоў Соры, якія не прышлі нават развітацца.

— Яны лепей вырвуць сабе зубы, чым дадуць што-небудзь на дарогу беднай, адзінокай жанчыне з малым сіроткай.

Так будучы Мендэле Мойхер-Сфорым навекі пакінуў сваё мястэчка.

Мястэчка—з багатымі і беднякамі, з кагалам і лоўчымі, з шынкамі і шлейерамі, з крамкамі і кірмашамі, з кунамі і сінагогамі, з старымі абімшэлымі, заплямленымі і абгрызенымі фаліянтамі на паліцах і шафах,—мястэчка, захутанае густым пакровам цемры і невуцтва,—мястэчка, у якім пануючыя пласты на працягу шматлікіх пакаленняў лупілі скуру і смакталі кроў беднаты, цягнучы яе ў свет хворай фантастыкі, палохаючы яе змеямі і драконамі, чарцямі і нячыстай сілай.

Перад ім—надзеі, упрыгожаныя праменнямі сонца. Надзеі, праўда, не зусім пэўныя, надзеі з новымі перспектывамі: зрабіцца касірам дзе-небудзь у багатага гандляра пшаніцай ці ў багатага арандатара прапінацыі, а можа нават і ў акцызніка ў арэндзе на гарэлку барона Еселя Гінцбурга.

А пакуль што,—едзе ён на падводзе Аўрэмла, на падводзе, поўнай шматаў.

Аўрэмл-кульгавы, жабрак, вядзе яго ў новы свет, вядзе яго да мэты.

Бывай, Капыль!

## У будзе Аўрэмла-кульгавага

Цягнецца фура Аўрэмла-кульгавага з халсцяной будай па палях і лясах, па пясчаных і гразкіх дарогах, цягнецца ад карчмы да карчмы, ад мястэчка да мястэчка.

Сядзіць у будзе цётка Мендэле, пакінутая мужам, з сваім дзіцем. Аўрэмл і Мендэле ідуць пехам ля падводы, зрэдку садзяцца яны на яе.

Часта трапляюцца балоты. Падвода аж па восі залазіць у дрыгву. Кляча цягне з апошніх сіл.

Аўрэмл крычыць:

— Цягніце! Падымайце падводу! Ці не думаеце вы, што я вас

занрасіў на марцыпаны ды на піражныя, каб вы сядзелі як паны на падводзе і ехалі сабе як графы. Нішто сабе жарты! Бач, якія шоўкавыя торбы!

І Мендэле дапамагае цягнуць падводу разам з замардаванай клячай. Ён едзе па дарозе з Капыля ў гарады і мястэчкі паўднёвай Беларусі і Валыні. Ён дрыжыць, ён трапечыць перад грубасцю і цынізмам Аўрэмла. Часта начуе ён на полі, пад дажджом, пад громам і бліскавіцай, але больш у лазнях, у сінагогах, у начлежках,—кагальных прытулках для яўрэйскіх беднякоў, што бадзяюцца па гарадах і мястэчках.

Мендэле сустракаецца ў дарозе з вялікай колькасцю валацугжабракоў.

На поплавах каля мястэчка яны спыняюцца, каб адпачыць. Тут пасвяць яны сваіх коней, раскладаюць вогнішчы, вымаюць з торб нажабрачаныя харчы, гуляюць і скачуць, крыўляюць «шаноўных паноў», а таксама і гарапашнікаў.

Гэтыя жабракі былі своеасаблівымі акторамі.

У большасці сваёй гэта былі фізічна здаровыя людзі, у якіх пад уплывам адвечнай нястачы ў мястэчку, выпрацавалася агіда да працы і нянавісць да багатых. Яны вандравалі з мястэчка ў мястэчка, іграючы ролю калек і фізічна хворых людзей.

Мендэле бачыць іх у полі, уначы,—здаровых, вясёлых, жыццерадасных людзей, а раніцой перад тым як ісці ў мястэчка, адзін з іх пачынае раптоўна кульгаць, другі завязвае сабе здаровае вока, трэці падвешвае руку на хустцы, чацверты, што бегаў нядаўна як конь, ходзіць цяпер на мыліцы. У кожнага з'явіліся цяпер вонкавыя адзнакі якой-небудзь фізічнай хваробы.

Большая частка гэтых жабракоў-актораў не была прыпісана ні да якой пэўнай мясцовасці. Выгнаныя з кагалу далучаліся да такіх кампаній.

Не аднойчы чуў Мендэле, як зайздросцілі некаторыя з жабракоў фізічнаму недахопу Аўрэмла і таму, што ён мае пакінутую жанчыну ў сваёй будзе.

У дарозе Аўрэмл зрабіўся зусім не такім, якім быў у Капылі. Ён таксама жабрак. Праўда, ён не належыць да хеўры, але з пакінутай жанчынай з дзіцем і з Мендэле ён стварыў сваю ўласную хеўру.

У кожным горадзе і мястэчку, як толькі яны прыязджаюць туды, чуе Мендэле голас Аўрэмла:

— Ідзі ў сінагогу, пакажы, што ты можаш. Галава ў цябе ад гэтага не схуднее. Пакажы ім, дурням, што ты выдатны вучоны, што ў цябе прыгожы почарк. А што ты сабе думаеш? Знайшоў сабе занятак—цягацца па начлежках і сядзець на маім карку! Трэба табе жаніцца ды застацца ў хаце якога-небудзь багатага гаспадара.

І Мендэле, засмучаны і разгублены, цягнуўся ў мясцовую сінагогу.

Жанчына з дзіцем заставалася ў начлежцы, а Аўрэмл падмацоўваў пасведчанне пакінутай жанчыны подпісам новага рабіна і хадзіў з хаты ў хату, з гэтым пасведчаннем у руках, збіраючы падаянне для «знатнай, але збяднелай жанчыны».

Торба Аўрэмла рабілася ўсё таўсцейшай. Ён назбіраў ужо не мала грошай, але на сэрцы ў шукальнікаў шчасця рабілася ўсё цяжэй.

Да Бесарабіі было яшчэ далёка. А да Орхеева, мястэчка, дзе жыве дзядзька Мендэле, муж яго пакінутай цёткі, яшчэ далей.

Дый едуць яны зусім не па гэтай дарозе.

Аўрэмл нават і не думае туды ехаць.

Яго мэты разыходзяцца з мэтамі яго «пасажыраў».

Яму шанцуе ў жабрацтве.

Ён шукае тлустых кавалкаў, ён выбірае багатыя гарады і мястэчкі. Яму трапіў у рукі жывы дакумент,—пакінутая жанчына з дзіцем. Ён не адпусціць яе так лёгка.

Ён зацікаўлены ў тым, каб трымаць яе на сваёй падводзе як мага большы час.

Што яму да слёз жанчыны, да крыкаў дзіцяці, да надзей і фантазій Мендэле?

Шолам-Янкеля ён мяркуе ажаніць, пазбавіўшыся яго і ўзяўшы грошы за сватаўство.

Мендэле для яго—не лепш за хваробу.

Жаніцца ён не хоча.

Намаўляе жанчыне, што яны едуць не той дарогай, не праз тыя мястэчкі і гарады, а тая плача і лементуе.

У Луцку, на Валыні, Аўрэмл заключыў нават умову аб заручынах для Мендэле.

Аўрэмл прыбег у начлежку, дзе сядзеў засмучаны Мендэле і радасна гукнуў:

— Віншую цябе! Ты—жаніх! Нявеста—удача! Цесць—багатыр, паважны гаспадар, яўрэй з гонарам. Хадзі хутчэй, цябе ўсе чакаюць: рабін, кантар і цэлы натоўп паважных яўрэяў. Падрыхтуйся! Пакажы ім, што ты можаш!

Заўсёды крыклівы Аўрэмл нават усміхнуўся. Ён кладзе нават сваю тоўстую руку на плячо Мендэле і хоча яго пагладзіць.

Усё-ж такі, ён яму друг.

Але Мендэле з гневам скінуў яго руку і адскочыў назад.

— Я паехаў з Капыля не для таго, каб шукаць нявесту. Я не пайду ні на якія заручыны. Я еду да свайго дзядзькі.

Аўрэмл пачаў стукаць сваёй мыліцай, махаць кулакамі і крычаць:

— Дармаеднік! Давай мне грошы! Я не абавязан цягнуць цябе на маім кані задарма... Ідзі сабе на здароўе пехам... Валацуга! А пашпарт ты маеш? Пашпарт—у мяне! Дык ідзі сабе з сваёй шоўкавай торбай!

Але Мендэле не звяртаў увагі на яго пагрозы. Ён рашыў раз назаўсёды вырвацца з рук Аўрэмла яшчэ да таго, як дабярэцца да дзядзькі.

## Пад Камянецкай гарой

У Камянцу жыў таварыш Мендэле, з якім ён марнаваў не мала часу па ешыботах Беларусі, гандлюючы «днямі» і вандруючы з мястэчка ў мястэчка.

Мендэле спадзяваўся знайсці гэтага таварыша ў Камянцу і прасіць яго аб вызваленні з рук Аўрэмла-кульгавага.

Аўрэмл даведаўся пра гэта і хацеў зрабіць так, каб ні жанчына, ні Мендэле не трапілі ў горад.

Але горад вялікі, можна зарабіць крыху грошай, ходзячы па хатах і Аўрэмл не абміне Камянца. Ён толькі пакіне сваю фуру з «пасажырамі» за горадам, а сам пойдзе ў Камянец адзін са сваёй мыліцай.

На адлегласці кілометра ад горада знаходзілася старая пакінутая карчма з выбітымі вокнамі і дзвярыма, з падзіраўленым дахам. Пакінутая, забытая карчма без жыхароў.

Аўрэмл спыніўся каля гэтай карчмы, загадаў сваім «пасажырам» застацца тут, а сам пайшоў у горад.

Пашпарт Шолам-Янкеля і пасведчанне яго цёткі ўзяў з сабою.

Надышла ўжо ноч.

Мендэле і яго цётка з дзіцем засталіся адны ў пакінутай, разбуранай карчме.

Аўрэмл пайшоў на ўсю ноч.

Дождж ліў праз дзіравы дах і праз выбітыя шыбы.

Жанчына і дзіцё прытуліліся пад сваімі трантамі.

Але Мендэле быў здаволены. Хай толькі бліснe золак і ён пойдзе ў горад да свайго прыяцеля.

Ён вышаў у поле, шукаць карацейшай дарогі у горад. Ён баяўся толькі аднаго: каб не вярнуўся Аўрэмл і не загадаў запрагаць каня і ехаць зноў без канца і без мэты.

З гары пачало ўжо выглядаць сонца.

Павольна ўзнялося яно ўсё вышэй і вышэй над гарызонтам.

На траве, на дрэвах зіхацелі бліскучыя перлінкі расы.

Праменні ўзыходзячага сонца пяшчотна лашчаць мокры, стомлены твар адзінокага, закінутага на чужыну юнака, будучага вялікага класіка яўрэйскай літаратуры, Мендэле Мойхер-Сфорыма.

Ён хоча вызваліцца ад нястачы, ад яўрэйскага сярэдневечча.

Ён імкнецца да светлага дня.

Ён ідзе наперад, у гару, насустрач мяккім, цёплым, пяшчотным праменням сонца.

Ён ідзе наперад, вось ён ужо на гары.

Вось перад ім ужо белыя хаткі фарштата.

Ён ідзе па шырокай, даўгой вуліцы.

П'яны украінец ляжыць на падводзе, якую цягне пара валоў, задумлівых, дрымотных, крутарогіх.

Ён праходзіць праз браму Каменецкага замка і ўваходзіць у стары горад.

Муры.

Рыначны пляц абкружаны крывымі завулкамі.

За рынкам, недзе за крамамі і яткамі, павінен быць дом, дзе жыве яго прыяцель.

Мендэле знойдзе яго. Ён кінецца яму на шыю, ён раскажа яму, як прымушаюць яго хадзіць з працягнутай рукой і жабрачыць. Ён папросіць яго аб ратунку.

Ён-жа такі добры, такі рахманы, такі вясёлы, яго прыяцель гэты Грозавер. У яго такі прыгожы, такі тонкі звонкі і чысты голас.

Мендэле ўспамінае, з якім пачуццём спяваў яго прыяцель песню Берля Бродэра—«Я бедны, бедны пастух».

Часам, калі беларуская ноч паглынала цені ешыбота, калі ешыботнікі ўжо ляжалі і спалі, кожны на сваім месцы,—на лаўках і на стале, Грозавер зваў яго з ешыбота і апавядаў яму пра вандроўных спевакоў Падоліі і Валыні.

Ён расказваў яму пра таго спявака, што спяваў песню «Адзінокі шукае спакою».

— Гэта быў,—казаў Грозавер,—сапраўды вялікі спявак. Ён сам складаў песні і спяваў іх у карчмах і шынках. Дзіўны і цікавы чалавек,—дадаваў ён.

Расказаў ён Мендэле і яшчэ пра аднаго спевака, што таксама хадзіў па карчмах, складаючы песні. Быў ён абарваны, бедны. Але песні яго аж дагэтуль гучаць у вушах.

Ён быў такі добры, гэты Грозавер,—успамінае Мендэле. Ён, напэўна, яму дапаможа.

У надзеі ўбачыць яго, знайшоў Мендэле дом, дзе жыў Грозавер. Але яго не было ў горадзе. Ён паехаў спяваць разам з кантарам па суседніх мястэчках.

Зніклі надзеі Шолам-Янкеля.

Засмучаны вярнуўся ён адвячоркам у пакінутую карчму.

Раніцою зноў запраглі каня і паехалі.

## Сустрэліся

Летні дождж пырскаў з светла-сіняга падольскага неба.

Фура Аўрэмла-кульгавага цягнецца па дарозе з гары.

Вось едуць яны па дубоваму лесу.

Падвода рыпіць.

Аўрэмл крычыць і лаецца.

І раптам—конь пачынае кульгаць.

— Ой, гора мне! Ён сапсаваў мне каня, гэты няўклюда! Нішто сабе жарты!

Шолам-Янкель схіліўся і агледзеў ногі каня.

— Чаго вы крычыце? Конь проста згубіў падкову.

І для таго, каб дагадзіць Аўрэмлу, ён прапанаваў пайсці назад па дарозе і пашукаць падкову.

Лес ціха шумеў, страсаючы з сваіх галін кроплі чыстай дажджавой вады.

Здалёку, з супроцьлеглага боку, чуліся ясныя гукі украінскай думы. Гэта сяляне пасвілі коні з панскага двара.

Схіліўшыся, ідзе Мендэле па дарозе, шукаючы ў гліністай глебе падкову.

На дарозе звіняць бомы.

Ён павярнуўся.

Едзе карэта з чатырма коньмі.

Бомы звіняць усё бліжэй і бліжэй.

У карэце сядзіць вясёлая хеўра.

Спяваюць.

Ён адступае з дарогі і яны праязджаюць міма.

— Гей, Капыльскі, ты гэта як трапіў сюды?

Шолам-Янкель здзіўлена азірнуўся.

Гэта-ж Грозавер, залатое горла, стаіць перад ім.

Ён расплакаўся і расказаў Грозаверу і ўсёй вясёлай капеле спевакоў пра свае прыгоды.

Вось сядзіць ён ужо з вясёлай хеўрай у карэце.

Яны спяваюць песні, крыўляюць кантараў, смяюцца з людзей накшталт Шмелькеса.

Карэта выехала з лесу.

З неба ўжо не пырскае дождж ык. Яно робіцца ўсё ясней ды сіней.

Коні бягуць то з гары, то пад гару і Мендэле едзе назад у горад, у Каменец-Падольск.

А недзе ззаду, па-за лесам, цягнецца Аўрэмл на сваёй клячы. З аднаго боку ў яго мыліца, з другога—торба.

Вызваленне з рук Аўрэмла ажыццявілася.

У Каменец-Падольску прыяцель яго дапаможа яму выкупіць свой пашпарт. А што будзе далей—ён убачыць.

## У Аўром-Бера Готлобера

Мендэле застаецца ў Каменец-Падольску.

Ён пакрысе наладжвае свае матэрыяльныя справы.

Служыць ён спеваком у капеле кантара. Такім чынам яму ўсё яшчэ не ўдаецца вызваліцца з асяроддзя меламедаў і сінагогі.

Туга зноў грызе яго сэрца.

Увесь час шукае ён і пытаецца, ці няма тут, у горадзе, асветнікаў, прыхільнікаў філосафа Іцхока-Бера Левінсона?

Яму сказалі, што недзе ў горадзе ёсць казённая яўрэйская школа, дзе працуе настаўнікам Аўром-Бер Готлобер.

Пра Готлобера Мендэле чуў яшчэ ў Вільні, чытаў нават адну з яго кніжак.

— Ён вялікі знаўца бібліі і граматыкі, гэты Готлобер. Ён ведае розныя мовы, але сам—паголены, бязбожнік, ён не верыць у цадыка. Ідзі да яго, пагутары з ім, але сцеражыся. Зернем яго карыстайся, але шалупінне выплёўвай,—так параіў яму адзін пажылы чалавек, з якім ён сустрэўся ў сінагозе.

Мендэле перагледзеў скрутак сваіх рукапісаў, напісаных ім яшчэ ў Млыніцах і пачаў рыхтавацца да сустрэчы з асветнікам, добра ўжо вядомым у той час гебрэйскім пісьменнікам—маскілістам.

Ціхая падольская ноч.

Яны ідуць удвух па вуліцы за валам, што вядзе на другі бок ракі Смотрыч. Шолам-Янкель, бедны літвацкі хлапец са жмутам рукапісаў у руцэ, і яго прыяцель Грозавер.

Грозавер ведаў Готлобера здаўна. Ён даволі наслухаўся пра яго. Ён скажа Готлоберу, што літвак яго прыяцель. Ён папросіць яго дапамагчы Шолам-Янкелю. Ён-жа імкнецца да асветы.

Яны падышлі да хаты, абкружанай парканам.

На двары былі пасаджаны кветкі.

Яны прайшлі праз двор і ўзышлі на ганак.

Пастукалі ў дзверы.

З хаты вышаў высокі, апрануты па-нямецку чалавек, гадоў пяцьдзесят і ветліва запрасіў іх у пакой.

— Што чуваць?—запытаўся ён.

Мендэле пакланіўся, хацеў нешта сказаць і не мог.

Грозавер гэта заўважыў і пачаў яго выручаць з цяжкага становішча.

— Гэта—літвак. Бедны хлопец з разумнай галавой. Знаўца біблії з добрым почаркам. Хоча дасягнуць таго-сяго ў свецкіх навуках.

Готлобер павёў іх у хату.

Шолам-Янкелю кінуўся ў вочы белы абрус на стале, паліцы на сценах з новымі кнігамі, зусім як у звычайным, гаспадарскім яўрэйкім доме.

Яны селі за другі стол, што стаяў каля акна. На ім ляжалі ўсялякія паперы і нейкая раскрытая нямецкая кніга.

Шолам-Янкель сядзеў і маўчаў.

Готлобер зразумеў маўчанне маладога літвака і сам пачаў размову.

— Вы з Літвы?—запытаўся Готлобер па-нямецку, як і кожны асветнік свайго часу.

— Я прыехаў сюды з мястэчка ля Слуцка, але я доўга жыў у Слуцку і ў Вільні.

— Так, у Вільні шмат асветнікаў. Вы, напэўна, таксама пакаштавалі ад гаскалы?

Мендэле амаль нічога не адказаў. Ён толькі кіўнуў галавой і працягнуў Готлоберу свой жмут рукапісаў.

Готлобер зірнуў на паперы Шолам-Янкеля, міргаючы сваімі хваравітымі вачыма. Ён прагледзеў яго драму і песні, пад кожнай з якіх стаяў подпіс: Шолам-Янкель Бройдэ з Капыля.

Готлобер спыніўся на адным месцы і пачаў тлумачыць:

— Вось ляжыць перада мною нямецкая кніга нашага настаўніка Мойшэбен Менахема. «Ерусалім» называецца гэта кніга,—сказаў Готлобер, узяўшы ў рукі таўстую кнігу і цытуючы з яе наконт чыстай боскасці і іншых рэчаў, ад якіх Мендэле даўно ўжо ірваўся.

Восемнаццацігадовы Мендэле, які нядаўна толькі пакінуў ешыбот, які рваўся ад торы з яе каментарыямі, кінуў здзіўлены позірк на Готлобера. На твары яго з'явіўся выраз расчараванасці.

Навошта патрэбна гэтаму асветніку тора?

Мендэле даўно ўжо расчараваўся ў ёй, чытаючы розныя асветніцкія выданні. Але Готлобер зрабіў выгляд, што ён не заўважыў змену на твары Мендэле і сказаў:

— Усе няшчасці сучаснага рускага яўрэйства звязаны з тым, што наш народ не асвечаны. Асвета прынясе шчасце.

Яшчэ і яшчэ гаварыў Готлобер аб асвеце, аб адукацыі, аб нікалаеўскім урадзе і аб яго мнімых міласцях беднаму насельніцтву краіны наогул і яўрэйскаму ў прыватнасці і закончыў:

— Вам, малады чалавек раю я вучыцца, вывучаць мову краіны і мову, на якой пісаў наш вялікі настаўнік Мендэльсон.—Вось мая дачка Розалія,—сказаў раптам Готлобер і паказаў на нізкарослую дзяўчынку ў акулярах,—яна вас навучыць мове краіны і нямецкай.

Дзяўчына гэта была першай настаўніцай Мендэле ў вывучэнні рускай і нямецкай мовы, у аваладанні агульнымі ведамі.

Да гэтага часу Мендэле, акрамя яўрэйскай і гебрэйскай, не чытаў ні на адной мове.

Мендэле зрабіўся ў Готлобера частым госцем.

Першая сустрэча яго з Готлоберам была гістарычнай. Яна мела значэнне не толькі для далейшага жыццёвага шляху Мендэле, але і для яўрэйскай літаратуры XIX стагоддзя, у эпоху развіцця капіталізма ў Расіі. Гэта сустрэча з аднага боку дапамагла выявіцца вялікаму таленту Мендэле, дапамагла накіраваць яго на новы шлях, які вабіў яго яшчэ ў Слуцку, у Вільні і ў Капылі, выцягнула яго канчаткова з балота феадальна-рабінска-ліхвярскага яўрэйства. З другога боку гэта сустрэча з Готлоберам паставіла Мендэле на пазіцыі ліберальна-буржуазнага асветніцтва.

На працягу першых год сваёй творчасці быў Мендэле верным вучнем Готлобера і прыхільнікам яго асветніцкай праграмы.

## Першыя крокі пісьменніка

Чатыры гады мінулі пасля таго вечара, калі Мендэле пазнаёміўся з Готлоберам і пачаў займацца свецкай самаадукацыяй.

За гэты час Мендэле навекі пакінуў сінагогу і жыццё ешыботніка. Ён вучыўся і вытрымаў іспыты на права быць настаўнікам у яўрэйскай казённай школе.

У яго ўжо выпрацаваліся пэўныя погляды на выхаванне, на пытанні аб рэформе яўрэйскага быту. Ён многа чытаў з рускай і нямецкай літаратуры,—белетрыстыку, крытыку, займаўся прыродазнаўствам. Знаёмства з тагочаснай рускай літаратурай дапамагло яму выпрацаваць у сабе пэўны мінімум патрабаванняў да тагочаснай гебрэйскай літаратуры.

У адзін зімовы дзень 1857 года, прышоўшы са школы дахаты, знайшоў ён на стале пісьмо ад свайго старшага брата Гіршы, які жыў у той час недзе ў мястэчку на Беларусі.

Пісьмо гэта было напісана па-гебрэйску і мела прыблізна наступны змест і форму:

— «Мір табе, выпрабаваны плавец у морах нашай навукі, вострая галава і востры пераці. Мір табе, ты мудры ў навуках і свецкіх справах, брат мой Шолам-Янкель, хай свеціць тваё святло, хай будзеш ты жыць доўгія гады ў міры і радасці. Амэн.

Першае, што я павінен паведаміць ягомасці, гэта тое, што я, мая жонка і мае дзеткі знаходзімся, дзякаваць богу, у добрым здароўі, чаго і табе ад усёй душы жадаем.

Другое, аб чым я хачу табе напісаць, гэта тое, што, з таго часу, як мой цесць, рэб Лейб, хай будзе светлай яго памяць, пакінуў гэты грэшны свет і душа яго знаходзіцца пад ценямі божых крылляў, справы нашай карчмы ідуць вельмі кепска, і я прымушан быў пакінуць шатры торы і зрабіцца меламедам.

Нельга схаваць ад ягомасці майго брата, што знатных людзей робіцца ўсё менш і менш, а іхнае месца займаюць у мястэчку прастакі і грубіяны.

Багатыры павыехалі ў Вільню і ў Мінск. Там вядуць яны свае

справы з божай дапамогай, а мне давялося сядзець цэлымі днямі і навучаць дзяцей сапсутых, грубых і простых бацькоў. Тора не лезе ім у галовы. Я зусім не меламед, я вяду вайну з засмечанымі галовамі.

Гора нам і кароне нашай, торы...»

Яшчэ і яшчэ пісаў яму брат у высокім гебрэйскім стылі.

Мендэле прачытаў пісьмо і перад яго вачыма паўсталі зноў малюнкі хейдэра і ешыботаў. Ён успомніў пра рэбе з канчыкам, пра тое духоўнае і фізічнае калецтва, якому падпадалі ў хейдэры і ешыбоце цэлыя пакаленні людзей, адарваных ад жывой рэчаіснасці.

Мендэле быў у той час ужо добра знаёмы з працамі вядомых рускіх педагогаў Ушынскага і Пірагова, якія гаварылі аб ролі і значэнні настаўніка ў школе, якія выступалі супроць фізічных пакаранняў у школе. Як часта, чытаючы іх артыкулы, уяўляў ён сабе змрочную фігуру рэбе з хейдэра.

З цяжкім пачуццем сеў ён пісаць адказ свайму брату. Ён напісаў яму; настаўнік—не настаўнік, калі ён злуе і крычыць на сваіх вучняў. Ніхто перад ім ні ў чым не вінен, толькі ён сам. Калі ён такі настаўнік, дык значыць у яго няма здольнасцей выхоўваць дзяцей. Пры гэтым Мендэле растлумачыў брату тыя патрабаванні, якія прад'яўляе педагогіка да настаўнікаў.

Пісьмо гэта Мендэле перапісаў і паслаў брату.

Прыблізна праз поўгода атрымаў Мендэле па пошце пакет, які меў вялікае значэнне для яго далейшага жыцця. Пакет гэты быў з-за граніцы.

— Хто гэта мне мог прыслаць нешта з-за граніцы, дзе я не маю ніякіх знаёмых,—падумаў Мендэле, прымаючы пакет.

У пакеце не было пісьма. Там толькі экземпляр газеты «Гамагід».

На першай старонцы яе ўбачыў Мендэле перадавы артыкул пад назвай «Пісьмо наконт выхавання».

З артыкула глядзелі на яго знаёмыя словы:

— «У прыродзе дзіцяці няма імкнення рабіць знарок добрае ці злое, як у дарослага чалавека, развіццё якога ўжо закончана і які мае пэўны запас ведаў. Не так абстаіць справа з дзіцем. Розум яго знаходзіцца яшчэ ў тумане дзяцінства і зіхаціць у ім як дыямент пасярод пяску. Вось гэты дыямент і павінен знайсці выхавауца...»

І яшчэ шмат знаёмых і блізкіх слоў бачыць ён надрукаванымі ў гэтым артыкуле.

— Мы не можам меркаваць аб дзіцяці паводле яго ўчынкаў і казаць: гэты грашыць, а гэты не, гэты добры, а гэты благі, таксама як мы не можам казаць пра жывёлу, што гэта жывёла разумная, сумленная, а тая не, мяркуючы толькі паводле іх учынкаў, якія з'яўляюцца для іх натуральнымі».

— О, мае словы!—радасна ўсклікнуў Мендэле.

Яго ўзрадавала тое, што думкі яго цалкам супадалі з думкамі аўтара гэтага артыкула. Якраз тое самае пісаў ён свайму брату, калі той скардзіўся яму на сваіх вучняў.

Ён пачаў чытаць артыкул наўслых.

Пад артыкулам быў подпіс:

*Шолам-Янкель сын Хаім-Мойшэ Абрамовіч.*

Пад артыкулам была невялічкая заўвага курсівам з подпісам: *Аўром-Бер бен Хаім гайкейн Готлобер.*

Гэта быў той самы Готлобер, які першы паказаў яму шлях да неяўрэйскай кнігі, які першы вывеў яго з сінагогі і навучыў яго асноўным прынцыпам ліберальна-буржуазнага асветніцтва.

— «Гэтае пісьмо адносна выхавання,—пісаў у сваёй заўвазе Готлобер,—варта не толькі таго, каб быць надрукаваным, але і перакладзеным на дзяржаўныя мовы, каб паказаць народу і панам сваю прыгожасць. Можа гэтым будзе прыцягнута ўвага да аўтара, які гэтак добра ведае справу выхавання. Добра дзецям, якія маюць такога настаўніка і выхаваўца».

Гэты артыкул быў часткаю пісьма, што паслаў Мендэле свайму брату. Адзін з каменецкіх асветнікаў, што часта заходзіў да Мендэле, каб пагутарыць з ім аб пытаннях асветы, убачыў чарнавы экземпляр пісьма і рашыў, што ён мае грамадскае значэнне. Ён паслаў яго Готлоберу, які быў у той час дацэнтам у Житоміры.

Якраз у той год пачала выходзіць у Прусіі, у мястэчку Лік, каля рускай граніцы, першая штотыднёвая газета «Гамагід». Гэта была тыповая клерыкальна-буржуазная газета, разлічаная на яўрэйскага чытача ў Расіі.

Таксама, як і наогул у тагочаснай гебрэйскай літаратуры, панавала ў гэтай газеце пустая напышлівая рыторыка, беднасць мовы і думак.

Артыкулы гэтай газеты ў большасці сваёй былі прысвечаны тлумачэнню асобных месц рабінскай літаратуры. Усе трыццаць нумараў газеты аж да з'яўлення трыццаць першага нумара ў 1857 годзе з артыкулам Мендэле, не мелі ніводнага артыкула, прысвечанага пытанням рэчаіснасці.

Мендэле таксама падмацоўваў думкі свайго першага артыкула цытатамі з талмуда, як і ўсе асветнікі школы Левінсона-Готлобера. Але артыкул Мендэле прынёс у гебрэйскую прэсу шмат новага, чаго ў ёй дагэтуль не было. Гэта былі думкі рускай пазітывісцкай педагогікі.

З 1857 года дзейнасць Мендэле выходзіць за сцены Каменецкай казённай яўрэйскай школы.

Мендэле пачынае адчуваць сваё прызванне грамадскага дзеяча, пісьменніка.

*Пераклад з яўрэйскай мовы ЕІТ. ВОЛЬСКАГА.*

*Н. Зеленоў*

# ТВОРЧЫ ТВАР ЛЕРМАНТАВА

М. Ю. Лермантаў памёр, калі яму было ўсяго толькі 26 год. Але за свой кароткі жыццёвы шлях ён стварыў нямала геніяльных мастацкіх твораў, у якіх выявілася яго творчая індывідуальнасць, як вялікага рускага нацыянальнага паэта.

Літаратурнымі папярэднікамі Лермантава былі з аднаго боку, А. С. Пушкін, а з другога—паэты-дзекабрысты: А. І. Одоеўскі, Бестужэў-Марлінскі і, перш за ўсё, Рылееў.

Прэемственная сувязь паміж паэзіяй Пушкіна і Лермантава адчувалася чытачом адразу і ў яго свядомасці Лермантаў вырысоўваўся, як другі Пушкін—і па сіле даравання, і па сугучнасці матываў. «Мы глядзелі на яго, як на прэемніка Пушкіна»,—пісаў Белінскі аб Лермантаве.

Як і Пушкін, Лермантаў быў песняром вольнасці. І калі Пушкін належаў да пакалення дзекабрыстаў і быў іх другам, а яго творчасць была люстрам дзекабрызма, дык Лермантаў,—па словах А. В. Луначарскага,—«быў апошнім і пры тым глыбока шчырым рэхам дзекабрызма».

Паэзія вялікага паэта ўнаследвала лепшыя рэвалюцыйныя традыцыі дзекабрызма. Будучы на Каўказе, Лермантаў зблiжаецца з вядомым дзекабрыстам і таленавітым паэтам А. І. Одоеўскім і прысвячае яму, загінуўшаму на Каўказе, цудоўныя вершы, «Памяці Одоеўскага».

Следам за Рылеевым Лермантаў быў найвялікшым рускім палітычным паэтам XIX стагоддзя, паэтам-грамадзянінам. Водгукі рылееўскіх грамадзянскіх палітычных матываў, выказаных у вершы «Грамадзяніну», мы знойдзем у Лермантава ў такіх вершах, як «Паэт» і «Дума».

Свае погляды на паэзію ён выявіў у выдатнейшым вершы «Паэт» (1838 г.). У гэтым вершы Лермантаў гаворыць аб высокім прызначэнні паэта. Паэта і паэзію тут Лермантаў параўноўвае з кінжалам і тым самым разглядае паэзію, як баявую благародную зброю ў руках паэта-байца, які змагаецца за справу народа. У той-жа час верш паэта Лермантаў параўноўвае тут з вобразам вечнага звона, які гучаў «на башне вечевой во дни торжеств и бед народных». Гэты вобраз вечавога звона Лермантаву таксама быў навеян вольналюбівымі марамі дзекабрыстаў.

Жывучы інтарэсамі сучаснасці, Лермантаў адгукаўся на самыя match рознастайныя палітычныя падзеі свайго часу, закранаў у сваіх тво-

рах самыя злобадзённыя і балючыя пытанні. Ён быў паэтам рэвалюцыйнага дзеяння, паэтам барацьбы і мяцежа.

«Так жизнь скучна, когда боренья нет,—заяўляў Лермантаў у 1831 годзе ў вершы пад назвай «1831-га ліпеня 11 дня». І там-жа пісаў: «Мне нужно действовать, я каждый день бессмертным сделать-бы желал, как тень великого героя, и понять не могу, что значит отдыхать».

У вершы «Дума» (1838 г.) Лермантаў выкрываў сучаснае яму дрэмлючае ў бяздзеянні дваранскае пакаленне. Ён папракаў сваіх сучаснікаў і за іх абыякавасць да лёсу сваёй радзімы і народа, і за тое, што яны «перед властью презренные рабы». Сам Лермантаў не мірыўся з усім гэтым.

Падобна свайму мяцежнаму парусу, Лермантаў шукаў рэвалюцыйнай буры. Рэвалюцыйным тытанічным пратэстам прасякнута ўся творчасць вялікага паэта.

Следам за Рылеевым, Раеўскім і іншымі паэтамі-дзекабрыстамі, Лермантаў звяртае ўвагу на некалі вольны Ноўгарад і піша ў 1830 годзе верш, прысвечаны ноўгарадцам («Ноўгарад»), дзе ён заклікае іх да рэвалюцыйнай барацьбы і прадракае, што загіне іх тыран, «как все тираны погибали».

У гэтым-жа годзе, следуючы традыцыям дзекабрыстаў, Лермантаў піша рэвалюцыйную паэму «Апошні сын вольнасці». У аснову гэтай паэмы ляглі паданні аб Вадзіме Ноўгарадскім, аб якім у Ніканаўскім летапісу гаворыцца наступнае: «Того же лета (1863-го) оскорбишася новгородци глаголюще: яко быти нам рабом, и много зла всячески пострадати от Рюрика и рода его». Вадзім узняў паўстанне супроць варажска-рускага князя. «Того же лета,—паведамляецца ў летапісу,—уби Рюрик Вадима храброго». Паданне аб храбрым і вольналюбівым Вадзіме не адзін раз прыцягвала ўвагу вядомых рускіх паэтаў (Княжнін, Пушкін, Рылееў, Раеўскі). Вобраз Вадзіма Ноўгарадскага, які захапляў паэтаў-дзекабрыстаў, знаходзіць месца і ў паэзіі Лермантава.

Лермантаў апявае свабодалюбівага Вадзіма і яго жменьку сяброў, якія не прымірыліся з прыгнечаннем і пайшлі ў добраахвотнае выгнанне, каб усё-ж прадаўжаць барацьбу за нацыянальную незалежнасць.

Яшчэ ў 1829 годзе Лермантаў, у вершы «Партрэты», называе сябе «свободы другом». У вершы-ж «Скаргі турка», напісаным у тым-жа годзе, Лермантаў гаворыць аб сваёй айчызне: «Там стонет человек от рабства и цепей».

У 1830 годзе паэт піша два вершы, прысвечаныя ліпеньскай французскай рэвалюцыі. У адным з іх ён вітае «знамя вольности кровавой» і выказвае сваё зачараванне французскім народам, які паўстаў «за независимость страны». У другім вершы ён адабрае пакаранне смерцю французскага караля і заяўляе, што «есть суд земной и для царей». Лермантаў папракае караля за тое, што ён французскі народ «хотел унизить под ярмом», за тое, што нявіннай крывёю грамадзян ён заліў вуліцы Парыжа.

У тым-жа 1830 годзе Лермантаў піша верш «Прадраканне», у якім гаворыць аб будучым народным паўстанні ў Расіі, у часе якога

«царей корона упадет, и чернь забудет к ним всю прежнюю любовь». Войстрай сатырай на цароў з'яўляецца і верш «Пір Асмодэя».

У паэме «Дэман» (1829—1840) Лермантаў увасобіў свой мяцеж супроць самога бога, супроць усіх соцыяльных недахопаў жыцця. Ён з любоўю рысуе Дэмана, які быў «царем познанья и свободы», «духом отрицанья и сомненья», бо гэтае адмаўленне і сумненне паставіла Дэмана ў варожасць да неба. У дэманаўскім «отрицаньи и сомненьи» ўвасобілася лермантаўскае рэволюцыйнае адмаўленне прыгонніцкай сапраўднасці.

Але гэтым-жа рэволюцыйным пратэстам насычаны і драма «Іспанцы» (1830 г.) і аповесць «Вадзім» (1832 г.), і «Смерць паэта» (1837 г.), і «Песня пра купца Калашнікава» (1837 г.), і «Мцыры» (1840 г.) і шмат, шмат іншыя.

Належачы па паходжанню да дваранска-арыстакратычнага круга, Лермантаў рашуча парываў з ім і мужна кінуў яму рэволюцыйны выклік. Аб гэтым сведчыць уся творчасць вялікага паэта і, у прыватнасці і перш за ўсё, яго выдатнейшы верш «Бывай, нямытая Расія», напісаны ў 1841 годзе перад апошняй ссылкай на Каўказ.

Гэты верш—сапраўдны рэволюцыйны пратэст Лермантава супроць царызма і ўсяго грамадска-палітычнага ладу. Тут Лермантаў адкрыта заяўляе аб сваім разрыве з афіцыяльнай «немытой Россией», «со страной рабов и господ». У той-жа час вялікі паэт у гэтым вершы з сумам адзначае, што «голубым мундирам» пакуль яшчэ «русский народ остается послушным».

Рэволюцыйны пратэст Лермантава выявіўся ў рэалістычным паказе розных бакоў сучаснай яму прыгонніцкай Расіі. Творчасць вялікага паэта была люстрам яго эпохі.

Паказваючы свет у соцыяльных супярэчнасцях, Лермантаў выкрываў соцыяльныя язвы прыгонніцкай эпохі, грамадска-палітычны лад, дваранска-памешчыцкае грамадства.

Жывучы ў прыгонніцкую эпоху, Лермантаў не мог не бачыць жахаў прыгоннага права. У драме «Дзіўны чалавек» (1831 г.) і ў аповесці «Вадзім» (1832 г.) ён выразіў пратэст супроць прыгоннага права, паказаў вельмі тыповыя карціны памешчычага самадурства, сваявольства і лютасці.

У драме «Дзіўны чалавек» Лермантаў рысуе вобраз памешчыцы-прыгонніцы, якая сваімі бесчалавечнымі адносінамі даводзіла сялян да адчаю. Гэта пані, раззлаваўшыся, тыкала нажніцамі дваровых дзяўчат і вышчыпвала бароды ў мужыкоў—па валаску.

Лермантаў гаворыць і аб тым, што сялянам няма каму паскардзіцца на бясчынствы іх пані і ўпраўляючага, бо ўсе суддзі ў горадзе падкуплены паняй сялянскім-жа аброкам.

У аповесці «Вадзім» Лермантаў зусім самастойна ад Пушкіна, ад яго аповесцей «Дуброўскі» і «Капітанская дачка» закрануў тэму сялянскага паўстання і паказаў пугачоўскае паўстанне, як заслужаную памешчыкамі народную помсту. У вобразе бяздомнага жабрака Вадзіма Лермантаў увасобіў свой рэволюцыйны пратэст супроць прыгонніцтва. Ён прымушае свайго Вадзіма быць бліжэйшым сараткікам Пугачова. Вадзім узначальвае сялянскія масы, якія ўзняліся на барацьбу з памешчыкамі.

Асабліва настойліва паўтараецца ў Лермантава паказ свецкага грамадства, у прыватнасці ў такіх творах, як «Смерць паэта», «1 студзеня», «Маскарад» і рад іншых, уключаючы сюды і аповесць «Герой нашага часу». Адносіны ў Лермантава да свецкага грамадства самыя адмоўныя. Ужо ў 1830 годзе ў вершы «Прысвячэнне» Лермантаў пісаў:

Передо мной
Блестит надменный глупый свет
Своей красивой пустотой.
Ужель я для него писал?
Ужели важному шуту
Я вдохновенье посвящал,
Являя сердца полноту?
Ценить он только злато мог...

У вершы «1 студзеня» 1840 года Лермантаў апісвае бал-маскарад у свецкім грамадстве. На гэтым маскарадзе Лермантаў адчувае сябе чужым чалавекам. У марах ён адыходзіць далёка ад гэтага бала-маскарада ў свет светлых і чыстых дзіцячых успамінаў. Вярнуўшыся да сапраўднасці, Лермантаў заканчвае свой верш выдатнымі радкамі, адрасаванымі свецкаму грамадству, якое весяліцца:

О, как мне хочется смутить веселость их
И дерзко бросить им в глаза железный стих,
Облитый горечью и злостью.

Гэты-ж матыў ёсць і ў драме «Маскарад» (1834—35 г. г.) Сама назва гэтай п'есы спецыфічная. Апрача таго, што тут адным з галоўных момантаў з'яўляецца апісанне маскарада ў свецкім грамадстве, Лермантаў назве п'есы надаў алегарычны сэнс. Свецкае грамадства ён паказаў тут як грамадства ў масках. Паэт карыстаецца тут метадам зрывання масак. Ён паказаў у гэтай п'есе арыстакратыю, як зборышча шулераў, інтрыганаў, зайздроснікаў, бяздушных сябелюбцаў і лёгкадумных павес.

Выключнай сілы выкрыцця дваранскага грамадства, свецкай чэрні дасягае Лермантаў у вершы «Смерць паэта» (1837 г.). У ім Лермантаў расказаў аб трагічным лёсе і пагібелі вялікага паэта Пушкіна. Лермантаў гнеўна бічуе свецкую чэрнь, якая была галоўнай віноўніцай пагібелі яго геніяльнага сабрата.

Тут Лермантаў карыстаецца моцным выкрывальным словам. Ён надзяліў свецкае грамадства і яго розных прадстаўнікоў такімі эпітэтамі, як: «свет завистливый и душный для сердца вольного и пламенных страстей». Членаў гэтага грамадства называе ён «клеветниками ничтожными», «наперсниками разврата», катамі «свободы, гения и славы».

Лермантаў заклікаў да помсты за смерць паэта. У канцы верша ён пагражаў забойцам народнай помстай і прадракаў непазбежнасць яе: «Тогда не смоете всей вашей черной кровью поэта праведную кровь».

«Смерць паэта»—гэта выраз народнага пратэста супроць агідных забойцаў вялікага паэта. Веліч Лермантава і заключаецца ў тым, што ён чула ўлавіў гэты народны пратэст і выказаў яго ў сваім вершы.

Матывы свабодалюб'я і барацьбы моцна выявіліся ў каўказскіх творах Лермантава. І паказ прыроды Каўказа, і вобразы, і мова паэта гавораць нам аб тым, як глыбока Лермантаў парадніўся з Каўказам. Ён быў песняром Каўказа. У прысвячэнні да «Дэмана» вялікі паэт сам называў сябе «сынам Каўказа». Для Лермантава Каўказ быў сімвалам свабоды і гордай незалежнасці чалавечай асобы. Яшчэ ў 1830 г. у вершы «Каўказу» Лермантаў называў яго жыллём «вольности простой». У паэме «Ізмаіл Бей» (1832 г.) Лермантаў з захапленнем пісаў аб Каўказе: «Прекрасен ты, суровый край свободы».

З вобразам Каўказа ў вялікага паэта звязвалася ідэя барацьбы за свабоду і незалежнасць. Нездарма словы «свабода» і «вольнасць» былі любімымі словамі Лермантава,—ці паказваў ён дзікую прыроду Каўказа, ці насельнікаў яго. Тэма Каўказа ўзнікла ў Лермантаве, як выражэнне самай глыбокай сімпатыі паэта да тых народаў, якія ў масе сваёй ўзняліся на абарону нацыянальнай незалежнасці і сваёй свабоды. Лермантаў асуджаў каланіяльную палітыку рускага царызма і вайну супроць горскіх народаў, як вайну захопніцкую, якая нясе горцам прыгнечанне. Гэтыя матывы рэзка выявіліся ў паэмах «Ізмаіл Бей» (1832 г.), «Бяглец» (1839 г.), «Мцыры» (1840 г.), «Валерык» (1840 г.), у вершы «Спрэчкі» (1841 г.) і шмат іншых.

У паэме «Валерык», апісаўшы бой паміж рускімі і горцамі, Лермантаў выказаў мысль аб бессэнсоўнасці вайны.

И с грустью тайной и сердечной
Я думал: жалкий человек!
Чего он хочет!.. Небо ясно,
Под небом места много всем,
Но беспрестанно и напрасно
Один враждует он—зачем?"

У паэме «Ізмаіл Бей» Лермантаў расказвае, як царскія войскі палілі аулы, ператвараючы ў попел і маёмасць і родныя гнёзды насельнікаў аулаў. Лермантаў паказаў гвалтоўнае дэспатычнае знішчэнне каўказскіх народаў.

Горят аулы; нет у них защиты,
Врагом сыны отечества разбиты,
И зарево, как вечный метеор,
Играя в облаках, пугает взор.
Как хищный зверь в смиренную обитель
Врывается штыками победитель;
Он убивает старцев и детей,
Невинных дев и юных матерей
Ласкает он кровавою рукой.

Лермантаў з задавальненнем бачыў, што горскія народы мужна ўздымаюцца на барацьбу за сваю незалежнасць і свабоду. У той-жа паэме Лермантаў пісаў:

Гремя через Кавказ пустынный,
Промчался клик: война, война!
И пробудились племена.
На смерть идут они охотно...
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . всякий биться рад
За дело чести и свободы.

Ідэя барацьбы за радзіму супроць драпежнікаў-захопнікаў знайшла сабе яркае выражэнне ў паэме «Бяглец» (1839 г.). У ёй вялікі паэт рысуе горца Гаруна, які забыў «свой долг и стыд» і ўцёк з поля бойкі. Выратоўваючы сваё жыццё, ён шукае прытулку ў паміраючага друга. Але друг гнеўна прагнаў яго, як здрадніка і баязліўца.

Ступай, достоин ты презренья.
Ни крова, ни благословенья
Здесь у меня для труса нет.

Адмовілася ад Гаруна і каханая дзяўчына, адмовілася ад здрадніка-сына і яго маці.

Твоим стыдом, беглец свободы,
Не омрачу я стары годы,
Ты раб и трус, а мне—не сын.

А калі Гарун, якога ўсе адцураліся, скончыў жыццё самагубствам, дык «в преданьях вольности остались позор и гибель беглеца».

У паэме «Мцыры» Лермантаў расказаў аб трагічным лёсе горскага хлопчыка, падабранага ў адным з разбураных царскімі войскамі аулаў і адданага на выхаванне ў манастыр.

Хлопчык імкнецца душою на сваю радзіму, у свой родны аул, да блізкіх родных людзей. Ён ненавідзіць манастыр, які здаваўся яму турмой. Мцыры не паміраўся з рабствам і палонам. У часе буры ён уцёк. Аднак-жа на радзіму яму прабрацца не ўдалося. Ён заблудзіўся. Хворым ён быў падабраны манахамі і памёр у ненавісным яму манастыры.

Мцыры—моцная, свабодалюбівая і бясстрашная асоба. Белінскі пісаў аб вобразе Мцыры: «Што за агністая душа, што за магутны дух, што за натура волата ў гэтым Мцыры».

Вобраз Мцыры ўвасабляе сабою палкае імкненне да свабоды, а ўся паэма—гэта гімн свабодалюбівай асобе, якая гіне, але не здаецца.

Повадам да напісання гэтай паэмы паслужыў сапраўдны выпадак. Біограф Лермантава Віскаваты са слоў бліжэйшага родзіча і друга вялікага паэта расказвае наступнае:

«Калі Лермантаў, вандруючы па Ваенна-Грузінскай дарозе ў 1837 годзе, вывучаў мясцовыя паданні, ён натыкнуўся ў Мцхеце... на адзінокага манаха, старога манастырскага служку—«бэры» па-грузінску. Лермантаў даведаўся ад яго, што ён—горац, палонены, калі яму было шэсць год, генералам Ермолавым у часе яго экспедыцыі. Генерал вёз палонніка-дзіцёнка з сабою, але ў дарозе ён захварэў, і Ермолаў пакінуў яго манастырскай брацііі. Тут ён і вырас. Доўга не мог ён звыкнуцца з манастыром, сумаваў і рабіў спробы ўцячы ў горы. Вынікам адной такой спробы была доўгая хвароба, якая прывяла яго да краю магілы. Вылячыўшыся, дзікун угаманіўся і застаўся ў манастыры, дзе вельмі прывязаўся да старога манаха. Цікавы і жывы расказ бэры зрабіў на Лермантава ўражанне».

У сваёй паэме Лермантаў і расказваў гісторыю гэтага манастырскага служкі-бэры. Але Лермантаў змяніў канец. Сапраўдны прататып Мцыры ў канцы канцоў прымірыўся са сваім лёсам. Не такім

аказаўся лермантаўскі Мцыры. Рэвалюцыйна-настроенаму паэту быў бліжэй вобраз Мцыры, які загінуў, але не прымірыўся, чым вобраз сапраўднага манастырскага служкі, з якім Лермантаў сустрэўся ў Мцхеце.

На працягу ўсёй сваёй творчасці Лермантаў няўхільна рысаваў свабодалюбівых, моцных духам, якія кідаюцца ў барацьбу за свабоду асобы, на абарону яе правоў і годнасці.

Сюжэты твораў паэта звычайна будуюцца на паказе барацьбы паміж гордай моцнай і мяцежнай асобай і яе антыподам ці антыподамі. Так пабудован сюжэт «Дэмана», дзе Дэман паўстае супроць самога бога; так пабудавана «Песня пра купца Калашнікава», дзе Калашнікаў змагаецца з антыподам сваім Кірыбеевічам; тое самае мы нагядаем у паэме «Апошні сын вольнасці» і ў шмат іншых.

Такая пабудова сюжэта цалкам адказвала баявой мэтаімкнёнасці паэта. У ёй знаходзіла сабе ўвасабленне ідэя рэвалюцыйнага дзеяння.

Асаблівасцю ў паказе барацьбы лермантаўскіх герояў з'яўляецца тое, што змагаюцца ў Лермантава звычайна адзінкі. Нават там, дзе Лермантаў паказвае барацьбу мас, як напрыклад, у паэме «Ізмаіл Бей» і ў аповесці «Вадзім», мы бачым, што паміж асноўнымі сюжэтнымі героямі—Вадзімам і Ізмаілам, і народнай масай—няма адзінай агульнай мовы. І гэта было законамерна для таго часу.

Лермантаў жыў і тварыў у эпоху 30-х год, якая называецца «эпохой безвременья». На рэвалюцыйную барацьбу ў тыя годы ішлі толькі адзінкі, лепшыя людзі з дваран. Суадносіны сіл былі не на іх карысць. Народ у той час да рэвалюцыйнай барацьбы яшчэ не быў падрыхтован і гэтыя гераічныя адзінкі, якія ўступалі ў барацьбу з царызмам, у той час «былі,—па словах В. І. Леніна,—бяссільны без падтрымання народа» (Ленін, т. XVI, стар. 575).

Творчасць Лермантава з'яўляецца люстрам, «эпохи безвременья». Яна накладвала свой адбітак і на перажыванні лермантаўскіх герояў і на перажыванні самога паэта, выражаныя ў яго творах.

Лермантаўскія героі заўсёды войстра і хваравіта адчуваюць адзіноцтва і томяцца ў ім. Адзінокім сябе адчувае Вадзім Ноўгарадскі з паэмы «Апошні сын вольнасці». Адзінокі і Вадзім з аповесці той-жа назвы, адзінокі і Ізмаіл Бей. У адзіноцтве томіцца сярод манахаў Мцыры. На адзіноцтва скардзіцца і Кірыбеевіч цару Івану Грознаму ў «Песні пра купца Калашнікава»: «Скучно, грустно мне, православный царь одному по свету маяться».

Скаргі на сваё адзіноцтва выражае і Дэман у аповесці перад Тамарай.

І які-б вобраз мы ні ўзялі—ці Печорына, ці Арбеніна і шмат іншых,—усюды мы знойдзем адны і тыя-ж скаргі на адзіноцтва.

Гэтымі-ж матывамі адзіноцтва прасякнута і ўся лірыка Лермантава, у прыватнасці такія вершы, як «Сасна», «Уцёс», «Парус», «Дубовы лісток» і іншыя. «Одинок я, нет отрады»,—піша паэт аб сябе ў вершы «Вязень», а ў вершы «І нудна і сумна» з цяжкім смуткам заяўляе: «И некому руку подать в минуту душевной невзгоды».

Той факт, што ў барацьбу з нікалаеўскай рэакцыяй уступалі хоць і моцныя і мужныя асобы, але асобы-адзінкі,—непазбежна прадрашала вынік барацьбы.

Героі Лермантава звычайна аказваюцца пераможанымі ў сваім адзінаборстве. І не толькі людзі, нават магутны тытан-Дэман, які не ведае абмежаванасці чалавечых магчымасцей—нават і ён пракляў, пераможаны, «мечты безумные свои».

Сюжэты лермантаўскіх твораў звычайна маюць трагічны характар і трагічныя канцоўкі. Зменнасць сітуацый у сюжэце пабудавана такім чынам, што за шчаслівай сітуацыяй абавязкова ідзе супроцьлеглая ёй трагічная ці, ва ўсякім выпадку, больш змрочная сітуацыя. На гэтым супроцьстаўленні, пры дапамозе злучніка «але», пабудавана сувязь паміж зменяючымі адна другую сітуацыямі. У такой пабудове ярчэй выяўляецца змрочнасць і трагічнасць канцовак, трагічнае вырашэнне сюжэтнага канфлікта ў творы.

Такі характар сюжэта ў творах Лермантава падказваўся вялікаму паэту яго эпохай.

Вельмі часта творы Лермантава заканчваюцца трагічнай смерцю яго герояў. Гіне ў паядынку з Рурыкам Вадзім Ноўгарадскі, гіне Кірыбеевіч у паядынку з Калашнікавым, гіне на плахе сам Калашнікаў, гіне ў паядынку гладыятар у вершы «Паміраючы гладыятар», гіне Мцыры і шмат іншых.

У лірыцы Лермантава гучыць матыў непазбежнай у будучым трагічнай пагібелі самога паэта. Лермантаў не раз у вершах прадказвае сабе крывавую смерць.

У 1830 годзе ён пісаў:

Настанет день—и миром осужденный
Чужой в родном краю
На месте казни—гордый, хоть презренный
Я кончу жизнь мою.

У вершы пад назвай «1831-га ліпеня 11 дня» мы чытаем: «Смерть моя ужасна будет». І там-жа, праз некалькі радкоў: «Кровавая меня могила ждет, могила без молитв и без креста».

У 1837 годзе Лермантаў пісаў:

Не смейся над моей пророческой тоскою;
Я знал, удар судьбы меня не обойдет,
Я знал, что голова, любимая тобою,
С твоей груди на плаху перейдет.

У вершы 1841 г. «Сон» Лермантаў таксама прадказвае сваю трагічную смерць. І вялікі паэт не памыліўся: яго сапраўды чакала «могила без молитв и без креста». Наглядаючы трагічную пагібель лепшых людзей таго часу—Пушкіна, Грыбаедава, дзекабрыстаў, ён не мог не бачыць таго, што і яго чакае такі-ж лёс.

Гучаць у Лермантава і матывы турэмнасці, выгнання і вандравання. Нездарма словы «выгнанне» і «вандроўнік» побач з словам «адзіноцтва» найбольш часта паўтараюцца ў яго вершах у розных спалучэннях і варыяцыях.

У творах Лермантава сустракаюцца вобразы вязняў і палонных. Палонным з'яўляецца гладыятар у вершы «Паміраючы гладыятар», ёсць у Лермантава паэма пад назвай «Каўказскі нявольнік»,

палонным з'яўляецца і Мцыры, палонніцай аказваецца Эмілія, украдзеная іезуітам Соррыні (драма «Іспанцы»), палонніцай Печорына аказваецца і Бэла. Ёсць у Лермантава таксама верш пад назвай «Палонны рыцар». Турэмныя матывы гучаць і ў такіх вершах, як «Вязень», «Сусед», «Суседка».

Заўсёды лермантаўскія героі выступаюць з старонак твораў выгнаннікамі і вандроўнікамі. Выгнаннікам з'яўляецца яго «Прарок» за тое, што ён стаў прапаведваць словы «любви и правды чистые ученья», выгнаннікамі з'яўляюцца і Вадзім Ноўгарадскі, і Дэман, і Печорын, і іншыя. Матыў выгнання і вандравання гучыць, у прыватнасці, у такіх творах, як «Хмаркі», «Дубовы лісток» і інш.

Лермантаў таксама адчувае сябе выгнаннікам і вандроўнікам у сваёй роднай краіне.

Як правіла, развіццё дзеі ў творах Лермантава адбываецца на чужыне, далёка ад роднага кута. Героі Лермантава, падобна да яго «Дубовага лістка», адрываюцца ад роднага кута і становяцца ганімымі «с милого севера в сторону южную».

У большай частцы твораў Лермантава месцам дзеі з'яўляецца Каўказ. Лермантава Каўказ вабіў да сябе задоўга да таго, як ён сам у 1837 годзе першы раз быў туды сасланы.

Усё гэта было зусім законамерна не толькі для лірыкі Лермантава, але і для рада іншых пісьменнікаў і паэтаў таго часу. Каўказ быў месцам выгнання дзекабрыстаў, месцам выгнання самога Лермантава і шмат іншых лепшых людзей таго часу. І калі з вобразам Каўказа, з аднаго боку, асацыіраваны ў Лермантава вольналюбівыя мары, то з другога—з вобразам Каўказа у яго асацыіраваўся і матыў выгнання.

Усе вышэйпералічаныя матывы адзіноцтва, смерці, турэмнасці, палона, выгнання і вандравання надавалі лермантаўскай творчасці змрочны каларыт. Гэтыя матывы раднілі паэзію Лермантава з змрочнай паэзіяй Байрона.

Трэба толькі памятаць, што, нягледзячы на радство гэтых двух геніяльных паэтаў, Лермантаў з'яўляецца перш за ўсё самабытным рускім нацыянальным паэтам. Сам Лермантаў выразна падкрэсліў гэта:

Нет, я не Байрон, я другой,
Еще неведомый избранник,
Как он, гонимый миром странник,
Но только с русскою душой.

Змрочным каларытам авеяны біяграфіі амаль усіх лермантаўскіх герояў.

Яго героі не ведаюць асабістага шчасця. Асабліва гэта рэзка выяўляецца ў тэмах любві і сямейнага шчасця. Лермантаў паказвае звычайна трагічныя сітуацыі і ў любві і ў сямейным жыцці. Яго героі ведаюць, як напрыклад, Кірыбеевіч,—толькі адзінокую непадзеленую любоў, або іх шчаслівая падзеленая любоў і сямейнае шчасце няўмольна разбураюцца абставінамі жыцця.

І гэта не таму, што Лермантаў наогул адмаўляў права чалавека на шчасце. Наадварот, ён настойліва ў сваёй творчасці заяўляе аб тым, што чалавек народжаны для шчасця. «Он был рожден для

счастья, для надежд і вдохновений мирных»,—пісаў вялікі паэт у вершы, які пачынаецца з гэтых-жа слоў.

З паняццем «шчасце» ў Лермантава звязвалася ўяўленне аб зямлі, а не аб небе. Ён быў геніяльнейшым паэтам зямлялюбцам. У яго вершах настойліва праяўляецца тэндэнцыя супроцьстаўляць неба зямлі. Калі айцы царквы абяцалі абяздоленаму чалавеку шчасце на небе, дык Лермантаў рашуча адмаўляўся ў сваіх вершах ад гэтага міража і аддаваў перавагу рэальнаму шчасцю на зямлі.

У вершы «Зямля і неба» ён піша:

Как землю нам больше небес не любить?
Нам небесное счастье темно,
Хоть счастье земное и меньше в сто раз,
Но мы знаем, какое оно.

У вершы «К другу» (1829 г.) Лермантаў выказвае тыя-ж думкі:

Я не пленен небесной красотой,
Но я ищу земного упоенья.

Усё гэта рэзка адрознівае паэзію Лермантава ад паэзіі Жукоўскага.

Лермантаў верыў у высокае прызначэнне чалавека на зямлі, і гэту веру выразіў у сваёй творчасці, у прыватнасці ў рамане «Герой нашага часу».

«Прабягаючы ў памяці ўсё сваё маленства,—запісвае Печорын у дзённіку,—я пытаюся сябе міжвольна: навошта я жыў, для якой мэты я нарадзіўся,—а мусіць, яна існавала, і, мусіць, было мне прызначэнне высокае, таму што я адчуваю ў душы маёй сілы неабдымныя».

Але Лермантаў таксама паказаў на вобразе Печорына, як і ўсёй сваёй творчасцю, што закладзеныя ў чалавеку благародныя задаткі і імкненні безнадзейна гінуць у ціскях «эпохи безвременья», чалавек не знаходзіць на зямлі шчасця і бескарысна і бясплённа растрачвае свае сілы.

Лермантаў у вобразе Печорына рэалістычна і глыбока раскрыў увесь трагізм жыццёвага і грамадска-ідэйнага самавызначэння перадавых людзей Расіі таго часу, трагізм які выражаўся, па словах Белінскага,—у «супярэчнасці паміж глыбокасцю натуры і нікчэмнасцю дзеяння».

Аналагічныя матывы мы знойдзем і ў паэме «Дэман» у характарыстыцы самога Дэмана. Вобраз Дэмана, яго перажыванні падказаны Лермантаву эпохай 30-х гадоў, калі ўсё жывое, сумленнае, благароднае прыціскалася, душылася, забівалася.

У вобразе Дэмана Лермантаў увасобіў мары аб зямным шчасці і зямных радасцях. Разам з Дэманам ён адмовіўся ад неба і падняў бунт супроць бога, але ў той-жа час Дэман шмат у чым блізкі вобразу Печорына, які страціў веру ва ўсё, душэўна ахаладзеў і амярцвеў. Як і ў Печорыне, у Дэмане Лермантаў паказвае душэўнае спусташэнне, амярцвеласць душы, як вынік эпохі рэакцыі 30-х гадоў. Вобраз Дэмана—гэта алегарычны вобраз маўзалея, на дне якога захаваны загінуўшыя мары, надзеі, благародныя імкненні і лепшыя пачуцці чалавека. Дэман выступае, як геній зла—але зло не радуе яго, азлобленасць у душы Дэмана паяўляецца, як рэакцыя

на тыя праследванні і пакуты, якія ён перанёс, сустракаючы ў жыцці толькі праследванні і няўдачы. Героі Лермантава, падобна Печорыну і Дэману, перажываюць змрочныя настроі,—і сам Лермантаў у вершах скардзіцца, што яму «и скучно, и грустно», што яму добра знаёмы мінуты душэўных нягод.

Як правіла, Лермантаўскія героі нават не ўсміхаюцца і не смяюцца. І не выпадкова, што на працягу ўсяго рамана «Герой нашага часу» княжна Мэры некалькі разоў спрабавала ўсміхнуцца, але так ні разу і не ўсміхнулася. Выключэннем з'яўляецца вобраз Тамары ў «Дэмане» і вобраз Печорына ў «Героі нашага часу». Але ўсмешка Тамары сціраецца пячаткай смерці, а смех Печорына—гэта не звычайны, а вельмі дзіўны і, ва ўсякім выпадку, не радасны смех, ад гэтага смеху ў Максіма Максімавіча прабягае мароз па скуры.

Тэма асабістага шчасця, як і ўся творчасць, у Лермантава афарбоўваецца змрочным матывам фаталізма, верай у бязрадасную асуджанасць лёсу чалавека.

Судьбе, как турок иль татарин,
За все я ровно благодарен,
У бога счастья не прошу
И молча зло переношу,

заяўляе паэт у паэме «Валерык». Гэты матыў фаталізма ярчэй за ўсё выражан у раздзеле «Фаталіст» у рамане «Герой нашага часу». У фаталізме Лермантава выражалася ўсведамленне свайго бяссілля перад суровымі няўмольнымі законамі лёсу, якія разбіваюць жыццё чалавека.

«Но тщетны мечты, бесполезны мольбы против строгих законов судьбы»,—пісаў паэт у вершы «Жаданне» (1832 г.)

Неадрыўна ад матываў фаталізма паяўляюцца ў Лермантава і матывы безнадзейнасці, увядання, стомленасці, халоднага адчаю.

«И тьмой, и холодом об'ята душа усталая моя; как ранний плод, лишенный сока, она увянет в бурях рока, под знойным солнцем бытия».

Страціўшы веру ў жыццё, паэт піша такія вершы, як «Удзячнасць», «І нудна, і сумна», «Выхаджу адзін я на дарогу» і рад іншых.

«И жизнь, как посмотришь с холодным вниманьем вокруг, такая пустая и глупая шутка»,—робіць паэт вывад на падставе бачанага, перадуманага і перажытага.

У вершы «Удзячнасць» Лермантаў з іроніяй кідае горкі папрок богу за ўсю горыч, пакуты, якія паслаў яму бог. У канцы верша паэт выражае жаданне памерці хутчэй.

Аб гэтым-жа жаданні смерці і спакою, забыцця ў сне гаворыць Лермантаў і ў вершы «Выхаджу адзін я на дарогу» «Уж не жду от жизни ничего я»—заяўляе паэт у гэтым вершы. Аднак у песімізме Лермантава мы бачым усё тое-ж непрыняцце вялікім паэтам нікалаеўскай рэчаіснасці. Нездарма Лермантаў сваіх герояў паказвае хоць і пераможанымі, але не пакарыўшыміся. Такімі з'яўляюцца і Дэман, і Мцыры, і Калашнікаў. І сам Лермантаў таксама не прымірыўся і не здаўся.

У песімізме Лермантава Горкі бачыў «дзейснае пачуццё». «У гэтым песімізме,—пісаў вялікі савецкі пісьменнік,—ясна гучыць пагарда да сучаснасці і адмаўленне яе, прага барацьбы і сум, і адчай ад усведамлення адзіноцтва, ад усведамлення бяссілля. Яго песімізм увесь накіраван на свецкае грамадства».

Лермантаўскі песімізм блізкі гогалеўскаму смеху скрозь нябачныя свету слёзы. У песімізме Лермантава чуюцца бічуючыя матывы некрасаўскага грамадскага суму. У песімізме Лермантава выражалася глыбокая любоў вялікага паэта да чалавека, да жыцця народа і радзімы. І гэта любоў дала магчымасць Лермантаву бічаваць з бязлітаснай сілай заганы дваранскага грамадства.

Лермантаў настойліва шукаў выхаду з замкнёнага кола мучыўшых яго змрочных супярэчнасцей, са свету адчаю, бязвер'я, песімізма і душэўнага холаду.

І ён правільна бачыў гэты выхад у народнасці, у зблíжэнні з народам. Лермантаў з любоўю глядзеў на народ.

У вершах «Радзіма» (1841 г.) ён «с отрадой многим незнакомой» апявае сваю радзіму. Цёпла і задушэўна рысуе ён рускі вясковы пейзаж. Тут ён гаворыць аб магутных стэпавых прасторах сваёй радзімы, аб шырокіх рэках, аб бязмежных лясах. Верш поўны гарачай любві да радзімы ўсяго народа. У той-жа час верш сведчыць аб разрыве паэта з прыгоннай жандармскай Расіяй. Тут Лермантаў адмаўляецца ад афіцыйнага фальшывага патрыятызма. Гэты верш з'яўляецца выражэннем сапраўднага народнага, рэвалюцыйнага патрыятызма паэта.

Высока ацаніў характарызуемыя намі лермантаўскія вершы вялікі крытык Добралюбаў. Ён пісаў, што Лермантаў, які ўмеў зразумець недахопы сучаснага грамадства, умеў зразумець і тое, што выратаванне з гэтага няправільнага шляху знаходзіцца толькі ў народзе. Доказам служыць яго дзівосны верш «Радзіма», у якім ён рашуча становіцца вышэй усіх прадрассудкаў патрыятызма і разумее любоў да бацькаўшчыны праўдзіва, свята і разумна».

Заканчваючы характарыстыку гэтага выдатнага верша, Добралюбаў пісаў: «Паўнейшага выражэння чыстай любві да народа, гуманнейшага погляда на яго жыццё нельга і патрабаваць ад рускага паэта».

Свой погляд на рускі народ Лермантаў выказаў у наступных словах: «Сказываецца і казка, Еруслан Лазаравіч сядзеў сіднем 20 год і спаў моцна, але на 21-м годзе прачнуўся ад цяжкога сна, устаў і пайшоў... і сустрэў ён трыццаць сем каралёў і семдзесят багатыроў і пабіў іх і сеў над імі царстваваць. Такая Расія».

Лермантаў верыў у рускі народ, у яго багатырскія сілы. Для яго рускі народ з'яўляецца народам-багатыром. Гэта думка выказана ў «Барадзіне» і ў «Песні пра купца Калашнікава» і ў «Казачай калыханцы» і ў інш.

У вершы «Барадзіно» Лермантаў выразіў сваю веру ў багатырскую магутнасць рускага народа, які даказаў у барадзінскім баі свае права называцца народам-багатыром. Верш «Барадзіно» з'яўляецца выражэннем сапраўднага народнага патрыятызма.

У «Казачай калыханцы» (1840 г.) казачка пяе сыну песню, у

якой ёсць такія спецыфічныя для Лермантаўскай баявой паэзіі словы: «Богатырь ты будешь с виду и казак душой».

У асобе Калашнікава з «Песні пра купца Калашнікава» Лермантаў таксама паказаў моцную волявую бясстрашную асобу, якая ўмее змагацца і за праўду-матушку, і за свой гонар, і за добрае імя сваёй сям'і. У Калашнікаву Лермантаў паказаў вобраз народнага героя-пратэстанта, які ўмеў самому цару Івану Грознаму, не баючыся яго, адказаць так, як падказвала яго сумленне.

Знаёмячыся ў Лермантава з вобразамі моцных асоб-змагароў, мы заўважаем, што арыентацыя ў вялікага паэта ў пошуках моцнай асобы была накіравана на народ, на народна-дэмакратычныя нізы. Аб гэтым сведчыць і вобраз Калашнікава, як народнага героя і вобраз ветэрана-салдата дванаццатага года ў вершы «Барадзіно». У лік герояў сваіх твораў паэт уключае і жабрака-гарбуна Вадзіма з аповесці «Вадзім» і прыгоннага раба Арсенія з паэмы «Баярын Орша». Арсенію ён надае рысы, якія сведчаць аб яго благародстве і высокіх чалавечых якасцях. У гэтым прыгонным чалавеку моцна выражана пачуццё ўласнай годнасці, «и под одеждою раба, но полный жизнью молодой, я человек, как и другой».

Ствараючы вобразы з народа, Лермантаў паказваў у іх рысы патрыятызма, багатырства, мужнасці, гераізма, смеласці свабодалюб'я і, у той-жа час, рысы прастаты, сардэчнасці і чалавечнасці. Свае сімпатыі Лермантаў выражаў, як мы бачылі вышэй, і да іншых народаў і, перш за ўсё, да народаў Каўказа.

Лермантаў з'яўляецца аддаленым звястуном дружбы і брацтва савецкіх народаў. Сваім гуманістычным і любоўным паказам народаў Каўказа ён садзейнічаў развіццю гэтай дружбы. Лермантаў бярэ пад абарону і яўрэйскі народ. У гэтых адносінах вялікую цікавасць яўляе сабой драма «Іспанцы». У вобразе бязроднага падкідыша-яўрэя Фернанда, асноўнага героя драмы, а таксама ў вобразе яго сям'і, Лермантаў паказаў, якімі высокімі якасцямі валодае праследуемы яўрэйскі народ. Фернанд з'яўляецца сільнай, валявой благароднай і ў той-жа час мяцежнай асобай, загінуўшай на вогнішчы інквізіцыі.

Любоў да народа вызначыла жывую зацікаўленасць Лермантава да народнай творчасці як рускага народа, так і народаў усходу.

Знаёмства вялікага паэта з вуснай народнай творчасцю пачалося яшчэ з дзіцячых год. Асабліва прыцягвалі Лермантава народныя песні. У 1830 годзе вялікі паэт пісаў: «Калі захачу пранікнуць у паэзію народную, то, мусіць, нідзе больш не буду яе шукаць, як у рускіх песнях»...

У той-жа час Лермантаў шкадуе, што ён «не чуў казак народных». «У іх,—заяўляе паэт,—мусіць, больш паэзіі, чым ва ўсёй французскай славеснасці». Лермантаў выкарыстоўвае фальклор у сваёй творчасці, набліжаючы свой верш да верша народнай паэзіі. Ужо ў 1832 годзе ў паэме «Апошні сын вольнасці» стары Інгелот у старажытным былінным песенным стылі спявае гераічную песню «О родине святой и милой вольности». Трэба сказаць, што ў творах Лермантава неаднаразова фігурыруе вобраз народнага

песняра. Многія вершы Лермантава, як напрыклад, «Руская мелодыя», «Руская песня», «Атаман», «Казачая калыханка» напісаны на народна-бытавыя сюжэты. Усе гэтыя творы ідуць карэннямі ў рускі фальклор. Трэба адзначыць таксама песню дзяўчыны-кантрабандысткі ў раздзеле «Тамань» з рамана «Герой нашага часу».

Вяршыні майстэрства дасягае Лермантаў у авалоданні таямніцай паэтыкі народнай творчасці ў «Песні пра купца Калашнікава». Уся паэма вытрымана ў традыцыйна-былінным стылі, размер верша і своеасаблівасць пабудовы мовы таксама поўнасцю супадае з асаблівасцямі пабудовы мовы і размера верша ў былінах і гераічных песнях.

Выкарыстоўвае тут Лермантаў і зачын, і запеў, і канцоўку, і рэфрэны-прыпеўкі. Карыстаецца ён і ўлюбёнымі ў народнай творчасці прыёмамі рамантычнага жывапісу, як гіпербалізм, алегарызм, ужывае ўвасабленне апісваемай прыроды. Параўнанні звычайна бяруцца з прыроды. Сустракаемся таксама з параўнаннямі адмоўнага тыпу і параўнаннямі ў форме алегорый і г. д. Таксама сустракаюцца ў велізарнай колькасці пастаянныя эпітэты: «сабля вострая», «плечи богатырские», «удалой боец», «сыра--земля», «боярыня белолицая» і шмат іншых. Выкарыстоўвае Лермантаў і падвойныя дзеясловы: «сяду-поеду», «наточить-навострить», «одеть-наряжать» і г. д. Усё гэта, як і шмат іншае, сведчыць нам аб тым, што Лермантаў пранік у таямніцу народнага майстэрства рускай паэзіі.

Вялікі ўплыў на творчасць Лермантава аказаў фальклор каўказскіх народнасцей.

У гутарцы з А. А. Краеўскім, як паведамляе біёграф паэта Віскаватаў,—Лермантаў гаварыў аб сваіх станоўчых адносінах да Ўсходу і асудзіў перайманне Захада. «Павер мне,—сказаў ён,—там на Ўсходзе таямніца багатых адкрыццяў».

Лермантаў зразумеў хараство гэтых багатых адкрыццяў у скарбніцы паэзіі грузін, осецін, азербайджанцаў і іншых народаў Каўказа. Пад уплывам усходніх сказанняў напісаны такія вершы, як «Тамара», «Дары Цярэка», «Грузінская песня».

У заўвазе да верша «Грузінская песня» (1829 г.) Лермантаў напісаў: «Слышано мною что-то подобное на Кавказе». Паэму «Бяглец» Лермантаў назваў «Цэрскай легендай». У паэме «Ізмаіл Бей» ёсць дзве песні («Чаркеская песня», «Песня Селіма»), у якіх мы таксама чуем водгук каўказскіх легенд аб скаваным велікане, аналагічных старагрэцкім міфам аб Праметэі.

Уплыў грузінскага фальклора мы знойдзем у аповесці «Бэла»—у песнях Бэлы і Казьбіча. На прапанову Азамата прадаць яму каня, Казьбіч у адказ, у якасці адмаўлення, спявае народную песню, у якой захапляецца сваім канём. Гаворка Азамата таксама мае на сабе адбітак уплываў фальклора: па сваёй структуры яна набліжаецца да песеннага размера лірычных народных песень.

Эпізод барацьбы Мцыры з барсам у паэме «Мцыры» узят Лермантавым з народных сказанняў грузінскага эпаса: тут Лермантаў выкарыстаў сказ аб тым, як Тарыэль забіў тыгрыцу. Гэты сказ

знайшоў сабе яркае ўвасабленне ў творы Шота Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Калі ў першапачатковых варыянтах паэмы «Дэман» наглядаўся ўплыў Мільтона—«Страчаны рай» і Байрона—«Каін», то ў канчатковай рэдакцыі знайшлі сабе адлюстраванне паданні і легенды грузін. Асноўны матыў паэмы—каханне бессмяротнага духа да земнай жанчыны, сугучны з грузінскай народнай паэзіяй.

Знаёмства з азербайджанскай мовай дало магчымасць Лермантаву напісаць цудоўную народную казку аб вандруючым песняры пад назвай «Ашык Керыб» (1839—41 г.)

Гэту казку Лермантаў назваў турэцкай, але яна з такім-жа поспехам можа быць названа і татарскай і кабардзінскай, бо сюжэт гэтай казкі вельмі папулярны на ўсім Усходзе. Ці запісана гэта казка Лермантавым ці перароблена—не ў гэтым рашаючая роля. Тут важней адзначыць, што казка з'яўляецца выдатнейшым перлам Лермантаўскай творчасці. Яна ўся авеяна чароўным харастwом усходняга казачнага народнага эпаса. Яна сведчыць аб тым, якой дасканаласці дасягнуў Лермантаў у аваладанні таямніцай паэтыкі ўсходніх народных казак. Прыкладам гэтага з'яўляюцца выкарыстаныя паэтам параўнанні. У іх Лермантаў захоўвае асаблівасці, спецыфічныя для параўнанняў, якія сустракаюцца ва ўсходнім эпасе. «Хороши звезды на небесах, но за звездами живут ангелы, и они еще лучше; так и Магуль Мегери была лучше всех девушек Тифлиса».

У казцы «Ашык Керыб» Лермантаў расказаў аб жыцці і каханні беднага вандроўнага песняра, у якога «кроме высокого сердца и дара песен» нічога не было.

У гэтай казцы Лермантаў выступае мастаком-гуманістам, у ёй ён ставіць праблему асабістага шчасця і станоўча вырашае яе. У адрозненне ад іншых эпічных твораў Лермантава гэта казка мае шчаслівую канцоўку. У казцы «Ашык Керыб» Лермантаў паказаў, якой невычарпальнай крыніцай аптымізма валодае народ. Вельмі ранняя трагічная смерць перашкодзіла Лермантаву напіцца жывой вады з гэтай крыніцы.

Справа, вядома, не ў пустой спрэчцы паміж Лермантавым і Мартынавым, а справа ў тым, што Мартынаў, падобна Дантэсу, быў падстаўной асобай, якая павінна была знішчыць ненавіснага царызму паэта. Ці Мартынаў, ці хто іншы, ці проста выпадковая куля чачэнца—але лёс Лермантава быў вырашан.

Лермантаў быў перашкодай для Нікалая I і яго жандармерыі. Смерць Лермантава была вынікам бесчалавечнай і гнуснай расправы царскага ўраду над вялікім паэтам.

Значэнне Лермантава і ў гісторыі літаратуры і ў гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расіі—выключна вялікае.

У эпоху рэвалюцыйнага крызіса, калі дзекабрысцкі рух быў зломан, патрэбна была велізарная падрыхтоўчая работа для таго, каб прарваліся жывыя сілы народа, якія былі ўціснуты рэакцыяй і дэспатызмам. Творчасць Лермантава поўнасцю адпавядала гэтаму заданню. Да Лермантава цалкам могуць быць прыстасаваны словы В. І. Леніна, сказаныя ім аб лепшых людзях з дваран эпохі «ад

дзекабрыстаў да Герцэна»: «Але лепшыя людзі з дваран дапамаглі разбудзіць народ». (Ленін, т. XVI, стар. 575).

Лермантаў аказаў велізарны ўплыў на ўсю рускую літаратуру, на крытыку і публіцыстыку.

Сваёй творчасцю ён разам з Пушкіным і Гогалем закладваў фундамент для развіцця рэалізма ў рускай літаратуры. Нездарма Леў Талстой лічыў аповесць «Тамань» найдасканалай аповесцю ў рускай літаратуры.

Лермантаў меў уплыў на фарміраванне рэвалюцыйнага светапогляду Белінскага і Чэрнышэўскага. П. В. Анненкаў, які блізка ведаў Белінскага, сведчыць, што перамаганне вялікім крытыкам яго прымірэнчых настрояў і пераход на пазіцыі рэвалюцыйнага дэмакрата адбыліся пад непасрэдным уплывам Лермантава. Творчасць яго і гутаркі з ім,—па сведчанню П. В. Анненкава,—«закінулі ў душу Белінскага першыя зерні таго больш позняга вучэння, якое прызнавала, што час чыстай лірычнай паэзіі, светлай асалоды вобразамі, псіхалагічнымі адкрыццямі і фантазіямі творчасці прайшоў і што адзіная паэзія, уласцівая нашаму веку, ёсць тая, якая адлюстроўвае яго разарванасць, яго духоўныя немачы, плачэўнае становішча яго сумлення і духу. Лермантаў быў першым чалавекам на Русі, які навёў Белінскага на гэта сузіранне»...

Расказваючы аб сваёй ідэйнай эвалюцыі, Чэрнышэўскі характарызаваў Лермантава і Гогаля як сваіх настаўнікаў. «Яны нашы збавіцелі, гэтыя пісьменнікі, як Лермантаў і Гогаль». У другім месцы Чэрнышэўскі пісаў: «Гогаль і Лермантаў здаюцца недасягальнымі, вялікімі, за іх я гатоў аддаць жыццё і гонар».

Лермантаў быў папярэднікам такіх рэвалюцыйных паэтаў, як Огарэў, Некрасаў, паэтаў некрасаўскай школы.

Некрасава і сатырычны напрамак у паэзіі некрасаўскай школы Лермантаў папярэдзіў сваімі грамадзянскімі матывамі, гнеўна бічуючым жалезным вершам, «аблітым горыччу і злосцю».

І зусім невыпадкова, што ў першай кнізе вершаў Некрасава «Мары і гукі» самы лепшы верш «Жыццё» быў напісан на матывы Лермантаўскай «Думы».

Паэта Нікіціна, які па-свойму перапрацаваў «жалезны верш» грамадзянскага суму Лермантава, таксама невыпадкова называлі «Лермантавым, вышаўшым з мяшчан».

Прэемственныя ніці ад Лермантава цягнуцца да такіх празаікаў, як Герцэн, Салтыкоў-Шчэдрын, Леў Талстой. Сам Л. Талстой гаварыў, што Лермантаў меў на яго «вельмі вялікі ўплыў».

У 1909 годзе ў гутарцы з С. Дурыліным Л. Н. Талстой сказаў аб Лермантаўскім «Барадзіно»: «яго «Барадзіно»—гэта люстра маёй «Вайны і міра».

Другая рэдакцыя «Маскарада», дзе Арбенін кідае свой дом і ідзе вандраваць, таксама мае шмат агульнага з драмай Л. Талстога «Жывы труп».

Лермантаў блізкі Талстому па свайму выкрывальнаму рэалізму. Непасрэдным папярэднікам Льва Талстога быў Лермантаў,—як указваў на гэта яшчэ Чэрнышэўскі,—і сваім паглыбленым псіхала-

гічным аналізам, знайшоўшым найбольш яркае выражэнне ў распрацоўцы характара Печорына.

Уплыў Лермантава быў моцны на рускую літаратуру і больш позняга перыяду, у прыватнасці на творчасць Александра Блока. Не мала пунктаў сутыкнення мы знойдзем у Лермантава з Маякоўскім. Вялікі паэт совецкай эпохі і сам заяўляў аб сваёй прэемственнасці ад Лермантава. «Да нас Лермантаў сыходзіць, пагарджаючы часы». Прэемственныя ніці ад Лермантава ідуць і да Горкага. У прыватнасці Горкаўская «Песня пра буравесніка» безумоўна сугучна лермантаўскаму вершу «Парус». Горкаўскі культ чалавечай асобы таксама сугучны лермантаўскім матывам.

Водгалоскі Лермантаўскай «Думы» мы чуем у горкаўскіх словах у яго «Валашскай песні»:

А вы на земле проживете
Как черви слепые живут.
Ни сказок про вас не расскажут,
Ни песен про вас не споют.

Ад лермантаўскага верша «Радзіма» цягнуцца ніці да любімай совецкім народам «Песні аб радзіме», напісанай Лебедзевым-Кумачом. Вядома, у совецкай літаратуры няма месца лермантаўскаму песімізму. Але Лермантаў сваімі рэволюцыйна-грамадзянскімі матывамі, палітычным зместам сваёй паэзіі расчышчаў дарогу для будучай совецкай літаратуры. У самым лермантаўскім песімізме знаходзіліся зерні будучага аптымізма совецкай літаратуры.

Народнасць Лермантаўскай творчасці зрабіла паэта родным для ўсіх нацыянальнасцей Совецкага Саюза. Лермантаў аказаў уплыў на многіх паэтаў і пісьменнікаў розных нацыянальнасцей, насяляючых Совецкі Саюз. Больш за ўсё, вядома, пунктаў сутыкнення з паэзіяй народаў Каўказа.

Лермантаў аказаў вялікі ўплыў на такіх класікаў грузінскай літаратуры, як Бараташвілі, М. Чавчавадзе, А. Цэрэтэлі. З імем Лермантава звязаны імёны выдатных армянскіх паэтаў Шах-Азіза, О. Туманяна, І. Ісаакяна. Лермантаў быў любімым пісьменнікам вялікага осецінскага паэта Коста Хетагурава. Лермантаў меў уплыў на такіх татарскіх паэтаў, як С. Рамі, Дзердмонд, Тукай і інш.

Уплыў Лермантава быў моцным і на украінскую і беларускую літаратуру і літаратуры многіх іншых брацкіх народаў нашай радзімы. Шмат агульных матываў мы знойдзем у Лермантава і ў Шэўчэнка. У крытыцы адзначаўся ўплыў Лермантава на такіх беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, як Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас і інш.

Высокую ацэнку творчасць Лермантава атрымала ў Белінскага, Герцэна, Чэрнышэўскага, Добралюбава, Горкага і іншых.

Белінскі ахарактарызаваў Лермантава, як «паэта рускага, народнага, у вышэйшым і благароднейшым значэнні гэтага слова».

Герцэн гаварыў аб Лермантаве, што ён «цалкам належыць нашаму пакаленню». Герцэн гэтым самым аднosіў Лермантава да пакалення, абуджанага гарматнымі стрэламі на Сенацкай плошчы. «Мужная сумная мысль,—пісаў Герцэн пра вялікага паэта,—ніколі не пакідала яго чала,—яна прабіваецца ва ўсіх яго вершах».

Добралюбаў пісаў, што Лермантаў валодаў такой шырынёй погляду, «якой да яго не выяўляў ні адзін з рускіх паэтаў». Лермантаў, па словах Добралюбава «яркая зорка рускай паэзіі, так маланкава бліснуўшая і згаснуўшая». Чэрнышэўскі лічыў Лермантава «самым арыгінальным з усіх быўшых у нас да яго паэтаў, не выключаючы і Пушкіна».

У лекцыях па рускай літаратуры А. М. Горкі пісаў аб Лермантаве: «У вершах Лермантава пачынаюць гучна гучэць ноты, амаль непрыкметныя ў Пушкіна—гэта прагнае жаданне справы, актыўнага ўмяшання ў жыццё».

Народныя масы нашай радзімы заўсёды высока ўшаноўвалі і будуць шанаваць памяць вялікага паэта.

---

*М. Дабрынін*

# ПРЫНЦЫПЫ КРЫТЫКІ Н. Г. ЧЭРНЫШЭЎСКАГА

Крытыка не займае вялікага месца ў Чэрнышэўскага, але сам Чэрнышэўскі займае вельмі віднае месца ў гісторыі літаратурнай крытыкі.

*А. Луначарскі.*

## I

Думка Луначарскага аб Чэрнышэўскім вельмі верная, бо нават не займаючыся спецыяльна літаратурнай крытыкай, ён стаў на чале рускай літаратуры і крытыкі 60-х год. Тлумачыцца гэта і гістарычнымі ўмовамі і асабістымі якасцямі. Чэрнышэўскі—правадыр «маладой Расіі», па выразу Леніна, ён увасабляе ў сабе цэлую гістарычную тэндэнцыю.

«Лібералы 1860 гадоў і Чэрнышэўскі ёсць прадстаўнікі двух гістарычных тэндэнцый, двух гістарычных сіл, якія з той пары і аж да нашага часу вызначаюць зыход барацьбы за новую Расію...

Лібералы хацелі «вызваліць» Расію «зверху», не разбураючы ні манархіі цара, ні землеўладання і ўлады памешчыкаў, пабуджаючы іх толькі да ўступак духу часу. Лібералы былі і застаюцца ідэолагамі буржуазіі, якая не можа мірыцца з прыгонніцтвам, але якая баіцца рэвалюцыі, баіцца руху мас, здольнага нізвергнуць манархію і знішчыць уладу памешчыкаў. Лібералы абмяжоўваюцца таму «барацьбой за рэформы», «барацьбой за правы, г. зн. дзеляжом улады паміж прыгоннікамі і буржуазіяй...

Чэрнышэўскі быў соцыялістам-утапістам, які марыў аб пераходзе да соцыялізма праз старую, поўфеадальную, сялянскую абшчыну, які не бачыў і не мог у 60-х годах мінулага стагоддзя бачыць, што толькі развіццё капіталізма і пролетарыята здольна стварыць матэрыяльныя ўмовы і грамадскую сілу для ажыццяўлення соцыялізма. Але Чэрнышэўскі быў не толькі соцыялістам-утапістам. Ён быў таксама рэволюцыйным дэмакратам, ён умеў уплываць на ўсе палітычныя падзеі яго эпохі ў рэволюцыйным духу, праводзячы—праз перашкоды і рагаткі цэнзуры—ідэю сялянскай рэволюцыі, ідэю барацьбы мас за нізвяржэнне ўсіх старых улад...

Гэтыя дзве гістарычныя тэндэнцыі развіваліся на працягу поўстагоддзя, мінуўшага пасля 19 лютага і пашыраліся ўсё ясней,

пэўней і рашучэй. Раслі сілы ліберальна-манархічнай буржуазіі... Раслі сілы дэмакратыі і соцыялізма...*)

Прадстаўніком перадавой тэндэнцыі і з'яўляецца Н. Г. Чэрнышэўскі, ад яго ідуць лініі гістарычнага развіцця.

Гэта—цэнтральная фігура, у якой скрыжоўваюцца ўсе лініі развіцця эпохі. Зздзіўляюча шматграннасць Чэрнышэўскага, яго шматбаковасць, яго маналітнасць, шырыня, глыбіня, цэласнасць. Ён валодаў досыць стройным цэльным светапоглядам. Варта ўвагі тое, што ў яго светапоглядзе зліліся тыя тры элементы, якія былі састаўнымі часткамі марксізма. Класічная нямецкая філасофія (Гегель, Фейербах), французскі утапічны соцыялізм (Фур'е) і англійская палітычная эканомія (Рыкардо і Сміт) увайшлі ў светапогляд нашага крытыка. Такім чынам ясна, што ён развіваўся ў тым-жа напрамку, як Маркс і Энгельс, але вузкасць грамадскіх адносін Расіі 50—60 год не дала яму магчымасці даработацца да тэорыі гістарычнага і дыялектычнага матэрыялізма, да марксізма.

«Чэрнышэўскі—адзіны сапраўды вялікі рускі пісьменнік, які змог з 50-х год аж да 88 года застацца на ўзроўні цэльнага філасофскага матэрыялізма і адкінуць жалкую бязглуздзіцу неокантыянцаў, пазітывістаў, махістаў і іншых блытанікаў. Але Чэрнышэўскі не здолеў, правільней, не мог, у сілу адсталасці рускага жыцця, узняцца да дыялектычнага матэрыялізма Маркса і Энгельса»**).

Але калі сам Чэрнышэўскі не мог быць марксістам, дык ён быў папярэднікам с.-д., папярэднікам марксізма—ленінізма ў Расіі. У гэтым яго глыбокае гістарычнае значэнне. Вядомы бліскучы водгук Маркса аб Чэрнышэўскім, як аб вялікім рускім вучоным, як аб соцыялістычным Лесінге, шматлікія выказванні Леніна аб ім як філосафу, палітыку, тактыку, вучоным, правадыру рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі. Характарызуючы барацьбу ў 60 годы, Ленін пісаў: «Гэтыя рэволюцыйныя мыслі не маглі не хвалявацы прыгонных сялян. І калі вякі рабства да таго прыгнялі і прытупілі сялянскія масы, што яны былі няздольны ў часе рэформы ні на што, акрамя расслабленых, адзінкавых паўстанняў, хутчэй нават «бунтаў», не асветленых ніякай палітычнай свядомасцю, дык былі і тады ўжо ў Расіі рэволюцыянеры, якія стаялі на баку сялянства і разумелі ўсю вузкасць, усё ўбоства праслаўтай «сялянскай рэформы», увесь яе прыгонніцкі характар. На чале гэтых, вельмі нешматлікіх тады рэволюцыянераў стаяў Н. Г. Чэрнышэўскі» ***).

І гэты найвялікшы чалавек сваёй эпохі займаўся літаратурай і крытыкай таму, што літаратура была формай, у якой ён мог выказаць свае мыслі, погляды, весці рэволюцыйную прапаганду ва ўмовах памешчычай прыгонніцкай дзяржавы царскай Расіі. Ролю літаратуры ў Расіі, як рухаючай сілы грамадскага развіцця, Чэрнышэўскі разумеў добра, падкрэсліўшы гэта ў сваім артыкуле аб Лесінгу.

«І, трэба прызнацца, доля літаратуры ў гістарычным працэсе,

---

*) *В. Ленін.* Зб. тв. т. XV, стар. 144—145.
**) *В. Ленін.* Зб. твораў, т. XIII, стар. 295.
***) *В. Ленін.* Зб. тв. т. XV, стар. 143.

ніколі не бываючы зусім малаважнай, звычайна бывала і зусім не такая значная, каб заслугоўваць асаблівай увагі. Сапраўды, літаратура амаль заўсёды мела для развіцця чалавечага жыцця толькі другараднае значэнне. Выключэнняў з гэтага звычайнага парадку, выпадкаў, калі літаратура з'яўлялася сапраўды галоўным рухавіком гістарычнага развіцця вельмі нямнога. Нямецкая літаратура апошняй паловы мінулага і першых год нашага стагоддзя ёсць адна з самых важных паміж гэтымі рэдкімі з'явамі... Нішто не памагло ў той час яе жыватворнаму ўздзеянню на лёс нямецкай навукі; наадварот, амаль усе іншыя адносіны і ўмовы, ад якіх залежыць жыццё, не спрыялі развіццю народа. Літаратура адна вяла яго наперад, змагаючыся з бязлікімі перашкоднікамі...

За пяцьдзесят год літаратура зрабіла для моцнага дабрабыту нямецкага народа больш, чым калі-небудзь было зроблена ўсімі іншымі грамадскімі сіламі для якога-небудзь народа за сто, за дзвесце год... Яна дала яму ўсведамленне нацыянальнага адзінства, абудзіла ў ім пачуццё законнасці і чэснасці, уклала ў яго энергічныя імкненні, благародную ўпэўненасць у сваіх сілах... «усё гэта зрабіла літаратура, наўпракі бязлікім перашкодам, без усякай пабочнай дапамогі, і Шыллер меў поўнае права ўславіць нямецкую паэзію за тое, што ёю ўзвялічан нямецкі народ, і ніхто не дзеліць славы гэтай з нямецкімі пісьменнікамі...»

У такім разуменні ўплыву літаратуры на гістарычнае жыццё народа, Чэрнышэўскі ішоў следам за Белінскім. Успрыняўшы лепшыя традыцыі Белінскага, Чэрнышэўскі пайшоў далей па шляху да марксізма. Выпрацаваўшы цэльны філасофскі светапогляд, стоячы на самым вышэйшым пункце грамадскага развіцця, ён ва ўсіх галінах жыцця і ведаў ствараў эпоху. У галіне эстэтыкі і літаратуры ён, разам з Добралюбавым, стварыў цэлую эпоху. І калі нават «крытыка не займае вялікага месца ў Чэрнышэўскага, сам Чэрнышэўскі займае вельмі віднае месца ў гісторыі літаратурнай крытыкі». Разгадка гэтага становішча ў тым, што гэта была ў найвышэйшай ступені шматгранная, таленавітая, шматбаковая натура, гэта быў чалавек з поўным, досыць стройным, самым перадавым светапоглядам, гэта быў правадыр і рэвалюцыянер, у якім, як у фокусе, перакрыжоўваліся лініі гістарычнага развіцця,—карацей кажучы, гэта была цэнтральная фігура эпохі 60-х гадоў.

## II

Зыходны момант у крытыцы Чэрнышэўскага трэба шукаць у крытычных поглядах Белінскага апошняга перыяду. У «Нарысах Гогалеўскага перыяда рускай літаратуры» аўтар сфармуліраваў свае мыслі так: «Мы хацелі таксама ўказаць на падставы, ад якіх не павінна ўхіляцца сучасная крытыка, калі не хоча ўпадаць у *бяссілле, дробязнасць, пустату.* Справядлівыя паняцці аб тым былі выказваемы ў нас Белінскім, і на яго крытыку да гэтага часу трэба глядзець не толькі, як на *выдатную гістарычную з'яву, але таксама і як на кіравальны прыклад*» *). Тут-жа Чэрнышэўскі ўказвае на два

*) *Н. Чэрнышэўскі.* Выбр. творы, т. IV, стар. 339, ГІЗ 1930.

важных прынцыпа ў крытыцы Белінскага, якія неабходна мець у нашай памяці пры разглядзе твораў. Гэта—«паняцце аб адносінах літаратуры да грамадства і цікавячых яго пытаннях; паняцце аб сучасным становішчы нашай літаратуры і ўмовах, ад якіх залежыць яе развіццё» *).

Лічачы гэтыя прынцыпы асноўнымі ў крытыцы Белінскага, Чэрнышэўскі зрабіў іх выходнымі пунктамі і сваёй работы. Першы з іх атрымаў сваё развіццё ў матэрыялізме і рэалізме, у вучэнні аб адносінах мастацтва да рэчаіснасці, у вучэнні аб змесце мастацтва; другі—у прынцыпе гістарызма, дыялектычнага развіцця, вучэння аб соцыяльнай функцыі, аб мастаку, аб месцы, ролі і г. д.

* * *

Матэрыялізм Чэрнышэўскага быў не толькі філасофскай падглебай, на якой разгарнуліся асноўныя палажэнні яго крытыкі, не, у гэты час у барацьбе супроць ідэалістаў і метафізікаў ён сам выступае як адзін з асноўных момантаў, прынцыпаў крытыкі. Чэрнышэўскі разгортвае паслядоўную сістэму паняццяў, прасякнутых матэрыялістычным светаразуменнем і яна з'яўляецца той баявой зброяй, якой змагаўся і ён сам і яго паслядоўнікі. Але перш чым была створана гэта сістэма паняццяў, трэба было наогул зацвердзіць прынцып матэрыялістычнага падыходу, супроцьпаставіць матэрыялізм ідэалізму, як прынцып падыходу ў мастацтве, у літаратуры. Гэта і было зроблена з гранічнай яснасцю ў «Эстэтычных адносінах мастацтва да рэчаіснасці». У 9-м тэзісе гэтай работы аўтар сцвярджае:

«Рэчаіснасць не толькі жывей, але і дасканалей за фантазію. Вобразы фантазіі толькі бледная і амаль заўсёды няўдалая пераробка рэчаіснасці», а ў 13—прадаўжае: «Тварэнні мастацтва ніжэй прыгожага ў рэчаіснасці не толькі таму, што ўражанне, якое стварае рэчаіснасць, жывей за ўражанне, якое робіць тварэнне мастацтва... Тварэнні мастацтва ніжэй прыгожага ў рэчаіснасці і з эстэтычнага пункту погляду»**).

Два гэтыя тэзісы паказваюць нам, што выходным момантам для мастацтва, па думцы аўтара, з'яўляецца жыццё, рэчаіснасць, якая ва ўсіх адносінах вышэй за мастацтва, фантазію. Так сцвярджаецца матэрыялізм як прынцып падыходу да з'яў мастацтва, так вырашаецца пытанне аб адносінах мастацтва да рэчаіснасці наогул. Не паглыбляючыся ў разгляд эстэтычных поглядаў Чэрнышэўскага, падкрэслім, што даследванне пытання аб эстэтычных адносінах мастацтва да рэчаіснасці прымусіла яго разглядзець пытанні аб сутнасці прыгожага, аб змесце мастацтва, аб узнікненні мастацтва, аб яго сапраўдным прызначэнні. Усе гэтыя пытанні выражаны з матэрыялістычнага пункту погляду. Але і не толькі ў вырашэнні тэарэтычных праблем матэрыялізм выступае як прынцып, ён праводзіцца паслядоўна і ў вырашэнні пытанняў канкрэтна-гістарычных. Тут матэрыялізм раскрываецца ў радзе прынцыповых палажэнняў, важнейшым з якіх будзе *рэалізм*.

*) *Чэрнышэўскі*, Выбр. творы, т. IV, стар. 340.
**) *Н. Чэрнышэўскі.* Эстэт і паэзія. СПБ. 1893, стар. 107.

* * *

Крытыка Чэрнышэўскага зусім абгрунтавана можа быць названа *рэалістычнай, рэальнай*, таму што самай характэрнай яе рысай з'яўляецца *рэалізм*. Вытокі рэалізма Чэрнышэўскага ляжаць у крытыцы Белінскага. У «Нарысах Гогалеўскага перыяду рускай літаратуры» аўтар дастаткова ясна ўскрыў і рэалізм Белінскага і свае станоўчыя да яго адносіны. Асновай рэалізма Чэрнышэўскага быў матэрыялізм, гэтым вызначалася ўсё.

Ён лічыў, што прадмет мастацтва—сапраўднае жыццё, прычым як матэрыяліст сцвярджаў, што ўсе фантастычныя рэчы маюць сваёй асновай таксама рэальнае жыццё. «Ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці толькі тыя напрамкі дасягаюць бліскучага развіцця, якія знаходзяцца ў жывой сувязі з патрэбамі грамадства. Тое, што не мае карэнняў у глебе жыцця, застаецца вялым і бледным, не толькі не набывае гістарычнага значэння, але і само па сабе, без адносін да ўздзеяння на грамадства, бывае нікчэмным» *). Калі справа датычыцца фактаў матэрыяльнага жыцця, гэтыя палажэнні не сустракаюць супярэчанняў, гаворыць Чэрнышэўскі. Нават калі справа ідзе аб жывапісу, скульптуры, архітэктуры—і тады гэта палажэнне прымаецца і толькі ў літаратуры прыхільнікі «мастацтва для мастацтва» сцвярджаюць, што жыццё ніякіх адносін да літаратуры не мае. Гэта, аднак, толькі словы, а на справе яны хочуць падпарадкаваць літаратуру служэнню выключна адной тэндэнцыі, якая мае чыста жыццёвае значэнне і для таго, каб схаваць сваю нецярпімасць і аднабаковасць, яны выкарыстоўваюць «фразы аб чыстым мастацтве, незалежным, быццам бы, ад інтарэсаў жыцця» **)

Такім чынам ясна, што ў аснове *ўсякага* мастацтва ляжыць рэчаіснасць, матэрыяльныя жыццёвыя інтарэсы. Адсюль вывад: рэчаіснасць вышэй за мастацтва, апошняе толькі копія з рэчаіснасці, яе пераробка, якая мае сваёй мэтай: «для ўзнагароды чалавека ў выпадку адсутнасці паўнейшай эстэтычнай асалоды, якую дае рэчаіснасць, узнавіць, па меры сіл, гэту каштоўную рэчаіснасць і на дабро чалавека вытлумачыць яе»***).

Але калі мэта і прызначэнне мастацтва ў тым, каб узнавіць і вытлумачыць рэчаіснасць, дык асноўнай умовай ўсякага мастацкага твора павінна быць *праўда*. Але праўда ў мастацкім творы павінна быць зразумета, як правільны паказ рэчаіснасці ў яе гістарычным развіцці, як поўнае і ўсебаковае ўвасабленне тэндэнцыі гістарычнага руху.

На самай справе, што такое праўда ў мастацкім творы? Ясны адказ на гэта пытанне мы маем у Добралюбава. «Уласна кажучы, *безумоўнай няпраўды* пісьменнікі ніколі не выдумляюць: аб самых недарэчных раманах і меладрамах нельга сказаць, што паказаныя ў іх *страсці* і пошласці былі безумоўна непраўдзівыя, г. зн. немагчымыя, нават як выродлівая выпадковасць. Але *няпраўда* падобных раманаў і меладрам іменна ў тым і заключаецца, што ў іх бяруцца

*) *Н. Чэрнышэўскі.* Выбр. творы, т. IV, стар. 340.
**) Там-жа, стар. 341.
***) *Н. Чэрнышэўскі.* Эстэтыка і паэзія. СПБ, 1893, стар. 105.

выпадковыя, няпраўдзівыя рысы сапраўднага жыцця, якія не складаюць яго сутнасці, яго характэрных асаблівасцей. Яны ўяўляюцца маною ў тых адносінах, што калі па іх састаўляць тэарэтычныя паняцці, дык можна прысці да ідэй зусім няпраўдзівых. Ёсць, напрыклад, аўтары, якія прысвяцілі свой талент апяванню сладастрасных сцэн і распусных прыгод; сладастраснасць паказваецца імі ў такім выглядзе, што калі ім паверыць, дык у ёй адной толькі і заключаецца сапраўднае вялікае шчасце чалавека. Заключэнне, вядома, бязглуздае, хоць, вядома, бываюць сапраўды людзі, якія па ступені свайго развіцця і няздольны зразумець іншага вялікага шчасця, акрамя гэтага...

Такім чынам, *усякая аднабаковасць і выключнасць ужо перашкаджае поўнаму захаванню праўды мастаком»* *).

Так адказаў на гэтае пытанне Добралюбаў, у поўнай згодзе з прынцыпамі эстэтыкі і крытыкі Чэрнышэўскага. Апошні разбіраючы «Беднасць не загана» А. Н. Астроўскага раіў мастаку «лепш строга падумаць аб тым, што такое праўда ў тварэннях мастацтва. У праўдзе сіла таленту; памылковы напрамак губіць самы моцны талент. Няпраўдзівыя па асноўнай мыслі творы бываюць слабымі нават і ў чыста мастацкіх адносінах» **).

Уласна кажучы, у п'есе Астроўскага таксама не было бясспрэчнай няпраўды, г. зн. у тым сэнсе, што ўсё тое, што там адбывалася, было няпраўдзіва ці немагчыма ў жыцці, але няпраўда Астроўскага іменна ў тым і заключалася, што ён апаэтызіраваў старажытны рускі быт «якім уяўляецца яму сучасны быт некаторай часткі купецкага асяроддзя» ***), і не толькі апаэтызіраваў, але і надаў яму абсалютны характар, як выражэнню рысаў рускага народа. Гэта было аднабаковае і не адпавядаючае гістарычнаму развіццю адлюстраванне, бо Астроўскі выдаваў прыватнае за агульнае, купецкі старажытны быт за асноўную стыхію рускага народа. Чэрнышэўскі патрабаваў праўды, паўтараю, як суадпаведнасці, як вернасці гістарычнаму развіццю, як правільнага адлюстравання ўсебаковага гістарычнага руху грамадства. У праціўным выпадку парушалася мастацкасць твору і наадварот, праўда, «ісціна—добрая рэч: яна ўзнагароджвае недахопы пісьменніка, які служыць ёй». Да такіх залічваў сябе сам аўтар, а ад другіх патрабаваў перш за ўсё ісціны.

Ясная справа, што патрабуючы праўды ад мастакоў, Чэрнышэўскі меў на ўвазе не тую праўду, якая выражаецца ў простым капіраванні рэчаіснасці. Аб гэтым яшчэ вельмі добра пісаў Белінскі: «Калі ў рамане альбо ў аповесці няма вобразаў і асоб, няма характараў, няма нічога тыповага,—як-бы правільна і старанна не было спісана з натуры ўсё тое, што ў ім расказваецца, чытач не знойдзе тут ніякай натуральнасці, не заўважыць нічога, трапна прыкмечанага, удала схопленага... Немагчыма беспакарана парушаць законы мастацтва. Каб правільна спісваць з натуры, мала ўмець пісаць, г. зн. валодаць майстэрствам перапісчыка ці пісара; трэба ўмець з'явы рэчаіснасці правесці праз сваю фантазію, даць ім новае жыццё».

*) *Добралюбаў* Зб. тв. т. II, стар. 48/49, М. 1935.
**) *Н. Чэрнышэўскі.* Крытычныя артыкулы, СПБ, 1895, стар. 279.
***) *Н. Чэрнышэўскі.* Крытыч. артыкулы, СПБ, 1895, стар. 277.

З гэтым сцверджаннем Бялінскага быў зусім згодзен і Чэрнышэўскі. Ён вельмі добра разумеў, што сапраўдны рэалізм заключаецца ў вернасці рэчаіснасці, але не ў сэнсе простага апісання, правільнага пераказу следчай справы, а ў сэнсе ўлаўлівання сутнасці з'явы, пранікнення мысляй ва ўнутраную сутнасць справы, у сэнсе адгадкі таямніц душэўных пабуджэнняў дзеючых асоб, улаўлівання таго пункту справы, які «складае цэнтр круга гэтых падзей, дае ім сэнс адзінага, поўнага, цэлага, замкнутага ў самім сабе»*).

Зразуметы так, рэалізм уключае ў сябе праўду жыцця, як вернасць гістарычнаму развіццю грамадства, праўду, як правільнае адлюстраванне абставін, умоў, акалічнасцей, дзе развіваюцца характары, праўду, як поўнае, а не аднабаковае адлюстраванне характараў і акалічнасцей. Гэта было найбольш поўнае паняцце аб рэалізме, абумоўленае самым перадавым светапоглядам эпохі.

Чэрнышэўскі сцвярджаў, што літаратура ў Расіі адыгрывае асобную ролю: «Літаратура ў нас покуль што канцэнтруе амаль усё разумовае жыццё народа, і таму проста на ёй ляжыць абавязак займацца і такімі інтарэсамі, якія ў іншых краінах перайшлі ўжо, так сказаць, у спецыяльнае веданне іншых напрамкаў разумовай дзейнасці... У нас да гэтай пары літаратура мае нейкае *«энцыклапедычнае значэнне»*... **) (падкрэслена мною.—*М. Д.*). Цяпер зразумела, што калі ў літаратуры не будзе праўды, калі яна не будзе рэалістычнай, то яна не здолее выканаць сваёй гістарычнай ролі. Так у аснове рэалізма ляжала неабходнасць правільнага і глыбокага разумення характара і шляхоў гістарычнага развіцця Расіі і месца ў ім (развіцці) літаратуры.

Пры такім разуменні рэалізм выступае, як адзін з важнейшых прынцыпаў, з якімі падыходзіў Чэрнышэўскі да з'яў мастацтва, літаратуры. Творы рэалістычныя мелі безумоўна больш каштоўнае значэнне для яго, чым творы нерэалістычныя. Ён цаніў Гогаля, але яшчэ больш Шчэдрына за тую праўду жыцця, якой напоўнены яго творы. Гэтая праўда выступала, як адмаўленне існуючага, як яго бязлітасная крытыка. Але адмаўленне разумелася з пазіцый сялянскай дэмакратыі і яму надаваўся рэвалюцыйны характар. Так праблема рэалізма перарастала ў праблему рэвалюцыі, атрымліваючы ад яе новыя якасці, новы характар. Рэалізм адмаўлення перарастаў у рэалізм рэвалюцыйна-дэмакратычны. Гэта было абумоўлена ўсім ходам рускіх грамадскіх адносін, што асабліва ясна падкрэсліў Чэрнышэўскі ў артыкуле аб апавяданнях Н. Успенскага «Ці не пачатак перамены»?.

* * *

Выключна шырокае разуменне задач і мэтаў літаратуры прыводзіла Чэрнышэўскага да *гістарызма*. На самай справе, становішча, роля і значэнне літаратуры, творчасць паасобных пісьменнікаў можа быць зразумета толькі гістарычна. Прычым гістарызм разумеецца не ў якасці простай храналагічнай паслядоўнасці, але як дэтэрмінізм. «У справах, якія маюць сапраўды важнае значэнне, сутнасць не за-

*) *Белінскі.* Збор твораў, Кіеў 1901 г. т. II, стар. 157.
**) *Н. Чэрнышэўскі.* Выбр. творы, т. IV, стар. 345.

лежыць ад волі, ці характару, ці жыццёвых акалічнасцей дзеючай асобы; іх выкананне не абумоўліваецца нават нічыёй асобай. Асоба тут з'яўляецца толькі служкай часу і гістарычнай неабходнасці.

Хто ўдумаецца ў акалічнасці, сярод якіх павінна была дзейнічаць крытыка Гогалеўскага перыяда, ясна зразумее, што характар яе цалкам залежыць ад гістарычнага нашага становішча; і калі прадстаўніком крытыкі ў гэты час быў Белінскі, то толькі таму, што яго асоба была іменна такой, якой патрабавала гістарычная неабходнасць. Калі-б ён не быў такім, гэта непахісная гістарычная неабходнасць знайшла-б сабе другога служыцеля, з другім прозвішчам, з другімі рысамі твару, але не з другім характарам; гістарычная патрэбнасць выклікае да дзейнасці людзей і дае сілу іх дзейнасці, а сама не падпарадкоўваецца нікому, не здраджвае ва ўгоду нікому. «Час патрабуе свайго слугі», па глыбокаму выслоўю аднаго з такіх слуг». *). Так глыбока правільна разумеў Чэрнышэўскі праблему гістарызма і дэтэрмінізма. Лёгка зразумець, што прыстасаванне гэтага пункту гледжання да аналіза літаратурнага матэрыяла давала бліскучыя рэзультаты: крытык мог не толькі растлумачыць законамернасць узнікнення і існавання тых або іншых фактаў, характар таго або іншага пісьменніка, але ён мог гаварыць аб тым, наколькі яго ідэі правільны, г. зн. адпавядаюць гістарычнай неабходнасці і нават мог пабудаваць навуковы прагноз. У гэтым сэнсе артыкулы Чэрнышэўскага аб «Беднасць не загана» Астроўскага, аб Льве Талстым, Салтыкове-Шчэдрыну і Нікалаі Успенскім яўляюць сабою выключную цікавасць. І ўсякі раз, калі крытык звяртаўся да літаратурнага матэрыяла, пункт гледжання гістарычнай законамернасці, дэтэрмінізма з'яўляўся акрэсліваючым у яго падыходзе. Бліскучым узорам у гэтым сэнсе з'яўляюцца яго славутыя «Нарысы Гогалеўскага перыяда рускай літаратуры».

* *
*

Разглядаючы літаратуру гістарычна, Чэрнышэўскі натуральна браў яе ў працэсе, у развіцці. Тут то і ўзнікае пытанне аб дыялектычным метадзе ў яго работах па літаратуры. Паслядоўным дыялектыкам Чэрнышэўскі не быў, да матэрыялістычнай дыялектыкі ён не даработаўся, але элементы дыялектыкі да таго моцна насычаюць яго погляды, што ў гэтых адносінах ён стаіць вышэй многіх сучасных яму мысліцеляў.

Характар дыялектычнага метада і яго значэнне ў працэсе даследвання з'яў жыцця Чэрнышэўскі дасканала разумеў. Гэта відаць хоць-бы з наступных яго разважанняў. «Сутнасць яго (г. зн. дыялектычнага метада мышлення) заключаецца ў тым, што мысліцель не павінен супакойвацца ні на якім станоўчым вывадзе, а павінен шукаць, ці няма ў прадмеце, аб якім ён мысліць, якасцей і сіл, супроцьлеглых таму, што ўяўляецца гэтым прадметам на першы погляд: такім чынам мысліцель быў вымушан аглядаць прадмет з усіх бакоў, і ісціна з'яўлялася яму не інакш, як следствам барацьбы ўсялякіх супроцьлеглых думак. Гэтым спосабам, замест ранейшых адна-

*) *Н. Чэрнышэўскі.* Выбр. творы, т. IV, стар. 207.

баковых паняццяў аб прадмеце, мала-па-малу з'яўлялася поўнае, усебаковае даследванне і складалася жывое паняцце аб усіх сапраўдных якасцях прадмета»... Адсюль увага да рэчаіснасці, дзе ўсё залежыць «ад акалічнасцей, ад умоў месца і часу». «Адцягненай ісціны няма, ісціна канкрэтна», г. зн. акрэсліваючае меркаванне можна выказаць толькі аб пэўным факце, разгледзеўшы ўсе акалічнасці, ад якіх ён залежыць»*). Так пісаў Чэрнышэўскі у «Нарысах гогалеўскага перыяда рускай літаратуры». Ідучы гэтым шляхам, мы павінны былі-б характарызаваць філасофію Чэрнышэўскага, а нас у дадзены момант цікавіць дыялектыка як прынцып літаратурнай крытыкі.

Асноўныя рысы дыялектычнага падыходу (гл. IV раздзел Гісторыі ВКП(б) у артыкулах па літаратуры выступаюць у яго наступным чынам: 1. *Праблема сувязі з'яў усюды выступае ў Чэрнышэўскага.* Ён бярэ факты літаратуры не ізаліравана адзін ад другога, а ў іх узаемнай сувязі. Так у артыкуле аб крытыцы Белінскага ён піша:

«Факт такі значны, як крытыка гогалеўскага перыяда, не мог узнікнуць раптоўна, у адну прыгожую раніцу: так паяўляюцца толькі літаратурныя грыбы; не мог вырасці з нічога: так надзьмуюцца ўласнай пустатою толькі літаратурныя мыльныя пухіры... Крытыка гогалеўскага перыяда расла доўга, перш чым дасягнула свайго поўнага развіцця. Папярэднікам «Отечественных записок» быў «Телескоп», стваральнікам аўтара артыкулаў аб Пушкіне—нябожчык Надзеждзін, адзін з выдатных людзей у гісторыі нашай літаратуры, чалавек выдатнага розуму і вучонасці»**).

Тут з гранічнай яснасцю падкрэслена сувязь з'яў, іх абумоўленасць. 2. *Другая рыса дыялектычнага метада, прынцып руху,* развіцця, узнікнення і адмірання з'яў дасканала раскрыт у яго артыкулах па літаратуры. Усё рухаецца, усё змяняецца, няма нічога вечнага і абсалютнага.

«Руская літаратура да Гогаля знаходзілася яшчэ ў першых перыядах свайго развіцця, з якіх кожны папярэдні мае значэнне не столькі па сваёй бясспрэчнай дасканаласці азнаменаваўшых яго з'яў, колькі па таму, што служыў падрыхтаваннем да наступнага больш высокага развіцця» ***).

«Каб не даць повада да непаразумення, нібыта мы без меры ўсхваляем новае за кошт старога, скажам тут дарэчы, што і сучасны перыяд рускай літаратуры, нягледзячы на ўсе свае неад'емныя якасці, мае істотнае значэнне больш за ўсё толькі таму, што служыць падрыхтаваннем да далейшага будучага развіцця нашай славеснасці. Мы да таго верым у будучае лепшае, што нават пра Гогаля не сумняваючыся гаворым: будуць у нас пісьменнікі, якія стануць настолькі вышэй за яго, на колькі ён зрабіўся вышэй за сваіх папярэднікаў. Пытанне толькі ў тым, ці скора прыдзе гэты час. Добра было-б калі-б нашаму пакаленню суджана было дачакацца лепшага будучага. Калі мы будзем гаварыць аб школе Гогаля, то пастараемся

*) *Н Чэрнышэўскі*, Зб. твор., т. II, стар. 187.
**) *Н. Чэрнышэўскі*, Выбр. тв., т. IV, стар. 157.
***) *Н. Чэрнышэўскі*, Выбр. тв., т. IV, стар. 217.

вытлумачыць прычыны такой думкі больш падрабязна». (Заўвага Чэрнышэўскага).

Такім чынам ясна, што прынцып непарыўнасці руху развіцця атрымаў у Чэрнышэўскага сваё яснае выражэнне і быў асноўным у яго падыходзе. Каб яшчэ больш рэзка падкрэсліць гэта, укажу на тое, што і свае разважанні Чэрнышэўскі лічыў часовымі і праходзячымі, калі гаварыў: «Кожны пісьменнік сын свайго века, і калі развіццё мыслі з цягам часу становіцца вышэй той ступені, якая ўласціва яго эпосе, калі з'яўляюцца погляды больш поўныя і глыбокія, чым былі яго погляды, вядома, яго творы перастаюць быць цалкам задавальняючымі. Мы німала не сумняваемся ў тым, што будучае развіццё чалавечай мыслі далёка перавысіць сваёю паўнатою і глыбінёй, што стварыла мысль нашага веку, мы ўпэўнены ў тым, што руская літаратура атрымае вялікае развіццё, і што для таго часу, калі прыдзе гэта эпоха вышэйшага развіцця, будзе здавацца нездавальняючым усё, што існавала ці існуе цяпер у рускай літаратуры, у тым ліку і крытыка Белінскага» *). Адбудзецца гэта таму, што развінуцца новыя бакі, стануць новыя пытанні, вырастуць новыя патрабаванні, на якія павінна будзе адказваць крытыка. Гэты момант у дыялектычным працэсе развіцця Чэрнышэўскі разумеў і прыстасоўваў дасканала.

3. *Трэцяй рысай дыялектыкі будзе пытанне аб тым, як ідзе развіццё, рух.* Па Леніну «развіццё ёсць «барацьба» процілегласцей. Дзве асноўныя (ці дзве магчымыя? ці дзве ў гісторыі наглядаючыяся?) канцэпцыі развіцця (эвалюцыі) ёсць: развіццё як памяншэнне і павелічэнне, як паўтарэнне, і развіццё як адзінства процілегласцей (раздваенне адзінага на ўзаемнавыключаючыя процілегласці і ўзаемаадносіны паміж імі). Пры першай канцэпцыі руху застаецца ў цэню самарух, яго рух... (аючая) сіла, яго крыніца, яго матыў (ці гэта крыніца пераносіцца вонкі—бог, суб'ект і г. д.). Пры другой канцэпцыі галоўная ўвага накіроўваецца іменна на пазнанне крыніцы «сама»руху. Першая канцэпцыя мёртвая, бедная, сухая. Другая—жыццёвая. *Толькі* другая дае ключ да «самаруху» ўсяго існуючага; толькі яна дае ключ да «скачкоў» да «перарыва паступовасці», да ператварэння ў «процілегласць», да знішчэння старога і ўзнікнення новага.

Адзінства (супаданне, утоесамленне, роўнадзеянне) процілегласцей умоўна, часова, пераходзяча, рэлятыўна. Барацьба ўзаемавыключаючых процілегласцей абсалютна, як абсалютна развіццё, рух»**).

Ці так разумеў Чэрнышэўскі развіццё? Не, не так. Іменна цэнтральнага пункта дыялектыкі—адзінства процілегласцей—ён і не разумеў. Яго вучэнне аб якасці і колькасці, аб пераходзе колькасных змен у якасныя прыводзіла да прызнання скачкоў, але сутнасць дыялектыкі выпадала ў яго. Можна сказаць, што ён адчуваў яе ў канкрэтных з'явах, і адмаўляў у тэорыі. «Шкодна ці карысна шкоднае?—пытанне, як бачыце, галаваломнае»—пачынае ён свой артыкул «Паходжанне тэорыі жыватворнасці барацьбы за жыццё»***).

*) *Н. Чернышэўскі.* Зб. тв. т. II, стар. 251.
**) *В. Ленін.* Лен. зборн. XII, стар. 324.
***) *Н. Чэрнышэўскі,* Зб. тв. т. X, ч. 2, стар. 16.

Чэрнышэўскі лічыць бязглуздзіцай мысль «шкоднае карысна», хоць яго разважанні ў рабоце «Нарысы гогалеўскага перыяда рускай літаратуры» гэта не пацвярджаюць. Тут, як памятаем, ён пісаў; «дабро ці зло дождж?—гэта пытанне адцягненае; акрэсліваючы адказваць на яго нельга: іншы раз дождж прыносіць карысць, іншы, хоць радзей, прыносіць шкоду; трэба пытаць акрэсліваючы: «пасля таго, як пасеў хлеба быў скончан, на працягу пяці гадзін ішоў моцны дождж,—ці карысны ён быў для хлеба?—толькі тут адказ ясны і мае сэнс: «гэты дождж быў вельмі карысны».—Але ў тое-ж лета, калі прышла пара ўборкі хлеба, цэлы тыдзень ішоў праліўны дождж.—Ці добра было гэта для хлеба? Адказ таксама ясны і справядлівы: «не, гэты дождж быў шкодны». Таксама рысуюцца ў гогалеўскай філасофіі ўсе пытанні» *). Значыць ісціна канкрэтна, адцягненай ісціны няма. Значыцца, каб адказаць на пытанне: «шкодна ці карысна шкоднае», трэба разглядзець, аб якім факце ідзе гаворка, разглядзець усе акалічнасці, умовы месца і часу, звязаныя з гэтым фактам. Але гэта і прыводзіць нас да асноўнага пункта дыялектыкі—адзінства процілегласцей.

Але калі мы возьмем яго бліскучыя артыкулы па літаратуры, то ўбачым, што дыялектычны метад адыгрывае тут важнейшую ролю. Укажу на выдатны прыклад ў гэтых адносінах, на артыкул аб творчасці Л. Талстога, дзе апіраючыся на дыялектычны падыход, Чэрнышэўскі не толькі ўскрывае спецыфічныя якасці Талстога-мастака, але і прадказвае ўвесь далейшы шлях яго развіцця.

Недахоп яго падыхода ў тым, што, не дайшоўшы да матэрыялістычнай дыялектыкі ў тэорыі, Чэрнышэўскі дапускаў памылкі і ў растлумачэнні літаратуры. Тут мы наглядаем супярэчнасць, дзе правільнае прабіваецца цераз памылковыя сцверджанні. Так, дасканала разумеючы ролю і значэнне класаў, наш мысліцель не здолеў зразумець барацьбы класаў, як рухаючай спружыны гісторыі, а значыцца, не здолеў да канца зразумець ролі класавай барацьбы ў мастацтве і літаратуры. Стаўшы на правільны пункт гледжання, што паняцці аб характве залежаць ад класаў, Чэрнышэўскі не раскрыў пытання аб развіцці класа і змяненні ў сувязі з гэтым паняццяў аб харастве. Іншым словам, сцвердзіўшы залежнасць мастацтва ад соцыяльнага асяроддзя, Чэрнышэўскі не паказаў яго змянення ў залежнасці ад змяненняў у жыцці класа. Крыніца самаруху ў прыродзе і грамадстве засталася для Чэрнышэўскага нераскрытай. Не здолеўшы вытлумачыць развіцця грамадскага жыцця з пункту гледжання дыялектыкі, Чэрнышэўскі перанёс усе слабыя бакі свайго метада і ў літаратуру.

Тут мы перш за ўсё павінны гаварыць аб няўменні прыстасаваць дыялектыку да тэорыі адлюстравання. Гэты недахоп уласцівы ўсяму механічнаму матэрыялізму.

В. І. Ленін у артыкуле да пытання аб дыялектыцы пісаў: «Дыялектыка, як ж ы в о е, шматбаковае (пры вечна павялічваючымся ліку бакоў) пазнанне з безліччу адценняў усякага падыхода, набліжэння да рэчаіснасці з філасофскай сістэмай, растучай

*) *Н. Чэрнышэўскі.* Зб. тв., т. II, стар. 187—188.

у цэлае з кожнага адцення)—вось нязмерна багаты змест у параўнанні з «метафізічным» матэрыялізмам, асноўнай бядой якога з'яўляецца няўменне прыстасаваць дыялектыку да Bieder theorie да працэса і развіцця пазнання» *).

Іменна, няўменне прыстасаваць дыялектыку да тэорыі адлюстравання, да працэса і развіцця пазнання з'яўляецца асноўным недахопам матэрыялізма да Маркса. Задача заключаецца не толькі ў тым, каб зразумець літаратуру як адлюстраванне, а ў тым, каб дыялектычна зразумець гэта адлюстраванне, зразумець, як ідзе дыялектычны працэс асваення свету мастаком, зразумець з дыялектычнага пункту гледжання адносіны мастацтва да рэчаіснасці. Н. Г. Чэрнышэўскі часта механічна вырашаў гэта пытанне; прымаючы пад увагу акалічнасці, ён часта забываў, што акалічнасці ствараюцца людзьмі і што выхавальнік павінен быць выхаваным. Асабліва рэзка сказалася гэта памылка ў разуменні ім народнай паэзіі. Паколькі літаратура, па паняццях Чэрнышэўскага, адлюстроўвала жыццё, гэты недахоп асабліва ясна адчуваўся ў яго работах па літаратуры. Артыкулы аб творах А. Н. Астроўскага, І. С. Нікіціна, Н. В. Гогаля і інш. ясна выкрываюць гэты недахоп у светапоглядзе і крытыцы Чэрнышэўскага.

* * *

Паставіўшы літаратуру ў залежнасць ад соцыяльнага асяроддзя, Н. Чэрнышэўскі натуральна павінен быў узняць пытанне і аб соцыяльнай функцыі. Калі літаратура паяўляецца ў сілу гістарычнай неабходнасці і калі яе дзеячы толькі слугі, то натуральна паўстае пытанне наколькі дзейнічаючыя цяпер мастакі і іх творы адказваюць гістарычнай неабходнасці. Гэтаму пытанню Чэрнышэўскі надаваў вялікае значэнне, бо такім чынам акрэслівалася месца твору ў грамадскім жыцці, яго карысць ці шкоднасць. Мастацтва ўзнаўляе жыццё, мастацтва растлумачвае жыццё, мастацтва з'яўляецца прысудам над з'явамі жыцця. Лёгка бачыць, што творы апошняга роду маюць больш істотнае значэнне, чым творы першага роду, а асабліва ў той час і ў той краіне, дзе літаратура мае энцыклапедычнае значэнне. Чэрнышэўскі цаніў тыя творы, у якіх паднімаліся вялікія соцыяльныя праблемы, у якіх яны вырашаліся ў духу гістарычнай неабходнасці, з пункту гледжання інтарэсаў шырокіх сялянскіх мас. У гэтым сэнсе крытэрый Чэрнышэўскага быў шырокім і дзейсным—крытэрый адпаведнасці інтарэсам шырокіх сялянскіх мас,—іх барацьбе супроць прыгнечання і эксплаатацыі, іх барацьбе супроць самадзяржаўя і прыгонніцтва. Такі падыход надаваў крытыцы Чэрнышэўскага страшную сілу, узнімаў яе на велізарную вышыню, рабіў магутнай зброяй у руках рэволюцыйных разначынцаў. Тэарэтычная вышыня светапогляду Чэрнышэўскага, яго гістарычная прагрэсіўнасць і рэволюцыйнасць напаўнялі жывым зместам яго крытыку—яна была выражэннем інтарэсаў сялянскіх мас. Артыкулы пра Гогаля, Шчэдрына, Тургенева, Некрасава, Огарэва, Бенедыктава, Плешчэева і г. д. лепш за

*) *В. І. Ленін*, Ленінскі зборнік XII, стар. 326, ГІЗ 1930 г.

ўсё пацвярджаюць нашу думку. Неабходна адзначыць яшчэ адзін момант: падыход Чэрнышэўскага быў да таго шырокі, што ў ім знаходзілі месца прадстаўнікі ўсіх літаратурных напрамкаў. Чэрнышэўскі прызнаваў як гістарычна абумоўленую з'яву існаванне эпікурэйскай паэзіі. «Пазбягаючы ўсякіх аднабаковасцей, скажам, што эпікурэйскі настрой духу, існуючы ў жыцці, мае права выражацца і ў літаратуры, якая павінна абдымаць сабою ўсё жыццё». Наш геніяльны крытык мае рацыю, дапускаючы існаванне такой літаратуры, але яшчэ больш ён мае рацыю тады, калі рашуча адмаўляецца бачыць у паэзіі падобнага роду нешта выдатнае. «І калі справядліва, што жывая сувязь з разумнымі патрабаваннямі эпохі дае энергію і поспех усякай дзейнасці чалавека, то эпікурэізм нашага часу не можа стварыць у паэзіі зусім нічога колькінебудзь выдатнага». Паэзія ёсць жыццё, дзеянне, страсць, а творы эпікурэйцаў халодныя, нацягнутыя, бескаляровыя рытарычныя, бо яны з'яўляюцца творамі людзей бяздзейных, чужых гістарычнаму жыццю. Тое, што не мае жывых карэнняў у жыцці, не можа адыгрываць ніякай вялікай ролі. Так глыбока і правільна вырашаў праблему соцыяльнай функцыі Н. Чэрнышэўскі.

* * *

Гаворачы аб соцыяльнай функцыі літаратуры, крытык шчыльна падышоў да праблемы народнасці ў літаратуры і разгарнуў барацьбу супроць эстэтызма і эпікурэізма, так сказаць, відаў тагочаснага фармалізма. Гэта і зразумела, бо патрабаванне прастаты і народнасці ў мастацтве само напрошвалася ў якасці сродка супроць атруты эстэтызма і эпікурэізма. Гэта было тым больш законамерна, што вынікала з прынцыпаў эстэтыкі Чэрнышэўскага.

«Клопаты аб арыгінальнасці губяць арыгінальнасць, сапраўды самастойны толькі той, хто і не думае аб магчымасці быць не самастойным. Разважае аб энергіі свайго характара толькі слабахарактарны, баіцца падпарадкавацца чужому ўплыву толькі той, хто адчувае, што яго лёгка падпарадкаваць. Моцна мы ўладаем толькі тым, чаго не баімся страціць. Значыць клопаты аб самастойнасці служаць ужо адзнакай адсутнасці самастойнасці. *Свядомыя клопаты аб арыгінальнасці ёсць клопаты аб форме.* (Падкрэслена мною.—*М. Д.*). У каго ёсць змест, той не будзе клапаціцца, каб вылучыцца арыгінальнасцю. Ён не можа не быць арыгінальным, таму што і не думае аб гэтым. *А клопаты аб форме прыводзяць да пустаты і нікчэмнасці.* За нікчэмнасцю наступае падпарадкаванне.»*) Такім чынам ясна, што прастата з'яўляецца адной з умоў мастацкасці, яна абумоўліваецца самым зместам, самым прадметам паказа, важным і істотным для народа. Мы памятаем тэзіс Чэрнышэўскага, што мастацтва не абмяжоўваецца галінай прыгожага, а паказвае ўсё, што цікава для чалавека ў жыцці. Але інтарэсы людзей абумоўліваюцца іх становішчам у грамадстве, у розных класаў бываюць розныя інтарэсы. Для Чэрнышэўскага вышэй за ўсё стаялі інтарэсы народа. Дасканала выразіў гэту мысль Добралюбаў, які пісаў: «Мераю вартасці пісьменніка ці паасобнага твору

* *Н. Чэрнышэўскі.* Песні розных народаў, стар. 145.

мы прымаем тое, наколькі служаць яны выражэннем (натуральных) імкненняў пэўнага часу і народа. Натуральныя імкненні чалавецтва, прыведзеныя да самага простага назоўніка, могуць быць выражаны ў двух словах: «каб усім было добра» *). Гэта якраз мысль Чэрнышэўскага, яна то і надавала іх крытыцы народны характар, паколькі вартасць пісьменніка і твору ацэньвалася з пункту гледжання інтарэсаў народных мас. Адсюль прынцып народнасці ў крытыцы Чэрнышэўскага.

Мы не можам згадзіцца з Чэрнышэўскім ў яго ацэнцы народнай паэзіі, асабліва там, дзе гутарка ідзе аб яе зараджэнні, але мы зусім згодны з яго мыслямі аб народнасці літаратуры. Асабліва цікава выказаўся Чэрнышэўскі з гэтага поваду ў артыкуле «Ці не пачатак перамены»? Народнасць творчасці абумоўліваецца не тым, што пісьменнік выклікае ў чытача спачуванне да народа, не тым, што звычаі і паняцці народа будуць ідэалізіраваны, не той любоўю, якая мяжуе са спагадлівасцю да народа, яна заключаецца ў той суровай праўдзе жыцця народа, аб якой меў мужнасць гаварыць пісьменнік.

«Асаблівасць таленту Г. Успенскага заключаецца ў тым, што ён гаворыць аб мужыках без цэрамоніі, як аб людзях, якіх ён лічыць і чытач павінен лічыць за людзей, аднолькавых з сабою, за людзей, аб якіх можна гаварыць адкрыта ўсё, што заўважаеш аб іх. Ён зусім не сцясняецца ў іх асяроддзі» **). Успенскі сапраўды народны пісьменнік, народны ў поўным сэнсе гэтага слова і паяўленне яго—факт вельмі знамянальны, вельмі добрая адзнака, пачатак перамены. З паяўленнем падобных пісьменнікаў пытанне аб народнасці ставілася ў іншым разрэзе, пытанне рэалізма пераходзіла ў новую фазу свайго развіцця, з рэалізма адмаўлення ён станавіўся рэалізмам рэволюцыйна-дэмакратычным. «Мы заўважылі радыкальную розніцу паміж характарам апавяданняў аб простанародным быце ў Г. Успенскага і ў яго папярэднікаў. Тыя ідэалізіравалі мужыцкі быт, паказвалі нам просталюдзінаў такімі благароднымі, узвышанымі, добрачыннымі, пакорнымі і разумнымі, цярплівымі і энергічнымі, што заставалася цешыцца над апісаннямі іх цікавых вартасцей і праліваць нежныя слёзы аб непрыемнасцях, якія пераносілі іншы раз такія мілыя істоты, і пераносілі заўсёды без усякай віны ці нават прычыны ў саміх сабе». У заключэнне свайго разважання Чэрнышэўскі прыводзіць наступны анекдот: «У будуар жонкі ўваходзіць муж, чалавек, які займае вельмі пачэснае становішча ў грамадстве і славуты сваёй любоўю да народа,—любоўю, якую ўмеў ён пераліць і ў пяшчотнае сэрца сваёй цудоўнай жонкі. Ён знаходзіць пышную красуню ў горкіх слёзах над разгорнутай кніжкай рускага журнала.—«Душанька, аб чым ты так плачаш»?—«Ах, божа мой!—голас жонкі перарываецца ад рыданняў.—«Душанька, ды што-ж такое, скажы, богам прашу!»—«Божа мой! Якія няшчасныя...»—І зноў голас перарываецца ад рыданняў. «Ангел мой, супакойся, што такое?»—«Няшчасныя мужыкі, ах, якія няшчасныя! Тут напісана, што яны не п'юць кофе!»—Нам уяўляецца, што жаласлівая дама чытала адну з тых цудоўных аповесцей, у якіх так цікава паказваўся простана-

---

*) *Добралюбаў.* Збор. тв. т. 6, стар. 324.
**) *Н. Чэрнышэўскі.* Крытычныя артыкулы, СПБ. 1395, стар. 386.

родны быт». *) Маленькай карцінкай Чэрнышэўскі правёў рэзкую лінію паміж рэалізмам і народнасцю пісьменнікаў тыпа Н. Успенскага і пісьменнікаў тыпа Тургенева. Народнасць, якой патрабаваў Чэрнышэўскі, вынікае з простых натуральных адносін да народа, з сапраўднага разумення яго патрэб і інтарэсаў, яна будзе тады, калі вы будзеце гаварыць з мужыком проста і натуральна, і ён зразумее вас: уваходзьце ў яго інтарэсы, і вы будзеце мець яго спачуванне. «Гэта справа зусім лёгкая для таго, хто сапраўды любіць народ,—любіць не на словах а ў душы» **).

Такі характар народнасці ў разуменні Чэрнышэўскага, які выступае як важнейшы прынцып яго крытыкі.

Паставіўшы пытанне аб соцыяльнай функцыі літаратуры, як гістарычна абумоўленай з'явы, Н. Г. Чэрнышэўскі тым самым паставіў пытанне аб мастаку, як дзеячу, паяўленне якога выклікана эпохаю. Ён правільна вырашаў пытанне аб ролі асобы ў гісторыі і мастака ў літаратуры, ён, як сапраўдны правадыр і палітык, ніколі не разважаў адцягнена, але мысліў канкрэтна-гістарычна. «Адцягненай ісціны няма, ісціна канкрэтна, г. зн. акрэсліваючае меркаванне выказваць толькі аб пэўным факце, разгледзеўшы ўсе акалічнасці, ад якіх ён залежыць» ***).

Гэта меркаванне, прыстасаванае да мастацкай літаратуры, дыктавала браць мастака, як жывую асобу. Пісьменнік—баец і адносіны да яго павінны быць пабудаваны на падставе глыбокага аналіза ўсіх умоў рэчаіснасці. Гэтым падыходам вызначаюцца адносіны Чэрнышэўскага да такіх пісьменнікаў, як Тургенеў, Талстой, Астроўскі, Грыгаровіч і г. д. Вядомы іх прыстрасныя, адмоўныя адносіны да Чэрнышэўскага, але апошні ў сваіх разважаннях кіраваўся не гэтым фактам, а аб'ектыўным значэннем іх творчасці ў грамадскім жыцці. Ён—змагар, тактык, правадыр, арганізатар—вельмі добра разумеў класавую аснову пісьменнікаў лібералаў, але меркаваў, што іх мастацкія творы могуць быць выкарыстаны ў інтарэсах рэволюцыйнай дэмакратыі. Не гаворым аб адносінах Чэрнышэўскага да пісьменнікаў мінулага,—то была гісторыя; падкрэсліваем яго барацьбу за пісьменніка сучасніка. Знамянальны ў гэтых адносінах артыкулы Чэрнышэўскага аб вершах Огарэва і, асабліва, аб апавяданнях Нікалая Успенскага. Артыкул аб апошнім, як паказана ўжо вышэй, носіць назву: «Ці не пачатак перамены?» Сама назва паказвае на тыя грамадскія зрухі, якія адбываюцца ў літаратуры ў сувязі з паяўленнем такіх пісьменнікаў, як Нікалай Успенскі—выхадцаў з народа. Праблема адносін да пісьменніка, такім чынам, злівалася з праблемай аб ролі і соцыяльнай функцыі літаратуры і выступала як адно з палажэнняў, як прынцып крытычнага падыхода да мастацкай літаратуры.

* * *

Было-б, аднак няправільна думаць, што цэнячы пісьменніка, разглядаючы яго як жывую асобу, якую можна выправіць, прыцягнуць да барацьбы, Чэрнышэўскі адыходзіў дзеля гэтага ад сваіх

*) *Н. Чэрнышэўскі*. Крыт. арт. СПБ, 1895, стар. 385.
**) *Н. Чэрнышэўскі*. Крыт. арт. СПБ, 1895 г. стар. 387.
***) *Н. Чэрнышэўскі*, Збор. тв. т. II, стар. 187.

тэарэтычных поглядаў і прынцыпаў. Не, ён быў шчырым і непрымірымым крытыкам. Гаворачы сучаснай мовай, ён строга прытрымліваўся прынцыпа партыйнасці. Як прадстаўнік рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі, ён заўсёды заставаўся верным яе ідэалам, яе прынцыпам. У артыкуле «Аб шчырасці і крытыцы» ясна і чотка паказаны патрабаванні, прад'яўляемыя ім крытыку. Гэтым патрабаванням перш за ўсё ён падпарадкаваў сябе самога. Крытыка павінна быць яснай, акрэсленай, простай, бо інакш яна не выканае сваёй ролі—меркаваць аб недахопах ці вартасцях якога-небудзь твору. Крытыка—справа сур'ёзная і крытык не вадэвільны куплетыст, які рысуецца каламбурамі. Не, «дасціпнасць, едкасць, жоўць, калі імі валодае крытык, павінны служыць яму зброяй для дасягнення сур'ёзнай мэты крытыка...» *). Само сабою зразумела што праматa, рэзкасць, акрэсленасць з'яўляюцца неабходнымі ўмовамі крытыкі. І «калі вы чалавек, які не любіць засмучаць бліжняга, то не нападайце ўжо ні на каго, таму што і малавядомага аўтара таксама, як і самага славутага засмучвае ўказанне на недахопы яго літаратурнага дзецішча...» З гэтага пункту гледжання «усякая крытыка шкодная, таму што ўсякая каго-небудзь засмучае...» **) Чэрнышэўскі злоздзекваўся над крытыкамі, якія дзейнічаюць па формуле: «З аднаго боку нельга не сазнацца, з другога—нельга не прызнацца».

Аб такіх крытыках ён пісаў: «Спачатку ён нібыта хоча сказаць, што раман горшы за ранейшыя, потым дадае: не, я не гэта хацеў сказаць, а я хацеў сказаць, што ў рамане няма інтрыгі; але і гэта я сказаў не безумоўна, наадварот, у рамане ёсць добрая інтрыга; а галоўны недахоп рамана той, што герой не цікавы; хаця абліччa гэтага героя паказана дасканала, аднак,—хаця я не хацеў сказаць і «аднак», я хацеў сказаць «прытым»...—не, я не хацеў сказаць і «прытым», а хацеў толькі заўважыць, што стыль рамана дрэнны, хаця мова цудоўная, ды і гэта «можа быць папраўлена, калі гэтага захоча сам аўтар» ***). Вось да чаго даводзіць крытыку імкненне да «памяркоўнасці», палавінчатасці, ліберальнай балбатні. А наколькі яна шкодная, калі літаратура з'яўляецца адзіным рэчышчам грамадскага развіцця, энцыклапедыяй народа, якая згуртоўвае ўсё яго разумовае жыццё. Крытыка павінна быць жывой, актыўнай, дзейсны крытык павінен быць чалавекам, здольным пранікацца і энтузіязмам, і моцным абурэннем,—пачуцці, якія, як таксама ўсім вядома, выліваюцца не ў халоднай і вялай мове, не так, каб нікому ад іх выказвання не было ні цёпла, ні холадна» ****). Паўтараю, што калі ўсё гэта перакласці на нашу мову, то мы ўбачым патрабаванні партыйнай, непрымірымай шчырай крытыкі, якая гаворыць прама, ясна, акрэслена, рэзка. Такой і была крытыка Н. Чэрнышэўскага.

* * *

Акцэнтуючы грамадскі бок мастацкага твора, яго ідэйны змест, Н. Чэрнышэўскі ніколі не забываў, што ён мае справу з мастацкім

*) *Н. Чэрнышэўскі*, выбр. творы, т. IV, стар. 385.
**) *Н. Чэрнышэўскі*, Выбр. тв. т. IV, стар. 385.
***) *Н. Чэрнышэўскі*, Выбр. тв., т. IV, стар. 371.
****) *Н. Чэрнышэўскі*. Выбр. творы, т. IV, стар. 383.

творам, са з'явамі эстэтычнага парадку. Для яго твор выражаў і грамадскія і эстэтычныя імкненні чалавека. Прынцыпова—гэта правільны пункт погляду. У рабоце-ж Чэрнышэўскага не заўсёды правільна трактуецца пытанне аб узаемаадносінах гэтых элементаў, што ў свой час вельмі ясна было раскрыта Плеханавым. Ва ўсякім выпадку, эстэтычная ацэнка твора ў Чэрнышэўскага абапіралася на глыбока прадуманую, матэрыялістычна-абгрунтаваную сістэму эстэтычных поглядаў. Аналіз яе ёсць асобная самастойная задача, якая выходзіць за межы гэтага артыкула. Мы толькі падкрэслім, што матэрыялістычная эстэтыка пранізвае сабою ўсе прынцыпы крытыкі Чэрнышэўскага і раскрываецца праз іх на аналізе канкрэтных твораў. У нашыя дні асабліва цікава прыгадаць эстэтычную тэорыю Чэрнышэўскага, які патрабаваў вялікай ідэйнай насычанасці зместу і ваяваў супроць пустых і беззмястоўных выкрунтасаў прадстаўнікоў «чыстага мастацтва».

## III

Наш беглы агляд прынцыпаў крытыкі Чэрнышэўскага пераконвае ў тым, што гэта была з'ява выключная па сваёй ролі і значэнню ў грамадскім развіцці Расіі. Крытыка Чэрнышэўскага іграла ролю, якая далёка выходзіла за межы чыста літаратурнай справы, яна была велізарнай грамадскай з'явай, рычагом грамадскага развіцця, магутным педагагічным сродкам, грознай рэвалюцыйнай зброяй сялянскай дэмакратыі. Гэта вельмі добра разумеў і сам Чэрнышэўскі. Яго эстэтычная тэорыя, прынцыпы яго крытыкі не згубілі сваёй цікавасці да нашых дзён. На творах Чэрнышэўскага вучыліся цэлыя пакаленні, яго работы падрыхтоўвалі розумы да ўспрыняцця марксізма. І калі ён з'яўляецца папярэднікам с.-д. у Расіі, па мыслі Леніна, дык ён-жа быў і папярэднікам марксісцка-ленінскай крытыкі. Гэта быў выключны чалавек, і ўсю сілу свайго розуму, волі і пачуцця, усю страсць змагара, прапагандыста, арганізатара, рэвалюцыянера аддаў ён народу, барацьбе за яго. За яго ён і загінуў у няроўнай барацьбе.

Но любит он возвышенней и шире,
В его душе нет помыслов мирских.
„Жить для себя возможно только в мире,
Но умереть возможно для других".

(*Некрасаў*).




АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Мінск, Совецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-831.

# ЗМЕСТ

